# Маладосць

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**5**

**(726) МАЙ, 2014**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Выдавецкі дом «Звязда»**
**г. Мінск**

## У НУМАРЫ:


***СПЕЦПРАЕКТ «ЗАЧАРАВАНЫЯ МАКСАМ»***

«Добры дзень, Максім». Замест пралога . . . 3
Што ён хацеў сказаць? Апытанка . . . 4
**Таццяна ШЭЛЯГОВІЧ.** Актуальнае інтэрв’ю . . . 6
Як гэта — быць Багдановічам? Акцёр Аляксандр МАРЧАНКА . . . 11
**Марына ЗАПАРТЫКА.** Першая мачыха . . . 14
**Анастасія ЖЫЛІНСКАЯ.** Гісторыя чалавека з фотаздымка . . . 16
**Ірына ШОРАЦ.** Слушай, Рона, эту сказочку про «Гагу» . . . 19
**Міхась БАРАНОЎСКІ.** Яблык ад яблыні . . . 21
**Міхась БАРАНОЎСКІ.** Апошні прытулак паэта . . . 24
**Ірына МЫШКАВЕЦ.** Самы шчаслівы дзень . . . 27
**Ірына МЫШКАВЕЦ.** Пошукі і знаходкі . . . 29
**Максім БАГДАНОВІЧ.** Международный чемпионат и ярославцы . . . 32
**Таццяна ШЭЛЯГОВІЧ.** «Сілавое поле» эстэтычнага аналізу . . . 34
**Ева ЛЯВОНАВА.** Семантыка катастрафічнага… . . . 36
**Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ.** Другая эстэтычная дыверсія . . . 43
**Ульяна ВЕРЫНА.** «Вянок» Багдановіча: часткі і цэлае . . . 45
Старонка аднаго верша. **Наталля ЦВІРКО** . . . 49
«Мой Максім Багдановіч». Конкурс школьных эсэ . . . 50
Старонка аднаго верша. **Таццяна БАРЫСЮК** . . . 55

***ПАЭЗІЯ***

**Вікторыя ЯГОРАВА.** Большасць спыняецца дзесьці ў дарозе
*Упершыню ў «Маладосці». Вершы* . . . 56
**Ганна ЧУМАКОВА.** У гэтых словах прыцішаных… *Вершы* . . . 61
**Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ-ШЫЛОВІЧ.** Мой дождж пачынаецца з… *Вершы* . . . 70
**Анатоль ЗЭКАЎ.** Паміраюць дрэвы стоячы. *Вершы* . . . 88
**Віктар РЫХЦІКАЎ.** Аднойчы будзе вясна. Самая незвычайная. *Вершы* . . . 99

***ПРОЗА***

**Ксенія ШТАЛЕНКОВА.** Апавяданні. *Упершыню ў «Маладосці»* . . . 58
**Алеся НІКІФАРАВА.** Апавяданні. *Упершыню ў «Маладосці»* . . . 64
**Алесь БЫЧКОЎСКІ.** Апавяданні . . . 73
**Алена МАСЛА.** Апошні дзень лета. *Апавяданне* . . . 91

***ПЕРАКЛАДЫ***

Нізка вершаў паэтаў Афрыкі . . . 102

***КРЫТЫКА***

**Ірына ШАЎЛЯКОВА.** Фантастыка як суровая рэальнасць . . . 108

Кампетэнтна. **Віталь БРЭЛЬ:** «Моладзь заўсёды “тая”»! . . . 117
Кухня Машы Дуброўскай. Адам Глобус . . . 121
Рэпартаж. Нататкі з фестывалю моў . . . 123
Пад гарбату. Дыя@блог: нязмушаная размова пра адну перадачу . . . 126
ГістфакТ. **Станіслаў ЮРЭЦКІ.** З нашай дагісторыі . . . 129
Партнёры. Сябрына АББіА . . . 133

***ЧАСОПІС «БЯРОЗКА»*** . . . 139

Добры дзень, Максім

*За такое можна трапіць у Навінкі, але я пішу Вам ліст. (Макс, Навінкі — гэта такая спецыяльная ўстанова пад Мінскам для псіхічна хворых). Не, я не вар'ятка. Але рэальна веру ў тое, што гэты ліст я пішу не ў пустэчу. Не ведаю, што там за той мяжой, якая нас раздзяляе… Але няхай маё пасланне прачытае хаця б Бог. І ўсміхнецца таму, як Ён удала калісьці стварыў Вас.*

*У чым справа, растлумачце! Як Вам удаецца так уплываць на людзей? Колькі геніяў пад сонцам нарадзілася, але так, як Вы, мяне ніхто не зачароўваў. І, ведаеце, далёка не адной мне так здаецца. Людзі геніяў звычайна ідэалізуюць, паліруюць да бляску, каб прыдбаць сабе арыенцір. У нацыянальным маштабе і ў агульначалавечым. І гэта слушна. Павінны ж мы мець прыклад: вось, маўляў, чалавек на што здольны, бачыце? Бачым, паважаем. А Вы? Вы ідэальна падыходзіце на ролю такога арыенціра. Малады, чысты, глыбокі… Але занадта жывы, каб быць проста ідэйным ідалам. Макс, Вы бліжэй за многіх, хто жыве ў адным часавым вымярэнні са мной. Вы памятаеце, як я прыходзіла да Вас у Ялце? Гэта не быў акт ушанавання героя маёй Радзімы, ідэальнага, але далёкага. Гэта было нешта цёплае, асабістае. Ішла да Вас з кветкамі, быццам да сябра. Ці брата. Са слязьмі і малітвай. Адкуль узялося гэтае пачуццё роднасці? З твораў? Магчыма, але я прачытала безліч твораў, чаму толькі Вашыя зачапілі такія глыбокія струны ўва мне? Усё пачалося, калі я была яшчэ дзіцёнкам, які яшчэ і не хацеў усведамляць, хто ён і навошта жыве. Я сустрэла Вас у гарадзенскім музеі. І нехта быццам шапнуў мне тады: «Слухай яго». І я стала слухаць. І паступова Вы адкрылі мне мяне саму. Маю беларускасць, маё пакліканне. Часам нават містычнымі метадамі. Колькі разоў Вы з'яўляліся ў самы патрэбны момант, каб падказаць, скіраваць ці проста суцешыць. Можа, Вы сябар майго анёла-ахоўніка? Магчыма, гэта шэраг супадзенняў, якія мая свядомасць удала міфалагізавала і цяпер цешыць мяне ілюзіямі. Але гэтыя няхай сабе ілюзіі ні на што не прамяняю. Бо страчу вялікую частку сваёй асобы. І, паўтаруся, я ў Вас не адна такая. Але я не адчуваю рэўнасці. Любоў не шукае свайго. Хай яе ў сусвеце будзе болей…*

*Дзякуй.*

Адна з безнадзейна закаханых
у Вас дзяўчынак XXI стагоддзя

# Што ён хацеў сказаць?



## Канстанцін КАСЯК,
***наш аўтар:***

— Вядома, нам заўжды хочацца быць лепшымі, чым мы ёсць насамрэч. У вядомых людзей з гэтым лягчэй, бо пасля смерці іх вобраз так ці іначай ідэалізуюць паслядоўнікі. Калі цябе ідэалізуюць, значыць, ты цікавы і патрэбны, значыць, увайшоў у гісторыю. Максім Багдановіч за сваё кароткае жыццё, на жаль, выдаў толькі адзін невялічкі зборнік вершаў, але і гэтага аказалася дастаткова для таго, каб яго імя назаўжды было ўпісана ў гісторыю беларускай літаратуры. Па ўсім свеце, у тым ліку і ў Беларусі, ёсць тысячы літаратараў, якія напісалі і выдалі сотні тамоў, але не могуць пахваліцца тым, што камусьці цікавыя…

Буду шчырым: у школе я не надта любіў беларускую літаратуру. Дзіўнае прызнанне для чалавека, які піша выключна па-беларуску, але як ёсць. У той час галава была забіта іншым. Адзін з тых, хто мне быў сапраўды цікавы, — Максім Багдановіч. Малады, прыгожы, таленавіты — на фоне большасці паэтаў, якіх «праходзяць» па школьнай праграме, ён быў звышцікавым. З Багдановічам у нас шмат агульнага. Я таксама спрабаваў пісаць лірычныя вершы, дарыў іх дзяўчатам у чаканні ўзаемнасці. Мне, як і Максіму, было чатырнаццаць, калі я пачаў захапляцца анархізмам. Не магу сказаць, што гэта захапленне было глыбокім, але наступствы ад яго былі сур’ёзныя: мне часта даставалася ад школьнай адміністрацыі за розныя правіны. Мне хацелася далучыцца да руху смелых, неўтаймаваных, сапраўдных. Думаю, што Багдановіч кіраваўся тымі ж інстынктамі. Яму хацелася быць часткаю якога-небудзь гераічна-змагарнага руху.

## Юры ГАРДЗЕЕЎ,
***гісторык, ад’юнкт Інстытута Расіі і Усходняй Еўропы Ягелонскага ўніверсітэта:***

— Успрымаць спадчыну паэта можна па-рознаму. У савецкія часы кожны школьнік ведаў пра цяжкую працу слуцкіх ткачых ці бязмежную любоў да Радзімы, ад якой, што праўда, патыхала нейкай штучнай пафаснасцю, нейкай формай без зместу. Такая інтэрпрэтацыя не выходзіла за рамкі тагачаснай ідэалогіі, якая акцэнтавала ўвагу на тым, што сяляне бязлітасна эксплуатаваліся, а паэт горача любіў красу прыроды і верыў у духоўныя сілы народа. І ўсё. У пэўнай ступені такая спрошчаная трактоўка літаратурных, не толькі багдановічаўскіх, твораў абумовіла фарміраванне ў беларусаў комплексаў перманентнага пачуцця гаротнасці, смутку, суцэльных пакут ці беспрабуднай безвыходнасці.

Аднак ці такім у рэчаіснасці быў эстэтычна-псіхалагічны стан Багдановіча, яго светаўспрыманне? Інакш кажучы, што ён хацеў сказаць сваімі вершамі? Якім быў змест яго твораў? Багдановіч спрабаваў паглядзець на сваю краіну і народ іншымі вачыма, вачыма паэта-эрудыта, які выдатна ведаў мовы, сусветную літаратуру ды тагачасныя еўрапейскія літаратурна-мастацкія плыні, знітоўваў маладую беларускую літаратуру з еўрапейскімі культурнымі здабыткамі.

Насычэнне твораў фальклорна-міфалагічнай сімволікай не абмяжоўвалася любоўю да народных мас, а сягала да традыцыі еўрапейскіх рамантыкаў, якія ўспрымалі народную творчасць як нескажоную крыніцу ведаў.

Пра што паэт імкнуўся сказаць у «Слуцкіх ткачыхах»? Што Багдановіч зашыфраваў у творы? Ці толькі канстатаваў факт цяжкай працы? Ці ўсё ж такі яго радкі сведчылі пра сакральны архетып працы, выведзены пазней Карлам Густавам Юнгам?

Адкуль у беларускай літаратуры з'явіліся санеты ці трыялеты? Канешне ж, гэта заслуга Багдановіча. Ноты імпрэсіянізму, якімі прасякнута яго лірыка, сведчаць, што яго цікавілі не калектыўныя эмоцыі, а пачуцці чалавека, яго жаданні ці мары. Магчыма, таму праблемы зла ці дабра разглядаліся ім не столькі ў сацыяльнай, колькі ў метафізічнай плоскасці.

Менавіта такога Багдановіча, які павінен з'яўляцца аб'ектам гонару беларусаў і сапраўдным беларускім культурным брэндам, трэба ведаць.

*Аксана ЮЧКАВІЧ,*
***рэдактар аддзела школьнага жыцця нашага выдання:***



— Сапраўдны, але ў сваёй сапраўднасці святы. Так я думаю, і не толькі наконт Максіма Багдановіча, але і наконт кожнага чалавека. Мяне прыцягвае менавіта сапраўднасць, бо ў ёй шчырасць, бо ў ёй «самасць», «асаблівасць», «адметнасць», «тое, што вылучае і робіць геніяльным», апошняе ўжо ў дачыненні да Максіма Багдановіча.

Праз сваю сапраўднасць чалавек становіцца нашмат бліжэй. Я толькі супраць таго, каб гэту сапраўднасць паўсюль абмяркоўваць і смакаваць — з якога боку смачней, саланей, саладзей. Няхай гэта сапраўднасць будзе не для грамадскага абмеркавання, але для асабістага прыняцця і сузірання.

Я за тое, каб не гаварыць пра асабістае ўголас і тым больш пра гэта не крычаць.

# Таццяна ШЭЛЯГОВІЧ: «ЗРАБІЦЬ З МАКСІМА БАГДАНОВІЧА НЕ ПАЭТА, А ПРОСТА ЧАЛАВЕКА БЫЛО Б ПАМЫЛКАЙ»



***— Ведаеце, гэта такое шчасце — прэзентаваць Максіма Багдановіча дзенебудзь у Германіі ці Бельгіі. Калі ты бачыш цікавасць у вачах замежных студэнтаў, а потым атрымліваеш ліст — маўляў, пасля вашай лекцыі студэнтка трэцяга курса Жаана піша работу па тэме «Беларуская мова ў беларускім грамадстве», — то разумееш, што робіш сваю справу недарэмна.***

***Пра дзейнасць мінскага музея Максіма Багдановіча ў Монсе, бельгійскім гарадку з добрым універсітэтам, расказвае кіраўнік нашага музея Таццяна Шэляговіч. На пытанне: «А ці ёсць у вашым стаўленні да Максіма Багдановіча элемент мацярынскасці?» яна доўга смяецца, а потым сур'ёзна прамаўляе: «У нас так мала пуцяводных зорак, што зрабіць з Максіма Багдановіча не паэта, а проста чалавека было б памылкай».***

***Можа, лепей пра ўсё па парадку!***

**— Раскажыце пра ваш асабісты пачатак у тэмах Максіма Багдановіча і музея.**

— Паколькі я даўно жыву на свеце, то разумею, што не ўсё ў ім выпадкова. Усё наўмысна збудавана так, каб чалавек знайшоў сябе, бо гэта ў жыцці галоўнае. Усведамленне таго факту, што я крочу па зямлі сваёй дарогай, займаюся справай, якую вышэйшыя сілы прызначылі мне, — гэта ж стан шчасця, ці не так? Бо робіш ты тое, што любіш, умееш і хочаш. А пачыналася ўсё вельмі банальна. Як усе маладыя людзі я скончыла сярэднюю школу. Пры паступленні на гістфак напісала сачыненне на «тройку» і не стала напружвацца: забрала дакументы адразу, бо разумела, што патрэбных балаў ужо не набяру, нават калі ўсё астатняе здам на «пяцёркі». Лета дыхала вольна, але нічога не рабіць было справай нерэальнай. І я пайшла ў вучэльню паліграфістаў. Там набіралася адна група, усяго 20 чалавек, на спецыяльнасць «Продавец непродовольственных товаров». Гэта азначала, што яны рыхтуюць прадаўцоў у кнігарню. З намерам адвучыцца адзінаццаць месяцаў і пасля зноў спрабаваць паступаць я трапляю ў вельмі цікавае месца. Практычныя заняткі ў нас даволі часта праходзяць на паліграфкамбінаце, дзе мы маем магчымасць знаёміцца з усімі этапамі працэсу вытворчасці кніг. Колькасць апошніх уражвае настолькі, што міжволі адчуваеш наймацнейшы магнетызм. Бацькі мае — простыя людзі. На паліцах нашай хатняй бібліятэкі стаялі «Трывожнае шчасце» і «Сэрца на далоні» Івана Шамякіна, кнігі пра піянераў-герояў і сёе-тое па школьнай праграме. А тут — зачараванне ў літаральным сэнсе. Патрапіўшы на практыку ў кнігарню «Цэнтральная», якая была на той час мекай, бо людзі фанацелі ад кніг, я быццам бы адкрыла свет. Крама, вялікая і разгалінаваная, падзеленая на секцыі, уражвала

асартыментам па самых розных галінах. Якую кнігу ў рукі ні вазьмі — не адарвацца. Бо дома ж такога няма. Мне так гэта ўсё падабалася, што я гатова была працаваць без выхадных. Да таго ж, і кантынгент наведвальнікаў — людзі спрэс абаяльныя, цікавыя, разумныя. З імі так і хочацца размаўляць, бо яны ведаюць значна больш, чым ты. І вось ты, раскрыўшы рот, выслухоўваеш іх маналогі на якія заўгодна тэмы. Паколькі я была дзяўчынкай сумленнай і працавітай, дырэктарка мяне прыкмеціла. І я была на сёмым небе ад шчасця, якое мне выпала, — застацца ў гэтай краме працаваць! У той час патрапіць у «Цэнтральную» хацелі ўсе, а траплялі адзінкі. Я аддзячыла за гэта сваёй працай. Як новую маладую супрацоўніцу, мяне паставілі ў аддзел беларускай літаратуры — самы сумны, з найменшай колькасцю наведвальнікаў.

**— Вось як? І што за думкі былі ў вас на гэты конт?**

— Па-першае, беларуская літаратура і на той час мала людзей цікавіла. Карысталіся поспехам больш раскручаныя кнігі. Драйзера і Сенкевіча, напрыклад, мы атрымлівалі 10-тысячнымі накладамі і заўсёды без праблем рэалізоўвалі: чарга стаяла да «Лакомкі». А беларускі аддзел пуставаў: адзін-два чалавекі на дзень калі спыняліся, то гэта былі або студэнты-філфакаўцы, або самі пісьменнікі. Я была дзяўчынай без прэтэнзій. Мне проста рабілася сумна. Бо калі ты ўвесь дзень стаіш, то ў цябе на прылаўку парадак і ўсе кніжачкі пад лінейку, але калі ніхто да іх не падыходзіць, не кранае, то дзень табе здаецца ледзь не годам. Што было рабіць? Хіба толькі чытаць. Бяру з паліцы кніжку, думаю: «Ну, і хто ж гэта такі ў нас Арочка? “Крэва” нейкае. І што?» Пачынаю чытаць. «Дык гэта ж цікава! Дык у нас нейкія Вітаўты былі, аказваецца. Адкуль?» Мяне паглынае, але падыходзіць аднойчы дырэктарка: «Таня! Читать на рабочем месте нельзя!» «А я літаратуру! Беларускую. Мне ж трэба яе людзям прапаноўваць». Карацей, не разгубілася. «Ну, хорошо», — адказала яна і пайшла. А я ўжо разумею, што тут неадкрыты свет, што гэта ўсё пра нас, для нас напісана. Тады ж Караткевіча выдалі, «Нельга забыць». І да нас пачалі ісці людзі. Куплялі па два-тры экзэмп-



*Свята паэзіі і песні «Ракуцёўскае лета».*



*Дзень памяці Максіма Багдановіча.*

ляры. Думаю: «Што за “Нельга забыць”, што за Караткевіч такі?» Гэта, між іншым, паказвае ўзровень выкладання беларускай літаратуры на той час. Урок літаратуры ці мовы, прынамсі, у нашай школе быў урокам, на якім можна было выконваць хатнія заданні па іншых прадметах або гуляць у крыжыкі-нулікі, або рабіць што заўгодна ўвогуле. Каб атрымаць выдатную адзнаку, дастаткова было вывучыць верш. Ніводзін настаўнік, якія ў нас змяняліся, не быў да свайго прадмета патрабавальным, ніхто не меў жадання зацікавіць. Нават на фізкультуры нас больш муштравалі. Вось і ўскрыліся на працы ў кнігарні ўсе тыя прагаліны, якія ўтварыліся некалі ў школе. Восем гадзін за чытаннем штодня — і адкрылася тэра інкогніта. Ужо і таваравед, і дырэктарка прызвычаіліся да таго, што я чытаю. А рабіла я гэта дэманстратыўна, каб было відаць, што кніжка беларуская. Калі ты на эмоцыі ад толькі што прачытанага, а да цябе падыходзяць з марным пытаннем: «Что у вас тут интересного продается?», то што ты можаш адказаць? «Вось! — кажу, — толькі што прачытала сама. Адарвацца не магла — так цікава». І пераказваю караценька сюжэцік. На адной з нарад мяне пахвалілі: «Са з’яўленнем Тані сышлі з астаткаў кнігі, якія стаялі на паліцы дзесяць гадоў». І ўжо ледзь не чарга стаіць да мяне ў аддзел. А часам прыходзіць які-небудзь паэт. «Прадаецца мая кніжка?» — «Прадаецца», — кажу. «Загарніце мне дзесяць». Іду на касу, загортваю кніжачкі ў адмысловую паперку. «А вы чыталі?» — «Чытала, канешне!». А сама, калі не чытала, то хутчэй чытаць, абы толькі ён за дзверы. Бо ўжо ж, можна сказаць, асабіста знаёмая з гэтым паэтам. Раней думала, што яны ўсе памерлыя, а тут, аказваецца, жывыя ходзяць. Гуманітарны шок свядомасці! Тым часам я рыхтуюся ва ўніверсітэт і — разумею, што паступаць не хачу! Мне хочацца працягваць працаваць. Так праходзіць яшчэ год. Беларускія паэты гавораць кампліменты, вершы прысвячаюць, заляцаюцца. Але тут зноў падыходзіць дырэктарка. Кажа: «Ты, Таня, малайчына. Але калі ты не будзеш вучыцца далей, то да пенсіі дабудзеш простым прадаўцом. Я перавяду цябе з малодшых, але з адной умовай — ты паступаеш». І я паступаю на філфак. І вучыцца мне там — лёгенька. Пасля выйшла замуж і, нарадзіўшы дзяцей, разумею, што з імі, маленькімі, праца да васьмі вечара не падыходзіць, спрабавала шукаць нешта новае. Яно знайшлося выпадкова. Гэта і быў музей Максіма Багдановіча.

**— Наколькі адразу вас захапілі яго імя і творчасць?**

— Уласна Максім Багдановіч быў мне, як кажуць, пастолькі-паколькі. Цяпер, назіраючы за маладымі людзьмі, я бачу, што праца ў музеі наогул не з’яўляецца прэстыжнай. Мяне ўразіла выказванне Далай Ламы: «Планеце нашай не патрэбна такая вялікая колькасць паспяховых людзей, ёй катастрафічна не хапае мастакоў, рэстаўратараў, казачнікаў — тых, з кім прыемна жыць. Калі ўсё пастаўлена на працвітанне і зараблянне грошай, гэта настолькі моцна не стасуецца з патрэбамі планеты, што мы рухаемся да гуманітарнай катастрофы». Я цалкам згодная. Савецкае выхаванне ўсё ж ставіла добрыя мэты: не столькі імкненне да матэрыяльнага, колькі рэалізацыя асобы. Памятаю, што калі мяне ўзялі на працу ў музей, я ішла па зямлі — і зямлі не кранапася. Працаваць у музеі, навуковым супрацоўнікам — гэта было па-за межамі ўсіх фантазій. Тое сваё ўсхваляванне я не забуду ніколі. Сёння ж наўрад ці

хто такое перажывае. А тое, што я трапіла менавіта ў музей Багдановіча, — выпадковасць. Ім мог быць і музей Янкі Купалы, любімага майго паэта на той час. Да таго ж, больш мне вядомага. Каб працаваць у музеі Багдановіча, я павінна была найперш прачытаць стос літаратуры па жыцці і творчасці паэта. І тут пачала адкрываць для сябе цікавосткі і падрабязнасці. Таму казаць, што Максім Багдановіч — гэта фенаменальная з'ява беларускай літаратуры, мусіць, не трэба.

**— Лепш расказаць пра ролю музея ў захаванні спадчыны паэта і папулярызацыі яго імя. Для той моладзі, якой цікавыя дабрабыт і поспех, што можа зрабіць музей увогуле і ваш, багдановічаўскі, у прыватнасці?**

— Вельмі цяжкае пытанне. Калі чытаць статутныя палажэнні, то зразумела, што музей скіраваны на тое, каб сабраць усю спадчыну Багдановіча, захаваць яе і грунтаваць свае мерапрыемствы, экспазіцыі, выстаўкі, прэзентацыі, вечарыны, буклеты на падставе таго, што збіраецца ў фондах. У нашых фондах, безумоўна, шмат цікавых матэрыялаў, хоць і трэба зазначыць, што музей ствараўся даволі позна, калі шмат што з рэчаў, рукапісаў і аўтографаў паспела ўжо трапіць у іншыя музеі. Але дзякуй Богу, што яны там захоўваюцца, бо музейнае братэрства дазваляе выкарыстоўваць матэрыялы фондаў іншых музеяў у сваёй дзейнасці. Мы ж знайшлі тое, што не знайшлі папярэднія даследчыкі. Але што такое ўвогуле музей? На маю думку, гэта павінна быць вельмі кансерватыўная ўстанова. Але сёння музеем называюць усялякую выпадковую арганізацыю, дзейнасць якой грунтуецца на экспанаванні, смешна сказаць, камплекта пэўных прадметаў. Я была вельмі непрыемна здзіўлена тым, што ў Расіі ў мястэчку Мышкіна стварылі музей мышы. І валам валіць туды народ. А ці ж можна мыш узвесці ў ранг каштоўнасці? І даследаваць яе як нешта, што нясе адбітак часу, або падзеі, або асобы? Шкляныя, драцяныя, драўляныя, рухаюцца, пішчаць, усіх памераў — яны могуць выстаўляцца дзе заўгодна, толькі музеем гэта месца назваць нельга. Паўтаруся, на маю думку, можа, занадта кансерватыўную. Наведвальніку, які ўвесь час хоча забаўкі, і гэта да смаку прыйдзецца. Але нельга ж так зніжаць планку. Хаця і мы грашым, і мы зніжаем гэту планку. Нашы выезды на лекцыі ў школы, да дзяцей — гэта самападман. Так, у музея ўзрасце колькасць наведвальнікаў. Так, ён будзе распавядаць пра Максіма Багдановіча, а гэта — папулярызацыя творчасці. Ды мы нават грошы заробім, бо дзеткі прынясуць па тысячы рублёў. Быццам бы плюсы. Але пры гэтым — адны мінусы. Мы адваджваем дзяцей ад наведвання музея, ад ведання, што ён такое ёсць, ад радасці спаткання з ім, ад уражанняў: вось гэтай ручкай пісаў Максім Танк! Вось гэту паперку трымаў у руках Караткевіч! Як гэта ўсё цікава і каштоўна! Наш крэатыў, такім чынам, ператвараецца ў шкоду. Думаю, што тут вінаваты не толькі музеі. Вінавата шмат у чым само грамадства: яно не імкнецца да ведаў, дасканаласці, развіцця. Пры тым, што людзі ў гэтым грамадстве спрэс адукаваныя і развітыя. Таму супрацоўнікі нашага музея калі і робяць папулярныя ў моладзевай аўдыторыі мерапрыемствы, то заўсёды пры адной умове: каб бачна прысутнічаў на іх і сам Максім. З моладзевай аўдыторыяй працаваць лёгка, бо Максім Багдановіч маладым быў, маладым тварыў, маладым назаўсёды застаўся. Яго памкненні, спадзяванні, пачуцці — з усім гэтым лёгка дастукацца да маладых. Максім проста такі ж, як яны. І ён думаў пра Беларусь! На гэтым мы і будуем рознага кшталту праекты. Мне вельмі падабаецца тое, што ў нас робіць Міхась Бараноўскі. Гэта цыклы мерапрыемстваў, адзін з якіх называецца «Ведай нашых» — такая вось ультыматыў-



*Адкрыццё выстаўкі «Грунвальд за смугою часу».*

ная назва. Арганізоўваецца праз сацыяльныя сеткі. Аўдыторыя збіраецца праз групы сяброў Міхася, музея і Максіма Багдановіча. Іншымі словамі, прыходзяць людзі не выпадковыя, а тыя, хто хоча нешта знайсці, адчуць, пачуць і ўбачыць. «Ведай нашых» — гэта паралель: з аднаго боку, асоба з гісторыі, з часоў Максіма Багдановіча — Ластоўскі, Зоська Верас, Луцкевіч, сам Максім, з другога — асоба сучасная, што жыве сярод нас і нешта таксама стварае. Маўляў, такія людзі нікуды не дзяваліся, яны жылі тады, і жывуць сярод нас, і будуць жыць далей, і наноў нараджацца. Я бачу па аўдыторыі, што гэта цікава. Я бачу жывасць успрыняцця і адваротную эмоцыю. Другім цыклам — «Нашы скарбы» — мы прэзентуем штосьці каштоўнае з экспанатаў, адно-адзінае: арыгінальны «Вянок», слуцкі пояс, кніжку бацькі Максіма «Пережитки древнего миросозерцания белорусов»… Тут ледзь не ў гульнёвай форме ідзе расповед — не лекцыйны, не экскурсійны, не метадычны, а жывы — цытуюцца вершы, удзельнікі трымаюць у руках раздрукоўкі, дадаецца музычнае суправаджэнне, што моладзі заўсёды цікава.

**— Для школьнікаў, напэўна, усё ж складаней...**

— Так. Школьнік жадае і павінен быць прамым і непасрэдным удзельнікам чаго б там ні было, не іначай. Для школьнікаў мы распрацавалі інтэрактыўныя заняткі, якія нават на выездзе хораша ажыццяўляюцца, а ў музеі тым больш. Мы даём магчымасць напісаць верш, згуляўшы ў бурымэ, або напісаць нешта адмысловай ручкай, склеіць з нарыхтовак анёлка, ды не простага, а каб змясціць яго пасля ў батлеечную скрынку. Школьнікі гуляюць у батлейку са сваімі анёлкамі — ім гэта вельмі цікава. Разам з тым, я лічу, што не павінна сыходзіць у небыццё і традыцыйная форма абслугоўвання. У музей усё ж варта прыйсці дзеля экскурсіі.

* * *

— У мяне часам пытаюцца: «А ці ёсць роўныя Максіму Багдановічу?» Я адказваю: «Ды не, не можа быць». Памятаеце, як Луцкевіч казаў у першай рэцэнзіі на кніжку? Параўноўваць яго ні з кім не будзем не таму, што роўных няма, а таму што такіх як ён няма.

**— А ці ёсць у вашым асабістым стаўленні да Максіма Багдановіча элемент мацярынскасці?**

— Калі дваццацітрохгадовай толькі прыйшла ў музей працаваць, такога пачуцця не было, бо ён быў старэйшым за мяне. А сёння… І сёння няма. Ёсць захапленне чалавекам. Я не магу знайсці адказаў на пытанні, якія задаю сабе ўжо дваццаць пяць гадоў. Як мог малады чалавек у дваццаць ствараць вершы, у якія ўкладзена мудрасць сусвету? Можна, канешне, казаць: Богам дадзена. Можна меркаваць, што Бог, адмераўшы такі кароткі шлях, расшчодрыўся на талент у якасці кампенсацыі. Але Максім з-за стылю свайго жыцця, ад замкнёнасці сваёй чытаў не толькі шмат, але яшчэ і вельмі ўважліва — не так, як мы іншым разам. Бібліятэка Адама Багдановіча дала яго сыну вялізны кругагляд і бездань ведаў. Але ж мог бы Максім і не зважаць на ўсе гэтыя каштоўнасці, мудрасці і пастулаты, мог бы не паўтараць іх. А ён мае ў гэтым патрэбу душэўную. Назва той патрэбе — геніяльнасць. Геніяльнасць яго выключная — яна пракладзена праз патрыятычнасць. Калі Максім жыў далёка ад Беларусі і вывучыў мову, і служыў Беларусі, то як жа тады нам, жывучы тут, не жыць, як Максім Багдановіч не мог нават марыць? У нас ёсць усё, чаго яму не хапала, — энергетыка гэтай зямлі, асяроддзе. Але ж мы лянівыя. І вось калі нам ад гэтага сорамна становіцца, тады Максіма трэба браць за ўзор. Ведаеце, ёсць сёння ў грамадстве такая фішка: давайце, маўляў, Максіма Багдановіча піярыць. Давайце зробім з яго секс-сімвал. Гэта прымітыўнейшы, банальны падыход. Нельга так рабіць. Хаця і мы, супрацоўнікі музея, часам успрымаем яго як жывога чалавека. Сёння шмат хто схільны бачыць у знакамітых папярэдніках проста людзей з іх слабасцямі, турботамі і схільнасцямі да нейкіх звычак. Але ў нас, беларусаў, так мала пуцяводных зорак, што зрабіць з Максіма Багдановіча не паэта, а проста чалавека было б памылкай. Не трэба здымаць яго з пантэона, у ранг беларускіх святых трэба ўзводзіць такіх людзей. І маліцца на іх, і прасіць дапамогі. Што мы і робім…

*Гутарыла Святлана ДЗЯНІСАВА*

# ЯК ГЭТА — БЫЦЬ БАГДАНОВІЧАМ?



***Асоба Максіма Багдановіча — адна з тых ключавых фігур беларускай культурнай прасторы, што дагэтуль не дае спакою творцам. Да яго ўпарта звяртаюцца паэты, мастакі, драматургі. Паназіраем, які погляд на Багдановіча прапануе тэатральная сцэна. Гаворка пойдзе пра спектакль «Дзённік паэта» рэжысёра Віталя Баркоўскага па п'есе Сяргея Кавалёва. Выканаўца галоўнай ролі акцёр Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі Аляксандр МАРЧАНКА распавядзе нам, як гэта — быць сцэнічным Багдановічам.***

***— Раскажыце пра спектакль «Дзённік паэта». Чым ён адметны? Як успрымаецца гледачамі?***

— Адметнага ў ім шмат. Гэта была першая спроба працы з рэжысёрам Віталем Баркоўскім. На той час ён ужо скончыў кіраваць тэатрам імя Я. Коласа ў Віцебску, але яшчэ не пачаў кіраваць Смаленскім тэатрам. У гэты прамежак часу ён паставіў спектакль па п'есе Сяргея Кавалёва «Дзённік паэта». Першапачаткова я не быў прызначаны на гэтую ролю, яе павінен быў выконваць Дзяніс Паршын. Мы і цяпер па чарзе з ім граем Багдановіча, бо ў гэтым спектаклі ў нас два саставы. Ідзе спектакль не вельмі часта, таму што ён даволі складаны. Глядач не з вялікай ахвотай купляе квіткі на яго. Але ў спектакля ёсць свае прыхільнікі, якія прыходзяць і прапануюць дапамагчы прадаць квіткі на яго. Некаторыя настаўнікі гімназій спрабуюць распаўсюджваць іх сярод сваіх вучняў. Так атрымліваецца, што я граю ў ім два, у лепшым выпадку тры разы за сезон. Ён сапраўды вельмі складаны і патрабуе падрыхтоўкі. Гаворка ідзе не пра нейкую дасведчанасць у творчасці Максіма Багдановіча ці ў ягоных біяграфічных звестках. Віталь Баркоўскі на падставе п'есы ствараў свой спектакль, а гэта нешта большае, чым аўтабіяграфічны расповед. Гэта вельмі цікава, таму што мы гаворым пра чалавека, што пражыў вельмі кароткае жыццё, у фінале якога, як мы ведаем, быў вельмі хворы. Тым не менш, у першай частцы п'есы апісана яго каханне, узрушаны эмацыйны стан. Для мяне, як для акцёра, галоўнае стала зразумела тады, калі я ўбачыў, што гэты чалавек не хоча ў гэтае каханне акунацца, таму што разумее сваю наканаванасць. Гэта выключна мая інтэрпрэтацыі, я не маю ніякіх звестак пра тое, хацеў ён ці не. Ён не хоча, а яно цягне. І ён абірае каханне. І тады, як кажуць, у прорву з галавой. Для мяне гэтая кропка стала момантам, які дапамог мне адчуць ролю, ключом, які адчыніў усе замкі.

**— Як вы шукалі, стваралі вобраз? Толькі на падставе матэрыялу п'есы ці яго біяграфічнымі звесткамі таксама цікавіліся?**

— Яшчэ раз паўтару, што гэта не біяграфічны спектакль. З-за гэтага часам узніка-

юць непаразуменні, якія праяўляюцца пасля публічных паказаў. Я, напрыклад, ведаю, што некаторыя звязаныя з Багдановічам асобы зусім не ўспрынялі гэты спектакль. Пасля прэм'еры пачаліся разважанні кшталту «наш Максімка не такі»... Калі ў нацыянальнай бібліятэцы адбывалася прэзентацыя зборніка вершаў Максіма Багдановіча, арганізатары запрасілі нас з паказам кавалка п'есы. Мы папярэджвалі, што гэта не зусім традыцыйны погляд на асобу паэта, але паказ адбыўся. І зноў некаторыя з тых, хто выступаў пасля нас, казалі, што гэта ўсё не больш, чым мастацкія выдумкі. Дасканала біяграфію паэта мы сапраўды не вывучалі. Паказанае ў першай частцы спектакля каханне перабольшанае, гіпертрафіраванае. Гэта ў тым ліку абумоўлена фізіялогіяй, бо герой знаходзіцца на парозе смерці: ён хворы на сухоты, што таксама спрыяе стану апантанасці. Там усё сапраўднае. Перабольшанае, але сапраўднае, даведзенае да верхняга паверха апісанага стану. У другой частцы мы бачым зусім іншае: там нейкая карыкатура на людзей, якія вакол гэтага існуючага ці неіснуючага кахання, дзённіка пачынаюць будаваць сваё сучаснае жыццё, робячы выбар сумлення, душы… Вось гэтая



сістэма каардынат — галоўнае, над чым мы думалі падчас стварэння спектакля. Шмат разважанняў рэжысёра, асобы вельмі значнай, нейкімі эскізамі, эцюдамі клалася ў тое, што потым увасобілася на сцэне. Распавяду цікавы момант: спачатку, калі мы пасля трох месяцаў працы дайшлі да прэм'еры, Віталь Міхайлавіч вырашыў не паказваць другую частку п'есы. Першая прэм'ера ўяўляла сабой толькі першую частку, у якой апісваецца гісторыя ў Старым Крыме. Але потым і акцёры, і аўтар, і нават некаторыя гледачы папрасілі рэжысёра дадаць другую частку, бо, на нашу думку, тады ствараецца аб'ёмнейшая сістэма каардынат, якая закранае нашмат больш пытанняў.

**— Ці лёгка было быць Багдановічам на сцэне?**

— Гэта буйная роля ў маім творчым жыцці. Яна вельмі складаная фізічна і эмацыйна, але разам з тым нейкая вельмі зразумелая. Бо, як я ўжо казаў, знайшоўся ключ да яе. Калі мы выпускалі прэм'еру, галоўнае для мяне ў працы над гэтым матэрыялам ужо адбылося. Падчас рэпетыцый спектакля я здолеў адшукаць некаторыя рысы, якія мне былі не ўласцівыя. Безумоўна, прэм'ера была важнай для мяне падзеяй, але галоўныя здабыткі з'явіліся яшчэ падчас рэпетыцыйнага перыяду. Роля складаная, але я ведаю, чаму мне там складана. Больш за тое, я ведаю, што без гэтай складанасці немагчыма. Я не адзін такі. Увесь састаў перажывае тое ж, бо кожная роля ў гэтым спектаклі вельмі буйная, вельмі значная. Нельга казаць, што гэта спектакль толькі пра Максіма Багдановіча. Гэта разважанне на падставе жыцця гэтай асобы і яго акружэння пра рэчы больш значныя, чым толькі паэт і яго лёс. Наш спектакль пра гэта таксама, але ў больш аб'ёмным сэнсе. Таму было складана. Складана прыстасоўвацца да матэрыялу, рэжысёра, ролі. Але гэта была вельмі зразумелая складанасць, пасля пераадолення якой засталося адчуванне вялікай палёгкі.

**— Ці ёсць нейкія моманты ў гэтым вобразе, якія вы асабіста не прымаеце? Што было найбольш цяжка сыграць?**

— Складанасць была звязана не з тым, што мне нешта не падабалася ў вобразе

паэта, гістарычным ці апісаным у п'есе, а з тым, што ў спектаклі паказваецца такая кропка эмацыйнага кіпення, да якой вельмі цяжка дарасці, дакрануцца. Для гэтага прыходзілася пераадольваць сябе. Мы кажам пра незвычайную сітуацыю, не пра тое, што чалавек робіць штодня. Мы кажам пра чалавека, які разумее, што вось-вось павінен памерці. І пры гэтым ён апынуўся ў вельмі прыгожым месцы, дзе жыццё адчуваецца больш востра. Да таго ж ён піша вершы, а значыць, можа свае ўражанні занатаваць.

**— Іншымі словамі, гэта досвед, не ўласцівы вам асабіста, які вы ніколі не перажывалі. Сапраўды, хіба што трэба было смяротна захварэць, каб зразумець Багдановіча ў п'есе. Пагаворым пра вашыя стасункі з Максімам Багдановічам да і пасля спектакля. Што можаце сказаць на гэты конт? Цікавіла вас асоба паэта раней?**

— Не больш, чым нас усіх. Я вывучаў яго творчасць у школе, жыў непадалёк ад музея Максіма Багдановіча, які знаходзіцца на вуліцы Рабкораўскай, ля ўніверсітэта культуры. Я ведаў пра яго няшмат, не больш, чым звычайны чалавек. Канешне, падчас працы над матэрыялам мы цікавіліся, наколькі апісанае ў п'есе праўда, ці існуе насамрэч інтымны дзённік. А пасля спектакля я стаў цікавіцца Багдановічам больш. Я часта праходжу міма ягонага помніка, але цяпер мінаю яго неяк па-іншаму, разважаючы над лёсам паэта, над сваёй працай у спектаклі… Пасля прэм'еры мне падаравалі зборнік ягоных вершаў, які я калі-нікалі перагортваю і разважаю, чаму вершы Багдановіча такія розныя па сваёй якасці. Я не літаратурны крытык, але бачу, што ў яго ёсць магутныя вершы, а ёсць нейкія дзіўныя, на маё ўспрыманне нават графаманскія. Такая палярнасць, амбівалентнасць ягоных твораў мне таксама вельмі цікавая. Гэта дае падставу думаць, што ён быў чалавекам крайнасцей.

**— Пытанне інтымнага дзённіка Багдановіча — цэнтральнае ў п'есе. На вашую думку, ці варта яго публікаваць?**

— У п'есе ёсць і адказ. Галоўны герой другой, «сучаснай», часткі спектакля кажа, што не варта, таму што гэта можа адмоўна



паўплываць на людзей, якія не разумеюць значнасці асобы Багдановіча. Але мне падаецца, што любыя рысы, якія дадаюць чалавечнасці ідэальнаму вобразу — гэта вельмі добра, таму што мне больш падабаецца разумець, што нешта незвычайнае ствараюць падобныя да нас асобы, якім уласцівыя тыя ж учынкі, што і звычайным людзям. Тыя ж жарсці, тыя ж нізкія праяўленні чалавечай прыроды. Таму, калі дзённік існуе, чаму не? Мы ведаем, што ў творчасці Пушкіна, Талстога ёсць ледзь не парнаграфічныя матывы. Але гэта ніяк не паўплывала на іхняе становішча.

**— Ці задаволены вы сваім Багдановічам?**

— Я задаволены тым, што гэтая праца была ў маім жыцці. Я вельмі не задаволены тым, што той матэрыял, з якога была пабудавана мая акцёрская праца, і не толькі мая, губляецца з-за таго, што мы рэдка паказваем спектакль. Шмат там было зроблена на коньчыках пальцаў, шмат момантаў, якія нельга замацаваць мізансцэнічна ці тэкстам. Утрымаць гэта я не ў стане. Тут я сабой не задаволены…

*Гутарыла Тамара САРАЧЫНСКАЯ*

*Марына ЗАПАРТЫКА*

# ПЕРШАЯ МАЧЫХА

Аматарам творчасці паэта вядома, што ў хуткім часе пасля смерці сваёй жонкі Адам Ягоравіч (бацька) пераехаў з Гродна ў Ніжні Ноўгарад і ажаніўся з Аляксандрай Волжынай. Заха-валіся ўспаміны, што Максім і яго браты шчыра палюбілі сваю мачыху. Але хутка другі ўдар лёсу напаткаў сям'ю: Аляксандра, нарадзіўшы сына, памерла. Хлопчыка ў гонар маці назвалі Аляксандрам. Што гэта была за жанчына?

Успамінаў пра Аляксандру Волжыну захавалася мала, яе перапіска з Адамам Багдановічам знаходзіцца ў Архіве А. М. Горкага ў Маскве, але дагэтуль не апрацавана. І ўсё ж партрэт мачыхі Максіма можна скласці па лістах і рэдкіх успамінах.

Аляксандра Волжына (1880 — 15.11.1899) нарадзілася ў Самары, у дваранскай сям'і, скончыла педагагічны клас Самарскай гімназіі. Яе родная сястра Кацярына была жонкай Максіма Горкага. Адам Багдановіч пасябраваў з сям'ёй Пешкавых пасля пераезду ў Ніжні Ноўгарад, падтрымліваў Кацярыну Паўлаўну падчас арышту мужа і ездзіў да яе ў Самару, каб даведацца, ці ёсць змены па справе Максіма Горкага. Верагодна, менавіта там адбылася першая сустрэча Аляксандры Волжынай і Адама Багдановіча. Тады дзяўчыне было ўсяго 18, Адаму Ягоравічу — 36. Паміж імі завязалася перапіска. Па тым часе немалады ўжо Адам Ягоравіч не быў зайздросным кавалерам. Чым мог прывабіць выпускніцу ўдавец з трыма дзецьмі, невялікім заробкам і без уласнага жытла — невядома. Тым не менш, між імі ўзнікла сапраўднае пачуццё. Праз нейкі час закаханыя аб'явілі родным, што хочуць узяць шлюб. Зразумела, гэта выклікала абурэнне з боку сваякоў нявесты: не такой партыі жадала маці сваёй малодшай дачцэ. Адама Ягоравіча, напэўна, таксама непакоіла вялікая розніца ва ўзросце. Гэтую праблему ён спрабаваў вырашыць своеасаблівым чынам. У пасведчанні, выдадзеным з месца працы Адама Ягоравіча, Сялянскага пазямельнага банка, было выпісана: «Дадзена гэта ад Сялянскага пазямельнага банка бухгалтару Ніжагародскага аддзялення гэтага банка, калежскаму рэгістратару Адаму Ягоравічу Багдановічу ў тым, што ён, як з фармулярнага аб службе яго спіска відаць: 34 год ад нараджэння, веравызнання праваслаўнага, удовы і што да ўступлення яго ў другі законны шлюб з дзяўчынай дваранкай Аляксандрай Паўлаўнай Волжынай з боку Сялянскага банка перашкод не сустракаецца, што і сведчыцца належным подпісам з прыкладаннем казённай пячаткі». Даведка была выдадзена 20 студзеня 1899 года, і на той момант Адаму Ягоравічу было не 34, а 36. Такім чынам, на думку даследчыка Алеся Бачылы, Адам Ягоравіч хацеў перад шлюбам на некалькі год, хаця б на паперы крыху «падмаладзіцца», каб розніца ў 18 год не прыцягвала ўвагі.

Пасля таго як усе даведаліся пра намеры Адама і Аляксандры, добрыя сяброўскія стасункі Горкага і Багдановіча былі пад пагрозай зруйнавання. Відавочна, па просьбе родных Аляксандры Максім Горкі выклікаў Адама Багдановіча на мужчынскую размову, якая была цяжкай і непрыемнай для абодвух бакоў. Аляксандра атрымала ліст ад нарачонага са словамі: «Ён балюча стукнуў мяне па сэрцы, балюча і несправядліва». Пасля такіх захадаў Горкага Аляксандра нават хацела спыніць усялякія адносіны з мужам сястры. Але час прайшоў, эмоцыі сцішыліся, і на вяселлі Аляксандры і Адама, якое адбылося 15 студзеня 1899 года, усё ж прысутнічалі родныя і блізкія знаёмыя маладых.

Адам Ягоравіч быў шчаслівы, ён знайшоў сваё каханне. Аляксандра шчыра палюбіла сваіх пасынкаў, ды і яны прывязаліся да сваёй мачыхі. Аляксандра намагалася падтрымліваць добрыя адносіны з усімі родны-

мі Адама, хаця яго сястра Марыя не вельмі добра ставілася да маладой жонкі. Магчыма, яе раздражняла, што ён «проста тросся над ёй», а магчыма і тое, што Аляксандра ў нейкім сэнсе заняла яе месца (бо менавіта цётка Марыя некалькі гадоў апекавалася сіротамі). Суседка Багдановічаў, Марыя Берабейчык, пісала, што Аляксандра Паўлаўна была «незвычайная, мілая жанчына, але вельмі хваравітая, кволая і слабая».

Аляксандра прыняла вельмі цёпла і нават называла «мамачкай» Таццяну Мякота, маці першай жонкі, калі тая вырашыла наведаць сваіх унукаў. Родныя ўзгадвалі, што калі Таццяна Восіпаўна вярнулася дамоў, то вельмі цешылася, што ў яе ўнукаў з'явілася такая добрая мачыха, што дзеці адразу палюбілі яе, асабліва Максім.

Пасля шлюбу Пешкавы і Волжыны ўважліва сачылі за сямейным жыццём Багдановічаў і паступова ўпэўніваліся, што яны па-сапраўднаму шчаслівыя. Аляксандра ўжо рыхтавалася стаць маці, Адама чакаў кар'ерны ўзлёт. Максім Горкі пісаў Кацярыне Паўлаўне: «Прыязджаў святлейшы князь, і Адам меў трыумф. Князь дзякаваў яму на парадак раней за ўпраўляючага і пры ўпраўляючым. Затым князь загадаў свайму сакратару, графу Мусіну-Пушкіну, запісаць яго першым кандыдатам у члены. Гэта азначае, што Адам будзе гадоў праз пяць упраўляючым. Раскажы ўсё гэта маме. Яе павінна парадаваць гэта. Скажы таксама, што адносіны Адама і Шуры — вельмі добрыя і настрой ва ўсіх — добры. Яны вясёлыя. Шмат гуляюць. Шура рыхтуе пасаг дзіцяці разам з Марыяй Ягораўнай. Наогул у іх добра». Можна ўявіць, якая цёплая, сонечная атмасфера панавала ў доме.

Бяда прыйшла нечакана. Хаця Аляксандра была хваравітай, цяжарнасць ішла добра, але неспадзявана перад самымі родамі будучая маці цяжка захварэла. Прысуд дактароў быў жорсткі: усім блізкім трэба было рыхтавацца да горшага. Пра гэтую сямейную трагедыю ў лісце да свайго сябра Л. Срэдзіна пісаў Горкі: «10-га сястра маёй жонкі, жонка майго добрага знаёмага Адама Багдановіча захварэла на запаленне нырак. Тры дні таму, знаходзячыся ў непрытомным стане, нарадзіла. На дадзены момант яна не ачулася і, верагодна, сёння вечарам ці заўтра раніцай памрэ, кажуць дактары. Дзіця ў нас, жонка мая вар'яцее. Я ўвесь час езджу ў бальніцу і гляджу дома за сынам. Усе мы разгубіліся...» Усё адбылося так, як сказалі дактары. Маладая жанчына, не апрытомнеўшы, памерла, але пакінула сына, якога ўзялі на выхаванне Пешкавы. Маленькі Шурык памёр у 1902 годзе, пражыўшы трохі больш за два гады. Адам Ягоравіч зноў застаўся ўдаўцом.

Чысціня вобраза маці і маладой прыгожай мачыхі назаўсёды засталіся ў памяці Максіма. Цыкл вершаў «Каханне і смерць», які павінен быў увайсці ў першы зборнік Багдановіча «Вянок», апісвае шлях жанчыны ад кахання, шлюбу, спазнання мацярынства да смерці. Лірычная гераіня цыкла памірае, у муках нарадзіўшы дзіця, выканаўшы, нягледзячы ні на што, самае галоўнае прызначэнне жанчыны — стаць маці, нават коштам уласнага жыцця. Толькі асабіста перажыўшы пакуту страты блізкага чалавека, можна так пранікнёна пісаць пра смерць і новае жыццё:

Смертию смерть поправ,
Ты ад жыцця адпачыла;
Ў муках памерла сама,
Але дзіцё спарадзіла.

Хутка ў землю навек
Цела стамлёнае ляжа;
Хай жа, як сімвал над ім,
Крыж пра мучэнні нам скажа.

У 1938 годзе, праз шмат гадоў пасля гэтых страшных падзей, Адам Ягоравіч пісаў Кацярыне Пешкавай: «Эпапея нашага кахання цягнулася з 23 чэрвеня 98 года, г.з. адзін год і пяць месяцаў; але колькі лістоў было напісана, і колькі кахання змяшчалася ў яе лістах, і хавалася ў яе сэрцы, а знешне яна падавалася такой стрыманай, такой спакойнай. Беднае, слаўнае, прагнае любові сэрца! Я толькі ледзь-ледзь крануўся лістоў, але ад іх ідзе такі жар кахання...

Калі дажыву да лета, — стары і нямоглы — я іх усе перачытаю і яшчэ раз перажыву тое, што некалі жыва адчувалася.

Яна зусім закрыла маю першую жонку, — каханую жонку. Мне нават трохі крыўдна за Марыльку...».

Хочацца спадзявацца, што калі-небудзь мы будзем мець доступ да перапіскі Адама і Аляксандры, якая захоўваецца ў Архіве А. М. Горкага. Магчыма, з гэтых лістоў мы даведаемся больш.



*Анастасія ЖЫЛІНСКАЯ*

# ГІСТОРЫЯ ЧАЛАВЕКА З ФОТАЗДЫМКА

***У 1981-м у Літаратурны музей Максіма Багдановіча трапіў фотаздымак канца XIX стагоддзя, зроблены ў фотамайстэрні Ф. Соніна. На картцы выява маладой жанчыны і мужчыны гадоў сарака. Пара сядзіць у крэслах на фоне дрэў, сажалкі і ветранога млына. Даследчыкі высветлілі, што на фотаздымку выява дзеда Максіма Багдановіча — Ягора Лук'янавіча з жонкай. Доўгі час фотаздымак захоўваўся ў стрыечнай сястры Максіма Ганны Валасовіч-Гразновай. Потым яна перадала яго даследчыцы Ніне Ватацы.***

Жыццёвы шлях Ягора Лук'янавіча аднаўляўся даследчыкамі па кроплі: дапамаглі лісты яго чацвярых дзяцей і ўспаміны старэйшага сына, бацькі Максіма, Адама Ягоравіча.

Ягор (Юрый) Лук'янавіч нарадзіўся ў 1837 годзе ў сяле Касарычы Бабруйскага павета. Недалёка ад Касарыч знаходзілася сядзіба Рудабелка, куды прыгонныя сяляне, у тым ліку і дзед паэта, штодня прыходзілі на працу. У тыя часы дзяцей з маленства прывучалі да якой-небудзь справы: малады Ягор працаваў памочнікам кухара.

У канцы 1840-х маёнтак Рудабелка быў выкуплены маладым панам Дамінікам Лапо. Адносна хутка, на пачатку 1850-х, памешчык набывае ў графа Храптовіча мястэчка Халопенічы ў Барысаўскім павеце. Гэта адыгрывае важную ролю ў жыцці сялян абедзвюх сядзіб. Пан Лапо пачынае «тасаваць» прыгонных, пераводзячы адных з Халопеніч у Рудабелку, другіх — з Рудабелкі ў Халопенічы. Ягор Багдановіч таксама вымушаны пераехаць. На новым месцы памешчык выпраўляе юнака на вучобу ў дваровую школу. Але Ягора больш вабяць дзяўчаты. Юнак сварыцца з настаўнікам і кідае школу. Вярнуўшыся да пана, застаецца пры кухні.

Праца была нялёгкай, у абавязках — распаліць печ, вымыць посуд, пачысціць садавіну і гародніну, падрыхтаваць ежу да стала. Ягора гэта не палохала, яго прываблівалі «абархайкі» — кавалкі ежы, якія можна было пакінуць сабе, тым больш, што гэта тычылася і салодкага, дзякуючы якому можна было і вясковых прыгажунь завабіць, і да войта падыход знайсці, і не баяцца пакарання, а ад конюха каня атрымаць.

Спадабалася Багдановічу Анэля Асьмак, да якой заляцаўся лакей. Дзяўчына выбрала кухара Ягора, бо ён быў майстрам сваёй справы, да таго ж, не апошняе значэнне мелі «абархайкі». У 1860 годзе Ягор Лук'янавіч і Анэля Фамінічна ўзялі шлюб, пасля нараджэння першынца ў 1862 годзе маладая сям'я атрымала надзел зямлі для пабудовы хаты, дзялянку лесу пад выруб і карову — усё было падарункам ад пана-кума на хрэсьбіны сына.

На пачатак 1860-х прыпадае шмат гістарычных падзей. Адмена прыгоннага права ў 1861-м і паўстанне 1863—1864 гадоў змяняюць ціхі жыццёвы лад сям'і. Пасля падаўлення паўстання пачынаецца русіфікацыя Беларусі. У 1867 годзе расійскія ўлады прымушаюць пана Лапо прадаць маёмасць у Халопенічах. У выніку людзі, якія працуюць на яго, застаюцца ні з чым. Гэта вымушае сялян шукаць заробак у іншых месцах.

Ягор Багдановіч заўсёды імкнуўся быць незалежным, ён меў сапраўдныя паляшуцкія рысы характару: смеласць, упартасць, настойлівасць, пачуццё незалежнасці і ўлас-

**На фотаздымку, які цяпер захоўваецца ў музеі, выява не другой, а менавіта трэцяй жонкі**







най годнасці, нават гарачнасць. Некаторыя з гэтых рыс перадаліся і ўнуку Максіму…

Дзед паэта вырашыў пазбавіцца маёмасці і паехаць на заробкі ў Бабруйск, горад, які ён добра ведаў і дзе было шмат багатых людзей, якія звычайна мелі ў сваім доме повара. Маляваліся фантастычныя перспектывы, што будзіла ў душы кухара яшчэ большае жаданне мець сваю справу. Жонка не магла супрацьстаяць упартасці мужа.

Ягор Лук'янавіч імкнуўся да таго, каб справа рухалася хутка і гладка. Калі штосьці ішло не так, ён раздражняўся, злаваў. «Отец в больших работах был, как одержимый злым духом», — згадвае сын Адам Багдановіч. З-за складанага характару Ягор Лук'янавіч часта не мог знайсці агульнай мовы са сваімі калегамі па кухні і зноў мяняў месца працы і жыхарства. Сям'я Багдановічаў увесь час пераязджала з месца на месца.

Пасля Бабруйска было вяртанне ў Халопенічы, потым — пераезд у вёску Дымкі пад Барысавам, зноў вяртанне ў Халопенічы… У Халопенічах «кухарка за повара» адбівала ў яго хлеб. Каб сэканоміць грошы, людзі наймалі працаўнікоў нізкай кваліфікацыі, бо сапраўдны кухар цаніў высока сваё майстэрства. Пасля шматлікіх пераездаў сям'і было цяжка кожны раз адбудоўвацца нанова. У выніку Ягор Багдановіч, ужо без сям'і, паехаў шукаць працу ў Мінск.

Пераломным момантам для Багдановічаў стала смерць Анэлі Фамінічны ў 1880 годзе. Пасля яе адыходу дзеці «разбегліся па свеце», а Ягор Лук'янавіч прадаў родавую маёмасць. Гэты невялікі кавалак зямлі нейкім цудам карміў сям'ю ў «3, 4, 5, 6, а потым і 7 душ». Мабыць, змог бы пракарміць і болей, калі б не смерць жонкі Анэлі Фамінічны, якой было ўсяго 37 гадоў. Адам Ягоравіч узгадваў: «Гарод і дача з прыбудовамі за 108 руб. — вось дакладны кошт нашай радавой маёмасці, з якой я, як старэйшы з дзяцей, не скарыстаўся ніводнай капейкай».

**И эти дети, и я первый из них, ничего не нашли лучшего, как сунуть его в какую-то мурью, в какой-то подвал к чужим людям, откуда он попал в сумасшедшую больницу, оттуда на кладбище**

Пасля смерці жонкі Ягор Лук’янавіч забірае дзяцей у Мінск і аддае на службу ў розныя дамы. Мінае няшмат часу і — Ягор Багдановіч жэніцца другі раз у Калузе з дзяўчынай-сіратой Пелагеяй, перавозіць туды малодшых дачок Паўліну і Марыю. Разышоўшыся з жонкай, пераязджае на службу з Калугі ў Бранск. Там ён сур’ёзна хварэе. Баючыся за здароўе дзяцей, адпраўляе дзяўчат адных у Мінск да старэйшага сына Адама.

Паправіўшы здароўе, Ягор Лук’янавіч час ад часу будзе наведваць сваіх дзяцей у Мінску.

Якім чынам і чаму дзед Максіма Багдановіча апынуўся ў Адэсе, не вядома. Там ён жыў са сваёй дачкой Марыяй. Лічыцца, што ў гэтым горадзе ён займаўся гандлем. Але Адам Ягоравіч сцвярджаў, што яго бацька ніколі не меў нічога агульнага з гэтым заняткам.

У Адэсе Ягор Лук’янавіч ажаніўся яшчэ раз. Імя трэцяй жонкі і падрабязнасці яе лёсу і сёння застаюцца невядомымі. Мы мяркуем, што на фотаздымку, які цяпер захоўваецца ў музеі, выява не другой, а менавіта трэцяй жонкі. Павел Адамавіч Багдановіч (сын Адама Ягоравіча ад трэцяй жонкі Аляксандры Мякота) у лісце да Ніны Ватацы ўвогуле ўзгадвае толькі дзвюх жанчын: «На фатаграфіі выява не маёй бабкі Анэлі Фамінічны, а другой жонкі майго дзеда. Якога-небудзь здымка з маёй бабуляй не існуе. Як звалі другую жонку майго дзеда, я не ведаю». Калі зроблены гэты здымак, дакладна невядома, датуюць яго перыядам пасля 1880 года, адштурхоўваючыся ад года смерці Анэлі Фамінічны.

Незайздросны лёс чакаў Ягора Лук’янавіча. Дачка Марыя вымушана была ехаць у Гродна дапамагаць старэйшаму брату Адаму, бо ў яго памерла жонка і трэба было даглядаць дзяцей. Ягор Багдановіч, застаўшыся ў Адэсе, хацеў вярнуцца на Беларусь, але дзеці былі супраць такіх памкненняў бацькі. Гэта яскрава дэманструе адзін з лістоў яго дачкі Паўліны да Марыі Багдановіч (маці Максіма Багдановіча): «Родная мая Марылечка! Ваш ліст не прынёс мне сумнай навіны з Адэсы, ён толькі павялічыў мой жаль, што Адамка вельмі мучаецца гэтым...» Дачка піша, што вельмі не хацела, каб бацька прыехаў у Мінск. «Божа мой, што мне зрабіць, каб ён не вяртаўся з Адэсы?» Паўліна піша, што адчувае сваю віну перад бацькам: «[...] калі бацька забіраў Машу, то яна вельмі не хацела ехаць з ім і прапаноўвала мне ехаць з бацькам, а сама хацела застацца ў Адама, яна доўга мяне прасіла, але я не згадзілася і засталася, а мне трэба было паехаць, я была старэйшая і вопытная і даўно б ужо вярнулася з Адэсы. Цяпер усё гэта меня мучыць».

Як завяршыўся жыццёвы шлях дзеда вядомага беларускага пісьменніка, можна даведацца з ліста Адама Ягоравіча да пляменніцы Гапановіч Веры (у замужжы Кунцэвіч), дзе ўзгадваецца, як ён і яе бацькі зрабілі вялікі грэх. Дзеду пад старасць не было дзе «прысланіць галавы», нягледзячы на тое, што меў трох дзяцей. «И эти дети, и я первый из них, ничего не нашли лучшего, как сунуть его в какую-то мурью, в какой-то подвал к чужим людям, откуда он попал в сумасшедшую больницу, оттуда на кладбище. Я даже и на похороны не пошел…», — піша сын. Тым не менш у Цэнтральным архіве Ніжагародскай вобласці захавалася распіска Адама Ягоравіча ад 28 студзеня 1903 года пра атрыманне ім 150 р. у якасці дапамогі на пахаванне бацькі. Памёр Ягор Лук’янавіч у 1903 годзе на 67 годзе жыцця.

Адам Ягоравіч усвядоміў свае жыццёвыя памылкі: такая знявага бацькі сваімі дзецьмі — непрабачальны грэх, дакор заўсёды будзе адчувацца — праз позірк дзяцей і памяць унукаў. Выканаць галоўны запавет Бога — «пазнаць самога сябе» — чалавек можа толькі вывучаючы сябе і пазнаючы сябе ў мінулым, праз сваіх продкаў.

Ірына ШОРАЦ

# СЛУШАЙ, РОНА, ЭТУ СКАЗОЧКУ ПРО «ГАГУ»

Слушай, Рона, эту сказочку про «гагу»:
Мама просит, что б в кровать она легла;
«Гага» маме говорит: «Не лягу», —
Мама «гагу» «амке» отдала.
Если, Роночка, ты встанешь спозаранку
Или если спать не будешь по ночам, —
Позову я к нам большую «амку»,
Этой «амке» Роночку отдам.

***Прачытаўшы гэты верш, адразу можна падумаць, што яго стварыў паэт, які піша для дзяцей. Але мы ведаем, што аўтар гэтага верша — Максім Багдановіч, паэт-лірык, рамантык XX стагоддзя, і для дзяцей ён не пісаў.***



Выключэнне зрабіў для маленькай дзяўчынкі-прыгажуньki Веранікі Залатаровай. Магчыма, гэты верш і не з'яўляецца ўзорам вершаскладання. Але якія глыбокія, нябачныя на першы погляд, пласты раскрываюцца ў ім. Гэта пачуцці Максіма — цеплыня, пяшчота да дзяцей, жаданне пісаць для іх вершы, расказваць казкі. Гэта ўзаемаадносіны паміж людзьмі, бо трэба звярнуць увагу на звароты: Рона, Роначка (вытворнае ад Вераніка). Яшчэ адна асаблівасць — птушка-маці і птушка-дзіцятка: на іх прыкладзе паказваецца стаўленне людзей адно да аднаго на ўзроўні маці — дзіця.

Верш «Слушай, Рона…» мае аўтарскае прысвячэнне: «Посвящаю В. Д. Золотаревой». Выглядае як афіцыйнае, напісанае даросламу чалавеку. Максім Багдановіч ставіўся да двухгадовай дзяўчынкі Веранікі Залатаровай, пляменніцы яго лепшага сябра Дзіядора Дзябольскага, як да роўнай сабе, дарослай асобы.

Калі сям'я Багдановічаў у 1908 годзе пераехала ў Яраслаўль, Максім працягнуў вучобу ў яраслаўскай мужчынскай гімназіі, дзе вызначылася пэўнае кола яго сяброў. Лепшым сябрам Максіма стаў Дзіядор Дзябольскі — іх звязвала агульная зацікаўленасць літаратурай. У доме Дзябольскіх Максім стаў частым і чаканым госцем. Пасля смерці маці яму не хапала сямейнай цеплыні, утульнасці — і гэта ён знайшоў у Дзябольскіх.

З маленькай Веранікай, якая зачароўвала дарослых сваёй абаяльнасцю, якой амаль усё сыходзіла з рук, якую песцілі ўсе сваякі, Максім пасябраваў хутка. Аднойчы бабуля Веранікі не вытрымала капрызаў унучкі і паскардзілася Максіму, які стаў ужо родным чалавекам для іх сям'і. А справа ў тым, што Вераніка, як і ўсе дзеці, не хацела класціся спаць увечары, а раніцай падымала ўвесь дом. Максім вырашыў напалохаць



**Верш «Слушай, Рона...» мае аўтарскае прысвячэнне: «Посвящаю В. Д. Золотаревой». Выглядае як афіцыйнае, напісанае даросламу чалавеку**

сваю маленькую сяброўку, але трошкі, і не шэрым ваўком ці Бабай-Ягой, а незвычайнай істотай Амкай, якая можа з'есці: «Ам-ам». Спадзяемся, што Веранічцы было зусім нястрашна, бо побач — надзейны абаронца Максім (яна гаварыла: «Махім»). Так у 1911 годзе з'явіўся верш «Слушай, Рона, эту сказочку про "гагу"...» Гага — гэта птушка, палярная нырцовая качка з каштоўным мяккім цёплым пухам. Пра яе Вераніка даведалася з дапамогай вялікага заалагічнага атласу — падарунка Максіма Багдановіча, які доўгі час захоўваўся ў сям'і Залатаровых.

Пра яшчэ адзін твор Максіма Багдановіча для Веранікі Залатаровай захаваліся толькі звесткі. Верш быў напісаны ў стылі «галантнага кавалера» XVII стагоддзя. Пра гэта ўзгадваў у сваіх успамінах лепшы сябар паэта Дзіядор Дзябольскі.

Жаданне мець дзяцей — натуральнае для кожнага чалавека. Стварэнне сям'і цяпер, як і сто гадоў таму, — вельмі важная і сур'ёзная справа. Сям'я дае магчымасць пазнаць сэнс і бясконцасць жыцця ў нараджэнні новага чалавека. Максім Багдановіч марыў мець сям'ю і дзяцей. І ў той жа час ведаў, што гэта яго мара не здзейсніцца. Хворы на сухоты, спадчынную сямейную хваробу, паэт чакаў, што пражыве нядоўга, і за кароткі век не паспее зведаць шчасця быць бацькам.

Зоська Верас, мінская знаёмая Максіма Багдановіча, у сваіх успамінах «Пяць месяцаў у Мінску» ўзгадвала яго словы: «Я ўжо пагадзіўся са сваёй хваробай і з тым, што жыць засталося няшмат, але вельмі мне цяжка, што не магу мець сям'і. Я так люблю дзяцей. Ведаеце, калі я пачаў пісаць і друкаваць вершы — на жаль, не ў сваёй мове, а па-руску, бо я гадаваўся ў рускім асяроддзі, як ні горка прызнацца, я напісаў калыханку і аддаў яе ў друк, падпісаўшы псеўданімам. Усе, хто яе чытаў, думалі, што гэтую калыханку напісала жанчына і то жанчына-маці. У гэты твор я ўлажыў усё сваё пачуццё».

Максім Багдановіч дзеля дзяцей ахвяраваў сваім здароўем. Калі падчас Першай сусветнай вайны паэт працаваў у магістраце ў аддзеле харчавання ў бежанскім Мінску, то адмаўляўся піць гарбату з цукрам, неабходным для сухотнікаў, і пакідаў яго для дзяцей бежанцаў. «Там працаўнікам, апрача платы, выдавалі паёк — пераважна цукар. І вось у адзін дзень раніцай, пасля снедання, выходзячы на працу, Максім просіць маю маму, каб дала яму чыстую пошыўку. Увечары сабраліся і дзівіліся, што так доўга няма Максіма. Ён прыйшоў позна і прынёс на плячах паўпуда цукру! Аддаў яго мне (я была паміж іншымі абавязкамі сакратаркай Камітэта) і кажа: "Гэта для дзяцей уцекачоў". Усе былі ўзрушаныя, але зрабілі вымоўку за тое, што сам нёс, а не паклікаў каго-небудзь, каб памаглі...» (з успамінаў Зоські Верас).

На жаль, час не захаваў для нас усе вершы паэта, але непаўторны талент Максіма можна ацаніць і па тым, што захавалася, бо кожнае слова яго нясе святло.

*Міхась БАРАНОЎСКІ*

# ЯБЛЫК АД ЯБЛЫНІ

***Мы — дзеці сваіх бацькоў, здавалася б, нельга прыдумаць больш відавочнага выслоўя. Сапраўды, усё пачынаецца з сям'і. Маці і тата — праваднікі новага чалавека ў свет. Яны сваім прыкладам, сваімі паводзінамі, стаўленнем да той ці іншай з'явы нібы пракладаюць дарогу для дзіцяці. Потым, пакрысе, чалавек высвятляе, што праўда бывае рознай і што мадэлі, па якіх можна існаваць у грамадстве, таксама вельмі разнастайныя. Дзесьці на памежжы таго, што далі родныя, і таго, да чаго кожны прыйшоў сваім розумам, якраз і з'яўляецца асоба. Тут можна сустрэць як павагу да бацькоўскага аўтарытэту, так і непаразуменне, канфлікт, упартыя спробы самасцвярджэння.***



*Максім Адамавіч Багдановіч, 1915 год.*

Якім чынам вырашалася пытанне сямейных узаемаадносін Багдановіча і які ўплыў яно аказала на лёс і творчасць Максіма, паспрабуем разабрацца, аналізуючы адносіны паэта і бацькі. У першую чаргу, праз іх стаўленне да шлюбу, жанчын і дзяцей.

Менавіта тут, мне падаецца, прыхаваны адзін з фундаментальных канфліктаў паміж Адамам Ягоравічам і Максімам Адамавічам, які не агучваўся імі, але ж паўплываў на фарміраванне Багдановіча як асобы і паэта.

Бацька Максіма быў чалавекам пасіянарным, і гэта датычылася не толькі жадання выбіцца ў людзі і заняць сваё месца ў вышэйшым свеце, але і жаночага пытання. Паводзіў ён сябе даволі настойліва і тым дасягаў сэрца абранніцы, часта не зважаючы на грамадскую думку і магчымасць скандалу.

З вялікага канфлікту пачалося сумеснае жыццё з Марыяй Апанасаўнай (Максімавай матуляй). Пасля шлюбу Марыя спыніла стасункі са сваімі заступнікамі Пятровымі (дзякуючы якім пазбегла жыцця ў прытулку) і пасварылася з маці, якая спадзявалася, што дачка пасля заканчэння вучобы падтрымае сясцёр грашыма. Хапала і іншых плётак, але гэта ўжо пытанні да сумлення іх распаўсюджвальнікаў. Заўважу толькі, што Адам Ягоравіч даваў глебу для падобных размоў.

Другі шлюб бацькі таксама быў неадназначна ўспрыняты сваякамі жонкі. Аляксандра Волжына была зусім маладзенькай, і будучыню ёй прарочылі іншую, але і тут Адам змог упэўніць усіх у шчырасці сваіх пачуццяў. Хаця і самому было крыху няёмка за розніцу ва ўзросце (яму 37, Аляксандры не больш за 20) «і таму Адам Ягоравіч палічыў патрэбным крыху падмаладзіцца» (А. Бачыла) — падрабіў сабе паперы.



*Адам Ягоравіч Багдановіч, 1923 год.*

Трэцяй, ужо «грамадзянскай» жонкай стала родная сястра Марыі Апанасаўны: па канонах праваслаўнай царквы шлюб у такім сваяцтве не дазваляецца. Гэты шлюб Адама Ягоравіча — з цёткай Максіма і адначасова мачыхай — быў прычынай поўнага разрыву адносін з Мякотамі. З Аляксандрай і яе дзецьмі Максім Багдановіч амаль не размаўляў. Цяжка ўявіць, як гэта можа быць, калі людзі гадамі жывуць разам пад адным дахам, і так унікаюць адно аднаго.

Асабістае жыццё — справа асабістая і наўрад ці яно б зацікавіла нас, калі б не мела непасрэднага дачынення да нашага героя, які гадаваўся ў гэтых супярэчлівых сямейных стасунках.

Пасіянарнасць і нават пэўны «сексуальны дэманізм» бацькі з'явіліся прычынай таго, што праявы сексуальнага насілі ў Багдановіча падаўлены, латэнтны і даволі парадаксальны характар. Гэта здзіўляла Адама Ягоравіча, які тым яшчэ і бравіраваў: «…Максим в восьмом классе. Лева в седьмом… Лева довольно дик и грубоват, Максим мягкий и женственный. Оба любимы товарищами, в общем славные парни. Жизнь ведут почти затворническую: не пьют, не курят, за девушками не ухаживают — в последнем — полная противоположность родителю своему…» (1910).

Максімаў сябра, Дзіядор Дзябольскі, у сваю чаргу адзначаў: «Увогуле яго адносіны да жанчыны былі патаемна страсныя і рэдкасна чыстыя».

Пытанне чысціні пачуццяў і суаднясенне іх з прыроднымі жаданнямі, інстынктам працягу роду — паліва, якім жывіўся талент паэта. Максім Багдановіч імкнуўся замяніць (коштам страты ўсялякай сексуальнасці) бацькаў дэманізм любоўю, вольнай ад мужчынскай агрэсіі (на думку В. Максімовіча) і «бруду» плоцкіх адносін. Тое ж датычылася і творчасці. Уся энергія скіроўвалася да нейкага эфемернага ідэалу. І калі жанчына ў жыцці (і мроях) набліжалася да яго, яна быццам губляла свае жаночыя рысы і ператваралася ў нешта светлае і ўзнёслае, да чаго немагчыма прымяняць прыземленыя жаданні.

У вершах гэта адлюстроўваецца праз вобраз Мадонны — жанчыны, якая мінае стадыю сексуальных адносін і паўстае перад намі адразу цяжарнай, альбо ў ролі маці, нават калі гэта яшчэ малое дзяўчо:

У той, што з постаццю дзяўчыны
Злівала мацеры чарты.

Альбо…

Пачуцці мацеры ў вобліку дзяўчыны
Красы тэй сімвалам, Маць-Дзева, стала ты…

У гэтым жа рэчышчы можна трактаваць большасць вершаў з цыкла «Каханне і смерць». У выпадку, калі секс усё ж мае быць, ён апісваецца як з'ява «цёмная», «таемная» і толькі як неабходная мера для таго, каб зацяжарыць…

Бацька ў «Матэрыялах да біяграфіі…» узгадваў: «Я никогда его не видел в женском обществе, за исключением его двоюродных сестер. Думаю, что он никогда его и не искал. Он слишком был серьезен и чист для фривольных связей и слишком честен, чтобы вводить кого-нибудь в заблуждение

насчет серьезности своих намерений, а о женитьбе он, видимо, не помышлял ввиду своей болезни».

Адам Ягоравіч ніколі пры жыцці не ўспрымаў сына ўсур'ёз, ні як творцу, ні як сталага мужчыну, які можа «помышлять о женитьбе». Можа, быў занадта заняты сваёй асобай, можа (што хучэй за ўсё), Максім не пускаў бацьку ў асабістае жыццё і таму той нічога не ведаў пра «патаемна страстныя» адносіны сына да дзяўчат.

Забудется многое Клава,
Но буду я помнить всегда,
Как в сердце шипела отрава
Любви и тоски, и стыда… —

пісаў Максім Багдановіч пасля паездкі ў Крым. Варта засяродзіць увагу на гэтых радках і асабліва на «стыде»: мне падаецца, для Максіма «жаночае пытанне» было сапраўднай вярэдай, якая не давала яму спакою. Ён не ўмеў ставіцца да жанчыны, як Адам Ягоравіч, дый большасць мужчын на зямлі.

Ідэалізаваны вобраз «чыстай» Мадонны, ніяк не стасаваўся з сямейным жыццём (а якім яно бывае, Максім пабачыў на прыкладзе бацькі) і працягам роду. Дый знакі ўвагі, якія аказваюць звычайна пры развіцці адносін з дзяўчатамі, былі для яго гідкімі: «То, что называется ухаживанием, ему было просто противно» (А. Багдановіч). Мяркую, так сталася таксама дзякуючы прыкладу таты, якога лічылі сапраўдным знаўцам таго, як сябе падаць і які камплімент зрабіць жанчыне, каб перайсці да больш блізкіх адносін.

Адсюль і курортны раман Максіма з замужняй жанчынай (з няўстойлівымі маральнымі прынцыпамі). Маленькая, шараговая гісторыя пра тое, як цёмнае пачуццё ўзяло верх над ідэалам.

…Таксама без надзей да спыну
У пропасць чалавек ляціць
І сквапна ўніз, на дно страмніны,
З салодкай жудасцю глядзіць.

Бруд нельга выпацкаць брудам: не ўдалося «адкаціцца» падалей ад бацькавай «яблыні» — і гэта не давала спакою. Максім Багдановіч шмат рэфлексуе над тым, што адбылося, — занатоўвае адчуванні і перажыванні, якія знаёмы аматарам «смажанага»

## Асабістае жыццё — справа асабістая і наўрад ці яно б зацікавіла нас, калі б не мела непасрэднага дачынення да нашага героя, які гадаваўся ў гэтых супярэчлівых сямейных стасунках

пад назвай «Інтымны дзённік». Хутчэй за ўсё, пастфактум, каб неяк апраўдацца, ён прыдумляе даволі своеасаблівы план.

У размове з мінскім сябрам (аўтарства гэтых успамінаў дакладна не высветлена) Максім так тлумачыць свае паводзіны: «Дзеля таго хацеў зысціся іменна з замужняю», «каб было каму майго сына гадаваць», «от што я, бадзяга, няпэўны чалавек, хіба мне можна быць бацькам і мужам». Згодна тых жа сведчанняў у апошнія гады жыцця гэта ператварылася ў сапраўдную ідэю «фікс».

Тэма дзіця ў Багдановіча амаль сакральная, да яе Максім звяртаецца зноў і зноў на працягу жыцця. У бацькі было 10 дзяцей ад 3 жонак, Максім марыў пра аднаго… Таму так і цікавіўся ён цяжарнымі і веды меў як «дасведчаны акушэр», пра што згадваюць многія яго знаёмыя і сябры.

Дзесьці тут хаваецца жаданне даказаць бацьку, што дзіцёнак — гэта зусім не тое, чым можна ганарыцца, цешыцца альбо, як гэта потым здарыцца, тое, на чым можна зрабіць сабе імя. А ў першую чаргу — чалавечак, якому патрэбны любоў і тая бацькоўская пяшчота, без якой вельмі цяжка вырасці чалавекам. І калі ў галаве Багдановіча ўзнікалі якія-кольвек «зязюльчыны» планы, то толькі ад адчаю, што лёс не падарыў магчымасці мець звычайнага сямейнага шчасця.

Не кувай ты, шэрая зязюля,
Сумным гукам у бары;
Мо і скажаш, што я жыці буду,
Але лепш не гавары.
Бо не тое сведчыць маё сэрца,
Грудзі хворыя мае;
Боль у іх мне душу агартае,
Думцы голас падае.
Кажа, што нядоўга пажыву я,
Што загіну без пары...
Прыляці тады ты на магілу,
Закувай, як у бары.



# АПОШНІ ПРЫТУЛАК ПАЭТА

*Лепшы медзі сабе памятнік справіў я,*
*Болей ўсіх пірамід царскіх падняўся ён;*
*Не зруйнуе яго сівер, ні едкі дождж,*
*Ні гадоў чарада, вечнага часу рух…*

*М. Багдановіч «Памятнік»*
*(пераклад з Гарацыя)*

***«Дарагі Адам Юравіч! Спяшаюся напісаць Вам тое, што мяне зараз вельмі захапіла і парушае, як кажуць, душу. Справа ідзе аб магіле нашага дарагога Максіма. Яна адшукана…», — такімі словамі пачынаецца ліст Язэпа Дылы (ён займаўся спадчынай паэта) да Адама Багдановіча за 5.9.1924 г.***

Здаецца і не такі ўжо доўгі час прайшоў пасля смерці Максіма, але так сталася, што сваякі жылі далёка і за ліхалеццем той цяжкой пары ім было не да месца ўпакаення тых, каго ўжо няма. «Людзям было не да чужых магіл», — пісаў Адам Ягоравіч ва ўспамінах. І да сваіх, відаць, таксама. Хутчэй за ўсё магілу ніхто з родных так і не наведаў.



Адшукалі месца пахавання маладыя беларускія паэты У. Дубоўка, А. Александровіч і А. Вольны (Ажгірэй), якія ў 1924 годзе папраўлялі сваё здароўе ў ялцінскім санаторыі. Перад ад'ездам на мора яны атрымалі ад Язэпа Дылы некаторыя звесткі, запісаныя ім ад Багдановічавага бацькі.

«Похоронили его на ялтинском кладбище, что недалеко от Николаевской улицы по направлению к горам, на самой окраине кладбища внизу, в 3 саженях от окраины, близ дороги, со стороны, противоположной к морю, т. е. со стороны гор. В головах поставлен небольшой белый крест с надписью на жестяной табличке его имени (студент Максим Адамович Богданович) и когда он скончался. В двух саженях по прямой линии от изголовья похоронен студент Карлсон. Сообщаю как некоторую примету. Место выбрано чрезвычайно неудачно: ливни и потоки с крутого склона кладбища легко могли размыть могилу. Я нанял сторожа, чтобы могилу укрепить и привести в порядок, оставил денег хозяйке, чтобы посадить кипарисы и розовый куст, просил блюсти за этим двух знакомых, в том числе дочь моего сослуживца, личную знакомую Максима, но сделано ли это — я не знаю».

Карыстаючыся гэтымі дадзенымі, яны выправіліся на пошукі, але дэзарыентаваныя назвай «ялцінскае», паэты наведалі спачатку два могільнікі ў Ялце, а заадно і цэрквы ў пошуках царкоўных кніг[1], і толькі потым адправіліся на Новыя гарадскія могілкі, якія ў тыя часы знаходзіліся па-за горадам.

Гэты дакумент пацвердзіў, што Багдановіч пахаваны менавіта на Гарадскіх могілках па праваслаўным абрадзе: на трэці дзень пасля

[1] У 1924 годзе ў межах горада Ялта былі Лівадзійскія (па дарозе на Лівадзію), Аўцкія і могілкі Іаана Златавуста — хлопцы наведалі адпаведна Успенскую царкву на Аўцкіх і 2 капліцы, Максіма ж адпявалі ў іншым месцы. Запіс аб смерці і пахаванні быў знойдзены ў метрычнай кнізе Сабора Аляксандра Неўскага.

смерці. Хто займаўся пахаваннем паэта, хто замаўляў службу ў Саборы — невядома.

Успаміны Адама Ягоравіча былі запісаны праз пяць год, пасля таго як ён бачыў сынаву магілу, таму многія арыенціры змяніліся: акраіна перастала быць акраінай, ніякага ружовага куста ў абазначаным месцы не было, дый крыжы былі не на ўсіх магілах, а многія зламаныя.

Падзяліўшыся, яны абышлі і агледзелі кожны камень і крыж, але патрэбнай таблічкі знайсці не змаглі. Тады зацікавілі сыноў вартаўніка, якія ўзяліся дапамагаць.

На наступны дзень яны прынеслі таблічку з жалобным надпісам. Аказваецца, хлапчукі адрывалі шыльдачкі і коўзаліся на іх з гары па адхоне, але ад якога крыжа яна была адарвана — не памяталі. Дапамог выпадак.

«Знаходзім магілку, пра якую казаў Я. Л. Дыла. Але навокал яе таксама магілкі з паламанымі крыжамі. Урэшце падабраўшы з зямлі планку, праверыўшы самыя дробныя дэталі, спыніліся ля шуканага. У правільнасці не магло быць ніякага сумніву» (У. Дубоўка. «На Багдановічавай магілцы»).

Крыху інфармацыі можна атрымаць і са згаданага ўжо ліста Я. Дылы да Адама Ягоравіча: «Ніякага кіпарыса, ружовага куста пры магіле не было, відаць, пасажана, і самая магіла зусім асела і ўровень з абкружаючаю зямлёю сплянтавана нагамі. Памагла магіла Карлсона як ісходны пункт, прыкладанне перакладзіны і прымерванне бляшанае дошчачкі, пакінуўшай і на перакладзіне і на аснове крыжа свае сляды, упэўніла, што гэта магіла Максіма. Добра, што адшукалі яе зараз, бо праз паўгода якога ні аднесенае далёка перакладзіны, ні дошчачкі не захавалася б ужо».

Перад ад'ездам хлопцы склалі новы крыж, падрабязны план і сфатаграфавалі месца пахавання, каб пасля не давялося шукаць наноў. Ці аставілі яны якую-небудзь пазнаку на самой магіле, дакладна невядома.

Бляшаную таблічку (папярэдне сфатаграфаваўшы) і негатывы фотаздымкаў прывезлі ў Мінск ды перадалі ў музей.

Па вяртанні, згодна лісту Дылы, узяліся за нататкі, у якіх апісвалі пошук: А. Александровіч пісаў артыкул для «Савецкай Беларусі», У. Дубоўка ў камсамольскі часопіс «Маладняк» (пад назваю «Забытая магіла»). На жаль, матэрыялы так і не былі надрукаваны. Толькі ў 1927 годзе ў часопісе «Узвышша» № 2 з'явіўся артыкул У. Дубоўкі «На Багдановічавай магілцы».



У. Дубоўка дадаткова сустрэўся з Ц. Гартным, звазіў яго на могілкі, паказаў месца. Ц. Гартны па сваім эскізе за грошы Беларускага ўрада арганізаваў устаноўку надмагільнага знака. Хаця адразу планавалася акультурыць месца захавання да 10-х угодкаў смерці паэта. Абеліск прастаяў да 2003 года, калі на магіле паэта быў устаноўлены помнік скульптараў С. і Л. Гумілеўскіх.

Магіла знойдзена, помнік усталяваны — на гэтым можна было б завяршыць распавед, але ўсё ж такі некаторыя пытанні застаюцца адкрытымі.

Па-першае. Ці правільна была выяўлена магіла паэта? Аповед Дубоўкі з падборам шыльды і перакладзінкі гучыць не пераканаўча. Калі дзеці адрывалі шыльды ад крыжоў, яны маглі некаторыя і паваліць. І хто можа даць гарантыю, што іх потым ўтырквалі ў патрэбны капец?




Па-другое, магілу маглі адкрыць наноў (а звесткі пра такое сустракаюцца) і не абавязкова на тым месцы якое адшукалі маладыя паэты.

Так Язэп Дыла ў лісце да А. Я. Багдановіча (за 19.04.1923) згадвае старшыню Мазырскага павятовага выканкама (магчыма, размова ішла пра Варфаламея Луцкевіча), які збіраўся адшукаць месца смерці і пахавання паэта, вынікі гэтай паездкі невядомыя.

У сваю чаргу Міхась Клімковіч, удзельнік адной з пошуковых экспедыцый (паэт, чыноўнік ад саюза пісьменнікаў БССР), згадваў наступнае: «Напрыканца 20-х гадоў у Ялту была выпраўленая дэлегацыя беларускіх пісьменьнікаў. Знайсці магілу Максіма-кніжніка ім дапамог святар, які ўдзельнічаў у пахаванні. Хаця і ён ня быў упэўнены, што знайшоў менавіта патрэбны капец. Магіла была ў жахлівым стане: павалены крыж, бадыллё, смецце… Зрэшты, у такім стане былі ці ня ўсе могілкі. Нашыя хлопцы закапалі на магіле закаркаваную сургучом бутэльку ад віна з цыдулкай — маўляў, пацвярджаем, што магіла менавіта тут, і зьехалі да Менску.

Праз нейкі час да Ялты прыехала чарговая беларуская дэлегацыя, з падрабязным планам — як адшукаць магілу Багдановіча. Магілу шукалі доўга, знайшлі падобную, але ж аніякай шклянкі з цыдулкай у капцы не было».

(Гэтую гісторыю ўнук пісьменніка Максім Клімковіч запісаў са слоў бабулі Марыі Язэпаўны)

Па-трэцяе, магіла магла быць перанесена ў іншае месца падчас будаўніцтва ў Ялце новай дарожнай сеткі. Гэтым пытаннем ушчыльную займаліся супрацоўнікі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча П. Качаткова і А. Кісялевіч на пачатку 1990-х. Згодна дадзеных, якія сабралі даследчыцы гісторыі, месца пахавання, магілы на тым месцы, дзе мы бачым яе цяпер, не чапалі. Але матэрыялы аб пераносе пахаванняў вяліся толькі пачынаючы з 1947 года, а самы сталы сведка, якога знайшлі супрацоўніцы музея, — далакоп-каменяцёс працаваў там толькі з 1961-га года. Наколькі бывае няпэўнай памяць чалавека, добра вядома.

Па-чацвёртае, не зусім зразумела, хто і ў які час усталяваў помнік на магіле паэта, бо гаворка ў асноўным ідзе пра 1924 год, але з газетных нататак відаць, што помнік збіраліся ставіць на дзясятыя ўгодкі са дня смерці Багдановіча. Праз 3 гады пры пэўных умовах магілу маглі і не адшукаць. Змешчанае фота помніка апублікавана ў 2-томным выданні твораў Максіма Багдановіча за 1927—1928 гады.

Яшчэ ў 1924-м Язэп Дыла ўздымаў пытанне аб пераносе магілы паэта ў Мінск. «Даю сабе і Вам клятву, што настаю, каб будучым летам перавезці прах Максіма на бацькаўшчыну», — пісаў Дыла Адаму Багдановічу.

Спарадычна такія захады рабіліся і ў 1990-я, і сёння, але падаецца, што пакуль праблема не будзе даследавана належным чынам, гаварыць пра перанос зарана. Варта было б правесці і крыміналістычнае даследванне, каб не атрымалася так, што на Беларусі знойдзе спачын «студэнт Карлсон», а не Максім Багдановіч.

Сёння на Гарадскіх ялцінскіх могілках усталяваны помнік і кожны чалавек можа здзейсніць своеасаблівае паломніцтва да апошняга прытулку паэта, каб крыху больш зразумець, што ёсць Радзіма і яе сыны. Жывыя кветкі ля помніка генія беларускай паэзіі сведчаць, што забыты ён не застанецца.

На чужыне той далёкай
Прах пакінуўшы ў спачыне,
Дух паэта і прарока
Захавайце на Айчыне.

*(Л. Галубовіч)*



Ірына МЫШКАВЕЦ

# САМЫ ШЧАСЛІВЫ ДЗЕНЬ

***Ужо стагоддзе мінула з таго часу, як зборнік вершаў «Вянок» Максіма Багдановіча ўбачыў свет у Вільні, у друкарні Марціна Кухты. Адбылася гэта падзея напрыканцы 1913 года, а па сведчанні Вацлава Ластоўскага — на пачатку 1914-га. Вельмі хутка кніга паступіла ў продаж, а пасылка з аўтарскімі экзэмплярамі накіравалася ў далёкі Яраслаўль. Напэўна, дзень, калі Максім Багдановіч атрымаў на пошце цяжкі пакунак з кнігамі, стаў для яго самым шчаслівым. Атрыманыя «Вянкі» былі падпісаны аўтарам і адправіліся ў далейшае падарожжа да родных і сяброў. Звернем увагу на асобныя зборнікі вершаў — частка з іх захавалася да нашага часу, а пра іншыя ёсць звесткі ў літаратуры. Усе гэтыя кнігі аб'ядноўвае дата, прастаўленая Максімам Багдановічам у подпісах.***




*Вокладка «Вянка» падараванага Нюце Гапановіч.*

Каштоўныя экзэмпляры зборніка «Вянок» з аўтографамі паэта захоўваюцца ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча. Першую з іх перадаў 18 верасня 1981 года ніжагародзец Аркадзь Бараховіч, муж стрыечнай пляменніцы паэта. Прывезены ім зборнік «Вянок» некалі Максім падпісаў і падараваў сваёй стрыечнай сястры Ганне Гапановіч. Кніга — каштоўны экспанат, таму што ўтрымлівае аўтограф паэта: «Сестрице Нюте от любящего ее автора. М. Богданович. 22.03.1914 г.». Адзначаем першы экзэмпляр кнігі, на якім прастаўлена дата 22 сакавіка 1914 года.

У 1984 годзе Ніна Ватацы, даследчыца і апантаная збіральніца спадчыны паэта, перадала ў фонды музея Максіма Багдановіча яшчэ адзін экзэмпляр «Вянка». Гэта кніга таксама ўтрымлівае дароўны надпіс аўтара: «Тете Маше от любящего ее автора. М. Богданович. 22.03.1914 г.». Заўважым, што даты двух аўтографаў супадаюць, як і адносіны, якія выказвае паэт да блізкіх яму жанчын, стрыечнай сястры Ганны і цётачкі Машы, Марыі Галаван. Яна замяніла Максіму і яго братам маці, сагрэла іх сваёй пяшчотай і любоўю. У знак вялікай удзячнасці і павагі Марыя Ягораўна атрымала ад пляменніка аўтарскі экзэмпляр «Вянка» з дароўным надпісам.

Адам Багдановіч, бацька паэта, ва ўспамінах пісаў, што яго сям'я і сем'і яго сясцёр, Марыі і Магдаліны, якія пераехалі жыць у Ніжні Ноўгарад, утварылі «беларускую калонію ў далёкім краі пры зліцці рэк Акі і Волгі». Таму малады паэт не мог абысці ўвагай сваю другую цётачку, Магдаліну

Гапановіч, тым больш, што ў адносінах да радзімы, да Беларусі ў іх назіраецца поўнае суладдзе. «Адданая, пяшчотная любоў да свайго роднага, далёкага, невыразнага, няяснага, напаўадчувальнага, поўнага няўлоўнай прывабнасці, якое здаецца такім прыгожым і якое так лёгка ідэалізаваць, асвячаць, узводзіць у культ», — гэтак Адам Багдановіч характарызуе сваю сястру, гэтымі ж словамі можна перадаць адносіны яго сына да Беларусі. Магдаліна Ягораўна таксама атрымала падарунак ад Максіма — зборнік вершаў «Вянок» з дароўным надпісам: «Тете Магдалине на память от автора. М. Богданович. 22.03.1914». Гэты каштоўны экземпляр захоўваўся ў Ніжнім Ноўгарадзе ў нашчадкаў сям'і Багдановічаў і быў перададзены Ніне Ватацы, якая, у сваю чаргу, перадала зборнік у музей паэта ў Мінску. А тое, што ўжо трэці аўтограф датуецца 22 сакавіка 1914 года, толькі падкрэслівае радасныя пачуцці аўтара і гонар за зробленую справу.

*Дарэчы, узгаданыя арыгінальныя «Вянкі» 1913 года выдання вы можаце ўбачыць у Літаратурным музеі Максіма Багдановіча, у экспазіцыі мастацка-дакументальнай выстаўкі «Праглядзіце гэты томік…». Выстаўка, створаная за сродкі Фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва, прысвечана 100-годдзю адзінага прыжыццёвага зборніка вершаў Максіма Багдановіча. Матэрыялы выстаўкі распавядаюць пра гісторыю стварэння кнігі, асоб, якія дапамаглі паэту ў выданні зборніка; прэзентуюцца каштоўныя экспанаты з фондаў музея, у тым ліку слуцкія паясы, фотаздымкі, дакументы, мастацкія работы і, канешне, арыгінальныя зборнікі вершаў з дароўнымі надпісамі аўтара.*

Існаваў яшчэ адзін экзэмпляр «Вянка» 1913 года выдання, падараваны Максімам стрыечнай сястры Веры Гапановіч, дачцэ цёткі Магдаліны. У артыкуле «Дом детства М. Богдановича» ўжо ўзгаданы намі А. Я. Бараховіч напісаў пра гэтую кнігу і нават даў ілюстрацыю — фотаздымак тытульнага ліста, на якім выразна чытаецца дароўны надпіс аўтара: «Сестрице Вере от любящего ее автора. 22.03.1914 г.». Было пазначана, што кніга захоўваецца ў сям'і Кунцэвічаў. На жаль, на сёння не ўдалося ўстанавіць месцазнаходжанне гэтага экзэмпляра: пошукі, якія вялі музейныя супрацоўнікі, не далі вынікаў. Але застаюцца спадзяванні на тое, што гэты «Вянок» не знікне, а калі-небудзь вернецца на радзіму паэта.

Такія ж самыя спадзяванні застаюцца і ў адносінах да яшчэ аднаго «Вянка» (1913) — таго, што некалі належаў Антону Луцкевічу, аднаму з выдаўцоў «Нашай Нівы», аўтару першай рэцэнзіі на зборнік вершаў Максіма Багдановіча. Рэцэнзія «Пясняр чыстай красы» за подпісам «Г. Б.» была апублікавана ў газеце «Наша Ніва», № 8, 21 лютага 1914 года. Паэт адгукнуўся на артыкул крытыка вершам, які ўпершыню быў апублікаваны ў зборніку «Заходняя Беларусь», у 1924 годзе. Невядомы твор Максіма Багдановіча з'явіўся ў рубрыцы «З нязнаных твораў М. Багдановіча» з прадмовай, у якой тлумачацца прычыны напісання верша як своеасаблівай удзячнасці паэта за рэцэнзію. Звернем увагу на наступныя радкі: «Прачытаўшы яе, паэт прыслаў свайму крытыку экзэмпляр "Вянка" з гэткім надпісам:

Дзень добры, Пане! Вось Вам просты надпіс:

**Ёсць гэткая японская забаўка, —**
**Кідаюць дробныя асклёпкі дрэва**
**У ваду — і робяцца яны цвятамі.**
**Усё гэта мне згадалась мімаволі,**
**Калі чытаў я Вашую стаццю**
**Аб вершыках "Вянка". І шлю падзяку**
**І цісну руку. Ваш М. Багдановіч.**
**22.III.1914 г. Яраслаўль.»**

Гэта значыць, што зборнік вершаў «Вянок», які зусім нядаўна прыбыў у Яраслаўль з Вільні (ледзь не з рук Антона Луцкевіча), амаль адразу выправіўся ў адваротнае падарожжа. Але каштоўнасць гэтай кнігі была ўжо значна вышэйшай, гэтаму спрыялі надпіс аўтара і верш-падзяка. А пазначаная ў аўтографе дата — 22 сакавіка 1914 года — дазваляе вылучыць версію, што менавіта ў гэты дзень Максім Багдановіч упершыню ўбачыў зборнік вершаў «Вянок» — вынік сваёй напружанай творчай працы, і спяшаўся падзяліцца радасцю з самымі блізкімі. Заўважце, ужо пяць экзэпляраў кнігі маюць адну дату.

Крыху выбіваецца з гэтага шэрага яшчэ адзін арыгінальны зборнік «Вянок» з аўтографам аўтара. На жаль, выява аўтографа не захавалася, але пра зборнік узгадвалі

ўкладальнікі першага збору твораў пісьменніка (1927—1928 гадоў), у тым ліку і літаратуразнавец Васіль Мачульскі, які падрыхтаваў «Вопіс рукапісаў М. Багдановіча і матэрыялаў да яго біяграфіі». Ён апісвае чатыры зборніка «Вянок», якія захоўваліся ў Інстытуце беларускай культуры. На адным з гэтых экзэмпляраў змяшчаўся дарчы надпіс: «Милому человеку и товарищу по работе Николаю Григорьевичу Огурцову от автора. 1914-20/III». Захаваліся фрагменты ўспамінаў М. Р. Агурцова, супрацоўніка яраслаўскай газеты «Голос», дзе сустракаем такія радкі: «Аднойчы Максім Адамавіч прынёс мне вельмі дрэнна выдадзеную кніжачку сваіх вершаў на беларускай мове, гэта быў падарунак з аўтографам». Таямніца ў тым, што падарунак застаўся ў Максіма і выкарыстоўвася ім для далейшай працы: над некаторымі вершамі з гэтай кнігі былі пазначаны паэтам памеры і строфіка.

Таямніцу ўтрымлівае і дата, пазначаная ў аўтографе, заўважым — 20, а не 22 сакавіка. Магчыма, у памылкова напісанай даце і заключаецца прычына, з-за якой кніга засталася ў аўтара, а яго сябра атрымаў іншы экзэмпляр. Ёсць і іншыя версіі напісання гэтай даты: памылка магла з'явіцца пры расчытванні аўтографа даследчыкамі, пры наборы рукапіснага тэксту на друкарскай машынцы, прапушчана пры карэктуры і г. д.

На жаль, пакуль нам застаецца толькі разглядаць тыя ці іншыя версіі і спадзявацца, што час раскрые ўсе таямніцы, што знойдуцца арыгінальныя зборнікі вершаў «Вянок» Максіма Багдановіча, выдадзеныя ў далёкім 1913 годзе. Магчыма, гэта будуць узгаданыя вышэй асобнікі, ужо знаёмыя нам завочна, але пакуль не знойдзеныя, альбо іншыя кнігі з аўтографамі паэта, пра якія яшчэ не ведаюць даследчыкі і музейныя супрацоўнікі.

А сёння з высокай доляй верагоднасці мы можам назваць дзень, калі Максім Багдановіч, малады беларускі паэт, атрымаў доўгачаканы падарунак з Вільні, свой зборнік вершаў «Вянок» — 22 сакавіка 1914 года. І роўна праз стагоддзе мы можам урачыста адзначыць гэтую слаўную дату, перачытаўшы вершы «Вянка», тым больш, што пра гэта нас прасіў сам Паэт:

Праглядзіце гэты томік:
Засушыў я на паперы
Краскі, свежыя калісьці,
Думак шчырых і чуцця…

# ПОШУКІ І ЗНАХОДКІ

***Праца музейных супрацоўнікаў складаная і шматгранная. Яна ўключае ў сябе пошук і вывучэнне артэфактаў, кансерваванне і рэстаўрацыю, прэзентацыю і папулярызацыю музейных каштоўнасцей. На этапе стварэння музея першыя пазіцыі займае пошукавая дзейнасць, збор музейных прадметаў для будучай экспазіцыі. З цягам часу яна саступае пальму першынства іншым відам дзейнасці, але не сыходзіць у нябыт. Навуковыя супрацоўнікі працягваюць крапатліва вывучаць літаратуру, знаёмяцца з фондамі музеяў, бібліятэк, архіваў, працуюць з даследчыкамі, нашчадкамі, калекцыянерамі. І часам гэта нябачная на першы погляд справа дае незвычайныя вынікі. Як прыклад, прадставім самыя каштоўныя знаходкі апошніх гадоў, якімі ганарацца супрацоўнікі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча.***

Як вядома, жыццёвы і творчы шлях Максіма Багдановіча быў звязаны з многімі гарадамі былой Расійскай імперыі. Гэта ўскладняе пошукавую дзейнасць супрацоўнікаў музея, бо ёсць неабходнасць у доўгатэрміновых камандзіроўках у гарады, што знаходзяцца за межамі нашай краіны. Але мы выкарыстоўваем усе магчымасці. Падчас службовай камандзіроўкі наведваем архіўныя і музейныя ўстановы, пры адсутнасці магчымасці паехаць — просім аб дапамозе нашых калег. Мы ні разу не пачулі адмоўных адказаў, нашы калегі з Яраслаўля ці Вільні, Львова ці Ніжняга Ноўгарада заўсёды гатовы прыйсці на дапамогу.

У мінулым годзе ў нашай краіне ўрачыста адзначалася 100-годдзе адзінага прыжыццёвага зборніка вершаў Максіма Багдановіча «Вянок». Супрацоўнікі музея паэта стварылі мастацка-дакументальную выстаўку

«Праглядзіце гэты томік…», прысвечаную слаўнай даце, правялі шэраг цікавых імпрэз і … працягвалі пошук арыгінальных зборнікаў «Вянок» 1913 года выдання. Ужо дзесяць гадоў мы займаемся гэтай працай, сёння вядома пра трыццаць дзве арыгінальныя кнігі Максіма Багдановіча, якія захоўваюцца ў Беларусі, Расіі, Латвіі, Украіне. Вось і год таму мы звярнуліся да нашых калег з Яраслаўскай абласной універсальнай навуковай бібліятэкі імя М. А. Някрасава з просьбай указаць месцазнаходжанне зборнікаў «Вянок» (1913). Нам паведамілі, што, на жаль, у фондах бібліятэкі такой кнігі няма, але захоўваюцца іншыя кніжныя выданні Максіма Багдановіча. Акрамя таго, яны дадалі спіс звязаных з іменем паэта выданняў, якія знаходзяцца ў іншых установах навукі і культуры Яраслаўля.

Нашу ўвагу прыцягнуў запіс пра захоўванне ў Фундаментальнай бібліятэцы Яраслаўскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя К. Д. Ушынскага выдання «Белорусское возрождение». Артыкул Максіма Багдановіча быў першапачаткова апублікаваны ў часопісе «Украинская жизнь» (№№ 1-2 за 1915 г.), пазней надрукавы асобным адбіткам. Менавіта такі адбітак захоўваўся ва ўніверсітэцкай бібліятэцы, але



ГОЛОСЪ

Н. П. ДРУЖИНИНЫМЪ и Н. Ф. НЕКРАСОВЫМЪ

№ 189. Суббота, 17-го (30 октября) 1909 года. №189

МЕСТЬ ПОКИНУТОЙ ЖЕНЩИНЫ

ТИПОГРАФІЯ ГАЗЕТЫ „ГОЛОСЪ“

Ярославскій Городской Голова

СПРАВКИ

САМОЛЕТЪ

„РУСЬ“

*Газета «Голос» № 189, с. 1.*

яго адметнасць — у аўтографе, які размяшчаўся на першай старонцы: «Уважаемому Николаю Петровичу Дружинину от автора». Аўтар артыкула — Максім Багдановіч, такім чынам, гаворка ідзе пра аўтограф беларускага пісьменніка, невядомы да гэтага часу беларускім даследчыкам і музейным супрацоўнікам. Як вядома, большая частка рукапіснай спадчыны Максіма Багдановіча знікла падчас Другой сусветнай вайны, таму кожны знойдзены аўтограф пісьменніка з'яўляецца сапраўднай каштоўнасцю. Дароўны надпіс Мікалаю Дружыніну, выдаўцу яраслаўскай газеты «Голос», з якой плённа супрацоўнічаў Максім Багдановіч у 1909—1916 гадах, своеасаблівая падказка накірункаў далейшых пошукаў для музейных супрацоўнікаў.

Дарэчы, менавіта Яраслаўль з'яўляецца тым горадам, які парадаваў нас каштоўнымі знаходкамі ў мінулым годзе, таму неабходна і надалей актыўна працаваць з мясцовымі архівамі, бібліятэкамі, музеямі, навуковымі інстытутамі і яраслаўскай грамадскасцю.

Пра тое, што жыхары Яраслаўля могуць дапамагчы супрацоўнікам музея ў пошукавай справе сведчыць наступны факт. На сайце яраслаўскага гісторыка-краязнаўчага таварыства намі быў выяўлены фотаздымак «Яраслаўская мужчынская гімназія. Выпуск 1911 года». Упершыню здымак быў размешчаны ў інтэрнэце на старонцы «Стары Яраслаўль» у сацыяльнай сетцы «Вконтакте». Музейныя супрацоўнікі звязаліся з адміністрацыяй сайта і цяпер мы маем электронную копію фотаздымка, якую можам выкарыстоўваць пры стварэнні новай экспазіцыі музея, а таксама ў часовых выстаўках.

Групавы партрэт захоўвае ў сабе нямала таямніц, якія яшчэ чакаюць свайго даследчыка. Так, напрыклад, адна з загадак, ці ёсць на ім Максім Багдановіч, які з'яўляецца выпускніком (1911 год) Яраслаўскай мужчынскай класічнай гімназіі. Адзін з гімназістаў вельмі падобны, але, каб устанавіць ісціну, неабходна правесці адпаведную экспертызу: параўнаць выяву з усімі вядомымі на сённяшні час партрэтамі Максіма Багдановіча. Другая загадка, ці ёсць на здымку Белавусаў Уладзімір, самы любімы выкладчык Максіма (мы дагэтуль не ведаем, як ён выглядаў). Справа ў тым, што партрэты выкладчы-

каў былі падпісаны (хутчэй за ўсё выпускніком) чорным чарнілам. З часам некаторыя літары сцерліся, і дакладна можам указаць толькі партрэты Вярыгіна Мікалая, дырэктара гімназіі, і Мізінава Парфірыя, настаўніка гісторыі, менавіта ён аднойчы абараняў Максіма Багдановіча ад папрокаў выкладчыка Спаскага ў залішняй самастойнасці гімназіста. На здымку падпісаны толькі некаторыя з гімназістаў, значыць, тут ёсць прастора для даследчыкаў — магчымасць устанавіць аднакласнікаў Максіма Багдановіча, паспрабаваць знайсці іх нашчадкаў і архівы.

Што тычыцца архіваў прыватных і дзяржаўных, то яны захаваліся нашмат лепш, чым беларускія. Сваю ролю тут адыграла і тое, што лінія фронту ў часы Вялікай Айчыннай вайны не дайшла да Яраслаўля. Многія прыватныя асобы захавалі сваю маёмасць, у фонды Літаратурнага музея Максіма Багдановіча некалі паступілі каштоўныя фотаздымкі, паштоўкі, рэчы з архіваў сямей Багдановічаў, Дзябольскіх, Какуевых і іншых. Супрацоўнікі дзяржаўных архіваў Яраслаўля змаглі захаваць нават дарэвалюцыйныя зборы.

Дзяржаўны архіў Яраслаўскай вобласці алічбаваў частку сваіх фондаў і размясціў іх на сваім сайце ў раздзеле «Электронная бібліятэка». Гэта дарэвалюцыйныя перыядычныя выданні: газеты «Ярославские губернские ведомости», «Ярославские епархиальные ведомости», «Голос», «Северное слово», «Северные вести» і іншыя.

*Яраслаўская гімназія, выпуск 1911 года.*

На гэтых газетах захаваўся штамп «Са збораў Яраслаўскага губернскага архіва». У даследчыкаў з'явілася ўнікальная магчымасць працаваць з гэтымі перыядычнымі выданнямі фактычна на сваім працоўным месцы ці хатнім камп'ютары, незалежна ад таго, у якой кропцы зямнога шара ён знаходзіцца.

Дзякуючы гэтаму супрацоўнікам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча пашчасціла знайсці яшчэ адзін твор пісьменніка. У № 189 за 17 (30) кастрычніка 1909 года ў рубрыцы «Маленький фельетон» апублікавана замалёўка «Международный чемпионат и ярославцы» за подпісам «Эхо». Гэтым псеўданімам падпісаны празаічныя творы М. Багдановіча: апавяданні «Колька», «Преступление», «Именинница», «Чудо маленького Петрика», казка «Башня мира». У 1909 годзе ў газеце «Голос» месяцам пазней надрукаваны фельетон пісьменніка «После концерта Яна Кубелика». Усё гэта дае падставы меркаваць, што аўтарам твора «Международный чемпионат и ярославцы» з'яўляецца Максім Багдановіч. Знаходка адкрывае перад даследчыкамі вялікія гарызонты, цяпер ёсць магчымасць спакойна, крапатліва, не спяшаючыся працаваць са старымі перыядычнымі выданнямі. А гэта дае шансы на новыя знаходкі, празаічныя альбо вершаваныя творы Максіма Багдановіча, інфармацыю пра людзей, якія ўваходзілі ў яго акружэнне, і, такім чынам, пашырыць нашы веды пра пісьменніка.

Дарэчы, для музейных супрацоўнікаў вельмі важным з'яўляецца і ваш актыўны ўдзел у пошукавым працэсе, бо разам мы зможам нашмат болей. Удвая болей будзе і радасці ад новых знаходак ці адкрыццяў, а што яны будуць — мы не сумняваемся.

Максім БАГДАНОВІЧ

# МЕЖДУНАРОДНЫЙ ЧЕМПИОНАТ И ЯРОСЛАВЦЫ

С каждым годом интерес публики к цирку рос все сильнее.

Все — от мала до велика — знали по именам борцов-чемпионов, знали, сколько каждый из них весит, какого роста борец, крепок ли у него лоб и какого размера шея.

Всюду — и на бульваре, и в семейных домах, и на службе, и в уютных салонах — только и говорили о том, как один чемпион ловко «ущемил» другого и как этот второй ударил третьего по уху, которое лопнуло...

Мало кого стали интересовать другие увеселения. Одно название «литературно-музыкальный вечер» звучало как-то странно.

Пробовали было отвлечь внимание публики устройством вечера с участием литераторов; но и тут не повезло...

Все слыхали о том, что Е. Н. Чириков писатель, но никто не хотел верить, что он умеет бороться...

Так и не пошли.

А о театре и говорить нечего... Театр пустовал и завидовал цирку.

Подобное отношение Ярославцев к гладиаторским зрелищам захватило и нас, поэтому мы и отправились — счастливые — смотреть борьбу.

Мы пришли как раз к тому моменту, когда на ковре уже валялись две полуобнаженные фигуры... Борцы возились, не обращая внимания на зрителей, тяжело кряхтели.

Вдруг из толпы раздалось:

— Ногу отдай!

Галерка зашикала, в рядах застучали...

Оказалось, что чемпион Петербурга «Ату его» схватил неправильным приемом чемпиона Финляндии «Я не поддамся». Но последний успел вывернуться и очутился «в партере».

Публика завыла, захлопала браво... Из первых рядов послышался сытый хохот и громкий отзыв.

— Молодец!

— Уж не Тучковский ли? — подумали мы ненароком, но тут же опомнились, что присутствуем лишь на борьбе физической и ни о какой политике здесь речи быть не может... Мало ли что бывает в Думе, где один оратор схватится с другим; например, Родичев с Бобринским. Вообразить все можно!..

Но не успели мы докончить своей мысли; как нашим взорам предстало странное зрелище:

Чемпион Петербурга лежал под чемпионом Финляндии по всем правилам искусства французской борьбы.

Публика неистовствовала, вызывая чемпиона «Я не поддамся». Его противник ругался и махал кулаками. Жюри, в числе которого заседали два фертика-студента, горячо обсуждало скандальный номер. Председатель звонил. Цирк стал походить на Новгородское вече...

— Так вот где свобода собраний! — подумали мы и очутились разом в общем водовороте разыгравшихся страстей... Нам стало понятным, почему все кричат.

— Цирк оказался местом в городе, где был доступен свободный обмен мнений! Для всех без различия возрастов и положений. В особо приподнятом настроении были дамочки...

Но вот борьба окончилась, и мы вышли на улицу.

Не успели отойти, как нас догнали бежавшие сзади мальчики и с вытянутыми физиономиями любопытно справлялись: Скажите, дядя, кто кого положил?..

Мы удивились детскому любопытству и рассказали.

У самых ворот дома нас предупредительно остановил сторож с большой медной бляхой, похожей на луну, и просил:

— Барин, вы из цирка?

— Да!

— Кто с кем боролся? Кто же кого поборол.

Подошел другой сторож.

Опасаясь навлечь на себя гнев ночных сторожей, мы любезно им рассказали все, что видели и едва успокоенные пришли домой...

## Каментарыі

Е. Н. Чириков... — Чырыкаў Яўген Мікалаевіч (1864—1932), рускі пісьменнік, драматург, публіцыст. 11 кастрычніка 1909 года прымаў удзел у яраслаўскай літаратурна-музычнай вечарыне на карысць Пушкінскай бібліятэкі.

«Уж не Тучковский ли?» — адсылка да староннікаў Гучкова Аляксандра Іванавіча (1862—1936), расійскага палітычнага дзеяча, лідара партыі «Союз 17 октября», дэпутата Дзяржаўнай думы.

...Родичев с Бобринским... — Родзічаў Фёдар Ізмайлавіч (1854—1933), расійскі палітычны дзеяч, член Дзяржаўнай думы, кадэт, Бобрынскі Уладзімір Аляксеевіч (1867—1927), расійскі палітычны дзеяч, член Дзяржаўнай думы, манархіст.

...два фертика-студента... — ферцік (ад «ферт») — франт, франціk, фарсу.

...на Новгородское вече... — агульны сход ноўгарадцаў з нагоды надзвычайных падзей агульнадзяржаўнага маштабу...

...с большой медной бляхой, похожей на луну... — у царскай Расіі дворнік займаўся не толькі ўборкай тэрыторыі, але і назіраннем за грамадскім парадкам. На шыі дворнікі насілі медную авальную бляху на ланцугу, на якой быў надпіс з назвай вуліцы і нумарам дома.

*Таццяна ШЭЛЯГОВІЧ*

# «СІЛАВОЕ ПОЛЕ» ЭСТЭТЫЧНАГА АНАЛІЗУ

***Для Максіма Багдановіча ўкраінская мова была зразумелая і блізкая. Таму не мог ён не звярнуцца да самабытных твораў украінскіх пісьменнікаў. Сёння вядомы яго пераклады на беларускую мову двух вершаў Алеся (А. Кандыба), аднаго верша М. Чарняўскага, чатырох украінскіх народных песень-каламыек. На рускую мову Багдановіч пераклаў шэсць вершаў Т. Шаўчэнкі, два вершы А. Крымскага (адзін на рускую мову, адзін на беларускую), верш У. Самійленкі, верш і апавяданне І. Франко «Муляр» (да перакладу зроблена ўступнае слова пра творчасць І. Франко), апавяданні В. Стэфаніка «Смерть», «Кленовые листочки» і, на жаль, не скончыў пераклад апавядання «Синяя книжечка».***

Тэарэтычныя зацікаўленні Багдановіча канцэнтраваліся найперш на праблемах паэзіі, паколькі гэта давала магчымасць грунтавацца на ўласным мастацкім вопыце.

Ён з'яўляецца аўтарам артыкулаў «Краса и сила: опыт исследования стиха Т. Г. Шевченко» (1914), «Памяти Т. Г. Шевченко» (1914), «Иван Франко» (1916), «В. Самийленко» (1916), «Грицько Чупринка» (1916).

Разглядаючы творчасць Тараса Шаўчэнкі, Максім Багдановіч дэманструе сталую крытычную моц. Маецца на ўвазе дакладная мэтанакіраванасць крытыка на аналіз, на «пытанні эстэтычнага характару», якія на той час яшчэ заставаліся зусім па-за ўвагай даследчыкаў паэтыкі вялікага ўкраінскага генія. Таму Максім Багдановіч і ставіць галоўнай мэтай «аналіз верша ўкраінскага генія і высвятлення сродкаў паэтычнага ўздзеяння, якімі гэты верш валодае».

У беларускім літаратуразнаўстве тыпалогія Максім Багдановіч — Тарас Шаўчэнка здаўна прыцягвае даследчыцкую ўвагу, трывалы падмурак якой забяспечваюць менавіта артыкулы пра творчасць Кабзара: «Краса и сила: Опыт исследования стиха Т. Г. Шевченко» (1914) і «Памяти Т. Г. Шевченко» (1914).

Артыкул «Краса и сила», напісаны з нагоды 100-годдзя са дня нараджэння Шаўчэнкі, надрукаваны ў часопісе «Украинская жизнь». Як адзначыў у 1921 годзе ўкраінскі даследчык творчасці Шаўчэнкі Б. Якубскі, артыкул Багдановіча з'явіўся самай першай спробай разгледзець форму паэтычных твораў украінскага паэта. Увогуле, набыткі Багдановіча ў справе літаратурна-крытычнага асэнсавання спадчыны Шаўчэнкі ў многім успрымаюцца як наватарскія, і сталіся тым класічным узорам даследаванняў, з кампетэнтнасцю і слушнасцю якіх і сёння лічыцца літаратуразнаўчая навука. У ацэнку спадчыны Кабзара Багдановіч унёс шэраг канцэптуальна важных, ключавых момантаў, у якіх закладзена не толькі глыбіня, але і характар празарлівасці і дальнабачнасці. На многія палажэнні сёння паспяхова абапіраюцца сучасныя крытыкі, іх надзвычай плённа развіваюць. Справа нават не ў наследаванні ці перайманні некаторых момантаў, але ў правільна выбраным ракурсе погляду, увасабленні ўніверсальнай стратэгіі даследавання, сутнасць якой выказана па-багдановічаўскаму сцісла і фундаментальна: «Произведения Шевченко оценивались со всевозможных точек зрения, изучались путем самых разнообразных методов и лишь метод эстетический всегда находился в тени».

Артыкул «Краса и сила» — гэта першае ў Беларусі даследаванне эстэтыкі паэтычнага зборніка класіка ўкраінскай літаратуры «Кабзар» (1840) з улікам украінскай фалькларнай традыцыі. Паводле маладога беларускага даследчыка, стыль паэзіі Шаўчэнкі быў стылем нацыянальна-ўкраінскім, яго паэзія ўрасла ва ўкраінскую народную паэ-

зію ў некаторых сваіх узорах «да поўнай тоеснасці з ёю».

Варта звярнуць увагу і на тое, якую назву Максім Багдановіч абірае для гэтага артыкула — «Краса і сіла»! Па сутнасці, у ёй пэўным чынам запраграмавана пэўная сувязь філасофскіх катэгорый «эстэтычнае і этычнае», «пачуццёвае і духоўнае», тых катэгорый, якія моцна залежныя адна ад другой. Больш за тое, сама назва міжволі скіроўвае ў сферу духоўнасці асобы, складаючы сутнасны яе цэнтр. У назве гарманічна зліты ў адно цэлае шматгранны паэтычны душэўны лад, светаўспрыманне паэта, што высвечвае ў ім чалавека пачуццёвага, у нечым сентыментальнага, адкрытага, для якога стала правілам давяраць голасу ўнутранага пабуджэння. Увогуле ж, «краса і сіла» ўспрымаецца не проста як паэтычная формула, знак найвышэйшай дасканаласці, гармоніі, але, што не менш важна, і як момант узвышэння чалавечага духу, калі чалавек можа паўстаць ва ўсёй сваёй духоўнай веліччы. Саму назву можна кваліфікаваць як аснову і шлях духоўнага і фізічнага разняволення і ўзвышэння прыгожага чалавека.

Сваю ацэнку паэзіі ўкраінскага Кабзара Максім Багдановіч дапоўніў акцэнтаваннем увагі на адзінстве нацыянальнага і агульна-людскога зместу яго творчасці ў артыкуле «Памяти Т. Г. Шевченко», які быў апублікаваны ў яраслаўскай газеце «Голос» (1914, № 46, 25 лютага).

*Безумоўна, існуе шэраг важкіх доказаў уплыву паэзіі Тараса Шаўчэнкі на творчасць Максіма Багдановіча. І гэта тыпалагічнае адзінства змадэлявана, належным чынам падсвечана, прамоўлена ў вышэйназваных артыкулах. Яны дакладна раскрываюць сутнасць інтэлектуальнай ды і, уласна кажучы, навуковай пазіцыі Максіма Багдановіча ў адносінах да спадчыны Кабзара і адбіваюць кірунак яго асабістых мастацкіх пошукаў і прыярытэтаў.*



Старой тетке Магдалине
любящий ее автор.
М. Богдановичъ.

Краса и сила

...ъ изслѣдованія стиха Т. Г. Шевченка).

..., которыя такъ близки другъ къ другу и ...ваютъ свой свѣтъ, что кажутся намъ однимъ ...цѣлымъ. „Двойными звѣздами“ называются ...хъ судьба стала судьбою музы Шевченка и ...одной поэзіи: двойной звѣздой сіяютъ онѣ ...твъ и красоты.

... творчествѣ Шевченка, за вычетомъ элемен-...ональнаго характера, имѣется на-лицо и нѣ-...дный остатокъ. Но все это взаимно прони-...уга, смѣшивалось, претворялось, устанавли-...ою тысячи связующихъ внутреннихъ скрѣпъ, ...осталось и, закончивъ этотъ процессъ, за-... формахъ явственно - украинскихъ, хотя и

Выступаючы на шаўчэнкаўскім юбілеі ў Кіеве ў 1939 годзе, Якуб Колас сцвярджаў, што, на яго думку, «мала хто з украінскіх і расійскіх крытыкаў даў такі тонкі, усебаковы аналіз і ацэнку паэтычнага дару вялікага Кабзара, як беларус Максім Багдановіч».

У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Акадэміі навук Украіны ў Кіеве захоўваецца «Отдельный оттиск с «Украинской жизни» артыкула «Краса и сила» з дарчым надпісам аўтара: «Старой тетке Магдалине любящий ее автор. М. Богданович». Гэты асобны адбітак мае яшчэ і рэдактарскія паметы, бо менавіта з яго потым рабіўся друкарскі набор артыкула для часопіса «Украинская жизнь».

Добра сказаў Дмітро Паўлычка, украінскі пісьменнік, перакладчык, крытык: «Максім Багдановіч даў веру беларусам у іх бяссмерце, у іх дзяржаўнасць і творчае жыццё нараўне з усімі еўрапейскімі народамі. Такую ж веру ўзмацніў ён і ва ўкраінцах, а таму гэты вялікі сын беларускага народа заслугоўвае асаблівай пашаны на Украіне».

Ева ЛЯВОНАВА

# СЕМАНТЫКА КАТАСТРАФІЧНАГА Ў ТВОРЧАСЦІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА І ЕЎРАПЕЙСКІ ЛІТАРАТУРНЫ ВОПЫТ

Літаратуру пачатку XX стагоддзя часта — і небеспадстаўна — разглядаюць у звязцы з мастацтвам слова другой паловы XIX стагоддзя — як з'яву цэласную, як феномен часавага памежжа, скрыжавання гісторыка-культурных эпох. Між тым, пачатак XX стагоддзя істотна адрозны ад папярэдняга перыяду, у прыватнасці — шырокім распаўсюджваннем у навуковым асяродку розных эсхаталагічных канцэпцый гісторыі, а ў літаратуры і культуры, у самім грамадстве — бязмежна катастрафічных настрояў. Крызіс свядомасці другой паловы XIX стагоддзя знайшоў сваю эмблематычную выяву ў знакамітым выслоўі Фрыдрыха Ніцшэ «Багі памерлі» («Так сказаў Заратустра», 1885); цяпер жа, у XX стагоддзі, гінулі не багі, не ідалы, — гінулі людзі, і не толькі ў філасофска-метафарычным сэнсе, але і ў самым што ні на ёсць літаральным. Першая сусветная вайна паклала пачатак бясконцай чарадзе смяротных сацыяльна-палітычных катаклізмаў; нездарма нямецкі празаік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Генрых Бёль пазней скажа, што чым бы ні было яшчэ XX стагоддзе, у памяці нашчадкаў яно назаўсёды застанецца стагоддзем войнаў і лагераў.

Кантраст паміж духоўнымі сітуацыямі другой паловы XIX стагоддзя і пачатку XX стагоддзя тым больш выразны, што пераход не быў плаўным перацяканнем: на самым світанку новага стагоддзя чалавецтва паспела зведаць так званую «залатую эпоху» («belle epoque») — вельмі непрацяглы перыяд вялікіх чаканняў і надзей, нечуваных навукова-тэхнічных адкрыццяў, з'яўлення новых відаў мастацтва. У пэўным сэнсе «залатой эпохай» стаў самы пачатак XX стагоддзя і для Беларусі, пра які Максім Багдановіч пісаў як пра час падзей, «што пачалі гісторыю ўсіх народаў Расіі з чырвонага радка», час, адзначаны імкненнем беларусаў «разабрацца ў навакольным жыцці» і «ліхаманкавым попытам на ідэалагічныя каштоўнасці», стварэннем падстаў для звароту да беларускай мовы, абуджэннем у беларуса «павагі і да яе і да сябе самога», да ўсякай культуры, але найперш да сваёй нацыянальнай. Ажываюць беларуская літаратура, культура, мова, нараджаецца і мацнее беларуская інтэлігенцыя, пад беларускім рухам утвараецца «трывалы грунт» (Багдановіч, 1993, II, 274—278).

> У XX стагоддзі гінулі не багі, не ідалы — гінулі людзі, і не толькі ў філасофска-метафарычным сэнсе

Тым больш балюча ўспрыме чалавецтва трагічныя падзеі, што зусім хутка абрынуцца на Еўропу і свет. Неад'емным складнікам філасофскіх і літаратурна-крытычных прац, аўтары якіх намагаліся знайсці ключ да тагачасных цывілізацыйных працэсаў, становіцца міфалагема Апакаліпсісу. «Апакаліпсіс у рускай паэзіі» — такую характэрную назву надаў свайму артыкулу Андрэй Белы; Васіль Розанаў у працы «Апакаліпсіс нашага часу» разгорне гэтую метафару да светаадчування эпохі. У не менш вядомай працы «Крызіс мастацтва» Мікалай Бярдзяеў засведчыць: «Тое, што адбываецца са светам ва ўсіх сферах, ёсць апакаліпсіс цэлай велізарнай эпохі, канец старога свету і пярэдадзень новага…» (Бердяев, 1990, 22), а Стэфан Цвэйг у кнізе мемуараў «Учарашні свет» напіша: «…нічога не заставалася ад былога, нічога не вярталася; нам наканавана была гэтая доля: зазнаць напоўніцу гора, якое гісторыя звычайна адпускае па глытку той ці іншай краіне ў той або іншы перыяд… Мы ж... перагарнулі каталог усіх магчымых катастроф ад вокладкі да вокладкі… Усе

бледныя коні апакаліпсісу пранесліся праз маё жыццё» (Цвейг, 39). «Der Untergang des Abendlandes» — пад такой паказальнай назвай апублікуе ў 1918 годзе сваю кнігу Освальд Шпенглер; на рускую яе пераклалі пад назвай «Закат Европы», а можна было б — «Крушэнне Еўропы», «Гібель Еўропы» Аднак рэчаіснасць XX стагоддзя ад пачатку пераўзыходзіла ўсе ашаламляльныя метафары філосафаў, усе неверагодна смелыя фантазіі пісьменнікаў. Смерць станавілася амаль будзённа-хатнім атрыбутам.

Такія ж настроі былі ўласцівыя беларускім пісьменнікам. Паводле Максіма Багдановіча, уплыў Першай сусветнай вайны на жыццё беларусаў «быў значна больш адчувальны, чым у цэнтральнай Расіі», што не магло не адбіцца «і на беларускім руху: яго галоўнае апірышча, нацыянальна-свядомая моладзь, апынулася пад ружжом» (Багдановіч, 1993, II, 284). «Цяжкі ўдар прыняла на сябе наша краіна: на яе абшарах зыйшліся мільённыя арміі, точуцца бітвы, усё нішчыцца, гаспадарка гібеець, не тысячы, а соткі тысяч людзей павінны кідаць усё сваё ды ісці па нязмераным дарогам далей, а куды — немаведама; ісці, не знаходзячы прытулку, не маючы скарынкі хлеба, паміраючы і ад голаду, і ад пошасцяў, не ведаючы, якую даць сабе раду» (Там жа, 286).

У артыкуле «Хто мы такія? Ліст да простых людзей» (1918; напісаны, паводле меркаванняў тэкстолагаў, у 1915 годзе) Максім Багдановіч перасцерагае аб магчымай нацыянальнай катастрофе, абумоўленай гістарычным бяспамяцтвам і абыякавасцю: «Агляніцеся: усё наша роднае, беларускае, марнуецца, нішчыцца, знікае, бо яго дабіваюць, яго прыглушаюць, ім пагарджаюць, а чужое пануе, пышаецца, мае сабе пашану і павагу. І — хто ведае? — быць можа, пройдзе колькі часу, і не пазнаем мы ані нашага краю, ані нашых дзяцей. І будзе скрозь усё чужое, нязвычнае, а свайго роднага — анічога» (Там жа, 127). Відавочна, нават перад тварам глабальных трагічных падзей Максіма Багдановіча хвалявала небяспека найперш нацыянальнай катастрофы.

Многія еўрапейскія творцы, глыбока ўзрушаныя вайною, наогул замаўкалі: беларус Янка Купала, аўстрыец Райнер Марыя Рыльке, нямецка-швейцарскі пісьменнік

> **Нават перад тварам глабальных трагічных падзей Максіма Багдановіча хвалявала небяспека найперш нацыянальнай катастрофы**

Герман Гесэ, расіец Аляксандр Блок… Аднак пазней і яны далучаць свае галасы да творчасці тых, хто знойдзе адэкватныя мастацкія вобразы і формы, каб адлюстраваць падзейныя і свядомасныя катастрофы, распадзенне маральна-каштоўнаснага падмурку светабудовы.

Бадай, найбольш значным мастацка-літаратурным напрамкам пачатку XX стагоддзя, які стаў духоўнай рэакцыяй на катастрафічны стан свету, быў экспрэсіянізм, што ўзрос як самастойная эстэтычная сістэма на нямецкамоўнай глебе (Германія, Аўстрыя), але меў каласальнае ўздзеянне і на творцаў іншых краін. Менавіта экспрэсіянізму з яго «веставаннем» (У. Калеснік) усеагульнай катастрофы, «ночы» і «цемры», пры адначаснай арыентацыі на ўтопію сусветнага брацтва і ўсведамленні свайго ў гэтым сэнсе месіянства (Франц Вэрфель: «Жаданне маё — парадніцца з табой, чалавеча: / Хай ты немаўля, хай ты негр альбо акрабат… / …Я — твой, і будзь маім — ты!» (Прыйдзі… 1986, 122)), з яго гіперэмацыйнасцю, псіхалагічнай напружанасцю, адчуваннямі наканаванасці і безабароннасці, бездапаможнасці і адзіноты, з такімі яго асноваштваральнымі прынцыпамі, як мастацкая дэфармацыя аб'екта адлюстравання, нанізванне-нагрувашчванне (Reihung) гратэскава-фантастычных і абагульнена-сімвалічных вобразаў і сітуацый, дысананснасць, адвольнасць асацыяцый, з яго драмамі-«крыкамі» і вершамі-відзяжамі ўдалося адлюстраваць трывожна-хаатычны стан свету, што апынуўся «ва ўсіх безданяў на краі» (Г. Гесэ). У Аўстрыі ў рэчышчы экспрэсіяністкай паэзіі працавалі Тэадор Дойблер, Франц Тэадор Чокар, Альберт Эрэнштайн, Франц Вэрфель, Альберт Парыс Гютэрсло, Карл Краўс, Герман Брох і іншыя, і, вядома, — Георг Тракль, пра лірыку якога С. С. Аверынцаў трапна сказаў: «…парадаксальная тоеснасць святла і цемры, духоўнасці і кашчунства,

**У 1917 годзе ў адным са сваіх вершаў Г. Бен прамовіць роспачныя словы, ад якіх жахнуцца нават аднадумцы-экспрэсіяністы: «Вянец тварэння, чалавек, свіння»**

прытым тоеснасць гэтая зразумета ім самім як знак гістарычнай або метагістарычнай катастрофы, як эсхаталагічны сімвал Endzeit…» (нямецк. «канца часу». — **Е. Л.**), (Аверинцев, 2009, 200). У Германіі эстэтычныя погляды экспрэсіяністаў падзялялі Георг Гейм, Вальтэр Газенклевер, Эрнст Толлер, Эльза Ласкер-Шулер, раннія Ёханес Роберт Бэхер і Бертальд Брэхт, Якаб ван Годдзіс (яго вершам «Канец свету» («Weltende», напіс. 1910, апубл. 1911) адкрываецца знакамітая анталогія «Menschheitsdämmerung», вядомая ў рускім перакладзе пад назвай «Сумерки человечества»), Готфрыд Бен і іншыя. Г. Бена невыпадкова называлі «паэтам сусветнай катастрофы»: са старонак яго вершаў Еўропа і свет паўсталі ператворанымі ў суцэльную трупярню (зб. «Морг», 1912); яго паэзія эпаціравала, шакіравала, але і прыцягвала шчырым спачуваннем чалавеку, татальным непрыманнем тагачасных пачварных падзей. Самі назвы яго вершаў яскрава гавораць пра светаадчуванне аўтара: «Морг», «Рэквіем», «Галгофы», «Крах», «Бачыш зоркі іклатыя…», «Я, якое распалася…» і да т. п. У 1917 годзе ў адным са сваіх вершаў Г. Бен прамовіць роспачныя словы, ад якіх жахнуцца нават аднадумцы-экспрэсіяністы: «Вянец тварэння, чалавек, свіння». Зрэшты, такія ж бязлітасныя радкі і думкі прагучаць і ў аўстрыйца Ф. Вэрфеля («Ступае тупа злосны людазвер…», «Мы нізка ўпалі ў рабскі дыфірамб…» (Прыйдзі… 1986, 123)), і, што паказальна, у беларускіх паэтаў — напрыклад, у вершах Янкі Купалы «Крыўда», «Разлад», на дзіва сугучных з вышэйназванымі творамі Г. Бена і Ф. Вэрфеля:

З'ядае крыўда нас ад векаў,
Няма ні праўды, ні парадку,
Стаў чалавек звер чалавеку,
Труюць адзін аднога звадкай…

Снуюцца людзі, як жывёла,
У ёрмы шыі нагібаюць…
*(Янка Купала, 1973, III, 279);*

Куды ні глянеш — людзі, людзі,
Куды ні глянеш — шэльмы, шэльмы…

Няпраўда праўду акялзала
І едзе людскасці па спіне,
А чалавек — ком гною, сала —
Быдлём, сляпнём жыве і гіне…
*(Янка Купала, 1972, I, 189—190).*

Скрозь прасякнута трагізмам і творчасць Максіма Багдановіча. Але трэба адрозніваць трагізм і катастрафізм; першы можа быць з'явай іманентнай, другі — адметны выбуховасцю, рэакцыя людзей на пэўныя падзеі абвостраная, і рэчаіснасць, і светаадчуванне чалавека нясуць у сабе стыхійны, разбуральна-злавесны пачатак. Гэта ўжо не проста страта цэласнасці жыццеўспрымання, гэта — нечуваны напал, абрыванне, разрыў па-жывому; нядзіўна, што ў мастацтве слова пачатку XX стагоддзя актуалізуецца здаўна вядомая метафара ночы Вальпургіі (раманы «Чароўная гара» Томаса Мана, «Стэпавы воўк» Германа Гесэ і іншыя). Тут ужо размова ідзе не пра «канец века» або «канец веры», а, сапраўды, пра «канец света».

Неабходна зазначыць, што «катастрафічных» паэтычных твораў у Максіма Багдановіча зусім няшмат. Відавочныя элементы катастрафізму ў баладзе «Страцім-лебедзь», аднак яе вобразна-сімвалічная архітэктоніка не ўкладваецца ў парадыгму катастрафічнага светаадчування. А. Лойка, напрыклад, слушна зважаў на істотнасць у сэнсавай палітры «Страцім-лебедзя» матыву самаахвярнасці (Лойка, 1991, 34).

З вершам Ф. Вэрфеля «Мы чужыя ўсе на свеце людзі» судакранаецца верш Багдановіча «Мяжы» (1914), у якім паўстае чалавек

…Зласлівы, бессардэчны, хцівы,
Такі здрадлівы,
Для ўсіх чужы, зусім чужы.
Вакол яго — платы, мяжы…
*(Багдановіч, 1991 I, 274).*

Найбольш жа паказальны ў святле нашай тэмы верш Багдановіча «Мы доўга плылі ў бурным моры…»:

Мы доўга плылі ў бурным моры,
І ўраз — жаданая зямля!
Вы пэўны пуць казалі, зоры,
Зарука ў тым — трэск карабля,

Што сеў на скалы ў змрочным моры.
Прывет, жаданая зямля!
І бестрывожна бачаць зоры,
Як тонуць людзі з карабля

*(Там жа, 131).*

Верш неаднойчы прыцягваў увагу даследчыкаў (Л. Тарасюк, В. Максімовіча і іншыя), але пакуль не стаў прадметам аналізу ў еўрапейскім падзейным і літаратурна-культурным кантэксце. У гэтым сэнсе цікавым падаецца пытанне, якія фактары маглі генерыраваць задуму твора. Як вядома, Максім Багдановіч напісаў яго ў першай палове 1912 года; указанні на канкрэтныя месяц і дату адсутнічаюць, дакладна высветліць іх тэкстолагам пакуль не ўдалося. Думаецца, у выпадку, калі верш быў створаны не раней за сярэдзіну красавіка, ён (што цалкам, на мой погляд, верагодна) мог быць падказаны такой сумна вядомай падзеяй, як катастрофа «Тытаніка» ў ноч з 14 на 15 красавіка 1912 года, падчас якой з дзвюх тысяч чалавек, што знаходзіліся на борце акіянічнага лайнера, удалося выратавацца не больш чым трэці. Падзея ўзрушыла ўвесь свет і многімі была ўспрынята як папераджальны знак чалавецтву, як перасцярога пра жахлівыя наступствы будучай глабальнай катастрофы — сусветнай вайны, насустрач якой крочыла Еўропа. Напрыклад, для Блока «гибель чуда техники в черных северных водах была непередаваемым личным ужасом, апокалипсическим знанием заката европейской Атлантиды» (Толмачев, 2001, 171).

Мог быць і яшчэ адзін стымул да напісання верша «Мы доўга плылі ў бурным моры…» — ужо не падзейны, а літаратурны; я маю на ўвазе праграмны, стрыжнёвы паэтычны твор славутага французскага сімваліста Арцюра Рэмбо — яго своеасаблівы мастацкі маніфест «П'яны карабель» (1871; на беларускую мову перакладалі Язэп Семяжон, Рыгор Барадулін, Мікола Федзюковіч, Алег Мінкін, Андрэй Хадановіч), які не мог не ведаць і Максім Багдановіч. Праўда, з усіх славутых французскіх сімвалістаў увагу Максіма Багдановіча прыцягваў найперш Поль Верлен, 22 вершы якога ён бліскуча пераствварыў па-беларуску. Дарэчы, айчынныя даследчыкі творчасці беларускага паэта неаднойчы разважалі над пытаннем, чаму «іменна паэзія Верлена, а не, напрыклад, Рэмбо, Бадлера ці якоганебудзь іншага паэта прыцягнула ўвагу Багдановіча-перакладчыка?» (Казыра, 1991, 549). Л. Казыра знаходзіць адказ у роднаснай прыродзе талентаў Верлена і Багдановіча, В. Максімовіч, да прыкладу, — у падабенстве іх унутраных светаў, «унутрана-псіхалагічнай ідэнтыфікаванасці» (Максімовіч, 1998, 84). Думаецца, ёсць рацыя ў абодвух меркаваннях, бо душэўна-духоўны і мастацкі светы кожнага творцы — феномены ўзаемазвязаныя, другі заўсёды абумоўлены першым і ёсць яго своеасаблівым адбіткам. Асабіста мне бачыцца і яшчэ адна прычына: і Поль Верлен, і Максім Багдановіч зыходзілі з аднолькавай канцэпцыі мастацтва, у той час як Шарль Бадлер, Арцюр Рэмбо, Оскар Уайльд трымаліся дастаткова адрознай, каб не сказаць — процілеглай, эстэтычнай платформы. Для Верлена і Багдановіча нязменнай крыніцай натхнення было жыццё (у тым ліку ўвасобленае ў міфах, фальклоры), а Бадлер, Уайльд, Рэмбо з яго вядомай тэорыяй «яснабачання», што грунтавалася на дэканструкцыі ўласнай асобы мастака і яго свядомасці і апелявала да вобразнасці ў пэўным сэнсе штучнай, былі свайго роду дэндзі, бо ўладкоўвалі ўласнае існаванне паводле законаў мастацкага твора. Расійскі знаўца французскай літаратуры Л. Андрэеў недарэмна пісаў: «Лісты Рэмбо пра "яснабачанне", ад якіх так шмат пачынаецца ў гісторыі паэзіі, на самой справе перш за ўсё праграма спосабу жыцця» (Андреев, 1988, 26). Для Максіма Багдановіча гэткая канцэпцыя мастацтва была непрымальнай, менавіта таму вершы, да прыкладу, Тэафіля Гацье, ён лічыў «прыгожымі, але халоднымі». Кніга апошняга «Эмалі і камеі», паводле Максіма Багдановіча, «имеет один убий-

**«Катастрафічных» паэтычных твораў у Максіма Багдановіча зусім няшмат. Відавочныя элементы катастрафізму ў баладзе «Страцім-лебедзь», аднак яе вобразна-сімвалічная архітэктоніка не ўкладваецца ў парадыгму катастрафічнага светаадчування**

**І Поль Верлен, і Максім Багдановіч зыходзілі з аднолькавай канцэпцыі мастацтва, у той час як Шарль Бадлер, Арцюр Рэмбо, Оскар Уайльд трымаліся дастаткова адрознай, каб не сказаць — процілеглай, эстэтычнай платформы**

ственный недостаток: то, что в ней искусно, в то же время и весьма искусственно. В ней очень много мастерства и очень мало поэзии. В ее тщательно отточенных стихах не чувствуется “веяния духа живого”…»; яна «есть жертва на алтарь… бездушной красоты» (Багдановіч, 1993, II, 360).

З іншага боку, магчыма, не зусім абыякавым быў Максім Багдановіч і да паэзіі А. Рэмбо (дарэчы, у жыццёвых лёсах паэтаў было нямала агульнага: абодва напоўніцу спазналі адзіноту, адарванасць ад радзімы, абодва рана памерлі ад цяжкіх хвароб). Зразумела, я цалкам усведамляю, што сцвярджаць наяўнасць генетычных сувязей паміж канкрэтнымі творамі беларускага і французскага паэтаў у дадзеным выпадку рызыкоўна; але для пэўных эстэтыка-семантычных аналогій падставы ёсць. Да месца будзе прывесці хаця б фрагменты з «П’янага карабля» Рэмбо:

…Апантанае мора у схватцы шалёнай
вырастала то справа, то злева сцяной.
Я імчаўся па волі стыхіі салёнай…
Хай вас Бог уратуе ад плыні такой!…
…Я спазнаў і прыбоі, і шквалы, я знаю,
як аблокі руінамі рушацца ўніз,
як пажарнаю птушкай зара узлятае,
я запомніў ахвярнасць начных навальніц…
…Мора, мора, ты ў сне мае рукі лізала
і загойвала раны гаючай вадой,
у сузор’ях медуз, як жанчына, ляжала,
я стаяў на каленях — як перад святой…
…Я — п’яны карабель!..

*(пер. М. Федзюковіча; Галасы… 2008, 527—529).*

Тут «п’яны карабель» — гэта дысгарманічная, пакутная, нястрымная, неўтаймаваная душа — і лірычнага героя, і ўсякага творцы, і, нарэшце, самога паэта, які дзіўным чынам прадбачыў свой лёс — літаратурны (самім Рэмбо ў фінале творчасці расцэнены як паражэнне, як «сезон у пекле») і жыццёвы (адзначаны адзінотай, непрыкаянасцю, жахлівай хваробай). Але вобраз «п’янага карабля» спараджае і іншыя асацыяцыі, іншыя сэнсы, якія пункцірна можна вызначыць наступным чынам: чалавек — Францыя — Еўропа — Сусвет. Істотнае месца ў мастацкай сістэме верша належыць, бясспрэчна, матыву выклятасці (найперш звязанага з прыналежным марскому ўніверсуму вобразам «Лятучага галандца» — карабля-прывіда, карабля-блуканца, але таксама і з вобразамі Каіна, Агасфера) і матыву смерці (узгадваецца, дарэчы, радок з паэмы Ш. Бадлера «Плаванне»: «Смерць! Стары капітан!»).

Верш Максіма Багдановіча нашмат меншы па аб’ёме, між тым яго семантыка няпростая; іншая справа, што ў тэксце А. Рэмбо, пры ўсёй яго сімвалісцкай шматзначнасці, сукупнасць сэнсаў амаль навідавоку, а ў Максіма Багдановіча — больш у падтэксце, у разлічаным на чытацкія здольнасці асацыятыўным патэнцыяле твора.

Максім Багдановіч актуалізуе (што для яго тыпова) уласна чалавечае, метафізічнае ж нібы адсоўвае ў цень: тут гіне не нешта абстрактнае, не Еўропа, не Сусвет — тут гіне чалавек, «тонуць людзі з карабля», і «я» лірычнага героя не адасоблена ад іх злога лёсу («Мы доўга плылі ў бурным моры…»). Катастрофа ў вершы беларускага паэта адбываецца ва ўсёй сваёй трагічнай незваротнасці. Пры гэтым інтанацыйная палітра твора пазбаўлена ўсякай экзальтацыі, гэтак уласцівай А. Рэмбо (невыпадкова ён аказаў вялікі ўплыў на экспрэсіяністаў); інтанацыі ж Багдановіча стрыманыя, сцішаныя, у дачыненні да яго верша вельмі прыдатнае паняцце «жалобная гармонія», уведзенае ў абыходак французскай пісьменніцай Мадленай дэ Скюдэры яшчэ ў сярэдзіне

**Зоры ў паэзіі Максіма Багдановіча найчасцей не «бестрывожна» ставяцца да перажыванняў лірычнага героя; адпаведна, і чалавек адчувае з імі патаемную і глыбокую сувязь**

XVII стагоддзя (раман «Артамен, або Магутны Кір», 1649—1653). У адрозненне ад твора А. Рэмбо, адлюстраваная Багдановічам карціна максімальна выключана з канкрэтных рэалій, нават нібы абязгучана (адзінае, што «чутна», — гэта «трэск карабля») і ў выніку паўстае як своеасаблівая міфалагема.

Верш месціць у сабе шэраг запазычаных з таго ж марскога ўніверсуму канцэптаў, ланцуг якіх ёсць, па сутнасці, дакладнай падзейна-сюжэтнай канвой твора: мора — карабель — плаванне — ноч — скалы — караблекрушэнне. Разгулу марской стыхіі, сведкам якога становіцца чытач «П'янага карабля», у Максіма Багдановіча мы не ўбачым, — паэт абмяжуецца эпітэтам «бурнае» (мора). Аднак якім бы аскетычным ні быў прапанаваны ім малюнак, апошні, як і ў А. Рэмбо, выклікае шматстайныя сэнсавыя алюзіі. Напрыклад, вобраз-матыў мора вядзе свой радавод ад Бібліі (водны элемент, як вядома, — істотны складнік біблейскай парадыгмы стварэння свету (Быц 1:1—10) і выяўляе канцэпцыю часу як плыні і як вечнага станаўлення; вада дае пачатак жыццю, але і сімвалізуе наканаванасць, прадвызначанасць лёсу ўсяго існага) і ад антычнасці (марская стыхія прыпадабнялася да фартуны, року, лёсу, бо яны аднолькава зменлівыя, свавольныя, бязлітасныя і непрадказальныя). З цягам часу марскую стыхію пачнуць атаясамліваць таксама з бездання душэўных перажыванняў, чалавечых жарсцяў, сумненняў і хваляванняў; рамантыкі нададуць вобразу мора культ вольнасці. Не меншы рэгістр алюзій здольны выклікаць супакладзеныя адно з адным у рэчышчы марскога топаса вобразы-матывы карабля, марскога падарожжа-плавання, скал, ночы. Да слова, вельмі часта вобраз карабля будзе сустракацца і ў экспрэсіяністаў; часам самі назвы вершаў гавораць за сябе: «Чорны карабель» («Das schwarze Schiff») Ф. Т. Чокара, «Кіль карабля» («Des Schiffesbreiter Kiel») Г. Броха, «Карабель у агні» («Flammendes Schiff») Т. Дойблера і інш.

Асобнай увагі заслугоўвае вобраз зор у вершы. Зоры ў паэзіі Максіма Багдановіча найчасцей не «бестрывожна» ставяцца да перажыванняў лірычнага героя; адпаведна, і чалавек адчувае з імі патаемную і глыбокую сувязь, жыве, «з прыродай зліўшыся душою…» Срэбнае ззянне «зор грамады» робіць «роўна мілымі» дзень новы і «знікшы дзень»; зоркі то «іскрацца… маркотна», схіляючы лірычнага героя да душэўнага спачыну, то пацеркамі падаюць «з грудзей пана Бога», каб «маркотна і пільна» ўзірацца ў «край наш нядольны»; зорка Венера прыводзіць з сабой «светлыя згадкі» пра каханую; у «Актаве» зоры «маленькія, мілыя», «радзімыя»; а ў вершы «С. Е. Палуяну» з імклівым палётам-падзеннем зоркі паэт параўноўвае кароткае, але яркае і вольнае жыццё героя… Падобныя прыклады можна доўжыць. У вершы ж «Мы доўга плылі ў бурным моры…» карабель, даверыўшы свой «пуць» зорам, асуджаны на жахлівую смерць у змрочным марскім прадонні. Гэтая мастацкая сітуацыя схіляе да пэўных аналогій. Вядома, што зоры нярэдка інтэрпрэтуюцца як сімвал душэўнага святу; у такім выпадку атрымліваецца, што катастрофа, якая спасцігла людзей, не толькі і не столькі прадвызначана фатумам, колькі сталася наступствам іх унутранай, душэўна-духоўнай слепаты і маральнай дэзарыентаванасці.

Вобраз зор, якія «бестрывожна» назіраюць за смерцю пасажыраў карабля, спараджае і яшчэ адну асацыяцыю. А. Сержпутоўскі, маючы на ўвазе сузор'е з беларускай назвай Сітко (у грэкаў — Пляяды), пісаў: «Гэта тыя свечкі, якія гараць на небе там, куды збіраюцца праведныя душы людзей. Тут анёлы адсейваюць праведныя душы ад грэшных» (Сержпутоўскі, 1930, 7). Іншымі словамі, зоры саўдзельнічаюць у апошнім праведным Судзе. Не выключана, што гэты астральны міф быў вядомы Максіму Багдановічу і сугестыўна даў аб сабе знаць у яго вершы; і, можа, зоры ў ім таму «бестрывожна бачаць» гібель людзей, што тыя іншай долі не вартыя, бо пагразлі ў бездухоўнасці і бяздушшы, у «сварках і звадках», замест таго, каб «усім разам» ляцець «да зор».

**Вершы Тэафіля Гацье ён лічыў «прыгожымі, але халоднымі». Кніга апошняга «Эмалі і камеі», паводле Максіма Багдановіча, «имеет один убийственный недостаток: то, что в ней искусно, в то же время и весьма искусственно»**

**Максім Багдановіч актуалізуе (што для яго тыпова) уласна чалавечае, метафізічнае ж нібы адсоўвае ў цень: тут гіне не нешта абстрактнае, не Еўропа, не Сусвет — тут гіне чалавек, «тонуць людзі з карабля», і «я» лірычнага героя не адасоблена ад іх злога лёсу**

У любым выпадку і сістэма сімвалаў (з вобразамі-матывамі «ночы» і «скал» уключна), і атмасфера верша падпарадкаваны вызначальнаму матыву караблекрушэння (нямецк. der Untergang eines Schiffes), якое адвечна разумелі як сімвалічнае адлюстраванне катастрофы — душэўнай, жыццёвай, ідэйнай.

Цалкам магчыма, што Максім Багдановіч свядома ўклаў у свой верш прадбачанне не толькі ўласнага жыццёвага канца і ўласнага творчага выраку, але і агульнага лёсу Еўропы і свету (згадваецца традыцыйны метафарычны выраз: мы ўсе — пасажыры аднаго карабля) напярэдадні Першай сусветнай вайны, да якой у 1912 годзе ўжо было, што называецца, рукой падаць.

Напрыканцы адзначу, што аналіз твораў айчыннай і замежнай літаратуры, у якіх далі пра сабе знаць катастрафічныя настроі пачатку ХХ стагоддзя, мае надзвычай важнае значэнне — і ўласна навуковае, і сімптаматычнае. Гэта выдатна разумеў Максім Гарэцкі, які ў артыкуле «Беларуская літаратура пасля “Нашае нівы” (Агульны агляд)» (1928) пісаў: «Дагэтуль не даследавана пытанне, як беларускія паэты і пісьменнікі прынялі імперыялістычную вайну. А ў сувязі з гэтым пытаннем цікава было б прасачыць у сусветнай гісторыі літаратуры, як, наогул, уплывае на літаратурную творчасць вайна, рэвалюцыя і ўсякая вялікая катастрофа ў жыцці людзей. Каб толькі збольшага ўзяць усе лепш вядомыя прыклады ад Дантэ і да нашых дзён, дык можна сказаць, што творчасць пісьменніка ў часе катастрофы залежыць ад таго, як яго індывідуальнасць успрымае катастрофу, і ад таго, у якой меры катастрофа зачапіла яго асабістае, класавае і нацыянальнае жыццё» (Гарэцкі, 1984, 193). Зразумела, прасачыць «усе… прыклады ад Дантэ да нашых дзён» — задача не аднаго артыкула і нават не аднаго даследчыка. Творчасць жа Максіма Багдановіча, разгледжаная ў нацыянальным і еўрапейскім падзейна-культурным кантэксце, сведчыць, што беларускі паэт, падзяляючы агульнае для еўрапейскіх пісьменнікаў катастрафічнае светаадчуванне, увасобіў яго ў адметным паэталагічным ключы.

**ЛІТАРАТУРА**


Аверинцев, С. С. Георг Тракль // История австрийской литературы ХХ века. Т.1. Конец XIX — середина ХХ века. М., 2009.

Андреев, Л. Г. Феномен Рембо // А. Рембо. Поэтические произведения в стихах и прозе: Сборник. М., 1988.

Багдановіч, М. Поўны збор твораў. У 3 т. Мн., 1991—1995.

Бердяев, Н. Кризис искусства. (Репринтн. изд.) М., 1990.

Галасы з-за небакраю: Анталогія паэзіі свету ў беларускіх перакладах ХХ стагоддзя / Склад. М. Скобла; уст. арт. Е. Лявонавай. Мн., 2008.

Гарэцкі Максім: Успаміны, артыкулы, дакументы. Мн., 1984.

Казыра, Л. Перакладчыцкая спадчына Максіма Багдановіча // М. Багдановіч. Поўны збор твораў. У 3 т. Т.1. Мн., 1991.

Купала, Я. Збор твораў. У 7 т. Мн., 1972—1976.

Лойка, А. Паэт нараджаецца не аднойчы // М. Багдановіч. Поўны збор твораў. У 3 т. Т.1. Мн., 1991.

Максімовіч, В. А. Ідэйна-эстэтычныя асновы беларускага мадэрнізму: Вучэбна-метадычны дапаможнік. Мн., 1998.

Прыйдзі, стваральны дух: Пераклады В. Сёмухі. Мн., 1986.

Сержпутоўскі, А. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мн., 1930.

Толмачев, В. М. Где искать XIX век? // Зарубежная литература второго тысячелетия. 1000—2000 / Под ред. Л. Г. Андреева. М., 2001.

Цвейг, С. Вчерашний мир / Пер. с нем. М., 1991.




Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

# ДРУГАЯ ЭСТЭТЫЧНАЯ ДЫВЕРСІЯ

## *З каментарыяў да зборніка «Вянок» Максіма Багдановіча*

***Багдановічазнаўства, як і кожная навуковая галіна, не пазбаўлена стэрэатыпаў. Ствараюцца яны канкрэтнымі навукоўцамі, а потым ператвараюцца ў частку філалагічнага мэйнстрыму, шматкроць паўтараюцца, уваходзяць у падручнікі, і ўрэшце ўкарэньваюцца. Але трэба часам рабіць і праполку. Каб зямля дыхала.***

Адным з такіх агульных месцаў з'яўляюцца меркаванні пра спрэчку пісьменнікаўнашаніўцаў з нагоды вартасці / нявартасці вершаў Максіма Багдановіча, адлюстраваную ва ўспамінах Вацлава Ластоўскага. Трэба адразу сказаць, што адсутны архіў Багдановіча мог бы шмат што ўдакладніць у стасунках паэта і «неадменнага сакратара», а таксама скарэктаваць і пракаментаваць успаміны. На жаль, архіў знік падчас вайны (а эпісталярыум Багдановіча дык яшчэ і да вайны, як сведчыў Рыгор Жалязняк), таму ў якасці рэальнага каментарыя да гэтага мемуарнага тэксту навукоўцы могуць выкарыстоўваць цяпер толькі ўскосныя сведчанні. Важна тое, што ўспаміны Ластоўскага, як і Зоські Верас, можна і трэба крытыкаваць, выяўляючы слабыя і малаверагодныя мясціны.

Мемуарны тэкст найбольш з усіх крыніц падуладны часу, у якім ствараецца. Успаміны Ластоўскага былі напісаны ў 1925 годзе і перасылаліся ў Інстытут Беларускай культуры складальніку двухтомнага збору твораў Багдановіча прафесару Івану Замоціну. Зразумела, што, апісваючы падзеі 1909—1914 гадоў, Ластоўскі не мог не адчуваць дыстанцыі, а таксама не мог не ўносіць у тэкст канатацыі 1920-х гадоў. Гэта найбольш стасуецца да гаворкі пра «верхнюю» і «ніжнюю» палату ў рэдакцыі «Нашай Нівы», так бы мовіць, «арыстакратычны» і «пралетарскі» яе аддзелы. Надуманая чорна-белая карціна жыцця рэдакцыі, безумоўна, нясе на сабе адбітак жорсткіх дыскусій паміж Антонам Луцкевічам і Вацлавам Ластоўскім у часе паўставання і пазнейшага функцыянавання ўрада (і ўрадаў) Беларускай Народнай Рэспублікі. Рэха гэтага супрацьстаяння выразна адчуваецца ў мемуарным тэксце.

Непаразуменне рэдакцыі з Багдановічам выяўляецца Ластоўскім як непрыняцце «дэкадэнцкага» ўспрымання паэта. Пра гэта гаворыць Ядвігін Ш., а пазней згаджаецца і ўся «верхняя палата». Канфлікт шматкроць аналізаваўся, і таму не будзем паўтараць агульнавядомае. Багдановіч выйшаў з той спрэчкі пераможцам: яго міфалагічныя вершы былі апублікаваны. Аднак Ластоўскі гаворыць, што такога эстэтычнага ваяра, як Багдановіч, маленькая перамога задаволіць не магла. Дыскусія з эстэтычнай платформай «Нашай Нівы» працягвалася і далей.

Можна гаварыць пра тое, што напрыканцы 1912 года Максім Багдановіч спрабуе здзейсніць новую эстэтычную дыверсію. Сын і малодшы брат палымяных рэвалюцыянераў, ён бачыць сваю місію ў разняволенні беларускай літаратуры: каб «памагчы атрымаць ёй больш еўрапейскі выгляд» (ліст у рэдакцыю «Маладой Беларусі» ад 27.11.1911). Зразумела, што такое разняволенне магчыма здзейсніць не толькі ў сферы формы — праз засваенне цвёрдых формаў верша, але і ў галіне тэматыкі. Гэта азначае, што Багдановіч, адваяваўшы права на міфалагічныя вершы, паспрабаваў зняць табу на эратычную тэму ў лірыцы. Нельга не ўспомніць, што паэтыка Багдановіча, у адрозненне ад купалаўскай, складалася пад уплывам постсімвалісцкай эстэтыкі, і таму прарывы Купалы ў эратычную тэматыку, завуаляваныя рамантызмам, не ішлі ні ў якое параўнанне з лірыкай Багдановіча, што ішла да чытача «з адкрытым забралам».

Дыверсія, пра якую я кажу, была здзейснена ім у цыклах «Каханне і смерць» і «З чужой глебы» — тых працах, якія не ўвайшлі ў «Вянок» па невядомай для нас прычыне. Трэба сказаць, што сам Багдановіч разумеў усю важнасць пастаўленай задачы, і ставіўся да публікацыі гэтых вершаў вельмі адказна. Цыкл «Каханне і смерць» быў датаваны ў аўтографе жніўнем-кастрычнікам 1912 года. 14 лістапада таго ж года ён віншуе «Нашу Ніву» з 6-годдзем і зазначае: «Паслаў Вам гэтымі днямі колькі вершаў, а разам з лістом пасылаю яшчэ. Тэмы апошніх — надта вострыя, але я, як ганаровы пісьменнік, не мог ад іх адступіцца. Вершы гэтыя я вельмі люблю, хоць даў у іх мені, чым бажаў. Калі будзеце пісаць да мяне, згадайце і Вашыя думкі аб іх». Пасаж гэты ў каментарыях да Поўнага збору твораў праігнараваны цалкам. Аднак па ўскосных момантах можна зрабіць выснову, што гаворка ідзе пра свежанапісаны цыкл «Каханне і смерць». «Вострыя» тэмы тут зусім не азначае «грамадзянскія», хоць эпітэт гэты сёння трывала замацаваўся за публіцыстычнасцю. «Вострыя» вершы» ў гэтым кантэксце — якраз непрыемныя для нашаніўскіх пісьменнікаў-традыцыяналістаў, то бок новымі вершамі Багдановіч парушае пэўныя табу, і сам гэта цудоўна разумее. Больш таго, ён гаворыць, што «даў у іх мені, чым бажаў», то бок вершы зазналі ўплыў самацэнзуры. Піша Багдановіч пра такія далікатныя рэчы напрыканцы ліста. Тое самае будзе ў вясновым пісьме 1913 года. Абмяркоўваючы як быццам вырашанае пытанне аб публікацыі перакладаў з Верлена ў «Вянку», Багдановіч у апошніх радках ліста нагадвае: «Што ж Вы не напішаце мне “по душам” аб вершах пра вагітнасць? Будзь ласка, пішыце. Хоць колькі слоў». Тая ж асцярожнасць бачыцца і ў адносінах да эратычнага верша Поля Верлена «Ракаўкі», перакладзенага Багдановічам. Гэты ліст ці фрагмент ліста Максіма да нас не дайшоў, але паэт пытаўся, «ці не «абражана скромнасць» рэдакцыі перакладам Верлена «Ракаўкі» (А. Луцкевіч. «З недрукаванае спадчыны па М. Багдановічу»).

Асноўнае пытанне тут: хто вінаваты ў тым, што ні «Каханне і смерць», ні пераклады з Верлена, у тым ліку і эратычная лірыка, не ўвайшлі ў «Вянок»? Адказ можна знайсці ў артыкулах тагачаснага «шэрага кардынала» беларускага адраджэння, ідэолага і фактычнага кіраўніка «Нашай Нівы» Антона Луцкевіча. Менавіта ён адшукаў лісты Багдановіча і пераклады з Верлена. Што да цыкла «Каханне і смерць», альбо «Вагітнасць», то гэтыя вершы, па сведчанні Луцкевіча, «ад сакратара рэдакцыі Ластоўскага папалі ў калекцыю інж. Р. Зямкевіча і апублікаваны ўжо пасля смерці Багдановіча». Умовы знаходжання лістоў Багдановіча і перакладаў з Верлена апісваюцца Луцкевічам так: «Робячы разборку трох скрыняў рознага хламу, перавезенага ў Музей з падвалу Беларускае кнігарні (Завальная, 7), дзе некалькі гадоў змяшчалася і рэдакцыя “Нашае Нівы”, — я, сярод іншых нашаніўскіх матэрыялаў, знайшоў тамака некалькі пісем і рукапісаў вершаў Максіма Багдановіча» (артыкул «З недрукаванае спадчыны па М. Багдановічу»). Так пісаў Луцкевіч у лютым 1932 года. Але ў прадмове да публікацыі верленаўскіх вершаў у перастварэнні Багдановіча (1923 год) Луцкевіч удакладняў абставіны «спісвання ў архіў»: «Цытованае пісьмо з вершамі, папаўшы ў рукі тагачаснага сакратара рэдакцыі п. Ластоўскага, да ведама рэдакцыі “Н. Н.” не дайшло. Яно і вершы былі знойдзены нядаўна ў падвале памяшчэння, дзе была рэдакцыя “Н. Н.”, сярод рознага хламу, затаптаныя, струхлеўшыя ад вільгаці… І толькі цяпер перакладам з Верлена даводзіцца пабачыць божы свет». Такім чынам, менавіта Вацлаў Ластоўскі спісаў у архіў багдановічаўскія пераклады: з 22 вершаў Верлена ў «Нашай Ніве» было апублікавана толькі два, і, канешне, самыя бяскрыўдныя ў «дыверсійных» адносінах. Цыкл «Каханне і смерць» прададзены альбо «збарціраваны» Ластоўскім, як гэта ў калекцыянераў часам робіцца. А калекцыянерамі яны з Зямкевічам былі несумненнымі.

Дыверсія не ўдалася. Хаця не, яна проста расцягнулася ў часе, і выбухнула толькі ў 1927 годзе, у замоцінскім зборы твораў.

Але гэта ўжо была зусім іншая гісторыя. І іншая літаратура.

Ульяна ВЕРЫНА

# «ВЯНОК» БАГДАНОВІЧА: ЧАСТКІ І ЦЭЛАЕ

Адным з новых кірункаў вывучэння літаратуры з’яўляецца так званае кнігазнаўства, звязанае з ранейшым цыклазнаўствам і дапоўненае шэрагам праблем, якія афармляюць самастойны змест новай галіны ведаў. У тым ліку праблема жанравызначэння, шляхі і спосабы цыклізацыі (паводле скразных матываў, «слоў-зорак», тэматычных аб’яднанняў у дыптыхі, трыпціхі; цыклізацыі як сродку складання кнігі, метацыклізацыі і г. д.), гісторыя выданняў і перавыданняў, ролі рэдактараў і аўтара ў фарміраванні кнігі як адзінства. У выпадку з «Вянком» Максіма Багдановіча маем цэлы комплекс самых цікавых мажлівасцей, якія адкрываюцца даследчыку кнігі вершаў ва ўказаным кірунку.

Паводле аўтарскага ўдзелу ў фарміраванні кнігі, «Вянок» з’яўляецца **часткова рэдактарскай кнігай**, але сам паэт быў неабыякавы да кампазіцыі, складу, паслядоўнасці вершаў і цыклаў, хоць і меў намер выдаць не кнігу з агульнай канцэпцыяй і назвай, а выбраныя вершы (першапачатковая аўтарская назва «Кніжка выбраных вершаў» стала падзагалоўкам). Мы маем сведчанне В. Ластоўскага, што М. Багдановіч даведаўся пра назву «Вянок» і прысвячэнне С. Палуяну пасля ўжо выхаду кнігі. Паводле аднаго гэтага сведчання, здаецца, цяжка безумоўна прыняць выпадковасць сіметрычнага пачатку і канца кнігі, а менавіта паўтору ключавога слова ў аднолькавым значэнні ў прысвячэнні і передапошнім вершы нізкі «Каханне і смерць» «Там вянкі суворай славы…», а таксама ў вершы «Астры» — апошнім у кнізе, дзе слова ўпісана ў матыў смерці. (Будзем прытрымлівацца думкі, што згодна з аўтарскай задумай цыклы «Каханне і смерць» і «З чужой глебы» павінны завяршаць кнігу.) Сістэму ключавых слоў дзеля «рэканструкцыі аўтарскай канцэпцыі» прапанаваў аналізаваць прафесар І. У. Фаменка, маючы на ўвазе два асноўныя моманты: частотнасць і здольнасць «мадыфіцыраваць значэнне ў розных сегментах тэкста»[1]. Слова «вянок» не з’яўляецца частотным у кнізе, бо сустракаецца ў ёй усяго 7 разоў (для параўнання: слова «душа» і вытворныя ад яго паэт ужыў 40 разоў, «сэрца» — 33 і г. д.). І не пра прыярытэтнасць яго ў мастацкім свеце М. Багдановіча мая заўвага, а пра аднолькавае значэнне — «вянок на магілу» — толькі ў *двух* месцах: у пачатку і канцы ўласна аўтарскай часткі кнігі (гэта **калі разглядаць «Вянок» як аналаг кнігі, збудаванай паводле прынцыпу «Вершы і пераклады»**). А *трэцім* з’яўляецца вобраз-напамін пра пахавальны вянок у апошнім вершы нізкі «З чужой глебы». Астатнія «вянкі» ў кнізе — з макаў, з «зорак дрыжачых», з вярбін і інш. — не маюць такога значэння.

Немагчыма не заўважыць, разглядаючы структуру, якімі былі б апошнія радкі аўтарскай часткі кнігі, калі б яна з’явілася ў тым выглядзе, у якім паэт хацеў яе бачыць. Апошнімі словамі былі б не словы «Веранікі» ці эпілога да «Веранікі» і не заключныя словы верша «Белы крыж, пліта, пад ёй — магіла…»: «…Але строгі надпіс: “Disce mori” // Нагадае, што з табой было», — а зноска: «Вучыся паміраць», якая гучыць як развітальны запавет паэта і зноў-

[1] Фоменко, И. В. Книга стихов: миф или реальность? // Европейский лирический цикл. Историческое и сравнительное изучение: материалы междунар. науч. конф. Москва — Переделкино, 15—17 ноября 2001 г. — М., 2003. — С. 68.

такі дзіўным чынам перагукаецца з жалобным прысвячэннем С. Палуяну. «Астры» ў апошніх радках злучаюць смерць і цень аптымізму (цяжка пабачыць аптымізм у радках «І ўмерлі яны. Але тут, як на смех, // Паднялася сонца, цалуючы ўсіх». Можна думаць, што гэта жаданне аптымізму, яго цень ці нават абвастрэнне безвыходнага песімізму, бо прадаўжэнне чужога жыцця пасля смерці не суцяшальна). Гэта, як думаецца, немалаважная для паэта ідэя, якая мае непасрэднае дачыненне да ўяўлення М. Багдановіча пра ўласную творчую працу, а таксама можа праясніць дваісты характар «Вянка» і тых кніг, што не здзейсніліся паэтам, як **адкрыта-закрытых утварэнняў**.

Праблема кампазіцыі кнігі і сёння не губляе сваёй актуальнасці, бо нават найноўшы поўны збор твораў 2001 г., грунтоўна перагледзеўшы шэраг тэкстаў «Вянка», удакладніўшы рэдакцыі, пакідае шмат пытанняў для разваг. Прычыны, па якіх нізкі «Каханне і смерць» і «З чужой глебы» не былі надрукаваны ў 1913 г., часцей за ўсё называюцца нявысветленымі. Т. К. Чабан, маючы на ўвазе першы цыкл, выказалася наконт «нязвыкласці для беларускай літаратуры самой тэмы, якая магла быць успрынята нашаніўцамі як «дэкадэншчына»[1]. Каментатары да апошняга збору твораў прапануюць у ліку магчымых прычын у першую чаргу тыя, што былі абумоўлены «фінансавымі цяжкасцямі, якія вымагалі скарачэння аб’ёму кніжкі»[2]. Разгледзім кожны з магчымых і атрыманых варыянтаў кнігі ў святле іх змястоўнай кампазіцыі.

А. А. Лойка, як вядома, лічыў, што частак у кнізе павінна быць тры, і гэта «Малюнкі і спевы», «Мадонны», «Каханне і смерць». Атрымлівалася, што ў першай частцы сем цыклаў, два апошнія ж значна меншыя. Такое нераўнаважнае дзяленне не задаволіла Т. К. Чабан, якая палічыла асіметрыю неапраўданай. Акрамя таго, даследчыца меркавала, што «загаловак “Малюнкі і спевы” не стасуецца да цыклаў! “Думы”, “Вольныя думы”, “Старая спадчына”»[3]. Таму яна прапанавала вылучаць тры раздзелы: «Малюнкі і спевы», «Думы» і «Мадонны», дзе «Думы» разглядаліся як «кампазіцыйны цэнтр “Вянка”», «яго змястоўны кульмінацыйны пункт»[4].

Ужо ў зборы твораў 1992 г. «Вянок» надрукаваны ў чатырох раздзелах згодна з прапанаванай Т. К. Чабан кампазіцыяй (чацвёрты раздзел, паводле аўтарскай задумы, «З чужой глебы»). Каментарыі да поўнага збору твораў 2001 г. тлумачаць прапанаваную структуру працай камісіі Інбелкульта і адсылаюць за ўзорам да выдання 1927 г. Але справа ў тым, што ў гэтым выданні «Каханне і смерць» не ўключаны ў раздзел «Мадонны», а надрукаваны асобна ад папярэдняга раздзела, а не як яго частка. Назвы цыклаў у тэксце пададзены як загалоўкі аднаго ўзроўню (прапісныя літары, падкрэсленыя, пасля загалоўка кропка). І нават на тытульнай старонцы надрукавана: «Вянок» (даты 1909—1912), потым дзве рыскі аддзяляюць назву «Каханне і смерць», пры якой таксама прастаўлена дата — 1912. У змесце ніякага падзелу на часткі няма увогуле, і ўвесь «Вянок» уяўляе сабой суцэльны раздзел, у якім змешчана 108 вершаў.

Тое, што М. Багдановіч планаваў чатыры раздзелы кнігі, бачна з яго ліста ад 12 ліпеня 1912 г.: «Усе пераклады (калі Верлена Вам аддадуць) трэба памясціць у канцы кнігі як **чацвёрты** (вылучана намі. — **У. В.**) аддзел з іменем “З чужой глебы”: І. З Верлена. ІІ. З іншых паэтаў»[5]. Ускосна можна сцвярджаць пра асобнасць раздзелаў «Мадонны» і «Каханне і смерць» з ліста В. Ластоўскага да М. Багдановіча ад 24 кастрычніка 1913 г., у якім рэдактар зборніка пытаўся ў паэта, дзе лепш змяшчаць «паэмы» (чамусьці слова «паэмы» ўжыта ў сучасных каментарыях)

---

[1] Чабан, Т. Космас «Вянка». Літаратурны каментарый да «Вянка» Максіма Багдановіча // Багдановіч М. Поўны збор твораў. У 3 т. Т. 1. — Мінск, 2001. — С. 515—516.

[2] Багдановіч, М. Поўны збор твораў. У 3 т. Т. 1. — Мінск, 2001. — С. 566.

[3] Чабан, Т. Тамсама. — С. 485.

[4] Чабан, Т. Тамсама. — С. 499.

[5] Багдановіч М. Поўны збор твораў. У 3 т. Т. 1. — Мінск, 2001. — С. 613.

«Мадонны» і «Каханне і смерць»: «Пытанне, што да мейсца поэматаў, адносілася да цыклу “Мадонны” і “Каханне і смерць”: ці іх ставіць перад аддзелам “З чужой нівы” ці после?»[1]. Але самым каштоўным, прамым і недвухсэнсоўным з’яўляецца сведчанне аўтара, які пісаў: «Аддзел “Мадонны” складаецца ў мяне з дзвюх паэм: “Веранiка” і “У вёсцы”»[2]. Такім чынам больш карэктна было б падтрымаць меркаванне А. А. Лойкі пра раздзелы «Малюнкі і спевы», «Мадонны» і «Каханне і смерць», чацвёртым раздзелам, бясспрэчна, завяршае кнігу цыкл «З чужой глебы».

Змястоўная характарыстыка кампазіцыйных варыянтаў таксама сведчыць на карысць такога падзелу. У абарону выгляду кнігі 1913 г. можна сказаць, што атрыманая структура тыпу **«Вершы і паэмы»** — найбольш устойлівая, яна стварае эфект завершанасці, пэўнай этапнасці ў творчым развіцці паэта. Па-першае, яна адпавядае традыцыі жанравай арганізацыі кніг; па-другое, у значнай ступені характэрна рэдактарскаму выбранаму, а не аўтарскай кнізе. Кніга такой структуры мае этапны ці выніковы характар, яна не ўласціва дэбюту. «Вянок» у выглядзе 1913 г. ствараў уяўленне пра М. Багдановіча як пра сталага паэта, не дэбютанта, што з сучасных пазіцый выглядае прадбачаннем лёсу кнігі: яна ўнікальная тым, што мае характар і дэбюту, і выніку, што сугучна жыццёвай філасофіі паэта. Не можа не выклікаць здзіўлення яго жыццё з чаканнем канца і планамі на будучыню (планаваў новыя кнігі і адразу выказваў упэўненасць у тым, што не паспее здзейсніць нічога з задуманага). У мастацкай форме гэтая ідэя моцна гучыць у вершах цыкла «Каханне і смерць» і, вядома, кампенсацыя іх адсутнасці больш сталай структурай не выглядае ўпэўнена.

Кніга тыпу **«Вершы і пераклады»**, як і хацеў М. Багдановіч, скіравана на адлюстраванне ідэі дыялогу, важнай для паэта. Акрамя дыялагічнасці, такая структура больш рухомая, разнастайная, паколькі мае на ўвазе свабодныя адносіны цыклаў паміж сабой, баланс форм рознага «памеру» — «малых» (вершы) і «вялікіх» (цыклы, паэмы) — у межах адной буйной часткі арыгінальных твораў. Такая структура і больш цэласная, бо вялікая першая частка не ўяўляе сабой суму раздзелаў і цыклаў, а пераклады, сабраныя ў асобны цыкл, выконваюць яшчэ і падагульняльную ролю да эпіграфаў з розных літаратур, якія М. Багдановіч шчодра і па-мастацку трапна даслаў да вершаў і цыклаў. Вершы «З чужой глебы» падкрэсліваюць значнасць эпіграфаў, вымушаюць яшчэ раз вярнуцца да іх і адзначыць увагу да «чужога слова» як неад’емнай часткі тварэння свайго ўласнага.

Дыялог свайго і чужога пачынае кнігу. М. Багдановіч бачыў «Малюнкі і спевы» вялікай часткай, і пра гэта сведчыць асобны эпіграф з А. Фета, а таксама «ўверцюра» (як удала назваў уступны верш Я. Плашчынскі[3]), якая працягвае эпіграф і мае дачыненне да ўсёй кнігі цалкам. Заўважым тут, што паэт у вершаваным пераліку зместу сваёй кнігі называе «Краскі, свежыя калісьці, // Думак шчырых і чуцця», — і гэта вельмі шырока ахоплівае змест, не выключаючы, канешне, і «Думы».

Цыклізацыя — важнейшы сродак арганізацыі матэрыяла ў «Вянку», і калі «вершы адразу ўзнікалі цыкламі»[4], то гэта амаль што адзінкавы прыклад у гісторыі сусветнай літаратуры. Але, паводле кантэкставых форм лірыкі, як вылучае іх В. В. Мірошнікава, гэта **і макраструктура, і метаўтварэнне**[5]. «Вянок» можна разглядаць як кнігу-цыкл, якая складаецца з адносна самастойных

---

[1] Тамсама. — С. 613.

[2] Тамсама. — С. 608.

[3] Плашчынскі, Я. Кніга лірыкі як мастацкае цэлае. «Вянок» М. Багдановіча // Узвышша. 1927. № 1. — С. 120.

[4] Чабан, Т. Космас «Вянка». Літаратурны каментарый да «Вянка» Максіма Багдановіча // Багдановіч М. Поўны збор твораў. У 3 т. Т. 1. — Мінск, 2001. — С. 464.

[5] Мирошникова, О. В. Книга-цикл и книга-композиция в лирике // Лирическая книга в современной научной рецепции: коллективная монография / отв. ред. О. В. Мирошникова. — Омск, 2008. — С. 69.

частак, кожная з якіх мае ўнутраную жанрава-тэматычную арганізацыю. Вылучаючы ў асобны раздзел «Думы», складальнікі ўзмацнілі гэтую асаблівасць кнігі і паслабілі яе ўласцівасці як метаўтварэння. Усё ж такі трэба звярнуць увагу на адно з важнейшых патрабаванняў да цыкла — наяўнасць «цыклавога суб’екта». Можна сказаць, што ўсе даследчыкі «Вянка», амаль без выключэння, сцвярджаюць аб’яднанне кнігі асобай, суб’ектам, ён, «цыклавы суб’ект», не роўны сабе ад пачатку да канца кнігі, ён цэласны толькі на працягу аднаго цыкла. І нават з’яўляецца ў кнізе ён паступова: пачынаючы з цыклаў, тэматычна далёкіх ад суб’екта, і паступова набліжаючыся да сябе. Р. Фігут падзяліў тэмы лірычных цыклаў на далёкія суб’екту (прырода, прадметы культуры, творы мастацтва, сезоны, гісторыя і г. д.) і блізкія яму (каханне, смерць, радасць, малітвы, духоўныя развагі і г. д.)[1]. У «Вянку» рух набліжэння да «я» відавочны. Заўважаны нават прыклад змянення суб’екта ў працэсе аўтарскай праўкі верша — гэта тычыцца «Самнамбула», у якім М. Багдановіч паслядоўна адмовіўся ад першай асобы, пакінуўшы толькі трэцюю. Верш стаў арганічнай часткай нізкі «У зачараваным царстве», першай у «Вянку» і найбольш далёкай ад суб’екта. Нават пераход ад «Думаў» да «Вольных думаў» можна патлумачыць аналагічным чынам. Больш сацыяльна скіраваныя і аптымістычныя «Думы» — і змрочныя песімістычныя «Вольныя думы». Вольныя — ад чаго? Гэта выразна тлумачыць эпіграф з Гейнэ і ўступны верш:

Я думы, путамі не скутыя,
Тут перад вамі вываджу,
А проці ганення кажу:
Хваробы лечаць і атрутамі[2].

Можна сказаць, што «путы» ў такім кантэксце і ў звязцы з папярэднім цыклам — гэта чаканні ідэйных крытыкаў, іх «ганенне» прадбачыць паэт, які наважыўся сказаць тое, што найбольш адпавядае асабіста яму, што ўласціва ягонаму даволі песімістычнаму светапогляду. У сувязі з усім вышэйсказаным я не магу пагадзіцца з ацэнкамі паэзіі М. Багдановіча як «светлай і аптымістычнай» (А. А. Лойка), з ідэяй «Вянка» як адраджэнскай (Т. К. Чабан). Калі бачыць у кнізе менавіта рух да сябе, то песімізму, катастрафічнасці большае. Бо чалавек усё жыццё зазірае ў твар смерці:

І сквапна ўніз, на дно страмніны,
З салодкай жудасцю глядзіць[3].

Гэта цютчаўскі маштаб безвыходнасці, тым большы, чым далей ад знешняга і бліжэй да сябе:

И, как виденье, внешний мир ушел...
И человек, как сирота бездомный,
Стоит теперь и немощен и гол,
Лицом к лицу пред пропастию темной.

Разгледзеўшы як мага больш даступных варыянтаў вершаў, нерэалізаваныя накіды, прасачыўшы ўвесь шлях складання кнігі, можна будзе ўдакладніць і пашырыць уяўленні пра погляды М. Багдановіча на цыклізацыю, афармленне вершаў і аўтарскую задуму сваёй кнігі ў цэлым. Грунтоўны кнігазнаўчы аналіз пакажа дакладнае месца «Вянка» ў тыпалогіі лірычных кніг. Але ўжо з існуючых падыходаў можна зрабіць выснову, што «Вянок» М. Багдановіча з’яўляецца кнігай, якая вымушае казаць пра яе як **асобную тыпалагічную адзінку**: яна дэбютная і выніковая, этапная (і ў жыцці паэта, і ў гісторыі нацыянальнай паэзіі), «адкрытая» і «закрытая» (завершана-незавершаная), адпавядае тыпам аўтарскай кнігі і рэдактарскага выбранага, тыпам «вершы і паэмы» і «вершы і пераклады», паводле кантэкставых форм лірыкі гэта і макраструктура, і метаўтварэнне.

---

[1] Фигут, Р. Лирический цикл как предмет исторического и сравнительного изучения / Р. Фигут // Европейский лирический цикл: материалы междунар. науч. конф., 15—17 ноября 2001 г. — М., 2003. — С. 26.

[2] Багдановіч, М. Поўны збор твораў. У 3 т. Т. 1. — Мінск, 2001. — С. 127.

[3] Тамсама. — С. 155.

Наталля ЦВІРКО

# Максіму Багдановічу

*Ты быў далёка ад усіх:*
*Ад той зямлі, што ўзгадавала,*
*Ад мараў і надзей сваіх,*
*І ад яе, што так чакала.*

*Чаму такі самотны лёс,*
*Што не зберог твайго кахання?*
*Там недзе за вясёлкай слёз*
*Два цені ў нямым чаканні.*

*Чаму такі няструмны час?*
*Спыніць яго б хоць на хвіліну.*
*Каб мог яшчэ хоць толькі раз*
*Сустрэцца са сваёй адзінай.*

*Хоць быў далёка ад усіх,*
*Але заўжды ты побач з намі.*
*І словы зноў радкоў тваіх*
*Нам сэрца шчырасцю кранаюць.*

# «МОЙ МАКСІМ БАГДАНОВІЧ»

***АД РЭДАКЦЫІ***

***Конкурс эсэ, прысвечаных Максіму Багдановічу, быў абвешчаны ў мінулым, 2013-м, годзе. Да ўдзелу ў конкурсе запрашаліся вучні 9—11 класаў, якія навучаліся ва ўстановах адукацыі Мінска і Мінскай вобласці. На адрас арганізатара, Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, прыйшло 210 работ. Многія з іх былі трывіяльнымі сачыненнямі, часам не вельмі ўдалымі. Некаторыя тэксты нагадвалі літаратурна-крытычныя артыкулы. Некаторыя — аўтабіяграфічныя нататкі з узгадкамі пра паэта. Журы ў складзе Ірыны Багдановіч, Таццяны Сівец, Міхася Бараноўскага, Алеся Гібок-Гібкоўскага і Таццяны Барадулі нямала папрацавала перад тым, як выбраць пераможцаў. Другі і трэці прызёры, Анастасія Іонікава і Наталля Пляшкун, за гэты час паспелі стаць студэнткамі БДУ і БДУІР. А вось Ірына Рушкевіч, якая заняла першае месца, яшчэ вучыцца ў 11 класе мінскай гімназіі № 30. Творы «тройкі» вельмі розныя, а тэксту пераможцы няблага было б прайсці карэктарскае «рэшата» яшчэ да адсылкі эсэ ў рэдакцыю літаратурнага часопіса. Зрэшты, магчыма, гэта даніна захапленню арыгінальнымі вершамі Багдановіча, узгадаванага ў рускамоўным асяроддзі: яго слоўнікавы запас быў не вельмі багаты, і часта змяшчаў жахлівыя для вуха сённяшняга аматара беларускай мовы русізмы.***

***Рэдакцыя часопіса «Маладосць» віншуе лаўрэатаў з перамогай і зычыць ім не спыняцца ў доследах творчасці вечна маладога паэта.***

**Ірына РУШКЕВІЧ (I месца)**

Максім Багдановіч… Якое простае спалучэнне слоў! 10 зычных, 6 галосных, 16 гукаў і 6 складоў. Наогул, нічога асаблівага… Але яно, як маленькі шкляны крышталік — прыгожы сам па сабе, але здолееш злавіць момант, калі на яго трапляе гуллівы сонечны прамень, — і ўбачыш як ён расчыняе дзверы ў новы, яскравы, лепшы свет. Свет, у якім ёсць месца для мар і надзей.

А пачалося ўсё з таго, што я ішла з сяброўкамі па шырокім, але людным школьным калідоры. Мы гутарылі і, як заўсёды ў школе, ужо праз пару хвілін не маглі ўспомніць, пра што была размова (дзіву даешся, якімі простымі і зразумелымі робяцца самыя складаныя з'явы ў школьнай гутарцы!). А канчатковы пункт нашага падарожжа быў у кабінеце беларускай мовы і літаратуры, які мы горда звалі «нашым». Гэта быў вялікі і светлы пакой, на сценах якога былі развешаны партрэты беларускіх пісьменнікаў, стаялі шафы з рознымі цікавымі кнігамі і статуэткамі. Было ў гэтым кабінеце нешта прыязнае і прыхільнае… Хаця, мабыць, так здавалася толькі мне, бо гэта быў кабінет нашага класа. Прычыну візіту, здаецца, не ўспомніць ужо ніхто, але менавіта тады ад настаўніцы я пачула пра конкурс, прысвечаны славутаму беларускаму паэту. Менавіта з гэтага моманту і пачалося маё больш блізкае знаёмства з Максімам Багдановічам.

Я згадзілася ўдзельнічаць, бо гэта была цудоўная падстава больш падрабязна пазнаёміцца з творчасцю паэта, веды пра якога ў мяне абмяжоўваліся яго агульнай біяграфіяй, парай вершаў, паходам у музей і «Зоркай Венерай».

Мне здаецца, што кожны чалавек у пэўны перыяд свайго жыцця прыходзіць да разу-

мення таго, што адно слова можа для розных людзей пазначаць зусім розныя з'явы. І справа не ў гучанні ці правапісе, а ў пачуцці, якое выклікае кожнае з іх. На жаль, у цяперашні век мы зусім не маем часу, каб задумацца і адчуць гэта. Тым больш, што з'явілася шмат амаль бясколерных, выцвілых слоў. Яны, нібы старыя рэчы, якія ты бачыш з дзяцінства. Ты не звяртаеш на іх увагі, для цябе яны зліліся з навакольным светам, да іх усе так прызвычаіліся, што яны страцілі свае «фарбы», «выгляд». Так і са словамі. Частку з іх выкарыстоўвалі так часта, што яны зусім пашарэлі і трэба прыкласці немалыя намаганні, каб «разгледзець» іх былую прыгажосць. Мабыць, гэта звязана з развіццём рэкламы і маркетынгу, увесь сэнс якіх складаецца з ператварэння простага прадмета ў нешта маштабнае, цікавае з дапамогай слоў. У гэтым сэнсе беларуская мова з'яўляецца своеасаблівай скарбніцай, поўнай стракатымі і каштоўнымі словамі і выразамі.

І калі вы дачыталі да гэтага моманту, дазвольце мне аддаць ушанаванні вашай упартасці, бо далёка не ўсе здольны вытрымаць некалькі абзацаў размовы не звязанай з асноўнай тэмай эсэ. А цяпер я паспрабую растлумачыць, да чаго ж я так доўга вяла сваю думку.

Выпадак паўдзельнічаць у конкурсе прымусіў мяне «ўгледзецца» ў імя Максіма Багдановіча, каб убачыць кожны колер, кожнае адценне, кожную грань і водсвет, якім яно грае для мяне. І так, крок за крокам, радок за радком, успамін за ўспамінам, пачала я разглядаць гэта дзівоснае імя.

Вядома, у галаву адразу прыйшлі ці то прыдуманыя, ці то згаданыя словы пра паэта, натхнёныя, але такія агульныя і аднолькавыя, што імі поўнілася кожная брашура, кожнае афіцыйнае выступленне, сачыненне, на якую б тэму яны ні былі. Адразу зразумеўшы, што капаць у гэты бок — глупства, я вырашыла напісаць, што ўвасабляе Максім Багдановіч для мяне.

Першая думка, якая выскачыла на пярэдні план маіх роздумаў, была пра тое, што па нейкім цудоўным супадзенні, я была жыхаркай адной з тых нямногіх вуліц нашага горада, якім пашчасціла быць названымі ў гонар сапраўдных герояў нашай краіны. Няхай не ўсе яны ляжалі ў пыльным акопе, апошнімі

**Кожны чалавек у пэўны перыяд свайго жыцця прыходзіць да разумення таго, што адно слова можа для розных людзей пазначаць зусім розныя з'явы**

намаганнямі волі сціскаючы аўтамат; не ўсе яны прадзіраліся праз калючы дрот; не ўсе яны разумелі непазбежнасць смерці, гледзячы ёй у вочы, але яны раздзіралі свае сэрцы аб гарачыя слёзы, халодныя рукі, безнадзейныя вочы і горыч у словах, аб прыкрасць у рухах усіх тых, за каго не было больш каму заступіцца. Яны падстаўлялі свае грудзі пад нястрымныя пікі ўлады, пачуўшы поўны сумнай пяшчоты і болю стогн, які зляцеў са стомленых вуснаў роднай краіны. Нават смешна, але такіх вуліц у краіне мала, хаця, здаецца, ёсць кім ганарыцца. Імя Максіма Багдановіча зрабілася для мяне ўвасабленнем дому. А што такое дом? Гэта цеплыня адносін і адчуванне абароненасці, гэта ўвага і ахвяра, гэта нясцерпны боль і адзіная ўцеха. Праз гэтае пачуццё чагосьці хатняга і роднага імя юнака зрабілася для мяне ўвасабленнем цэлай краіны, стала своеасаблівым адлюстраваннем яе самабытнай культуры і характару. Уся творчасць Багдановіча дыхае захапленнем роднымі казкамі, абрадамі і песнямі, гучаннем беларускай мовы і роднай гісторыяй. Трэба адзначыць, што ён меў здольнасць адчуваць беларускую мову, выкарыстоўваць яе ў сваіх творах не прымушаючы біцца аб жорсткія рамкі, не губляючы яе цякучай і чыстай, нібы нейкая таемная лясная крыніца, мілагучнасці. Ён быў увасабленнем таго «сапраўднага беларуса», «беларуса-інтэлігента», якога спрабавалі ажывіць у сваіх творах амаль усе беларускія пісьменнікі.

Чым далей я зазірала ў старэнькі, патрапаны томік з вершамі паэта выдання 60-х гадоў мінулага стагоддзя, тым больш з'ўлялася зацікаўленасць да яго творчасці. Для мяне старыя кнігі маюць нейкія асаблівыя рысы, якія прымушаюць адносіцца да іх з павагай. Мабыць, гэта іх характэрны пах, жаўцізна старонак або выгляд, які ўвасабляе шматгадовы вопыт і мудрасць з лёгкім адценнем фанабэрыстасці. Усё гэта далу-

Ён быў увасабленнем таго «сапраўднага беларуса», «беларуса-інтэлігента», якога спрабавалі ажывіць у сваіх творах амаль усе беларускія пісьменнікі

чала да асалоды эстэтычнага задавальнення. Аднойчы мяне нагнала хваля дзіцячай настальгіі, зацягнуўшы ў час вывучэння «Зоркі Венеры» ў сёмым ці восьмым класе, калі твор, прымусіўшы адкласці апошнюю кнігу «Гары Потара», уразіўшы пяшчотнай, «акварэльнай» тонкасцю выразаў і апісанняў, падштурхнуў мяне да знаёмства з усёй інтымнай лірыкай Багдановіча. І ўсё гэта, нягледзячы на тое, што да таго моманту я ніколі не заўважала ў сабе ніякай схільнасці да рамантызму.

Паглыбляючыся ў творчасць знакамітага мастака, я была ўзнагароджана за свае пошукі, з захапленнем адшукаўшы настолькі рэдкія для беларускай літаратуры, настолькі любімыя мной і настолькі цяжкія для напісання формы вершаскладання, як трыялет і верлібр.

Яшчэ адным нечаканым падарункам з'явіўся цыкл вершаў «У зачараваным царстве». Як і ўсе выхадцы пакалення, якое прыйшло на змену сухасці і статычнасці сацыялізму, я вырасла на казках, фантастычных творах і шматлікіх гісторыях пра чараўнікоў, цмокаў і іншых чароўных істот. На маю думку, гэта тэндэнцыя ў літаратуры пасадзейнічала развіццю цікавасці да міфалогіі і народных паданняў розных краін, а мяне яна падштурхнула да фантастычных скарбаў Беларусі. Можаце ўявіць маё задавальненне, калі я адшукала творы Максіма Багдановіча, прысвечаныя гэтай тэме. Пад пяром паэта (а потым і ў маім уяўленні) ажывалі ў зарослым асакой возеры сівавусы вадзянік, ахінутыя срэбраным ззяннем красуні-русалкі і самаўпэўнены змяіны цар у залатой кароне. Я захаплялася прыгажосцю апісанняў і выразнасцю выказванняў. Перад маімі вачыма ўставалі схаваныя куткі нашай краіны, дзе засталося месца для лазавіка і прыгажунь-гаёвак, для Зюзі, дамавікоў і духаў.

Падводзячы вынікі, я магу ўпэўнена сказаць, што мой Максім Багдановіч — гэта нешта сонечнае, мілагучнае, як беларуская мова, нешта цёплае і надзейнае, як дом, нешта неабыякавае, як родная краіна, нешта мудрае і спакойнае, як старая кніга, нешта чыстае і ледзь сумнае, як каханне, нешта вострае і нечаканае, як трыялет, нешта таемнае і казачнае, як старажытныя лясы і гаі, дзе жывуць цудоўныя жыхары, гэта нешта высокае і вольнае, як палёт думкі.

**Анастасія ІОНІКАВА (ІІ месца)**

Мне 10 гадоў. Цёплы вясенні вечар, гарбата з травамі, нататнік з белымі лістамі, на якіх вялізнымі і трохі няскладнымі літарамі выведзены вершы. Я слухаю, як бацька чытае мне. Ціхі і спакойны мужчынскі голас напеўна распавядае пра тое, як «ліецца хваляй песня». Я мала памятаю са свайго дзяцінства, але ж гэты эпізод назаўсёды застанецца ў маёй памяці, бо ў гэты вечар я пазнаёмілася з творчасцю Максіма Багдановіча. Калісьці мы наведалі з бацькам кнігарню. Наш выбар спыніўся на невялікай кніжачцы — «Вянок». Той вечар вырашыў мой лёс.

Спачатку я адкрыла для сябе ўсю прыгажосць яго пейзажнай лірыкі. Адразу прыгадваю верш «Па-над белым пухам вішняў». Гэта выдатны прыклад пейзажнай лірыкі! Пры чытанні я адчуваю, як разам з жывымі істотамі абуджаецца энергія, якой хопіць, каб забяспечыць планету святлом у самую цёмную ноч. Пейзажы і атмасфера новага жыцця, змен і лепшага часу напаўняюць мяне пры чытанні.

Мяне заўсёды цікавілі розныя пытанні. Хто мы? Як мы жывём? Як правільна жыць? Для чаго Бог стварыў наш свет? Якая наша місія на гэтай планеце? Усе гэтыя пытанні яшчэ з маленства наведвалі маю галаву. І вось аднойчы я знайшла верш «Жывеш не вечна, чалавек». Гэта быў скарб для мяне! Гэты верш прымусіў мяне падумаць пра тое, што я пакіну пасля сябе і якім будзе маё жыццё. А як аўтар падабраў эпіграф да яго! Выраз Віктора Гюго пра тое, як чалавек «праходзіць, не пакінуўшы нават свайго ценю на сцяне», уступае ў барацьбу з тым,

пра што ідзе гаворка ў вершы. Эпіграф быццам з'яўляецца тым, чаго так баіцца і не хоча дапусціць у сваім жыцці паэт. Мы павінны жыць яскрава, слухаць сваё сэрца і гарэць, гарэць, гарэць! Трэба імкнуцца да таго, пра што пісаў у гэтым вершы паэт:

Каб хвалявалася жыццё,
Каб больш разгону ў ім было,
Каб цераз край душы чуццё
Не раз, не два пайшло.
Жыві і цэльнасці шукай,
Аб шыраце духоўнай дбай.

Яшчэ мне б хацелася прыгадаць адзін вельмі цікавы твор, які таксама стаў маім любімым. Гэта верш «Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы...», напісаны ў 1915 годзе. Пачынаецца ён інтымным зваротам. З'яўляецца адчуванне, што паэт хоча расказаць пра самае цёплае і светлае пачуццё — каханне. На самай справе, гэта глыбокі сацыяльна-філасофскі верш, які быў напісаны ў гады вайны. Аўтар заклікае ўсіх людзей аб'яднацца, кажа пра бессэнсоўнасць сутычак, пра заганнасць вайны, «калі мы ўсе разам ляцім да зор». Знішчальным войнам аўтар супрацьпастаўляе ідэю міру, еднасці і братэрства. Гэты твор — маленькі праменьчык святла для тых, хто ўвайшоў у царства змроку.

Год таму верш «Народ, Беларускі Народ!» змяніў маё стаўленне да грамадзянскай лірыкі. Я вельмі востра адчула яго. Нават сёння, калі я чытаю яго, часам не магу стрымаць слёз. Гэты верш меў і мае значны ўплыў на маё жыццё. Год таму ён заклаў маленькае зерне свядомасці, якое нядаўна канчаткова прарасло. Мне хочацца, каб мае дзеці ведалі родную мову, каб яны памяталі, хто яны такія, ведалі гісторыю сваёй краіны. І я веру, што беларуская мова не загіне, будзе жыць, як жывуць бессмяротныя творы нашых класікаў.

Мне 16 гадоў. Цёплы вясенні вечар. Я знаходжуся на мерапрыемстве. У маіх руках нататнік з белымі лістамі, на якіх невялічкімі і трохі няскладнымі літарамі выведзены вершы. Сёння я буду чытаць творы Багдановіча. Я падымаюся і іду да мікрафона. Верш ліецца з маіх вуснаў. Гляджу на слухачоў. Адна дзяўчынка заплюшчыла вочы… Ёй падабаецца…

## Наталля ПЛЯШКУН (ІІІ месца)

***Бо нашто каласы,***
***калі няма васількоў?***
Максім Багдановіч

«Судьбою больше любим, кто живет по законам другим и кому умирать молодым», — спяваў Віктар Цой. Невялікая розніца ва ўзросце паміж рускім спеваком і Максімам Багдановічам. Абодва творцы за такі кароткі час змаглі зрабіць значна больш, чым іншым нават за восемдзесят гадоў не ўдалося. Яны ўнеслі ў плынь мастацтва новы подых, развязалі путы, што сціскалі горла самабытнай музыцы і літаратуры.

Максім Багдановіч упарта адстойваў тое, што літаратура не абавязана быць простай і мужыцкай, што ў ёй ёсць месца прыгажосці, вобразнасці, тым самым васількам, пра якія людзі часам забываюць. Жорсткую рэчаіснасць бачаць усе, а ўменне адчуваць красу, вытанчанасць, узвышанасць — адзінкі. Задача сапраўднага паэта — развіць гэта ўменне ў кожным, хто чытае яго вершы. «Штодзённымі клопатамі поўніцца жыццё людское. Але калі зварухнецца душа чалавека, — толькі песня здолее спатоліць яе», — пісаў мастак слова ў «Апокрыфе».

Нельга сказаць, што Максім Багдановіч — паэт-касмапаліт. Ён патрыёт роднай зямлі, на якой правёў няшмат часу, аднак здолеў адчуць самабытнасць яе культуры і простую, але такую складаную і разнастайную прыгажосць:

Сонца ціха скацілася з горкі,
Месяц белы заплаканы свеціць,
Аглядае бахматыя зоркі,
Цягне з возера срэбныя сеці.

Заслуга Максіма Багдановіча ў тым, што ён дапамог нам паверыць, нібыта будучыня яго і нашай літаратуры мае месца быць. Хоць бацька паэта і не прытрымліваўся такога меркавання, але малодшы Багдановіч выстаяў перад гэтай недаверлівасцю і пайшоў наперад сваім шляхам. Мая павага да яго ўзрастае бязмерна, калі я бачу, як ён ставіцца да таго, што робіць. У аглядзе беларускай паэзіі за 1910 год творца пісаў пра сябе: «Што да Багдановіча, то ў ім непрыкметна шпаркага развіцця. Гэта паэт-маляр.

**З'явілася шмат амаль бясколерных, выцвілых слоў. Яны нібы старыя рэчы, якія ты бачыш з дзяцінства. Ты не звяртаеш на іх увагі, для цябе яны зліліся з навакольным светам**

Слабы як лірык, ён усю сваю ўвагу звяртае на вобразнасць зместу вершаў. Чаго варта гэтая праца, сказаць пакуль што цяжка…»

Спалучэнне сціпласці, самакрытыкі і ўпартасці, упэўненасці і жадання ўдасканальвацца стварае вельмі гарманічны характар паэта, які мае адбітак і ў яго вершах. Парады мастака слова, звернутыя да нас, чытачоў:

Жывеш не вечна, чалавек,
Перажыві ж у момант век!
Каб хвалявалася жыццё,
Каб больш разгону ў ім было,
Каб цераз край душы чуццё
Не раз, не два пайшло.
Жыві і цэльнасці шукай,
Аб шыраце духоўнай дбай.

Жывучы ў час дэкадансу і духу адзіноты, Максім Багдановіч спрабаваў адмовіць яе непазбежнасць. Кажучы словамі сучаснай спявачкі, «...мы проста розныя людзі, мы проста па-рознаму судзім», але з'яўляемся часткай аднаго Сусвету. Таму «нашто ж на зямлі сваркі і звадкі, боль і горыч, калі ўсе мы разам ляцім да зор?»

Яшчэ адна заслуга Максіма Багдановіча ў тым, што ён унёс у беларускую літаратуру не толькі вобразнасць, але і форму. Ён першы пачаў пісаць беларускамоўныя санеты, рандо, трыялеты, па-новаму асэнсаваўшы іх, выкарыстоўваў верлібр. Як чалавек ідзе ад матыкі да рыдлёўкі, так і літаратура ідзе ад адной формы да іншай, спазнае ўплыў гэтай формы на змест. І няма нічога дрэннага ў тым, каб браць матыку і выкарыстоўваць яе ў сучасным кантэксце, бо на ёй будуюцца ўсе астатнія прылады працы, як на класічных формах верша будуюцца прылады працы для пяра. Пакуль такое развіццё і пошук існуюць, магчыма меркаваць, што літаратура развіваецца. Таму можна бясспрэчна заявіць, што Максім Багдановіч даказаў сваю ўпэўненасць у наяўнасці будучыні ў беларускай культуры не толькі словамі, але і справай, стаў не толькі яе прыхільнікам, але і стваральнікам. Уся яго паэзія прысвечана чалавеку, жыццю, Бацькаўшчыне, Сусвету. Найлепш пра сябе сказаў паэт у вершы «Бывае, вада перапоўніць…»:

Адзін дае людзям ізлішкі,
Другі ўсё, што мае. Я гэткі:
Пяю я з надтрэснутым сэрцам,
Апошні свой скарб аддаю.

Тэрмін «смерць аўтара» ўвёў французскі філосаф і літаратурны крытык Ралан Барт. Гэта з'ява, пры якой твор перастае належаць табе пасля апошняй напісанай літары, а становіцца скарбам усяго свету, нібыта тваёй рукой кіраваў не ты сам. Гэта можна сказаць і пра Максіма Багдановіча. Можа, таму ён так мала і пражыў, што ўкладаў у кожны свой верш, у кожнае слова часцінку сябе, а потым дарыў яе Сусвету. Максім Танк так характарызаваў творчасць маладога літаратара: «Ёсць паэты, якія пішуць творы, каб потым з іх выдаць выбранае, але ёсць паэты, якія пішуць толькі выбранае. Да такіх належыць Максім Багдановіч». І калі гаварыць, што з кожным вершам ён аддае частку сябе, свайго таленту, натхнення і жыццёвай моцы, то нельга яму было пісаць штосьці няякаснае. Цяжкая хвароба і абмежаваны час жыцця слабых людзей знішчаюць, а моцным даюць магчымасць зрабіць той максімум, на які яны здольны. Барыс Пастарнак прывёў вельмі трапную аналогію: «Лепей быць таленавітай скарынкай чорнага хлеба, чым неталенавітым перакладчыкам». Лепей рабіць сваю маленькую справу, але рабіць яе якасна, бо, акрамя цябе, яе не зробіць ніхто. Аднак найлепшы варыянт — рабіць вялікую справу, прайшоўшы дзеля яе праз выпрабаванні, ахвяраваўшы шмат чым, бо тады яна не будзе дарэмнай. Хто ведае, як павярнуўся б лёс Максіма Багдановіча, калі б у яго было яшчэ сорак ці пяцьдзясят гадоў наперадзе? Камусьці наканавана лёсам быць заўсёды маладым — у думках, творчасці, жыцці і нават у смерці, у памяці іншых людзей. Хоць і прымушаюць задумацца словы Эдуарда Акуліна:

Максім, не вяртайся з далёкае Ялты:
Цябе не пазнае тутэйшы народ.
Бо й сёння — сляпы ён, з нішчымнай душою,
Як колісь, калі ты пра гэта казаў…

Таццяна БАРЫСЮК

# Чалавек чалавеку...
## (Размова з класікамі: спроба аплікацыі)

*Homo homini lupus est*[1] —
*Чалавек чалавеку воўк...*
*І адзін аднога з'есць,*
*Калі ў сэрцах іх «666»*
*І суцэльны жахлівы змрок.*

*Homo homini amicus est* —
*Чалавек чалавеку сябар...*
*Прыгажосць ці ўратуе свет*[2]
*Ад дысгармоніяў бед*
*І зайздрасці жабаў?*

*Homo homini Deus est*[3]
*Чалавек чалавеку — Бог.*
*Абсалют. Ідэал. Паэт...*
*Бо імкнецца да мрой і мэт.*
*Бо «мы разам ляцім да зор»*[4]*!*

---

1. *Плаўт.*
2. *Паводле думкі Ф. Дастаеўскага.*
3. *Статый.*
4. *М. Багдановіч.*

Вікторыя ЯГОРАВА

# БОЛЬШАСЦЬ СПЫНЯЕЦЦА ДЗЕСЬЦІ Ў ДАРОЗЕ



***Вікторыя Ягорава нарадзілася 24 лістапада 1985 года ў Мінску. Выкладчыца англійскай мовы. Як беларускамоўны аўтар выступае ўпершыню. На дэбют натхнілі чужыя беларускія вершы і песні. Так бывае...***

* * *

Прагну жыцця. Неабсяжных прастораў.
Мора, і ветру, і шэпту зарніц.
Мне не стрымаць маю волю. Учора,
Сёння і заўтра не падаю ніц.

Вышай за горы, мацней за каханне
Будзе нарэшце малітва мая,
Я не жабрак, не хачу спачування,
Асэнсавана: я — наўпрост я.

Большасць спыняецца дзесьці ў дарозе,
Шчырасць і веру згубіўшы навек,
Я не хачу прабірацца ў трывозе,
Я заяўляю, што я — чалавек.

Нудзяць і нудзяць дарэмныя людзі,
Сховішчы, вогнішчы ладзяць свае,
Правая — чыстая, левая — ў брудзе,
Маюць усё, а душы не стае.

Прагну жыцця. Захаваць паспяшаю
Вобразы, думкі, пачуцці і сны,
Моц — гэта тое, што я адчуваю,
«Я» прагучыць, і пачуюць яны!

* * *

У сэрцы прарасло каханне,
Ад каранёў яго балюча,
І ўжо не першае спатканне
Чакаю поглядаў гаючых.

Дарма чакаю, бо не варта
Спяліць каханне ў адзіноце,
Ды што рабіць — расце ўпарта
Насупраціў маёй самоце.

Я вытравіць яго хацела,
Спаліць ці напаіць атрутай,

Ды зноўку адчувае цела,
Як парастак цвіце пакутай.

Чаму — пытаць не перастану, —
Амур паслаў стралу ліхую,
Дакуль трываць, як ныюць раны?
Імгнення цішыні прашу я.

А парастак чырвонай кветкай
Зазіхацеў, ды так няшчадна…
О Божа, дзе дастаць мне лекаў?
О Божа, як прабачыць здраду?

Скажы! Як скажаш, так і будзе:
Мне кветку падарыць ці знішчыць?
Раздаць сваё каханне людзям
Ці голас свой да шэпту сцішыць?

Скажы — я слухаю сумленна, —
Ці так, ці не. Прыму, як будзе.
Я прагну жыць. Жыццё бясцэнна,
Пакуль каханне поўніць грудзі.

* * *

Ці пакахаю, ці пакахаюць —
Калейдаскоп жыцця.
Не забароняць шукаць і марыць,
Не забароняць «Я».

Хтосьці навучыць пад сонцам лётаць,
Вучыш кагосьці ты,
Што да падзення — дык гэта вопыт,
гэта «палётны» стыль.

Межамі лічаць маё бязмежжа,
Я — пазамежны дух,
Вецер свабоды, дзёрзкі і свежы,
Мой расхіснуў кажух.

Плыць ў неглыбокай вадзе абрыдла,
Сорам вакол ды сум,
Я папрашу мне аловак выдаць,
Каб перакрэсліць doom.

Мінімум рэчаў — і так глыбока,
Што зіхаціць ў вачах,
Гэта мой шлях і мая істота.
Хай захлынецца страх!

Хто пакахае — углыб і поруч
Разам з каханым плыць,
Ззяюць над морам і намі зоры…
Перамагаючы — жыць!

* * *

Хмаркі ласкавыя, мне б дакрануцца да неба,
Крокамі ціхімі восень прайшла па зямлі,
Думкі суцішацца! Толькі суцішыцца трэба,
Думкі, навошта вы ў сэрцы прытулак знайшлі?

Я адчуваю, што боль накаціў, быццам хваля,
Божа, чаму так маркотна сустрэчы чакаць,
У нетрах глыбін, у халодных заснежаных далях,
Хто мне дарue магчымасць цябе пакахаць?

Хмаркі ласкавыя, дождж паратунак прыносіць,
Думкі, пачуцці і кроплі на вуснах дрыжаць,
П’ю гэты дождж, як празрыстая шклянка, і — досыць!
Досыць, бо ёсць яшчэ песні і сілы спяваць!

*Ксенія ШТАЛЕНКОВА*

# СІТУАЦЫЯ POST



***Ксенія Шталенкова нарадзілася 23 жніўня 1992 года ў Мінску. Вучылася ў лінгвістычнай гімназіі № 11. Друкавалася ў часопісе «Бярозка». Акрамя літаратурнай творчасці вывучае графічны дызайн і актыўна прымае ўдзел у конкурсах гэтага профілю. Аўтар рамана «Адваротны бок люстэрка».***

— Цяпер трэба разабрацца, як нам дзейнічаць. Галоўнае — логіка! Шэрае рэчыва, шэрае рэчыва... Клетачкі, — блытана мармытаў Пуаро, намагаючыся захаваць сур'ёзны выгляд.

— Лепей зірніце на ўласныя боты! — раздражнёна кашлянуў Фёдар Міхайлавіч. — А то ўсё «клетачкі-клетачкі» яму.

— Я кажу, папера ў клетачку, ці вы не заўважылі, мсье Дастаеўскі? — з выклікам паглядзеў на яго Пуаро і ўзяўся адціраць насоўкай прыліплую да лакавых штыблетаў кроў. — Мне заўжды здавалася, што вы мусіце быць пільны да дробязей.

— Я і ёсць пільны да дробязей!

— Але я пільнейшы! Шэрае рэчыва…

— Гера, Гера, не ганашыцца! — адгукнуўся з кута Конан Дойль, перадаючы рукапіс Караткевічу. — Вы толькі паслухайце, што тут напісана: пісталеты зброевага завода Фабержэ!

— Пісталеты? — ледзь не задыхнуўся Дастаеўскі. — Не, вядома, чуў, што яго яйкі захоўваюцца ў Зброевай палаце…

— Яйкі? — ажывіўся Пуаро. — А астатнія часткі цела дзе пахаваныя?

— Ну, што вы хочаце — немчура, — з пагардай прамовіў сэр Артур, далікатна абыходзячы галоўнае пытанне.

— Асабіста я не разумею, пры чым тут сярпы… Якая тут насамрэч сувязь? — не вытрымаў Караткевіч і кінуў стос, які ён трымаў у руках, на падлогу.

— Я таксама ад пачатку задаваў сабе гэтае пытанне, — Пуаро падхапіў некалькі аркушыкаў і прыняў тэатральную паставу. — Якая ж сувязь паміж усімі гэтымі фактамі?

— І якая ж? — астатнія ўзнялі поўныя спадзеву вочы.

Пуаро абвёў усіх пераможным позіркам.

— АНІЯКАЯ!!! — загарлапаніў ён і выхапіў з-за пазухі бутэльку хераса.

— Нешта ён перанерваваўся, — давяральна шапнуў Фёдар Міхайлавіч Уладзіміру Сямёнавічу. — Дарэчы, зямляк, як лічыце, што рабіць з гэтым?

— Спаліць! — умяшаўся ў іх размову Конан Дойль, падкінуўшы некалькі аркушаў угору.

— Ой не, гэта нельга, — пакруціў галавой Караткевіч. — А то яшчэ Міхал Апанасавіч завітае…

— Тады скарыстаць па прызначэнні! — рагатнуў Пуаро.

— Гера, вы маўчыце! — пагразіў яму сэр Артур. — Вы ж выдуманы.

— Сапраўды, што вы тут робіце, калі вы персанаж і, больш за тое, не нашых твораў? — патрабавальна спытаў Дастаеўскі.

— Пффф, — п'яна захіхікаў Пуаро. — Вунь Конан-Варвар увогуле англічанін…

— З гэтым не паспрачаешся, — кіўнулі адно аднаму Караткевіч і Дастаеўскі ды накіравалі да Артура падазроныя позіркі.

— Вы б лепей думалі, што з доказамі рабіць! — абражана раздзьмуў ноздры той і рэзка адвярнуўся, накіраваўшыся да стала. — Дарэчы, пячэнек ніхто не хоча?

— Я хачу пячэньку, — нудна прабурчаў Пуаро, тулячыся да сценкі лбом.

— А ёсць? — падаў голас Дастаеўскі.

— Ну, — прахрумстаў Дойль. — У яе тут увесь стол у пячэньках.

— Ну, разумнік! — ухваліў яго Караткевіч. — Яшчэ след ад зубоў свой пакінь, каб нас потым знайшлі, як Фокса.

Дойль задумаўся, а потым сеў на падлогу каля стала і ціхенька заплакаў.

— Ды годзе табе, — прымірэнча кінуў яму Караткевіч. — Ужо ж нічога не зробіш. Фёдар, давай вырашай, што рабіць. Бабулькі па тваёй частцы.

— Усё пакінуць як ёсць, каштоўнасці забраць, схаваць пад каменем, потым павініцца, — паціснуў плячыма Дастаеўскі.

— Не, гэта зусім не маніфік, — прагугнеў Пуаро. — З першым пунктам я згодны, а астатнімі прапаную манкіраваць.

— Праўда. Хто нас знойдзе! — павесялеў Дойль і бадзёра высмаркаўся ў плюшавы абрус.

— Ну, глядзіце, — папярэдзіў Фёдар Міхайлавіч. — Мне мой варыянт больш падабаецца.

— І мне мой таксама, — па-дзіцячы ўсміхуўся яму Пуаро.

— І мне мой, — крэкчучы, узняўся на ногі сэр Артур.

— Цудоўна! Вось нарэшце і дамовіліся! — зухавата падхапіўся са стула Караткевіч і працягнуў руку за палітом і капелюшом. — А то мне яшчэ на коннае пола сёння. Стасік трэнерам паклікаў…

Яны хуценька сабраліся і, весела смеючыся і перакідваючыся жартамі, пайшлі вонкі, пакінуўшы пераблытаны і раскіданы рукапіс на падлозе побач з масіўнай пішучай машынкай маркі «Ундэрвуд», якая цяпер замяняла галаву бабульцы-графаманцы, што паўпрыкрытая плюшавым абрусам ляжала пад сталом.

# ТАЯМНІЦА

— П'ем! П'ем за героя!!! гарланілі яго таварышы, ляпаючы героя па плячы і ўздымаючы кубкі ў ягоны гонар.

Ён толькі шчасліва пасміхаўся, радаваўся ды піў разам з імі, бо сёння ён стаўся сапраўдным героем. Самы малады з усёй дружыны, але ўдача была менавіта на яго баку, бо гэта ён здолеў абраць патрэбны момант і нанесці смяротны ўдар у сэрца цмока, калі, здавалася, што ніхто не вернецца дадому жывым, калі ўжо не адзін яго таварыш ляжаў мёртвы, а яшчэ больш былі паранены і апалены. Але ён вытрываў і забіў пачвару, скончыўшы адным ударам усё ліха, ад якога пакутавала гэтая зямля і гэты народ.

Нават не паспеўшы пахаваць сяброў, што загінулі падчас бойкі, яны, брудныя ды потныя, развялі вогнішча ды пачалі святкаваць, як дзікуны, бо шчасце перамогі было мацнейшае за гаркоту страты, і нішто не магло яе стрымаць.

— Налі яму яшчэ кубак! — закамандаваў хтосьці са старэйшых ваяроў, і герою паднеслі вялізную чару.

Ён абвёў усіх хітрым позіркам ды, схапіўшы чару, зухавата ўскочыў на смярдзючую галаву цмока, якую яны адсеклі, калі ўсё скончылася, ды прыцягнулі сюды, каб можна было як след пакпіць з пачвары.

— Няхай нашыя нашчадкі жывуць без ліха сто стагоддзяў! — звонка крыкнуў герой, і кожны з дружыннікаў голасна адгукнуўся на яго па-юнацку наіўны, але прыгожы заклік — «Няхай!»

Смяротна п'яныя і стомленыя ваяры ляжалі вакол вогнішча, і ад іх храпу дрыжала зямля. Толькі юны герой не знаходзіў у сабе сілы заснуць. Ён думаў у цемры пра бойку, цмока, перамогу. Яму ўзгадвалася, як яны выпраўляліся ў дарогу, як ім кідалі кветкі жанчыны і дзеці, як яны абяцалі, што адолеюць пачвару і вернуцца дадому жывымі. Яны ішлі ў гэтую зямлю, каб перамагчы цмока, каб пазбавіць яго моцы і здабыць, акрамя багаццяў, якія мусілі стаць платай за іх цяжкую працу, тую таямніцу, патаемныя веды, якія ён так даўно хаваў ад людзей.

Герой верыў у перамогу. Верыў горача, бо адчуваў, што ад яго веры будзе залежаць вынік бойкі. Інакш ён не стаў бы героем.

Але яму было трывожна. Больш за слодыч ад уласнай перамогі яго пякло жаданне даведацца, што за таямніцу хаваў ад іх на працягу стольких стагоддзяў цмок. Ён не мог спаць. У хмяльной галаве кружыліся думкі, што не давалі спакою.

Не могучы больш трываць, герой прыслухаўся да храпу таварышаў і, упэўніўшыся, што ўсе спяць, ціхенька ўзняўся, запаліў ад вогнішча невялікую паходню і пакраўся ў бок пячоры.

Ён зноў убачыў безгаловае тулава. Святла ад паходні было дастаткова, каб разгледзець бледную шурпатую скуру, спярэшчаную рудымі плямамі, якія часта можна ўбачыць на руках старых з яго мясцін. Відаць, і гэты цмок быў ужо вельмі стары. Мо таму ў іх і атрымалася перамагчы яго, магчыма, раней ён быў больш магутны.

Герой павярнуўся да ўвахода ў пячору. Сэрца зноўку затрапятала, але цікаўнасць была мацнейшая за страх. Ён рашуча пакрочыў унутр, не ведаючы, чаго яму чакаць, але не паспеў ён асвяціць пячору на ўваходзе, як ледзь не спатыкнуўся.

Ён чакаў убачыць што заўгодна, але толькі не гэта. Не даяраючы ўласным вачам, герой стаяў у разгубленасці і ашаломлена пазіраў у пустэчу перад сабой. Дакладней, тут было не зусім пуста. На падлозе валяліся абсмактаныя косткі кароў і коз, а больш нічога ў гэтай вялізнай няўтульнай пячоры не было. Нават золата ніякага не мелася.

Спачатку герой падумаў, што хтосьці паспеў пабываць тут перад ім. Але ён сам бачыў, што ніхто з яго таварышаў не адыходзіў ад вогнішча. Да таго ж, калі б тут мелася багацце, яго нельга было б вынесці ўпотайкі. А пакуль цмок быў яшчэ жывы, ніхто б не здолеў патрапіць у яго логава. Пэўна, пячора вельмі глыбокая, і скарбы хаваюцца дзесці далей…

Ён абышоў яе ўсю, абмацаў кожны куточак ды праверыў кожны каменьчык. Ён бегаў, свяціў паходняй на кожную цёмную плямку, па некалькі разоў абстукваў і біўся ў сцены, пакуль не зразумеў, што, акрамя костак, цмок нічога тут не хаваў. Ён проста жыў тут. Жыў, пакуль учора яны не забілі яго.

Змарнелы, ён выйшаў на дрыготкіх нагах з пячоры і апусціўся на камень побач з тым, што раней было пачварай. Світала, пачынаўся новы дзень, і першыя промні кранулі залітую крывёю зямлю. Герой плакаў. Плакаў над трупам забітага ім цмока.

*Ганна ЧУМАКОВА*

# У ГЭТЫХ СЛОВАХ ПРЫЦІШАНЫХ…

* * *

Вершы — дахі
Вершы — духі
Іх не бачаць — ім не трэба
Вершы — узмахі
Вершы — рухі
Ці то «з», а ці «да» Неба

Вершы — зоркі
У разорах
Пустазеллем прараслі
Вершы — мары
Вершы — мора
У выкананні Сальвадора —
Таго самага — Далі

Вершы — крыкі
Вершы — крокі
Непазбежнага ў цішы
І вярыгі
І вяроўка
Як на шыі, на душы

Вершы — брамы
Вершы — крамы
Замест хлеба — камяні
Вершы — хмары
Вершы — храмы
З запаветам: «Не змані!»…

* * *

Як хочацца, хочацца сонца!
Бясконцага і бясконца…
Наліваць бы яго поўны кубачак,
Смакаваць спакваля праз трубачку
З лёдам,
        Мёдам
                і долькай цытрыны…



***Ганна Чумакова нарадзілася 7 жніўня 1984 года ў Рагачове. Працуе настаўніцай беларускай мовы і літаратуры, друкуецца ў газетах і часопісах рэспубліканскага ўзроўню. Друкавалася ў калектыўным зборніку «Славянскія галасы Міжрэчча».***

На сусвет глядзець праз вітрыннае
Шкло кавярні.
Ад задавальнення —
Прызакрытыя вочы,
Прыадкрытыя вусны:
ПрамЕнь за прамЕнем —
Глыток за глыточкам…
Імгненні…
Імгненні…
«Паўночнай»
Маёй Беларусі.

* * *

Мора дзьмухае
Хвалямі
Хвалямі
Бы на апалены
Пальчык
Дзічячы:
Ціш-ш-ш-ш!
Ціш-ш-ш-ш!
Не плач!..

* * *

Ад дыску сонца да мора —
Промні —
Струны гітары.
Мелодыя ў ля-мінoры —
Музыка маёй мары…

* * *

Закахалася, як дзяўчо —
Ні гады, ні ўзрост не ў лік —
Так хачу за тваім плячом
Твар схаваць ад усёй зямлі.

Не ад сораму, мілы, не!..
(Што баяцца мне плёткіх слоў?!.)
Ты дазволь паглупелай мне
Захлынуцца тваім цяплом…
Без спадзеваў, планаў, надзей…
На імгненне адно — і няхай…

Снег на вусны твае ўпадзе
І, растаўшы, ўздыхне:
«Кахаю!..»

* * *

Нібыта горад
засыпаны хлорам
нябеснай санстанцыяй:
Дамы,
машыны,
звяры і людзі
у брудзе —
ТАМ маюць рацыю...

* * *

Зіма малюе на шкле — мастачка!
Нібыта знае, што ёсць трава.
З якіх эмоцый дастаць заначку
Да цёплых промняў пэратрываць?..

Перапівацца кубак за кубкам:
Кава, гарбата, крупнік, глінтвейн —
Пазногцем шкрабаць, крэмзаць і хукаць,
На зло, псуючы зімы «нятлен».

І хмыліць вусны крывой усмешкай:
— Студзіць, лютуе? — і хай сабе!..
Сарказм са здзекам — ужо хоць нешта
З дэпрэсам шэрым у барацьбе.

* * *

Заінелыя дрэвы, бы штучныя,
У празрыстай смузе цішыні…
Мы з табою расстаннямі змучаны,
Успамінамі крохкімі злучаны
І не можам нічога змяніць.

Клён стары, халадамі апалены,
За сырую камлю крану —
Ён калісьці дваіх нас памятаў,
Ён калісьці адным нас памятаў
І мяне не пазнаў адну…

Напужае варонаў карканне,
Ёлкі іней сыпне з-пад крыла…

Сярод гэтых сцяжынак паркавых
Заблукаю хадою шпаркаю,
Каб самота слядоў не знайшла…

* * *

Котка смяецца, на даху седзячы,
Гледзячы
На людзей,
Бо нідзе
Няма столькі смешнага,
Як у гэтых рухах збянтэжаных…
Бо нідзе
Няма столькі лішняга,
Як у гэтых словах прыцішаных…
Бо нідзе
Няма столькі грэшнага,
Як у гэтых думках прыспешаных…

Хіба што ў маіх вершах…

* * *

Кожнаму — свае крылы…
Каму — з пуху ды пер’я,
Каму — з жалеза ды сталі…
Каму — з нотаў,
Каму — з банкнотаў,
Каму — з вершаў,
А каму — з веры…
Галоўнае, каб лятаў!..

* * *

Кахаць, быць каханым —
імкненне і мэта
суцэльнага свету
і... Ханны.

* * *

Час, ты нібы мітуслівая цётка
У вечных бясконцых турботах…
Хочаш, я буду тваёю коткай,
Рудой і пяшчотна-лянотнай?..
Прыг! —
На каленях клубком згарнуся…
І, счараванае мурканнем,
Мо затрымаецца Сёння
На вуснах
Вільгаццю пацалункавай…

* * *

Я такая калматая сёння
З раніцы —
Заблукай у маіх валасах
Пальцамі…
Бы зярняткі шыпшыны казычуць
Плечы —
На сваім безыменным звяжы іх
Калечкам,
Неслухмяную пасмачку з твару згарні
Вуснамі…
Усё!..
Патрапіўся ты ў сілкі
Русыя!..

* * *

Хутка ужо
Хутка
Прыйдзе вясна
Прыйдзе
Здыме тугое футра
Стома сплыве на крызе
Грэю сваё чаканне
У рукавічцы ля сэрца
Хууууукну на шкло —
Растане
У новы сусвет акенца



*Алеся НІКІФАРАВА*

# АПАВЯДАННІ



***Алеся Нікіфарава нарадзілася 8 студзеня 1996 года ў Віцебску. Вучыцца ў Інстытуце журналістыкі БДУ. Калі выдыхае, то толькі рэзка. Калі заплюшчвае вочы, то толькі ў цягніку па дарозе дадому.***

## FESIT*

Я — на кухні, ахінутая цішынёй і ціканнем гадзін. Санліва распласталася па стале насупраць акна, таму зрэдку святло машынных фар лашчыла не толькі мэблю і непрывабныя шпалеры, але і твар. Бацькі павінны прыйсці з хвіліны на хвіліну. Пакуль жа я знемагала ад смутку, які, здавалася, выпараўся з мяне і стараўся запоўніць сабою пакой да краёў.

Паднялася і ад няма чаго рабіць, рушыла ў бацькоўскую спальню. Абапёрлася на дзвярны вушак, агледзела вартыя ўвагі рэчы, дазваляючы позірку настойліва пабадзяцца па кожнай паліцы, па кожнай шафе. Але сярод бацькоўскага бязладдзя доўга не знаходзілася лекаў ад смутку.

Нарэшце на прыложкавай тумбачцы я заўважыла часопіс. Яго каляровая вокладка здалася мне прыемым кантрастам з тужлівымі адценнямі астатняга ў пакоі, таму вельмі прывабіла. Узяўшы часопіс у рукі, пагартала, адчула, як нос прыемна лашчыць пах друкарскай фарбы і зразумела: вось і лекі.

Кожную старонку выдання аздаблялі фотаздымкі. Майстры з усяго зямнога шара выдзіралі часцінкі прасторы і часу, адлюстроўваючы жыццё людзей, жывёл, гарадоў, краін. «Вялікі фотаздымак разбурае стандарты, стэрэатыпы» — такую назву меў артыкул, які апісваў гісторыі фатаграфій, што скалыхнулі ўсведамленне ўсяго свету.

Вось фота Стыва Мак-Карры. Пад чорнымі клубамі дыму ад падпаленых нафтавых свідравін вярблюды спрабуюць адшукаць ваду. Чорна-крывавы фотаздымак палохаў мяне.

— Соня, я дома!

А вось фота звычайнага рускага лесу. У прасветах шат ледзь-ледзь віднееецца неба. Праз паперу прасочваецца пах дрэў, травы, імху. Гладжу старонку часопіса, вось-вось адчую шурпатую кару пад пальцамі.

— Соня! — маці ўвайшла ў пакой. — Ты чаго не адгукаешся?

* Fesit (лат.) — спраўдзіў.

Я не адразу змагла адарвацца ад часопіса, таму падняла вочы крыху запознена.

— Што? А, ды я ўжо зачакалася вас. А тату дзе згубіла?

— У краму вырашыў забегчы, — маці прысела на ложак побач, не здымаючы паліто. — Цікавы часопіс? Спадабаўся?

— Вельмі.

Адгарнула некалькі старонак, дзе быў надрукаваны фотаздымак з лесам.

— Дык хто табе перашкаджае такія ж фота рабіць? — маці ўстала і накіравалася да дзвярэй. У пакоі было горача, а яна заставалася ў паліто. — Столькі неверагоднага вакол! Паспрабуй напісаць артыкул. Я табе нумар аднаго знаёмага дам, дамовішся пра сустрэчу на днях. Ён недалёка ад вакзала працуе, якраз мне білеты да цёткі купіш.

* * *

Напэўна, усе вы ведаеце гэты вакзал: шэры, нібы мёртвы. Вакол поўна лунаючых людзей, цяжкія валізы якіх не ў стане былі прыбіць да падлогі велізарнае жаданне хутчэй ляцець да сям'і, каханых, сяброў. Гравітацыя не распаўсюджваецца на чалавека, які спяшаецца на цягнік.

Увайшоўшы ў будынак, я прысела на адну з лавачак каля сцяны, каб хутчэй знайсці кашалёк.

— Ведаеш, я сёння твае джынсы знайшла. Ну, памятаеш, такія... Цёплыя. Валяліся ў самым куце шафы пад гарой сынавых рэчаў. Цяпер дома такі бардак...

Я павярнула галаву і ўбачыла бабулю: велізарныя вочы, шмат слаёў тонкага адзення, здавалася б, каляровага, але колер гэты выпарыўся разам з часам. Таму яна сядзела побач са мной пабляклая, шэрая, ведучы засохлую размову сама з сабою. Велізарныя вочы злавілі маю постаць.

— Як жа я цябе ненавіджу. Цягнеш на сябе маё жыццё, як коўдру, а я ад гэтага мерзну, злуюся. І вельмі сумую... Ва ўсіх ёсць вопыт кахання. І чамусьці ва ўсіх ён няўдалы.

Непамерныя вочы, што цяпер прастрэльвалі мой твар, патрабавалі якой-небудзь рэакцыі, аднак я не знайшла адказу. Старая працягнула:

— Калі прыслухацца, то гадзіны крочаць, ведаеш. Крок. Я чую яго, бадзёрага, вольнага, стрыманага, ціхага. Я з ног валюся, так хочацца спаць. Я падалася наперад і прытулілася лбом да шыбы, зажмурылася, у горле пачало пяршыць. Страшэнная халадэча. Так было, калі мне сказалі, што ў мужа сардэчны прыступ. Час пайшоў па-ціху…

Бабуля ўздыхнула і патлумачыла:

— Сын з тых часоў і не тэлефануе нават.

Я запусціла руку ў сумку, шукаючы кашалёк і не зводзячы вачэй з апавядальніцы, можа, злёгку разгубленая і няўпэўненая.

— Мая бабуля амаль нічога не бачыла на апошніх гадах свайго жыцця. Яна адрознівала толькі сілуэты людзей. Я, мама і бабуля былі вельмі блізкія, а старая нават не ведала, як выглядаюць яе ўнучка і дачка. І, нічога не бачачы, яна літаральна па цені чытала настрой і, здавалася, думкі.

Нешта здарылася з новым пакаленнем. Зламалася. Яно ўжо не такое праніклівае. А ты заўважыў, як людзі вакол вырашаюць праблемы? Крычаць адно на аднаго, потым крыўдзяцца.

Ва ўсіх ёсць вопыт кахання. І чамусьці ва ўсіх ён няўдалы…

Мы з табой не сварымся толькі таму, што ты мне не адказваеш. Ты б сказаў, маўляў, жыві і дай жыць іншым. Жыві. Паспрабуй тут пажыць… Сын не тэлефануе нават.

Я ціха ўстала і няспешна адышла. Доўга не магла вырашыць: адказаць штонебудзь незнаёмай ці не. Не адказала. Толькі на выхадзе з вакзала зрабіла здымак: шэраг вакзальных лавачак, па-ранейшаму лунаючыя рознакаляровыя людзі і шэрая бабуля.

* * *

Мяне правялі да дзвярэй кабінета Нісона Варваравіча. Я доўга хвалявалася і спрабавала пераканаць сябе, што не забуду прыгатаваныя загадзя пытанні. Удыхнула, пастукала, адчыніла дзверы. У крэсле за сталом сядзеў прыгожы стары: квітнеючыя чырванню шчокі, белыя вусы, дзіўна доўгія зграбныя рукі. Скура была схоплена загарам і дзіўна кантраставала з пасівелымі валасамі. Нісон размаўляў па тэлефоне, таму, калі я зайшла і павіталася паўшэптам, ён, не адрываючыся ад размовы, усміхнуўся і жэстам паказаў мне на крэсла насупраць стала.

Ён часам круціў пальцамі аловак.

— Гэта самая слаўная песня, якую я ведаю, — прамовіў ён адразу, паклаўшы трубку. Па радыё грала класічная музыка. Я забыла пра ўсе пытанні.

— Я вельмі ўдзячная, што вы пагадзіліся пагаварыць са мной.

— Хутка ціхі час, так што мне давядзецца вас пакінуць. Справімся за паўгадзіны, як думаеце?

— Канешне. — Я памарудзіла. — Дык вось. Дзіцячы дом. Дзеці. Сорак гадоў. Дзіўна!

— Не дзіўна, калі разумееш, што клопат пра дзяцей — тваё рамяство.

— Так, але ж усё мае пачатак. Дык як жа вы зразумелі, што гэта ваша пакліканне?

— Па адукацыі я настаўнік гісторыі, а ў дзіцячы дом трапіў выпадкова: проста з жонкай жылі побач. Мы з ёй не маглі завесці дзяцей, але мне хацелася дапамагаць… Гэтыя дзеці дзівяць сваёй падзякай. І ў кожнага свой характар. Спецыяльна стараешся падзяліць сваю любоў на ўсіх, нельга любіць адно дзіця. Быў усё ж адзін хлопчык, які запаў у душу болей за ўсіх. Яго звалі Улас, сустрэліся, як толькі я прыйшоў працаваць у дзіцячы дом.

Ён быў неверагодна таленавіты. Але ніколі не мог засяродзіцца на адным занятку, занадта распыляў увагу. Каб сканцэнтравацца, пачалі развіваць органы пачуццяў. Гэта была гульня. Напрыклад, па паху адгадвалі, што давалі на сняданак.

Вось так мы змагаліся з Уласам.

Яшчэ была Арно. Адно вока ў яе блакітнае, другое — карычневае. Увогуле, самае незвычайнае ў дзетдомаўскіх дзетках — гэта вочы. Яны ў іх чыстыя, светлыя. Побач з імі пачынаеш задумвацца, які ты ёсць. А вочы Арно дык зусім дзіва. Мусіць, у мінулым жыцці яна была чараўніцай.

А вось Юхім быў свечнікам: заўсёды пасля адбою бег самастойна святло выключаць.

Для гэтых дзяцей нічога не шкада. Мабыць, таму я дадому практычна ніколі не прыходжу своечасова…

Напрыканцы я папрасіла Нісона Варваравіча аб фатаграфіі. Без сваіх дзяцей ён фатаграфавацца не захацеў, таму сабралі некалькі дзіцячых груп. Шчаслівы мужчына, акружаны дзецьмі.

Ідучы дадому, я зноў прыгадала вобраз Нісона Варваравіча ў думках. Рукі. Кожны раз, гледзячы, як ён круціць рукою аловак, распавядаючы пра свае даўнія «войны», я думала: «Хацелася б, каб у мяне былі такія рукі і такое жыццё, пра якое ён так захоплена гаварыў». Мне спадабаўся гэты чалавек. Ён проста прагінаўся ад успамінаў. Магчыма, ён крывіў душой, але так робяць усе людзі ў пэўных межах.

* * *

Я ўзяла тэлефон у рукі, калі той зазваніў, і прабегла вачыма па кожнай лічбе нумара рэдакцыі. Я адправіла туды два артыкула: пра Нісона Варваравіча і старую з вакзала. П'янлівае пачуццё захаплення, якое я адчувала ў той момант, было мне лепшай узнагародай.

— Я наконт вашых артыкулаў. Са шкадаваннем паведамляем, што не можам апублікаваць гэты матэрыял. У нумары не хапае месца, паспрабуйце прынесці яго пазней, — прамовіў мне жаночы голас.

На месцы слоў, якія здаваліся мне такімі важнымі, надрукавалі фотаздымкі майго горада. Я ўсё не магла зразумець: чаму прыгожыя віды важнейшыя за людзей, што незваротна аддалі жыццё дзецям?

З таго дня мінула шмат часу. Матэрыялы надрукавалі, але не гэта самае галоўнае. З той пары мне ніколі не прыходзілася папракаць сябе за бяздзейнасць. І надалей не прыйдзецца, пакуль я жывая.

У жыцці заўсёды трэба за нешта змагацца. І яшчэ: «Ва ўсіх ёсць вопыт кахання. І чамусьці ва ўсіх ён няўдалы».

## AUDENTES FORTUNA JUVAT*

Восень. Незамутнёна-блакітны дождж. Забягаючы ў краму, я хаваюся ад гэтай лёгкай вады, ратуючы ад лужын боты. Мабыць, адзінае, што мне не падабаецца ў восені — мокрыя ногі. Пад дахам крамы разам са мной стаялі людзі. Сумныя, задуменныя, глядзелі яны на дождж, быццам кожнаму ў сэрца выстралілі чаргой журботных думак. Каб не паддавацца такой апатычнай атмасферы, я пайшла па залах, нягледзячы на тое, што не жадала нешта купляць. Хлеб. Малако. Рыба. Бытавая хімія. Такая маленькая крама, але так многа ўсяго, растаўленага ў хаатычным парадку то тут, то там. Зразумела, усё ў нашым жыцці трымаецца на вэрхале.

Мінаючы хлебны аддзел, я пачула размову дзвюх супрацоўніц.

— Вось ужо гэтыя фільмы! Адзіны талент рэжысёра прымушае чалавека адчуваць сябе няшчасным! У гэтай Мэры Даунтон было ўсё, чаго яна толькі магла пажадаць, як можна было ад усяго адмовіцца дзеля любові! Была б я на яе месцы…

— Але ж ты не на яе месцы, — трошкі грубавата перапыніла сяброўку іншая прадаўшчыца.

Уздоўж полак з булкамі, міма жанчын, прайшла сям'я. Наперадзе крочыў маленькі хлопчык, што тупаў з пліткі на плітку, як гэта часта з захапленнем робіць малеча.

— Пяць, чатыры, тры, два, адзін… — павольна палічыў свае крокі хлопык, пакуль сяброўкі сачылі за яго рухам. Калі ж дзіцёнак з бацькамі зніклі з поля зроку, першая жанчына прамовіла:

— Ведаеш, к чорту Мэры Даунтон! Я ж вось не так даўно пераехала, цяпер на работу будзе лягчэй дабірацца. Мабыць, мне кошку трэба завесці? Хаця... Часу няма, хто за ёй сачыць будзе?

Адказу на пытанне я ўжо не пачула: вырашыла выбірацца з крамы і ісці дадому. Ці то надвор'е было па-восеньску панурае, змрочнае, што так імкнулася наштур-

* Audentes fortuna juvat (лат.) — шчасце спадарожнічае адважным.

хнуць на думкі, ці то ўвесь Мінск спантанна дайшоў да моманту, калі пачаў перасэнсоўваць сваё жыццё. Але я ішла, а ў кожнага на твары было напісана: «А ці не завесці мне кошку?»

* * *

Я прыйшла дамоў. З-за кропель дажджу, што сцякалі па маёй куртцы і валасах, на дыване ў прыхожай утварылася лужынка. «Высахне», — падумала я і рушыла ў свой пакой, скідваючы мокрыя боты, якія абуджалі брыдкі холад у нагах. Цяпер за мной цягнулася сцежка вільготных слядоў ад шкарпэтак.

Дзверы ў пакой малодшага брата былі зачынены, але я пачула тупат, які суправаджаўся пявучым рыпам падлогі. Адчыніўшы дзверы, убачыла: Гай смешна скача па пакоі ў навушніках, трымаючы ў руках нябачную гітару. Час ад часу ён мяняў пальцамі левай рукі акорды і падпяваў бязгучным голасам. Калі выступленне дасягнула апагея, ён развярнуўся і заўважыў мяне, збянтэжыўшыся.

— Што ты тут робіш?! — абурана-дрыготкім голасам усклікнуў Гай.

Яго чорныя валасы былі раскудлачаны, а цёмныя вочы глядзелі зусім не прыязна. Я заўсёды любіла ў людзях святло. Нягледзячы на трошкі змрочную знешнасць, узлахмачанасць і нежаданне бачыць мяне ў гэты момант, у Гая святла было звышдастаткова. Хлопчык і не здагадваўся нават, як ад яго хвалямі разносілася элементарнае шчасце ды задавальненне, калі ён вось так скакаў па пакоі з неіснуючым музычным інструментам.

— Нічога, — усміхнулася я, — цябе б у музычную школу.

Брат прыкметна пасур'ёзнеў, пускаючы па твары цень хвалявання:

— Ты ж ведаеш. Бацькі зноў скажуць: «Нельга марнаваць час дарэмна. І так з вучобай не ўпраўляешся».

Я спачувальна падціснула вусны, маўляў, гэта так. З бацькамі спрачацца бессэнсоўна.

За вячэрай елі моўчкі. Бацька быў празмерна змораны і пасля нясцерпнага працоўнага дня ледзь трымаўся на нагах. За сталом ён сядзеў згорбіўшыся, зняможана ўспёршыся галавой на руку. З ім нават гутарыць не хацелася: адно слова — і бацькоўская санлівая задуменнасць зруйнуецца. Маці ж была жывейшай за бацьку, таму з пытаннем я звярнулася менавіта да яе:

— Ма?

— М?

— Я сёння бачыла, як Гай з розуму сыходзіць.

— Які раз… Зноўку хатняе заданне не зрабіў?

— Ды не, проста… Давайце яму гітару купім? Гаю ж гэта сапраўды цікава.

Маці адмоўна пахітала галавой і адправіла мяне спаць. Праз дзесяць хвілін я ўжо ляжала і думала: дарослыя людзі часам такія няшчасныя. Ідзеш па горадзе, і здаецца, што толькі дзеці здольны шчыра радавацца ўсялякім нязначным дробязям. Дык чаму маці не хоча купіць Гаю гітару? Чаму пазбаўляе яго і так коўзкай магчымасці быць шчаслівым? Усе хочуць змен жыццёвых дэкарацый, няхай гэта будзе гітара або кошка, не важна. На той момант перамены асацыіраваліся ў мяне з дзедам-вандроўцам. Такое пачуццё, быццам ён уварвецца ў маё жыццё паўднёва-заходнім ветрам: жывым, пахкім, з такімі гісторыямі і таямніцамі, пра якія я і дакумекацца не магла б.

Але я б пабаялася ўпусціць гэтага старога. Вось і незнаёмая прадаўшчыца баялася, гэтак жа, як і маці.

## CONTRA SPENT SPERO*

Фары асвятлялі прасёлкавую дарогу, ахопліваючы сваім цьмяным святлом абыякавыя сілуэты дрэў, адзінокія прыдарожныя знакі, траву і далеч, напоўненую да краёў цішынёй. Гук, што нараджаўся ад сутыкнення шын і пяску з дробнымі каменьчыкамі, здаваўся цёплым і заспакойваючым. Перашкаджаў толькі холад, які заўсёды наганяў на меня страх. Гэтаксама, як будучая сустрэча з табой.

Ты патэлефанаваў учора і папрасіў прыехаць, нічога як след не патлумачыўшы. Нягледзячы на тое, што інтанацыя голасу не была трывожнай, я тут жа ўсхапілася з месца і выехала. Здзіўляцца няма чаму: я чакала гэтага званка вельмі доўга. Забальзамаваны перажытак мінулага — так я называла наша знаёмства.

Наперадзе замільгалі аднапавярховыя домікі. Я спынілася каля аднаго з іх і выйшла з машыны.

Ты заўсёды быў празмерна нязмушаным, ні да чаго не прывязаным, што многіх раздражняла. А я гэта любіла асабліва. Але ў нашы апошнія тыдні я стала прыкмячаць моманты, калі падчас размовы са мной у цябе раптам рабіліся пустыя вочы. Ёсць такія людзі — гавораць з вамі, а самі лунаюць дзесьці далёка. Я ведаю, што ты слухаў мяне, проста не чуў.

Так усё і скончылася.

Я падышла да доміка, які глянуўся мне здалёк. Сілуэт яго даху практычна не вылучаўся на фоне начнога неба, затое вабіў шолах саду. Шапталіся гукі. Таіліся цені.

— Дык гэта сапраўды канец, так? — спытала я, імкнучыся ўлавіць кожную эмоцыю на тваім твары.

Падсвядома разумела, што адказ будзе станоўчым. Злавіўшы вушамі глыбокі ўдых, усвядоміла ў чарговы раз, што са мной ты стомлена валок ногі. Вядома, мы маглі дурыцца як і раней, але рана ці позна весялосць зганяў набеглы цень тугі, суму, маркотных пакут.

Я ціха прабралася да дома і зазірнула ў акно. Акенца паказвала кухню. Стол, пліта, featured рознакаляровыя рондалі, кубкі, пярэсты абрус, падлога з дошак. А за сталом — пара пажылых людзей, якія няспешна пілі гарбату. Бабуля ўстала і накіравалася ў іншы пакой. Хоць праз акно да мяне не далятала ані гуку, магу паклясціся: я чула ўтульнае шорганне яе тэпцікаў. Дзядуля памыў посуд і накіраваўся следам. Святло ў доме згасла. Баючыся парушыць ідылію і разбіць звонкую цішыню гэтага дома, я вырашыла, што пераначую ў машыне. Дарогу змагу спытаць на трасе, гэтую вёску і не варта трывожыць. А ты ж ведаў, у што ўвязвацца. Я заўсёды шалёна думала то пра адно, то пра другое. Ніколі не ведала меры, любіла скардзіцца, знаходзіцца ў стане безадказнасці і рабіць усім на злосць нядобрыя ўчынкі. Ведаеш, і ўсё-такі ты патэлефанаваў.

Кожны варыцца ў сваім катле, кожны павінен быць шчаслівым, мець дом, каханага чалавека і тэпцікі, якія будуць гучна шоргаць. Так ужо атрымалася, што мы з табой дзелім адзін кацёл.

Я вярнулася да машыны, залезла ўнутр і паспрабавала зручна ўладкавацца.

«Усё можна выправіць», — падумала я наўздагон сваёй свядомасці, край якой ужо зачапіў сон. «Усё можна выправіць».

---

* Contra spent spero (лат.) — без спадзявання спадзяюся.

*Алесь* ЕМЯЛЬЯНАЎ-ШЫЛОВІЧ

# МОЙ ДОЖДЖ ПАЧЫНАЕЦЦА З...



***Алесь Емяльянаў-Шыловіч нарадзіўся 23 студзеня 1987 года ў Крычаве. Біёлаг па адукацыі, паэт і перакладчык па роду асноўных заняткаў, адзін з заснавальнікаў гурта «аРБа», лаўрэат літконкурсаў. Прапанаваная падборка прысвечана жонцы і прасякнута радасным прадчуваннем бацькоўства.***

## СОН

— паглядзі, мая любая, сонца ўсміхаецца з хмаркі?..
— замест сонца, мой любы, вочы бачаць
аблічча тваё!..

— адчуваеш ці, любая, паветра ядвабную сукню
на скуры?..
— ведаю, любы мой, то ласкавыя рукі твае!..

— чуеш, любая, калыханку хваляў марскіх?..
— знаю, любы, то словы кахання!..

— апякае гарачы пясок твае ступакі, і калені,
і спіну…
— гэта жарснае цела тваё, любы мой!..

— чуеш, любы, гамонку калядных званоў?!
белы снег на руках, на шчаках і ілбе?!

— не палохайся, любая, гэта мы засынаем з табой…
прытуліся бліжэй да мяне,
прытуліся бліжэй да мяне…

## ВЯСЁЛКА

аблокі пасля дажджу
падаюцца мокраю ватай,
якой непякучае мяккае сонца
працірала твар…

сонца, і вецер, і пара,
толькі цябе не відно…

мо захварэла?
калі так — то ачуньвай,
ачуньвай хутчэй і выходзь

## 1 ЖНІЎНЯ

аблокі, маляваныя мяккім алоўкам…
хіба гэтак пачынаўся дзень?
не толькі.
ён пачынаўся музычным эцюдам крокаў,
сімфоніяй цішыні
жнівеньскай ночы,
першай ночы,
калі мне цёпла і ўтульна,
бо ты са мною.

4:30 a. m. ідзем на прыпынак,
дзе бацька чакае, каб узяць цябе
ў грыбы.

ніколі не пісаў вершы ўранку,
вось і сёння сон перамог.

## МОЙ ДОЖДЖ

мой дождж пачынаецца з…
водару волкага дрэва,
крыкаў палёгкі шэрай травы,
якую вада вызваляе ад пыльнай лускі.
мой дождж працягваецца
і робіцца ўсё мацнейшым,
калі ты далёка —
нават будучы поруч,
бываеш далёка —
і тады мяне не ратуе
чаропіна парасона;
нібы сухую сцябліну,
цела малоцяць кроплі-цапы
мой дождж перапыняецца
вясёлкай тваёй усмешкі.

## АЛУСТОН

раніцай
жыццё пачынаецца
раніцай,
і дзіця, якое ўнутры цябе,
таксама народзіцца раніцай,
а пакуль Алустон намагаецца
скінуць соннае марыва,
што так марудна цягнецца
з вяршынь Бабугана…

тут
мора гораў
і горы мора,
тут
котак на метры квадратным
больш, чым курортнікаў,
тут
нас адшукала сталасць,
тут
пачалася восень…

заўтра раніцай
гэты горад пра нас забудзецца,
і ўспаміны паразлятаюцца,
нібы чаіцы.
мы калісьці прыедзем сюды.
таксама ўвосень.
і натуральна
раніцай!

* * *

чакаеш вершаў,
а я не чакаю — ведаю —
неўзабаве падорыш мне
найлепшую ў свеце паэму,
пакуль безыменную —
ведаеце ж як парою складана
прыдумаць назоў.

такую непаўторную
паэтычную форму
здатны адолець кожны.
яна пішацца на працягу 280 дзён,
а потым да пэўнай пары рэдагуецца.
галоўнае —
не выправіць яе да непазнавальнасці.

## СТАРЫ НОВЫ СНЕГ

…а нас з табой чакае снег,
нібы з дзіцячай мары
бязмежнае белае мора…
сумётаў выспы,
ялін цукровыя галіны,

сівыя бровы строгіх соснаў,
хмызоў бялюткія каралы,
жамчужныя каралі правадоў —
штоbecause разу цешаць вока,
калі мы, натуральна, не працуем
у жыллёва-камунальнай гаспадарцы

## АКНО

хацеў бы глядзець у акно
так адказаў бы на пытанне
чым жадаю займацца
глядзець у акно
назіраць як неба па-рэнуараўску
спалучае фарбы
пераходзячы са спектра ў спектр
невядомыя Photoshop'у
люблю глядзець у акно
птушкі кружляюць па коле
спрабуючы вылузнуцца
з паветраных віроў
мне нават пашчасціла
у нашым спаснулым мікрараёне
можна глядзець у акно
бачыць неба і сонца ў 3D фармаце
але
у нас нават ёсць зялёная зона
шкада
яна не
бачная з акна
ды толькі я ўсё адно
люблю глядзець у акно

## КАЛЯДНЫ

снег
пухнаты-пухнаты
на хвільку забег дадому
і ведаеш зразумеў
няведанне заўтра
кватэра ў арэнду
недахоп матэрыяльных сродкаў
цякучы на кухні кран
толькі кварц у пясочным гадзінніку

ён ні разу не варты
пяшчотнага мяккага снегу
які растае ў куточках воч
і слязінкаю шчасця
па твары сцякае

пухнаты-пухнаты снег



*Алесь БЫЧКОЎСКІ*

# АПАВЯДАННІ



***Алесь Бычкоўскі нарадзіўся 29 мая 1975 года ў Беразіно. Закончыў факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Друкаваўся ў рэспубліканскіх часопісах і газетах, калектыўных зборніках, расійскіх часопісах «Мир фантастики» і «Шалтай-Болтай». Аўтар кнігі прозы «Анамалія».***

## ПОМСТА

Мяне заўсёды хвалявала пытанне каштоўнасці жыцця ў вачах Божых і чалавечых. Тысячы гадоў мы забіваем адно аднаго ў бясконцых войнах. Мы не турбуемся пра дараванне грахоў, уласную веру пакуль не выспее час скону, і вечнасць не запатрабуе расплаты за зямныя здзяйсненні.

Я быў манахам ордэна Бярнарда Сіенскага, і ў мяне незвычайны лёс. Працяглы тэрмін я жыў у страху, але што ёсць страх? У любові няма страху, так кажа Бог. Але пра ўсё па парадку.

У годзе 1804 ад Нараджэння Хрыстова састарэлы генерал-лейтэнант, князь Ксаверый Любамірскі рыхтаваўся адысці з нашага не самага лепшага свету. Некалі магутны слуга імперыі ляжаў на прасторным ложы ў прыцемку свечак, акружаны дочкамі. І куды падзявалася грозная пыха? Перад сабой я ўбачыў змарнелае цела нямоглага старца.

— Даруй мне, ойча, бо я саграшыў, — з тугой прасіпеў князь.

Хрысціяне часта робяць тое, чаго не рабіў бы Хрыстос. Я маліў Бога не забыцца на мэту майго візіту: спавядаць князя і даць апошняе прычасце. Божае ён атрымае, але ўласна я ці змагу дараваць князю як чалавек?

Дочкі смуткавалі. Я паказаў жэстам усім пакінуць пакой і застаўся з паміраючым сам-насам.

— Бог прыме з мірам дух і суцешыць вашу міласць, калі прыняць Хрыста з верай як Госпада і Збавіцеля і паспавядацца.

Князь папрасіў наблізіцца і паказаў сесці ў фатэль побач з ложкам. Я прысеў, сабраўся слухаць. У горле князя Любамірскага забулькала, ён пракашляўся. Я паправіў пад ім падушку, не ўстаючы.

— Я здзейсніў страшны грэх, ойча, і зробленае даймае мяне.

«Я ведаю», — хацеў сказаць, але прадбачліва змаўчаў.

— Па начах мне не даюць жыцця цені, яны блукаюць паўсюдна, — вочы князя падкаціліся, ён зглытнуў.

Было прыкметна: чалавека даймае штосьці схаванае ў глыбінях не поўнасцю выпаленага сумлення, і перад блізкай сустрэчай з Усявышнім уладар мястэчка Дуброўна вырашыў скінуць цяжар.

— Кляштар… я памятаю стары кляштар, яшчэ драўляны, — сіпеў князь. — Яго збудаваў даўнейшы пан, гадоў з чатыраста таму.

— Ваша міласць воліла ўзвесці каменны замест драўлянага, — нагадаў я і пачціва схіліўся. — Заслуга вашай міласці перад Богам і матухнай каталіцкай царквой відавочная і не выклікае сумніву.

— Здарыўся пажар, — князь стомлена прыкрыў павекі. — Кляштар мусіў дашчэнту згарэць.

Я выдатна памятаў драматычныя падзеі шматгадовай даўнасці. Падзеі таямнічыя і змрочныя.

— Бог даруе таму, хто стаў прычынай полымя, — прамовіў я.

Павекі князя дрыгнулі і раскрыліся. Ён глядзеў пранізліва і з надзеяй. Затым ухапіў мяне за руку.

— Я. Я спаліў кляштар. Аддаў загад выпаліць усё дашчэнту. Каб і духу манаскага не засталося ў Дуброўне! — ён прыўзняўся і закашляўся. Перхаў доўга, пакуль не адкінуўся на падушкі.

Я маўчаў.

— Усяму, што мае пачатак, надыходзіць і канец, ойча, — загаварыў князь. — Я зразумеў, што саграшыў перад Богам і людзьмі. Але я жадаю ўсё распавесці падрабязна, нічога не выпускаючы. Я хачу, каб ты, ойча, мяне зразумеў. А з Богам я без цябе ўжо дамовіўся і часткова загладзіў віну. Загладжу яшчэ…

Імглістая павалока знікла з яго вачэй, погляд зрабіўся сур’ёзным і асэнсаваным.

— Нягожа мне паміраць у ложку падобна старой бабе, — наракаў генерал-лейтэнант. — Дапамажы мне прыўзняцца і дай віна.

Я зрабіў, як загадаў князь Любамірскі. Узяў са стала пузаты графін, наліў у срэбную чару старадаўняга вырабу і падаў хвораму. Ён шумна сербануў і вярнуў чару мне ў рукі. Затым здаволена адкінуўся, трохі пачакаў, пакуль цёмна-чырвонае віно разальецца па нутры, сагрэе цела.

— Цяпер слухай…

Я падрыхтаваўся.

— Ёсць у мяне любімая дачка Клемянціна…

Князь завёў свой доўгі расповед. У пакоі было горача, пылала полымя ў каміне, патрэсквалі свечкі. Я слухаў, паглыбляўся ў дрымоту ўспамінаў, час ад часу падносячы кубак да вуснаў старца. Малюнак з мінуўшчыны паўстаў перад вачыма. Рэальнасць завагалася і паплыла. Я быццам вярнуўся ў тыя гады…

Залішняй дабрынёй князь Любамірскі не адрозніваўся. Гаспадарыць у Дуброўне ён пачаў у 1791 годзе. Не паспеў з’явіцца ў маёнтку, як з усяе губерніі ў Дуброўна зачасціў чыноўны люд у спадзяванні адхапіць з панскай ласкі які кавалак патлусцей. Але скуль там. З чынамі, роўна як і з суседзямі, фанабэрыстай шляхтай, генерал-лейтэнант трымаўся на адлегласці.

Ганарлівы, незалежны, мсцівы, уладны князь адрозніваўся гарачнасцю ў характары і ўчынках. Адзіным чалавекам, хто мог паўплываць на ягоны нораў, была любімая дачка Клемянціна — прыгажуня. У яе прысутнасці князь мякчэў, збаўляў звычайную суровасць, вочы свяціліся пяшчотай.

Прыгажосць Клемянціны чаравала шляхцічаў, кружыла галовы ганарлівым панічам. Шмат знайшлося ахвотнікаў парадніцца з князем. Але спробы заваяваць сэрца дзяўчыны рассыпаліся гарохам — князёўна патыхала ледзяной непрыступнасцю.

Князь Любамірскі шукаў жаніха годнага паходжання. Доўга шукаў. Але, як сведчыць старадаўняя мудрасць, да пары збан ваду носіць. Аднойчы князю запатрабавалася тэрмінова адправіцца ў сталіцу імперыі. Выклікаўшы аканома Лускіна, гаспадар строга загадаў выконваць усе запатрабаванні князёўны. Ведаў бы, чым усё абернецца…

Праз некалькі дзён пасля адбыцця бацькі Клемянціна давала баль у палацы. У Дуброўна з'ехалася ўся павятовая шляхта.

Кубкі напаўняюцца шампанскім, хмельныя пары кружацца ў зале, танчаць, балююць і гудуць паны.

Сярод гасцей вылучаўся малады абшарнік Пётр Кройер — высокі прыгажун з галантнымі манерамі. Праўда, бедны. У параўнанні з княжымі мільёнамі ён быў «гол як кол». Але беднасць не загана, палічыла Клемянціна, адчуўшы цягу да прыгажуна. Яны разам танчылі ўвесь баль. Князёўне кружылі галаву далікатна-сціплыя дакрананні Кройера. Яе акрылялі гарачыя словы пяшчоты і кахання, вусны абшарніка вабілі князёўну, і тым вечарам здавалася, што свет існуе толькі для іх дваіх.

Ці ўзаемным, сапраўдным было іх каханне? Дакладна вядома, што Пётр Кройер захапляўся амурнымі прыгодамі, быў чалавекам з «сюрпрызам». Ён адразу пралічыў усе выгоды саюзу з князёўнай і натхніўся так моцна, што рашыўся на неверагодную рызыку: ісці да перамогі. Канфрантацыя з князем магла вылезці бокам, бо Любамірскі не любіў бедных прыхільнікаў дачкі.

На наступны пасля балю дзень Кройер з'явіўся ў Дуброўна інкогніта. Дачакаўшыся ночы, авантурнік пракраўся ў княжы палац праз чорны ход, які хтосьці прадбачліва не зачыніў на замок. З сабою Кройер прывёў двух манахаў бернардынскага кляштара. Незаўважанымі яны пракраліся ў пакой, дзе іх у млявым чаканні сустрэла ўсхваляваная Клемянціна.

Не адкладаючы справы, святыя айцы павянчалі закаханых, і яны сталі законнымі мужам і жонкай без бацькоўскага дазволу і блаславення генерал-лейтэнанта князя Любамірскага.

Адразу пасля шлюбу князёўна выклікала эканома Лускіна і загадала выдаць ёй усе наяўныя грошы ў палацы. Разгублены аканом, памятаючы наказ суровага гаспадара, кінуўся выконваць пажаданне князёўны. Як толькі значная сума асігнацый апынулася ў руках маладых, яны засабіраліся ў дарогу. Прасякнуты жахам няшчасны аканом моўчкі назіраў за ад'ездам карэты ад параднага ганка. Уцекачы ўзялі курс на Магілёў.

У Магілёве маладыя Кройеры ўголас абвясцілі пра смяротную пагрозу: маўляў, бацька маладой абавязкова заб'е зяця-прайдзісвета. У пэўным сэнсе яны мелі рацыю. Мсцівы князь быў хуткі на расправу. Выратаванне і абарону маладыя кінуліся шукаць у губернатара.

Пачуўшы гэтыя звесткі, не на жарт устрывожаны за ўласны лёс аканом Лускін неадкладна напісаў ліст князю і, адправіўшы ганца ў сталіцу, з трымценнем чакаў вяртання Любамірскага.

…У гэтым месце аповеду князь прыпыніўся, каб перадыхнуць. Я ўстаў, прайшоўся па пакоі. Пад сутанай па спіне прабег струмок поту, мне было душна. І не столькі ад гарачага каміна. Я глядзеў у акно. Дваровыя людзі спрабавалі ўтаймаваць жарабя. Брахаў сабака. У пакоі пахла воскам і старым целам. Я вярнуўся ў фатэль.

— Я любіў дачку, — прамовіў князь. — Жадаў ёй толькі лепшага. Слушна кажуць у народзе: за што змагаўся, тое і атрымаў…

Князь вярнуўся на зыходзе дня. Ён не гнявіўся, хаця быў бялей за крэйду, слухаючы тлумачэнні аканома. Моўчкі выслухаў, моўчкі павячэраў і накіраваўся ў свае

пакоі. Зямлю накрыла ноч, мястэчка пагрузілася ў цемру. Далей надарыліся падзеі трывожныя і злавесныя, якія спарадзілі мноства чутак па ўсёй акрузе.

Апоўначы полымя шуганула і асвятліла нябёсы над Дуброўна. Магутныя языкі агню накіраваліся да начных зорак. У гудзе полымя, быццам на балі ў апраметнай, закружыліся, затанчылі снапы іскраў. Агорнуты агнём з усіх бакоў, запалаў кляштар. Мурашамі мітусіліся людзі, панавала нібыта сусветная роспач, енкі і галасы маленняў. І хоць з пекла ўратаваліся ўсе, да світання на месцы кляштара засталіся смуродныя галавешкі.

А бліжэй да поўдня яшчэ адна журботная навіна ўскалыхнула Дуброўна. Каля берага Дняпра рыбакі вылавілі двух тапельцаў. То былі манахі: адзін з іх таемна абвянчаў князёўну Клемянціну з абшарнікам Пятром Кройерам, другі вызваўся быць сведкам. Страх ахапіў насельнікаў выпаленага манастыра. Разбегліся ўсе хто куды: хто ў лесе шукаў паратунку, хто ў суседніх кляштарах.

Людзі шапталіся. Трагедыя штодзень абрастала новымі дэталямі і чуткамі. Чаго толькі ні пляткарылі: і што манахі пагразлі ў непатрэбствах, за тое і пакараў Бог, і што супраць волі бацькі абвянчалі маладых, вось і наклікалі бяду. Адным словам, чутак у спакойным і ціхім Дуброўне хапіла на гады наперад.

Ваколіца няхутка супакоілася. Весткі пра пажар і гвалтоўную смерць двух служкаў Божых дакаціліся да сталіцы і трапілі ў вушы імператара Паўла Першага. А часы ж сталіся бязладныя. Па ўсіх губернях уводзіліся пасады фіскалаў, у абавязкі якіх уваходзіла «неадкладна даносіць пра злоўжыванне ўлад». Вось і прыехаў у Дуброўна генерал-губернатар Пасек, каб «даследваць справу на месцы». Ды так і з’ехаў ні з чым. Высветліў, што кляштар згарэў з-за неасцярожнага абыходжання з агнём, а манахі ўтапіліся самі.

Відаць, з гора.

Праўда, перад гэтай высноваю госць між справай выйграў у князя Любамірскага сто тысяч рублікаў у карты.

Дзіўна складваецца гульня чалавечых лёсаў. Часам мудрагелісцей, чым іншы пасьянс. У сваёй споведзі князь наблізіўся да галоўнага.

— Кляштар спалілі па маім загадзе, — сабраўшыся з духам, рашуча мовіў Любамірскі.

Я падняўся. Прайшоўся па пакоі. Застыў каля акна. Дваровыя людзі адводзілі жарабя на канюшню.

— Царква мне даруе? — у голасе чалавека, які нядаўна сцвярджаў, што дамовіўся з Богам, чулася трывога. Усё ж князь мусіў хутка з Богам пабачыцца ўласна.

Я азірнуўся. Вочы старога свяціліся маленнем, надзеяй і роспаччу.

— Чаму б і не? Вашамосць воліла пабудаваць новы кляштар на папялішчы. Каменны. Шматлікія аблудлыя душы здабылі тут спакой і мір.

— Яно так, — ціха пагадзіўся князь. Было чуваць цяжкое сіплае дыханне. Грудзі старога ўсхвалявана паднімаліся і апускуліся. — Я не сказаў, ойча, яшчэ аднаго. Гэта я загадаў утапіць тых манахаў, што тайна абвянчалі маю дачку з Кройерам.

Я наблізіўся. Князь заплюшчыў павекі, і на ягоным твары праступіла відавочнае палягчэнне.

— Я вінаваты. Цяжкі камень нашу ў душы. Я знішчыў невінаватых людзей. Любоў да дачкі асляпіла мой розум, засцяліла вочы.

— На жаль, князь, не любоў да дачкі, а твае амбіцыі, твая пыха, ганарлівасць прывялі да сумнага выніку, — цвёрда прамовіў я.

Мабыць, вельмі цвёрда. Князь імгненна адкрыў вочы і ўпіўся ў мяне цяжкім паглядам. Я адчуў, як ён напружыўся пад коўдрамі. Быццам гучней пачалі патрэскваць свечкі.

— Ойча, чаму мне так знаёмы твой твар? Мы сустракаліся даўней? Прыслужніца паведаміла, што ты новы ігумен у тутэйшых бернардынцаў, айцец Ансельм з Кракава.

Перад непазбежнасцю смерці князь не губляў веліч, але ўсё ж выглядаў нейкім нікчэмным.

— Я жадаў дачцэ толькі лепшага, ойча. Я каюся ў сваім нізкім учынку і хачу прасіць цябе выканаць маю апошнюю волю. Я ж магу даверыцца служцы Госпаднямy нават пасля майго прызнання?

Ён свідраваў мяне паглядам. Я на імгненне задумаўся, ці хопіць у мяне веры выканаць волю князя?

— Бог літасцівы, ваша міласць. Кажыце.

Ён памуляў вуснамі.

— Я быў затуманены гневам і пазбавіў Клемянціну спадчыны, хоць і даў пасаг. Але я не жадаю адысці на нябёсы, не замірыўшыся з абраннікам дачкі.

Вось як? Я не чакаў падобнага ходу.

— Мы не бачыліся з той пары, калі адбылася трагедыя.

Я чакаў.

— Я ўжо не паспею сустрэцца з ім, ойча. Ды Кройер наўрад ці пагодзіцца на сустрэчу. Пабаіцца маёй помсты. Тут на стале ліст даверанай асобе ў банк Пецярбурга. У ім я распараджаюся выдаць Пятру Кройеру і яго жонцы, маёй дачцэ Клемянціне, некалькі мільёнаў рублёў з маіх рахункаў. Усё заверана натарыусам, усё законна.

Я наблізіўся да стала. Ліст быў запячатан сургучом.

— На сконе жыцця я зразумеў, што не здолею забраць з сабою ні золата, ні маёнткаў, ні ордэнаў, — працягваў князь. — Толькі прабачэнне маіх учынкаў ад дачкі і па магчымасці прабачэнне ўсіх пакрыўджаных мною. Каб Бог дараваў мне. Ты верыш маім словам, ойча?

Я ўзяў ліст і прымасціўся на ўскрайку ложка.

— Я мог паслаць слугу, але Кройер не зразумее, палічыць мой жэст княжай падачкай. Таму сустрэнься з ім у якасьці асобы духоўнай і папрасі прабачэння старому ганарліўцу. Растлумач яму ўсё.

Я апусціў вочы.

— Ён памоліцца за вас, ваша міласць.

— Але чаму мне знаёмы твой твар? — запытаўся зноў князь.

Ён схапіў маю далонь і прыняўся разглядваць мой твар.

— Я той манах, які абвянчаў вашу дачку і які ўтапіўся з вашай ласкі, — прызнаўся я з уздыхам.

Пачуўся прыглушаны выкрык.

— Не можа быць!

Я падняўся, вырываючы далонь, і стаў ля пасцелі.

— Сыйдзі вон! — князя ахапіў спалох.

Я сумна ўсміхнуўся.

— Ты з’явіўся мне адпомсціць, здань? Дзе айцец Ансельм?

— Я і ёсць айцец Ансельм, вашамосць. Я і ніхто іншы. І я цалкам з жывога цела.

Я дакрануўся да накрытай коўдрай княжай ступні.

— Але як? Якім чынам? — жах змяніўся здзіўленнем і цікавасцю.

— Калі рыбакі выцягнулі з Дняпра два целы, нежывым было толькі адно: манаха, які выканаў ролю сведкі ў таемным шлюбе. Душа іншага толькі пабыла на парозе смерці.

Я раптам натхніўся.

— Так, княжа! Ісціны Бог! Я быў у даліне смяротнага ценю, я ляцеў насустрач нявыказнаму святлу, але пачуў голас! І голас давёў мне, што час яшчэ не выспеў, і я абрынуўся ўніз, вярнуўся з нябёсаў.

Запанавала хвілінная цішыня. Князь недаверліва хмурыўся. Я хутка супакоіўся, узгадаўшы мэту свайго візіту.

— Я ачомаўся на беразе, калі рыбакі пабеглі за падмогай.

— Хадзілі чуткі пра паўсталых мерцвякоў і розную небывальшчыну, — пацвердзіў князь.

— Народ ласы да забабоння, — адмахнуўся я.

— Аднак жа, што здарылася пасля? — стары праяўляў цікавасць. Відаць, на божай пасцелі яму карцела расставіць усе кропкі.

— Нічога асаблівага, ваша міласць. Я сышоў у іншы кляштар, на ўсялякі выпадак змяніўшы імя з боязі вашага пераследу. Затым зразумеў, што воля Божая крылася ў тым, каб я вярнуўся, і перастаў страшыцца. Божая воля вышэй за княжую. Вярнуўся сюды ўжо ігуменам. Мяне ніхто не пазнаў, апрача вашай міласці, дарэчы. Столькі ж часу мінула! І толькі цяпер я зразумеў, чаму Госпад не забраў мяне тады на той свет. Навошта дазволіў здарыцца нашай сустрэчы, хаця я і маліўся, каб мы сустрэліся.

— Чаму?

— Каб я дараваў вашу міласць і даў адпушчэнне грахоў.

Мы надоўга замоўклі. Князь ніколі не думаў, што мінулае паўстане перад ім настолькі блізка. І калі ўжо ўглядзецца ў сутнасць, то княжай душы значна лепей, каб мінулае нагнала тут, а не ў вечнасці. Бо за незваротнасцю прабачэння не папросіш.

— Ты шчыры, ваша міласць. Бог даруе табе, і я таксама не трымаю зла. Бо і я смяротны, і таксама маю патрэбу ў даraванні грахоў, калі надыдзе мая чарга.

Пасля князь з лёгкім сэрцам прычасціўся. Прыгатаваўся з мірам пайсці з нашага свету. І я пакінуў княжы маёнтак таксама з мірам у душы. Пасля ўзаемных прызнанняў ува мне не засталося месца гневу ды крыўдам. Яны засталіся там, у далёкім мінулым Дуброўна, перакрэсленым нашым узаемным пакаяннем і адпушчэннем. Я забраў з сабою ліст да банкіра ў Пецярбургу і міжволі разважаў пра чалавечую існасць.

Той самы Пётр Кройер, якога ўсе ў ваколіцы называлі прайдзісветам і нягеглым чалавекам, выхадзіў мяне тады, калі я знайшоў яго ў Магілёве, дапамог змяніць імя, даў грошай і адправіў за мяжу, дзе я і стаў айцом Ансельмам.

Доўгія гады я жыў у чаканні сустрэчы з князем. Я марыў спавядаць свайго забойцу. Я думаў адпомсціць, нацешыцца ягоным жахам. І ў апошні момант не змог. Я зразумеў волю звыш. Госпад вярнуў мяне на зямлю-матухну дзеля ўратавання душы. І не толькі маёй. Ці дараваў бы мне Бог, калі б я не дараваў князю? Што ні кажы, але як узарэш, так і збярэш. Мы завём сябе хрысціянамі, але нам уласціва марыць пра помсту, калі нас пакрыўдзяць. Мы забываемся, што Госпад пакінуў нам запавет любіць нашых крыўдзіцелей. І толькі тады на памяць выплываюць гэтыя словы Хрыста, калі самі мы застаёмся ў апошнім кроку да парога вечнасці, якая запатрабуе расплаты за зямныя здзяйсненні. Як важна паспець дараваць яшчэ тут, на Зямлі, а пасля прасіць у Бога…

З часам я пакінуў тыя мясціны назаўсёды і перабраўся ў Рым. Тут мяне чакала іншае жыццё, іншыя гісторыі, але пра гэта пазней, не цяпер.

Самае важнае, я зразумеў сутнасць маёй місіі — дараваць.

# АМЕЛІЯ

*Калі доўга ўглядацца ў бездань,*
*бездань пачынае ўглядацца ў цябе.*
Ф. Ніцшэ

— Славамір, ты вельмі многа п'еш. Я болей не магу трываць…

Я прамаўчаў.

— Я стамілася ад цябе! — грымнула перад тварам, і я ледзь не зваліўся. — Маўчы! Так больш нельга, — пачала Ірка маналог. — Ты пішаш, малайчына. Цябе друкуюць — выдатна. Але ты пакуль малавядомы, а заліваеш за каўнер, нібыта зорка першай велічыні. Нельга так! Два гады разам, а ты не думаў прасохнуць. Я стамілася слухаць пакаянныя рэі, надакучыў твой п'яны мазахізм. Разумееш? Не магу болей сустракацца з чалавекам, які наўмысна знішчае сябе, гоніць коней у бездань.

Фінальны акорд прагучаў нібыта шпурнуты ў дрэва нож: — Ты мяне дастаў!

Вось так мы разыходзіліся. Надрыўна, цяжка. Ціха шапацела лістота. Плёскалася начная вада летняй рачулкі пад масіўнымі сценамі напаўразбуранага палаца. Нават апоўначы было млосна. Полымя вогнішча адбівалася ў Іркіных вачах. Скрозь змрок я адчуваў пах нафарбаваных вуснаў. Мне было сорамна нібы хлапчуку, якога заспелі за дзіцячым грахом. Я разумеў, наша размова — грандыёзны грандфінал.

Я ўзняў позірк да чорных захмараных нябёсаў. Гушча нявыказаных слоў захрасла ў глотцы, і галава раскалвалася плынню думак.

— Ну і маўчы!..

Ірка сышла, растала ў цемры.

Прышыблена пастаяўшы крыху, я вярнуўся да кампаніі сяброў. Хлопцы нічога не пыталіся, усё разумелі. Трэнькала гітара. Хмары на хвіліну разбегліся, і месячык напужаў неба. Зрабілася самотна. Ілья паднёс чарку.

Ілья развёўся з жонкай. Ён усё разумее.

Мы светлыя анёлы, але з чорнымі крыламі.

Мы ўтрох: я, Ілья і Сашок глушылі медыцынскі спірт пад сценамі старажытнага графскага дома. У цьмянай задуменнасці над вогнішчам смажылі мяса, напятае на шампуры, доўгія, нібы шпага Д'Артаньяна.

Мы амаль увесь час маўчалі. Гітара трэнькала са смартфона Сашка. Хлопцы — прыхільнікі Высоцкага. Я — не, бо слухаю «My Dying Bride».

Мне думалася, што я згубіў Ірку ўжо даўно, у той самы момант, калі мы сустрэліся.

Хацелася махнуць рукой і вымавіць вядомае ёмкае слова, што гучала ў перакладзе на латынь як peractum est.

* * *

Улетку раніцай ля графскага дома люблю трыножыць Пегаса. Хлопцы даўно пайшлі, ведалі мой звычай вітацца з ліпеньскім золкам. А пятай раніцы сонца шчодра фарбуе хмары, пырскае вясёлкамі на раку і крыху туманны стромкі бераг. Рэзкае паветра, рэдкія рыбакі, птушыныя званочкі, прадчуванне спякотнага дня ў душным кабінеце… Я шаную ліпеньскую раніцу каля графскага дома. Яна натхняе.

— Вы мне вельмі нагадваеце аднаго чалавека, даўняга знаёмага, — голас за спінай прагучаў нібы рэха.

Я азірнуўся. Незнаёмка першай падала руку. Далонь была сухой і гарачай.

— Амелія. Мяне завуць Амелія. Я тут жыву.

— У сэнсе непадалёк?

— Амаль.

Яна крытычна агледзела мяне з галавы да ног і заўважыла:

— Ні вуды, ні лескі з сабою. Відаць, вы не рыбак.

— Невялікі аматар рыбных ловаў. Хаця ведаю пару месцаў, дзе рыбы нямерана. Напрыклад, у магазіне.

— Жартуеце? Мне падабаюцца весялуны.

— А мне — прыгожыя жанчыны і літаратура.

На Амеліі быў элегантны летні капялюшык. Я назваў сваё імя і павіншаваў сябе з удалым знаёмствам.

— Давайце я правяду экскурсію па старажытным палацы. Хоць тут і развалiны, але я сёе-тое ведаю, — прапанавала Амелія і дадала: — Я добрая апавядальніца.

Яна ўчапілася за маю руку і павяла да ўвахода — цёмнай прарэхі, дзе калісьці стаялі дзверы.

Дзіўныя метамарфозы здараюцца ў мужчынскай свядомасці. Некалькі гадзін таму я сумаваў і крыўдзіўся з-за расстання з Іркай, а вось цяпер не магу адарваць позірк ад вытанчанай Амеліі. Дзяўчына — казка, дзяўчына — верш. Здавалася, яе саткалі з ранішняга паветра і срэбранай расы. Амелія без канца распавядала пра гісторыю дома і дызайн пакояў. Я слухаў напалову вуха, больш засяродзіўшыся на вобразе дзяўчыны, падобнай да феі з казкі.

— Вось тут сустракалі гасцей, паглядзі (яна перайшла на ты), мужчыны кіравалі направа, жанчыны — налева. У сцяне выемка на ўвесь рост, гэта для люстэрка. А вось тут збіралася снедаць пасля палявання стомленае панства. Дарэчы, дом меркаваўся быць паляўнічым, бо ў тутэйшых лясах вадзілася шмат дзічыны. Гасцяваць да графа наведваліся нават асобы імператарскага двара.

На маім твары застыла пяшчотная самоцінка, яна прыкмеціла і паўшэптам закончыла:

— І не трэба казаць, што елі тут па-паляўніцку, а пілі па-радзівілаўску.

Апавядальніца гаварыла мне ўсё тое, што я сам добра ведаў, вывучаючы гісторыі і легенды фамільнага дома Патоцкіх. У яе быў дзіўны голас. Анёльскі.

— Амелія…

Яна прыціснулася да мяне і абняла за шыю. Даволі смелы крок. Я адчуў смак яе пацалунка. Мы нібыта ўзняліся да лабірынта зорак, закружыліся ў нябесным карагодзе і раптоўна праваліліся ў прадонне чорнай дзіркі.

— Ты выліты ён. Нібы з партрэта сышоў. Пайшлі са мною, Славамір. Пайшлі са мною навечна, назаўсёды.

Цішыня.

Слабы вецер у аконных праёмах.

Пах смецця, наваленага ў куце.

Быццам нічога не здарылася.

Яна знікла. Нічога не разумеючы, я пакінуў дом. Амеліі нідзе не было! Сонца павольна паднялося, пачало прыпякаць. Пасля спірту рот напоўніўся мярзотай. Я сказаў бы, што хана мне, дапіўся да галюнікаў, але Амелія была надта рэальнай, каб назваць яе ілюзіяй...

* * *

У першым дзесяцігоддзі двухтысячных дом графа меў недарэчны для гістарычнага помніка выгляд. Забыты, са слядамі пажараў, распісанымі графіці сценамі, ён стаў прытулкам для аматараў выпіць, а таксама моладзі. Але нават у змрочнай самотнасці дом захаваў веліч сваёй эпохі. Яго магутныя сцены ўтойвалі памяць аглушальных свецкіх раўтаў, хуткіх коней, шыкоўных экіпажаў, што несліся па брукаванай пад'язной дарозе. Сярод зарасніку і смецця, дом захаваў флёр дарэвалюцыйных часоў, калі паненкам цалавалі ручкі, кавалеры ганарыліся шляхетным паходжаннем, лясы поўніліся дзічынай, а рэкі — рыбай. Мы любілі гэты дом і смуткавалі з-за яго закінутасці.

Працоўны дзень не заладзіўся. Мяне займалі думкі аб прывіднай Амеліі. Пашчырасці, я быў вельмі збянтэжаны, і ўвесь час не мог уцяміць, што ж насамрэч адбылося.

Я працаваў у газеце, і аўторак — дзень у маім раскладзе практычна вольны. Я заварнікамі піў зялёную гарбату, заядаў булкамі з макам і разынкамі. (Дзіўна, колькі ж я магу з'есці падчас напружаных разважанняў?) Адклаў усе камандзіроўкі, ніяк не рэагаваў на тэлефанаванні, хаваўся ад начальства і да пяці вечара гуляў у камп'ютарныя «цацкі». Ажывіўся толькі напрыканцы, калі пазваніў Ілья і прапанаваў паўтарыць учарашнія «шашлык-машлык». Я ветліва адмовіўся.

— Па Ірыне сумуеш? Выкінь з галавы тую біксу. Ты ж пісьменнік, вядомы чалавек, гэткага дабра яшчэ прорва наперадзе.

Я паклаў слухаўку. Не, па Ірцы я не сумаваў. Хоць і сустракаліся два гады, відаць, не супалі характарамі. Тым вечарам я надумаў наведацца да графскага дома, тым больш, даўно выспявала ідэя напісаць апавяданне пра гісторыю будынка і былых уладальнікаў. Апавяданне ў жанры трагічнай готыкі.

* * *

Амелія прыйшла апоўначы. Я ўжо збіраўся пакінуць месца непрызначанага рандэву, як пакрысе хмары расталі, і ў святле поўні заўважыў знаёмыя абрысы. На ёй была амаль празрыстая сукенка да кален, валасы хвалямі спадалі на плечы. Амелія села побач і прыціснулася. Я абняў дзяўчыну, адзначыўшы лёгкасць цела.

— Ты ведаеш, што пад намі ёсць сутарэнне? — спытала яна.

Я ведаў пра тое. Сярод гараджан-старажылаў і краязнаўцаў калі-нікалі ўзнікалі чуткі пра падземныя камунікацыі пад графскім домам, але дакладна ніхто не даваў таму веры. Расказвалі, што быццам меўся падземны калідор да таго месца, дзе некалі ўзвышаўся касцёл, але апошні згарэў у тысяча дзевяцьсот чатырнаццатым падчас вялікага пажару, які ахапіў палову горада.

— Падзямелле ўтойвае шмат таямніц. Непадалёк мы рассталіся з ім…

— З ім?

— Тым, каго ты вельмі нагадваеш.

Пры іншых абставінах я вельмі задумаўся б, але не сёння, не цяпер. Я толькі мацней прыціснуў Амелію да сябе.

— Амелія, я хачу каб ты стала толькі маёй і не жадаю цябе ні з кім дзяліць! — горача зашаптаў на вуха.

— Праўда?

Маўчанне.

Нечакана мы паваліліся на траву, хутка наваколле напоўнілася шоргатам гарачых цел, а месячык над вяршыняй дома быў шчаслівым сведкам.

Пасля мы сядзелі радасныя і закаханыя, звесіўшы ногі з абрыву. Яна ціха напявала старажытныя матывы. Пранікнёны голас плыў над вадой, збіраючы рыбак у якасці слухачоў.

— Так раней спявалі русалкі, — патлумачыла Амелія. — Даўно. Вельмі даўно. Шкада…

Я моўчкі згадзіўся. У той момант гатовы быў паверыць нават і ў русалак.

— Ведаеш, а я пісьменнік. Хачу напісаць пра гэты дом, пра нас з табою, нашу сустрэчу, — нечакана выдаў я. — Нават пачатак гісторыі ўжо прыдумаў.

— А хочаш, мы завершым тваю гісторыю разам? — нечакана спытала Амелія.

Падобныя словы я чуў ад жанчын неаднойчы, і заўсёды яны здаваліся штучнымі. Толькі не сёння.

— Я падару табе медальён. Калі кахаеш, прыходзь заўтра сюды апоўначы.

Амелія сунула мне ў далонь нейкую рэч. Засвітанела. Удалечыні кукарэкнуў певень.

* * *

Я прачнуўся ў траве ў разгар раніцы. Каханка знікла разам з ноччу. Мая далонь сціскала металёвую рэч з доўгім ланцужком — доказ сапраўднасці начных падзей. Падумалася: сённяшняй ноччу я пераступіў пэўную мяжу, пасля якой бязвіннае захапленне раптам напаўняецца глыбокім сэнсам.

Хто ж ты, Амелія? Чаму з’яўляешся ў ззянні месяца і раніцай знікаеш? Мы сустракаліся два разы, і гэтага хапіла, каб я стаўся сам не свой. Нават калегі на працы заўважылі перамены. Звычайна я бегаў па паверхах з рознымі справамі, сыпаў жартачкамі-смяшынкамі. Апошнія два дні не пакідаў кабінета, інфармацыю збіраў па тэлефоне і сядзеў пнём перад камп’ютарам.

Медальён ляжаў у кішэні. Я сто разоў выцягваў яго, узважваў у руцэ, разглядаў надпісы на лацініцы і польскай. Бліжэй да вечара ўва мне выспела рашэнне наведацца да знаёмага краязнаўцы дзядулі Ісакавіча, які аддаў сорак гадоў жыцця вывучэнню гісторыі края. Аднойчы мы разам удзельнічалі ў археалагічных раскопках, на якіх і пасябравалі.

— Мядалік, — вымавіў Ісакавіч з характэрнай толькі яму інтанацыяй, — вельмі занятны мядалік.

Дзядуля ацаніў рэч у трыццаць грамаў срэбра. Потым запрасіў за стол. Стары любіў апрастаць «куфаль піва». Я выставіў абавязковы гасцінец — некалькі бутэлек «Портэра». Ён у сваю чаргу адкаркаваў слоік грыбоў і прапанаваў ледзяную бутэльку «Двух буслоў». Піць гарэлку я адмовіўся. Па-першае, за рулём, па-другое, не хацелася п’яным выглядам псаваць чаканую сустрэчу з Амеліяй.

— Мядалік — фамільная каштоўнасць графскага роду, — сказаў Ісакавіч, уважліва разглядаючы аздоблены гатычнымі літарамі кругляш. — Тут пазначана прозвішча гаспадара.

Ён сербануў з куфля. Я падхапіў відэльцам колькі грыбкоў і адправіў у рот.

— Патоцкія — вельмі знакаміты род у свой час: і ў Польшчы, і ў Беларусі, — прамовіў стары.

Я згадзіўся. Дзядуля зноў прыклаўся да куфля, затым падняўся, наблізіўся да агромністай шафы з кнігамі, пакорпаўся ў ёй і выцягнуў фаліянт з закладкамі між старонак.

— Вось кніжка «Польскія сядзібы на крэсах» Рамана Афтэназі. «Прыгожы двухпавярховы палац з цудоўнымі садамі пабудавала каля 1850 года Ганна Патоцкая-Вансовіч з мэтай выкарыстання яго як адной з летніх рэзідэнцый».

Ён паставіў кнігу на месца і вярнуўся за стол.

— Графіня Ганна аднавіла касцёл, узведзены ў 1641 годзе па загадзе Льва Сапегі. Ён знаходзіўся там, дзе цяпер парк насупраць гарадской бібліятэкі. Увогуле, Патоцкіх народ любіў, чаго не скажаш пра іх суседзяў Свентаржэцкіх. На дажынкі панскі аканом не скваліўся на пачастункі. У двары накрываўся стол, і простыя людзі адводзілі душу. Аднойчы на селяніна-загоншчыка напаў воўк, і з панскай ласкі мужыка лячылі бясплатна.

Мы размаўлялі і неўпрыкмет звечарэла. Стары захапіўся, распавядаў пра цудоўных коней графа Аўгуста, пра сяброўства графіні Анеткі з мадам Валеўскай, пра сувязь рода з князямі Панятоўскімі. Прынамсі, шмат чаго я ўжо чуў даўней. Мяне хвалявала толькі паходжанне медальёна.

— У гісторыі ўсіх знакамітых родаў ёсць таямніцы, сівыя легенды, пакрытыя змрокам, — заўважыў Ісакавіч. — Існуюць паданні, якія не значацца ў архівах.

Ён загадкава на мяне паглядзеў.

— Даўным даўно я распытваў старых людзей пра жыццё былых гаспадароў графскага дома. І вось што некалі высветліў. Аднойчы малады паніч загуляў з юнай сялянкай, надзвычай прыгожай. Па тых часах то не дзіва. Нацешыцца пан і пабяжыць за другой спадніцай. А тут дудкі. Пан не на жарт закахаўся, і, трэба ж здарыцца, дзяўчына адказала ўзаемнасцю. Справа дайшла да таго, што пан усур'ёз сабраўся ажаніцца на халопцы. Тым больш, што каханка паспела зацяжарыць. Зразумела, панская радня ўспрыняла ў штыкі ідэю шлюбу. Калі не атрымалася ласкай ды ўгаворамі ўтаймаваць паніча, радня падбіла кагосьці на чорную справу. Як цяпер модна казаць, наняла кілера. Нявесту ўпотай прыдушылі ці то ў падвале, ці то на возе сена, а пасля быццам утапілі, а паніча выправілі ў Варшаву. Колькі ў гэтай гісторыі праўды, мне невядома. Так распавядалі старыя людзі ў той час, калі я яшчэ быў малады. Можа, было інакш. Дакументальных крыніц падобнага кшталту гісторыя не захавала. А вось медальён твой…

Дзед тыцнуў пальцам.

— Медальён штука сапраўдная, на ім напісана, што належыць менавіта таму панічу. Прызнайся, дзе надыбаў?

Я не змог адказаць. Падарылі? Знайшоў? Выкапаў? Ісакавіч не дасць веры.

Я прамямліў штосьці пра сакрэтнасць журналісцкіх доследаў.

Дзядуля пахітаў галавой, развёў рукамі і даў зразумець, што аўдыенцыя скончана.

Выходзячы з дома, я спытаў імя той каханкі паніча з легенды.

— Не памятаю, — шчыра прызнаўся Ісакавіч. — Здаецца, Амеля.

Ён крыху падумаў і ўжо ўпэўнена дадаў:

— Правільна. Каханку паніча звалі Амеля.

* * *

Амеля. Амелія…

«Ты нагадваеш яго… нібы з партрэта сышоў». Марока адна. Увогуле, скуль узяўся медальён у маёй таямнічай сяброўкі? Мільён пытанняў мітусілася ў галаве. Далібог, няўдалы жарт. Мо Ірка ўсё падстроіла? Я вырашыў сённяшняй ноччу ўсё высветліць. Па дарозе да графскага дома прыхапіў у краме пляшку каньяку.

Я сядзеў на беразе на сыходзе дня. Пачырванелае на небасхіле сонца грэла спіну. Ціхі шэпт цёмных хваль і шапаценне лістоты дапаўнялі цішыню. За ракой — залаціста-зялёны луг і далёкія лясы. Нябёсы застылі ў чаканні ночы, а бляклы пятак месяца пакрысе караскаўся да звыклага месца ў вышыні.

Падумалася, што так было заўсёды: і сто гадоў таму, і тысячу. Рака бегла ў прызначаным Богам напрамку, а Месяц з Сонцам па чарзе дзяжурылі ў нябёсах. У далечыні бязгучна праплыў самалёт, пакідаючы белы след. Пратарахцела рыбнагля-даўская маторка. Відарысы заспакойвалі, я адчуваў сябе часцінкай сусвету.

Падумаць толькі: медальён, старажытныя паданні, трагічныя лёсы. Не дзеля нашага часу гэта ўсё. На жаль, прыгожым таямнічым казкам чалавецтва не пакінула месца. Свет прасякнуты інтэрнэтам, мабільнай сувяззю, самалётамі-знішчальнікамі і глупствамі кшталту калайдэра. Тэхнакратыя. Тое, што мы памылкова лічым прагрэсам, вынішчэнне душы, паступовае забіванне ў сабе чалавека. Вось на гэтым фоне і з'яўляюцца розныя Амеліі. Хтосьці майструе даспехі і гуляецца ў сярэдневяковых рыцараў, хтосьці адраджае старажытныя вераванні продкаў і забаўляецца народнымі рамёствамі. Ім не ўсвядоміць, што лёсам наканавана аднойчы ўсяму гэтаму знікнуць. Вось і Амелія гуляецца ў легенды, толькі робіць гэта своеасабліва і таленавіта. Інакш чым растлумачыць начныя спатканні каля дарэвалюцыйнага маёнтка, «русалчыны» спевы, антыкварны падарунак?

Я адпіў з бутэлькі і пачаў зноў круціць у руцэ медальён. Відаць, рэч каштоўная. Адзін ланцужок пацягне на палову майго месячнага заробку. Я круціў-вярцеў, неўзабаве штосьці націснуў і атрымаў сюрпрыз. «Мядалік» аказаўся з сакрэтам, адчынілася срэбраная накрыўка. Унутры быў мой з Амеліяй партрэт. Толькі я там у іншым адзенні…

* * *

Яна з'явілася апоўначы. Я падняўся насустрач.

— Амелія, што ўсё гэта значыць? — спытаў шэптам.

— Хадзем, — яна ўзяла мяне пад руку. — Хадзем. Ты ўбачыш тое, пра што марыў.

Нібыта зачараваны, я крочыў, набліжаўся да нябачнай мяжы. Я здагадваўся, што пераступіўшы рубікон, ніколі не вярнуся назад. Яна вяла, і я не супраціўляўся. Мяне перапаўнялі пачуцці.

Усё змянілася раптоўна.

Мы жывём дзеля моманту ісціны, які надыходзіць адзін раз у жыцці, калі раптоўна галоўныя таямніцы быцця перастаюць быць таямніцамі.

То была імгненная ўспышка, нібы пры ядзерным выбуху. Як у трэцяй частцы фільма «Матрыца»: адкрыеш дзверы, а за парогам іншы свет, нябёсы, наваколле. Мы апынуліся ў старажытным графскім доме ў тыя часы, пра якія я шкадаваў і марыў. Перамены луналі ў паветры, у акаляючых пахах. Сумны наш чорна-белы

свет нечакана напоўніўся фарбамі. І ў гэтых фарбах-пачуццях крыштальнае сонца ў сапфіравых нябёсах было вечным. Мы абодва крочылі па бліскучым паркеце. Цяжкія парцьеры захіналі вокны. Запаленыя свечкі на масіўных кандэлябрах асвятлялі шыкоўныя пакоі. Сцены былі завешаны партрэтамі, гравюрамі, карцінамі. З кухні пахла смажанай дзічынай. Патрэсквала вуголле ў каміне, быццам і не ліпень на двары. Знадворку данеслася цоканне капытоў і конскае іржанне. Насценны гадзіннік прабіў дванаццаць разоў. Амелія цмокнула мяне ў шчаку, менш за ўсё яна нагадвала прывід.

— Цяпер гэта наш дом, — прамовіла Амелія. — Мы застанемся тут назаўсёды.

Я не ведаў, як рэагаваць. Я марыў пра той, забыты свет, у якім няма электронікі, ракет і аўтамабіляў. І вось я тут, па-сапраўднаму і без падману. Мне карцела застацца тут назаўсёды. Я марыў пра Амелію ўсё свядомае жыццё, але толькі сёння зразумеў гэта. Толькі ж не я — яна мяне знайшла.

* * *

Раніцай каля графскага дома на беразе ракі спынілася міліцэйская машына, з якой паказалася пара ахоўнікаў правапарадку. Яны наблізіліся да цела, што ляжала на зямлі, схіліліся, памацалі пульс.

— Гатовы кліент. Відавочна, дапіўся.

Адзін пакратаў мыском пантофля каньячную бутэльку.

— Пустач, — міліцыянер звярнуўся да напарніка. — Ты ведаў нябожчыка?

— Канешне. Хто ж яго не ведаў? Пісьменнік, журналіст. Працуе ў мясцовай прэсе. Дакладней, працаваў. І піў як конь. А я ж папярэджваў, нельга столькі.

— Угу. Вось скажы, нафіга піць у адзіноце, на беразе ракі, ноччу? Месцаў людскіх хіба мала? Што ні год — новыя забягалаўкі адкрываюцца. Хаця…

Ён паглядзеў на цела і павучальным тонам прамовіў:

— Усе гэтыя творчыя з прыветам. Дый што там крывіць душой, усе яны з добрым прыветам. Быццам іншапланецяне незразумелыя. Вядомая ж справа, пісьменнікі.

Ён заўважыў медальён, падняў, пакруціў, вярнуў на месца. Вось цудоўная ранічка на рацэ, а пісаць пратаколы так не хацелася…



*Анатоль ЗЭКАЎ*

# ПАМІРАЮЦЬ ДРЭВЫ СТОЯЧЫ



***Анатоль Зэкаў нарадзіўся 20 студзеня 1955 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Працаваў у перыёдыцы, напісаў шмат кніг. Уладальнік «Залатога купідона» ў сатыры і гумары, а таксама прэміі імя Васіля Віткі. Вясёлы сур'ёзны чалавек.***

* * *

Спяшаюся,
Раблю ўсё ўпохап я,
Тлум нейкі лезе ў галаву,
І са сваімі недахопамі
Хоць не мірузя, а жыву.

Хацеў бы штось зрабіць,
Як хочацца,
Ды, як магу, раблю ўсё так.
Даўно карціць кудысьці збочыць, а
Чамусьці боязна, аднак.

Я вырываюся,
Спяшаюся
Змяніць жыццё хаця б крыху.
Б'е лёс пад дых, а я не каюся,
Бо, як жыву, жыць не магу.

### СЛОВЫ

У цішыні прысад вясковых,
Дзе, нібы бохан, аралля,
Матуля высявала словы,
Каб дзецям перадаць пасля.

І спелі словы, быццам зоры
Пад вечар спеюць у раллі,
Як бульба сопкая ў разорах
Ці вішні ў садзе на галлі.

У словах тых — мая аснова,
І мой працяг — у словах тых,
Бо не пад сонцам пелі словы,
Спяліла маці ў сэрцы іх.

## РАЗВОДДЗЕ

Калі на Прыпяці разводдзе —
Праліўшыся праз берагі,
Вада ў гушчар лясны заходзіць,
Змывае на лугах стагі.

Вада паўсюль, куды паглядам
Не кінь — не адвядзеш вачэй.
У горадзе пра гэта згадваць —
Няма нічога балючэй.

## * * *

Паміраюць дрэвы стоячы
У падлеска на віду.
Пад карою думы мроячы,
Як ахрыплыя, гудуць.

Дрэвам маладым зайздросцячы,
Самі маладзей нібы.
Скідкі на гады не просячы,
Адыходзяць у нябыт.

Пад карою ж запаветныя
Думы — як пытання знак:
Ці дастойна эстафету іх
Будзе несці маладняк?

## ЦІШЫНЯ

Няпраўда, што нямая
Як быццам цішыня.
І цішыня спявае
На подыуме дня.

Хоць сціхне ляскат-грукат,
Ды дзень той не нямы.
У цішыні ёсць гукі,
Якіх не чуем мы.

## ІРАНІЧНЫ ВЕРШ

Адхлынь, сум-назола,
Мяне ты паслухай:
Хачу быць вясёлым,
Не знацца са скрухай.

Ты мне надакучыў,
Сядзіш у пячонках
І ўсё мяне вучыш,
Як п’янага жонка.

Усё мяне вучыш —
Знайшоў сабе школу!
Адхлынь, прыставучы,
Пабыць дай вясёлым!

## * * *

А мы яшчэ і не кахалі,
І гэтак блізка не былі,
Калі ўгару ўзнімае хваляй
І адрывае ад зямлі;

Калі не ходзіш ты, а птушкай
Ляціш над прорвай нематы;
Калі табе зусім не скрушна,
Бо не адзін на свеце ты;

Калі і дзень, і ноч сальюцца,
Што дзе з іх што — не разбярэш,
І сэрцы два суладна б’юцца,
І разумееш, што жывеш.

А мы яшчэ так не кахалі,
Каб сэрцы спапяляў агонь,
Хіба мо крыху бліжай сталі
Мы да імгнення да таго…

## * * *

Нібы ў люстэрка, я гляджуся
У тварык твой замілавана.
І на цябе дыхнуць баюся,
Каб не спалохаць нечакана.

Гляджуся, бы не бачыў вечнасць,
Гляджуся, каб да рыскі кожнай
Запомніць мог цябе. Дарэчы,
І юнай гэткай,
І прыгожай.

**МАСТЫ КАХАННЯ**

З мінулым сувязь абрываю,
Палю ў мінулае масты,
Нібы зусім і не кранае,
Што за мастамі
Тымі
Ты.

Я нішчу ўсё,
Я ўсё ўзрываю.
Абломкамі — апошні мост…
І раптам з берага ныраю —
І да цябе плыву.
Наўпрост.

**Я КАХАЮ**

Ты мая ці не мая —
Гэта розніцы не мае.
Без цябе сумую я,
Без цябе цябе кахаю.

Хочаш ты таго ці не —
Гэта розніцы не мае.
Я з табой начую ў сне
І — саснёную — кахаю.

Ты са мной ці не са мной —
Гэта розніцы не мае.
Не бяда, што я не твой.
Я кахаю!

* * *

Столькі радкоў прапала,
Мною саснёных ўночы.
Цемра назад іх забрала
І аддаваць мне не хоча.

Столькі наснілася вершаў —
Склалася б цэлая кніга.
Толькі дарма сябе цешыць,
Бо не вярнуць болей іх мне.

Зніклі, схаваліся ўночы.
Як іх не клічаш, не чуюць.
Сны, завітаўшы аднойчы,
Двойчы са мной не начуюць.



*Алена МАСЛА*

# АПОШНІ ДЗЕНЬ ЛЕТА



***Алена Масла нарадзілася 14 красавіка 1967 года ў вёсцы Мілашова на Міёршчыне. Журналіст, літаратурны крытык, пісьменніца. Аўтар кніг казак «Каляды з хроснай», «Таямніца закінутай хаты», «Першая прыгажуня» і іншых.***

Зямля засталася далёка-далёка ўнізе. Аддаляючыся ад яе, Янка ў думках адзначае, што рухаецца нашмат хутчэй, чым на самалёце. Прынамсі, на разгон зусім часу не патраціла — імкліва ўзвілася ўвысь. За імгненне хаты на зямлі сталі памерам з запалкавы карабок, азёры ператварыліся ў калюжыны, а лясы — у суцэльныя зялёныя плямы.

Янка робіць рукамі рух, падобны да ўзмаху крылаў, — і вось ужо ляціць па-над аблокамі. Але цяпер ёй нецікава ўглядацца ў карціну, якая заварожвала раней, калі яна была пасажыркай самалёта. Тады бачыліся абсягі, абмежаваныя ілюмінатарам. А цяпер яна — вольная! Яшчэ ўзмах — і Зямля ператвараецца ў шарык з плямамі вады і сушы. Пасля з далягляду знікае і ён, і Янка басанож апускаецца на зорку.

Зоркі ззяюць, але зусім не пякуць. Янка пераскоквае з адной на другую і чуе, як у густа-цёмнай далечыні звініць, рэхам рассыпаецца яе смех.

Зоркі рознакаляровыя: блакітныя, чырвоныя, жоўтыя... Дзяўчынка падкідвае іх, як мячыкі, і раптам спыняецца, уражаная думкай: яна заблукала ў космасе! А як вярнуцца назад, яна ж дадому хоча?!

Закруціўшыся на зорцы, як на ваўчку, дзяўчына роспачна крычыць: «Мама!..» — і прачынаецца.

Сэрца калоціцца так, нібы Янка толькі што прабегла крос. Перад вачыма ўсё мільгае, кружыцца, як у шалёным танцы. Янка намагаецца сесці на ложку — нічога не атрымліваецца.

— Мама! — гукае Янка зноў і згадвае: яна ў кватэры адна.

Мама з Ігарам, сваім сябрам, у адпачынку. Дзесяць дзён іх курортнага жыцця мінула, засталося яшчэ два. Хутка вернуцца, і на сённяшні дзень у Янкі багата спраў.

Трэба прыбраць кватэру, паліць вазоны, падумаць, чым смачненькім сустрэць курортнікаў, схадзіць у краму па прадукты. Канешне, гатаваць яна будзе перад іх прыездам, але прадумаць і прыдбаць трэба ўсё сёння, бо заўтра — у школу.

Апошні дзень лета...

Гэта згадка канчаткова вярнула Янку з яе зорнага сну на зямлю. Цішэй стала грукаць сэрца, галава перастала круціцца — нібы душа, ледзь не згубіўшы дарогу дадому, нарэшце агледзелася і супакоілася.

Янка саскочыла з ложка, пару разоў пацягнулася, столькі ж прысела. Усё! Ранішняя гімнастыка закончана! Абы рэшткі сну прагнаць, а днём яна пабяжыць на фітнес: трэнер учора тэлефанавала, прапанавала не адкладваць да сярэдзіны верасня, аднавіць заняткі сёння, бо ўся іх група ўжо ў горадзе.

Янка пайшла ў ванну, хуценька абдалася халоднай вадой. Яе гонкае стройнае цела, нібы апёкшыся холадам, на імгненне пакрылася пупырышкамі — і тут жа стала адыходзіць, падфарбоўваючы лёгкі загар чырванню, што разлівалася па скуры ад дотыку тоўстага махровага ручніка.

— Лепшая касметычная працэдура, — кажа пра абліванне халоднай вадой трэнер.

Маці Янкі, дарэчы, выглядае вельмі молада, магчыма, таму, што займаецца фітнесам і штодзень прымае халодны душ. Часам нават яе і дачку староннія людзі прымаюць за сяброўак. Смешна! Нядаўна хлопцы, трохі старэйшыя за Янку, клеіліся да абедзвюх. Маму гэта збянтэжыла, і яна строга сказала: «Маладыя людзі, у вас што, вачэй няма? Я — мама гэтай дзяўчыны!» Янка пасля пацвельвала над мамай, напускаючы на сябе строгі выгляд і выгаворваючы ўяўным кавалерам за тое, што яна ім спадабалася...

Янка пакіравала на кухню — рабіць каву, і толькі тут зірнула на гадзіннік. Палова на шостую! Раніцы! Хто растлумачыць, чаму, калі не трэба ў школу, ускручваешся на досвітку. А калі толькі пачынаюцца заняткі, самы настойлівы будзільнік не ў стане выгнаць цябе з ложка!

Ну і няхай сабе! Раптоўнае шкадаванне, што магла б яшчэ спаць-адсыпацца перад пачаткам навучальнага года, змянілася гарэзлівай радасцю. Гэта ж колькі дадатковага вольнага часу яна падарыла сабе! Так, вырашана: каву піць не распушчаную, а прыгатаваць на пяску ў турцы. Ёсць у іх з мамай такое спецыяльнае прыстасаванне — электрапячурка з пяском, на ёй кава атрымліваецца вельмі смачная.

Пакуль кава стыла, Янка стварала сабе надзвычайны настрой. Выцягнула з кладоўкі і разаслала на падлозе невялікі дыванок, які яны з мамай некалі прывезлі з адпачынку. Паставіла на паднос крышталёвую шклянку з халоднай вадой — запіваць каву, зрабіла адмысловыя канапкі — на скрылікі сыру паклала тонка нарэзаны лімон. Адчыніла яшчэ раз дзверцы лядоўні і, пераклаўшы на прыгожую талерку гронку вінаграду, уселася снедаць на падлогу. Аднак праз імгненне падхапілася і накруціла на галаве цюрбан з вялікай хусткі.

Янка не стала ўключаць музыку. У кватэры панавала нязвыклая цішыня. За акном не гулі машыны, не спяшаліся па справах людзі — горад яшчэ спаў. Была ў гэтай цішыні нейкая незвычайная наструненасць — ледзь-ледзь крані, і знікне. Падумаўшы пра гэта, дзяўчына сцішылася на сваім дыванку. Яна піла чорную, як дзёгаць, каву і запівала яе халоднай вадой, стараючыся нават філіжанкай аб блюдзечка не грукаць.

На вочы трапіўся курортны фотаздымак мамы з Ігарам. Мама па электронцы пераслала, а Янка адразу раздрукавала яго і ўправіла ў рамачку. Гэты здымак ствараў уражанне прысутнасці мамы дома, і дзяўчынцы было не так сумна. Яна, па праўдзе, храбрылася, адпускаючы маму ў адпачынак і пераконваючы, што ўжо дарослая і справіцца тут сама. Дарослая то дарослая — выпускніца-адзінаццацікласніца, але ў кватэры адна на такі працяглы тэрмін заставалася ўпершыню.

Мама настойвала, каб Янка ляцела разам з імі. Але дзяўчына адмовілася, сказаўшы, што наадпачывалася ўжо ў бабулі ў Швецыі — толькі вярнулася адтуль, ды і школу не хоча прапускаць... Канешне, гэта былі толькі адгаворкі. Проста Янка

хацела, каб мама засталася сам-насам з Ігарам. Па вяртанні яны збіраліся пажаніцца, і Янка шчыра спадзявалася, што пальмы, сонца, акіянскія воды толькі ўмацуюць гэты намер.

Ад той самай пары, як тата пакінуў іх — а здарылася гэта, калі дзяўчынка была малой — мама заўсёды была адна. У таты адразу з'явілася іншая сям'я: ён сышоў да жанчыны, з якой у яго цяпер дзеці — сын і дачка.

А Янка ўвесь час жыла з мамай. Праўда, спачатку, калі адбыўся развод, яе адвезлі да бабулі з дзедам у невялікі раённы гарадок. Мама працы не кідала, жыла ў сталіцы, але кожныя выходныя прыязджала да Янкі.

Калі прыйшла пара ісці ў школу, перавезлі ў сталіцу і Янку. Жылі яны ва ўтульнай кватэры ў ціхім цэнтры, якую тата пакінуў ім з мамай. Пасля бабуля Галя — маміна маці, выйшла на пенсію і стала часта да іх прыязджаць. Можна нават сказаць, што яна стала жыць у дачкі з унучкай, выпраўляючыся дадому, да дзеда, толькі на суботу і нядзелю. А былі выходныя, калі і дзед — незаменны ў райцэнтры ўрач-анастэзіёлаг — вырываўся са сваёй бальніцы, пацыентаў, аперацый — і прыязджаў таксама.

Гэта былі самыя шчаслівыя дні для Янкі. Унучка для дзеда была пястушкай-ласуначкай, ён нацешыцца з яе не мог, патураў усім жаданням і зваў не інакш як «мая прынцэса». З дзедам было хораша і проста, чым бы яны ні займаліся: гулялі ў двары, ездзілі па горадзе ці хадзілі ў цырк. А, самае галоўнае, калі дзеду надыходзіла пара ад'язджаць, Янка адпускала яго лёгка, бо ведала, што яму трэба на працу, яго чакаюць хворыя.

Зусім па-іншаму было з татам. Не, канешне, і час яны бавілі цікава, калі сустракаліся, і падарункамі дачку ён не абдзяляў. Янка заўжды чакала спатканняў з ім. Але... Было гэтае таемнае *але*, пра якое ніхто, апроч самой Янкі, не ведаў. Кожная сустрэча з татам — не важна, на некалькі гадзін ці на цэлы дзень — была ад першага да апошняга імгнення атручана чаканнем моманту расстання. І куды б яны ні пайшлі, што б ні рабілі, непазбежнасць слоў: «Янка, мне трэба ехаць. Давай адвязу цябе дамоў», — псавала ўсё. Праўда, калі словы гэтыя ўрэшце прамаўляліся, можна было ўздыхнуць з палёгкай, што вось, *адбылося* — і нібы з душы падаў камень. А пасля дзяўчынка плакала ўночы, не разумеючы, не прымаючы, чаму яе тата, такі прыгожы, добры, моцны пакінуў яе. Душа ў Янкі ажно разрывалася, бо дзяўчынка не разумела, як суаднесці татаў учынак з тым, што яна ведае, адчувае — тата любіць яе.

Бабуля ўбівала маме ў галаву, што даравацъ развод немагчыма, увесь час абедзве злавалі на тату, не перастаючы цвярдзілі дзяўчынцы, што ён — кепскі чалавек, калі змог пакінуць яе, маленькую, пакінуць маму. І ўсе сваякі яго кепскія — дзед з бабай, якія жылі на вёсцы, і цёткі, яго сёстры, адна з якіх была хроснай дзяўчынкі — нявартыя ўвагі людзі.

Янцы было забаронена сустракацца з усімі імі разам і паасобку. А калі, надаралася, тата ненадоўга адвозіў дзяўчынку ў сем'і цётак, яна дзічылася, не размаўляла ні з кім, на пытанні адказваючы адназначна: «так» альбо «не».

Янка зрэдку бачылася і з бацькамі таты — калі яны прыязджалі ў горад. Яны прывозілі падарункі, вясковыя прысмакі, давалі грошы — і бясконца клікалі пагасціць да сябе на вёску.

Як Янка магла да іх паехаць? Безнадзейнай задумай было прасіцца ў мамы. Не адпусціць! Мама хоць і вырасла ў невялікім райцэнтры, больш падобным да вялікага сяла, чым да горада, але вёскі не выносіла. Ёй усё падавалася там нестэрыльным, не падабаліся гаворка і лад жыцця вяскоўцаў. Сябе яна лічыла гараджанкай, а ўсе размовы пра чыстае паветра, лес і дом па-над ракою не краналі яе.

Янцы ж нават снілася тая хата над ракой — у зарасніках чаромхі і бэзу, з ябланевым садам. Татава вёска пахла журавінамі, мёдам, суніцамі, сушанымі грыбамі — гасцінцамі, якія мама ўсё ж дазваляла прымаць Янцы ад бабы з дзедам… Дзяўчынка марыла паехаць у татаву вёску, што і казаць. Але, каб не напружваць і без таго няпростыя адносіны, старанна хавала свае жаданні. Калі была меншай, абяцала папрасіцца ў мамы. Пасталеўшы, стала спасылацца на сваю занятасць і падчас вучобы, і ўлетку — летнікамі, практыкай, паездкамі ў розныя экскурсійныя туры.

Тыя шчырасць і прыязнасць, з якой ставілася да Янкі татава радня, бянтэжыла і палохала дзяўчынку. Несумненна, яна адчувала — тут яе любяць. Але калі прызнаць гэты факт — трэба было западозрыць у няшчырасці і падмане з боку бабулі і мамы, якія не цырымоніліся з выразамі і давалі рэзкія характарыстыкі татавым сёстрам і бацькам. Гэтага дзяўчынка вынесці не магла, і ад нейкай пары стала прасіць у таты не вазіць яе да цётак і ўнікала сустрэч з тымі, вясковымі, дзедам і бабай. За гэта тата злаваў на яе.

Толькі дзед разумеў Янку. На маму і бабулю ён сварыўся, калі яны пачыналі казаць на тату і яго радню абы-што.

— Сціхніце, бабы, перастаньце! — чула Янка здушаны дзедаў шэпат, калі «халодная вайна» пачыналася пры ім. — Дарослыя кабеты, — даводзіў ён маме і бабулі Галі, — а не разумееце, думаць не хочаце, што гэта вы не адно яму дапякаеце, вы ж дзіцёнку душу на кавалкі рвяце. Ён ёй бацька, няхай сустракаюцца, поўнае права мае...

Пасля такіх размоў узрушаны дзед заходзіў да Янкі ў пакой і разам яны ці чыталі, ці гулялі ў шашкі. Дзед казаў Янцы:

— Маму і бабулю слухайся, але тое, што яны пра бацьку кажуць — не бяры да галавы. Гэта ў іх крыўда гаворыць. Ён твой бацька! Яны з мамай не зжыліся — але ж ад цябе ён не адракаецца. Ты разумей гэта. І благое не слухай, толькі добрае чуй.

Дзед вучыў маленькую дзяўчынку паблажліва ставіцца да дарослых, і ў душы Янкі з'яўляўся прасвет, без якога немагчыма было ні жыць, ні дыхаць. Яна вучылася ўсё кепскае ў міжсямейных стасунках успрымаць як дакучлівыя абставіны, а момантам прымірэння радавацца як сапраўднаму святу. Гэтым маленькая дзяўчынка нагадвала бабульку, якая пражыла доўгі век і займела жыццёвую мудрасць. Каб не гэта — невядома, як дзіцячае сэрца вытрывала б дарослыя разборкі. Дзед са сваёй навукай быў Янчыным ратавальнікам.

Калі яго раптоўна не стала — Янка ледзь выжыла.

Дзед Мікалай загінуў у аварыі. Здарылася гэта ўлетку, спякотным жніўнем, падчас вяртання дадому са сталіцы. Відаць, стомлены напружанай працай і паездкамі, дзед заснуў за рулём і выехаў на сустрэчную паласу. Янку доўга пасля пераследвалі думкі, што каб яна не ўгаварыла дзеда затрымацца і пайсці з ёй у краму, можа, усё было б інакш і не спаткаўся б ён з той машынай.

Хавалі дзеда Мікалая ў яго роднай вёсцы, і суседзі нанеслі да труны нябожчыка ахапкі флоксаў, якімі былі засаджаны палісаднікі. Іх задушлівы пах выклікаў у Янкі такую агіду, нібыта гэта і была прыкмета смерці, нібыта кветкі былі вінаватыя ў тым, што яе вясёлы, добры дзед цяпер ляжаў нерухома. Тады яна выйшла ў двор, і ў агародчыку ля іх хаты павырывала і патаптала ўсе флоксы, нібы зводзіла рахункі з незразумелым, недарэчным, непрымальным.

Янка дапіла каву, сцягнула з галавы цюрбан. Уткнулася ў яго тварам і бязгучна заплакала — так апёк успамін пра дзеда. Ён быў згадкай пра адзіноту — нейкую беспрасветную адзіноту, якая апанавала яе пасля смерці дзеда і была яе пакутай. Нават яе падлеткавыя праблемы былі зведзены да ўнутранага змагання з гэтай ўсёпаглынальнай адзінотай.

З татам яна сустракалася па-ранейшаму: на святы і па выходных. Зрэдку заязджала да яго на працу, перасякаліся ў кафэ. Ад бацькавых сваякоў Янка была па-ранейшаму далёкая, бо да нядаўняй пары злосць мамы і бабулі заставалася непераадольнай перашкодай для сустрэч.

Але вось пару гадоў таму бабуля Галя з’ехала жыць у Швецыю. Усё пачалося з запрашэння папрацаваць у сям’і, выкладаць музыку дзецям. Гаспадар — швед, гаспадыня — беларуска, якая прыжылася на шведскай зямлі… Там, на заробках, бабуля пазнаёмілася са шведскім пенсіянерам — і выйшла замуж. Вось цяпер Янка да яе каторы раз ездзіла ў госці.

Падчас апошняга гасцявання баба Галя раз-пораз здалёк заводзіла размовы пра мамінага сябра, цьмяна пачынала разважаць пра рэўнасць дзяцей да сваіх бацькоў, відаць, імкнучыся выклікаць на шчырасць унучку і даведацца пра яе стаўленне да Ігара.

Янка ж да пары да часу ігнаравала бабуліны намёкі. Прамая па натуры, дзяўчына не выносіла недагаворак. І аднойчы запытала бабулю наўпрост:

— Ба, калі ты хочаш ведаць, ці я не супраць таго, каб мама сустракалася з Ігарам — так і скажы. Я адкажу: толькі за! Ведаеш, як мама змянілася! У яе ж гаворкі раней як пра сваю прафесійную дзейнасць ды майго «кепскага» тату амаль што не было. А з Ігарам яны і падарожнічаюць, і ў кіно ходзяць, і на выставы, дык і тэм для размоў паболела. І да мяне яна менш чапляцца стала. Няхай бы яны ўжо і шлюб узялі! Пры ўмове, што ніхто не будзе змушаць мяне называць яго татам…

Помніцца, як знямела бабуля і доўга бубнела сабе пад нос, якая моладзь дзёрзкая, і ва ўсім разбіраецца, бач ты… А позна ўвечары, калі Янка ляжала ў ложку, не ў стане выбраць сабе канал па гусце, прыйшла, села на краёчак, абняла яе і стала плакаць, выбачацца, што з’ехала ад іх у замежжа — нібы кінула.

— Ба, ну што ты! У цябе ж таксама асабістае жыццё! — паблажліва сказала Янка, увагнаўшы ў яшчэ большыя слёзы бабу Галю сваёй дарослай разважлівасцю.

І Янка ані не крывіла душой. Сапраўды, з’яўленне Ігара ў сям’і неяк абнадзейвала. Мама палагаднела. Была занятая Ігарам, і апошнім часам нават менш злавала на тату. Ды і не было каму падліваць алей у агонь — бабуля таксама была занятая сваім жыццём.

Янку радавалі такія перамены. Гады згрызот, калі даводзілася балансаваць, перажываць, пад усіх падладжвацца, проста выматалі яе.

І вось неяк так сталася, што ва ўсіх усё ўладкавалася, зладзілася. Тата — са сваёй сям’ёй, з ёй — па графіку; мама — з Ігарам. Нават бабуля са сваім шведам.

А Янка — адна ў пустой кватэры…

Яна так чакала лета, напоўненая прадчуваннем нечага незвычайнага, узнёслага, што вызваліць яе ад гнятлівай адзіноты, дазволіць усміхацца.

Ян*а* хацела сапраўднай радасці. А калі, як ні летам, чакаць незвычайнага? Доўгія вакацыі давалі магчымасць жыць, не спяшаючыся, прыслухоўвацца да сябе, а не бегаць па горадзе на злом галавы. У гімназію — з гімназіі; з музыкі — на заняткі жывапісам; з фітнеса — у шахматна-шашачны гурток… Калісьці, яшчэ ў пачатковых класах, такі тэмп жыцця задала баба Галя.

— Трэба, каб дзіця было занята, — казала яна. — Няма чаго на вуліцы без справы ашывацца ды на лавачках семкі лузгаць!

І ўзяла на сябе клопат развозіць Янку па гуртках ды студыях. Мама і пярэчыць не стала супраць такой выхаваўчай методыкі.

У выніку Янка грала на фартэп’яна і гітары, вельмі прыстойна малявала, паспяхова выступала на конкурсах бальных танцаў, перамагала на гарадскіх шахматных турнірах, мела спартыўны разрад — і маміны сяброўкі напаўжартам-напаўсур’ёзна казалі, што жаніха такой усебакова развітай асобе трэба шукаць з баронаў.

Янку злаваў прагматычны падыход да пачуццяў, і такія жартаўлівыя размовы яна ўспрымала варожа. Дзяўчыне выдавала, што сапраўднае пачуццё можна спалохаць і адпрэчыць пустой балбатнёй. Аднакласніцы Янкі даўно сустракаліся з хлопцамі, расставаліся і зноў знаёміліся з некім. А яна заставалася адна, нібыта асцерагалася разменьвацца…

Да чаго быў сённяшні зорны сон? Сваёй незвычайнасцю і хараством толькі напяў душэўныя струны, абвастрыў пачуцці, адчуванні і — дадаў самоты.

Надзеі і чаканні не спраўдзіліся, бо на дварэ — апошні дзень лета…

Дзяўчына прыбралася ў кватэры, а стрэлкі гадзінніка толькі-толькі наблізіліся да лічбы дзевяць. Не здарма кажуць: «Хто рана ўстае, таму Бог падае». Дзень толькі бярэцца, а палова запланаваных спраў ужо зроблена.

Янка звыкла шчоўкнула пультам ад тэлевізара. Аднак хуценька, ледзь паспеў замігцець экран, вымкнула яго. Раптам стала пранізліва шкада гэтым апошнім летнім днём марнаваць час перад экранам.

«Схаджу ў парк! — вырашыла раптам дзяўчына. — Заадно па дарозе набуду прадукты».

Ян*а* хуценька пераапранулася, сцягнула гумку з густых цёмных валасоў — і яны цяжкой хваляй паплылі-рассыпаліся па спіне.

На кухні дастала са скрыні рэшткі батона, каб у парку пакарміць качак, і праз пару хвілін стаяла на двары.

Працоўны дзень толькі пачаўся, і жыццё віравала ў сярэдзіне будынкаў, пад завязку напханых офісамі. Праз нейкі час людзі вырвуцца на абед ад камп’ютараў, ксераксаў, факсаў — і горад зноў заварушыцца, як растрывожаны мурашнік.

А пакуль у цэнтры ціха. І паветра не такое, як улетку. Нібы да развітальнай спякоты дадалося восеньскай смугі, але яна не рашаецца асесці на зямлю заўчасна, за дзень да прызначанага календаром тэрміна, завісла над галавой і трымціць у нагрэтым сонцам паветры. Такое адчуванне, што варта падскочыць і — ухопіш за край гэты празрысты засмужаны вэлюм, сцягнеш на зямлю, скруціш, схаваеш і — хаця б на дзень яшчэ адсунеш надыход восені.

Адчуванне было такім моцным, што Янка сапраўды ўскараскалася на лаўку ў парку і пацягнулася-падскочыла да краю трапяткой смугі, што спускалася з нябёс на горад.

І тут у руку ёй упаў жоўты лісток, адразу вярнуўшы на зямлю летуценніцу-мройніцу. Янка зацiснула яго ў жмені — нібыта восень за падол ухапіла. Калі ж раскрыла далонь — лісток падмігнуў сонечным зайчыкам. Яшчэ не ўсохлы, бліскучы, нібы лакіраваны. Проста звыклую летнюю зеляніну адным з першых памяняў на восеньскае золата.

Янка адно толькі ўздыхнула, здзіўляючыся свайму настойліваму імкненню спыніць сыход лета, азірнулася па баках — ці не бачыў хто яе скокаў. Не, у парку таксама пакуль было бязлюдна, і дзяўчына рушыла да ракі.

Парк быў любімым месцам Янкі, а кармленне качак — заняткам, які прымірыў яе з дарослымі. Яны хоць і не маглі знайсці паразумення паміж сабой, але ўсе як адзін мусілі хадзіць разам з Янкай у парк. Гэта была яе дзіцячая таямніца: прыводзячы на адно і тое ж месца паасобку то тату, то маці, то бабулю, то дзеда, яна ў сваіх марах нібы аб’ядноўвала разбураную сям’ю — і знаходзіла ў гэтым уцеху.

Янка дастала батон, паклала на бетонны парапет і, адломваючы кавалкі, пачала кідаць у ваду. Птушкі, зранку яшчэ не адораныя ўвагай гараджан і пачастункамі, рынуліся на батон, як сто гадоў не еўшы. А самыя спрытныя падняліся ў паветра і скіравалі проста на Янку.

Смешна было глядзець на палёт таўстух-качак, так яны нагадвалі бамбавозаў, і Янка гучна рассмяялася, прыўкрыўшы па звычцы твар рукой, у якой трымала кавалак хлеба.

І тут на ляту качка выхапіла з рукі хлеб, моцна дзюбнуўшы дзяўчыну ў шчаку і зачапіўшы крылом твар.

Янка разгубілася і ледзь не кінулася наўцёкі, бо яшчэ некалькі качак кіравалі проста на яе.

Раптам нехта схапіў яе за руку і тузануў убок.

Качкі праляцелі міма і плюхнуліся непадалёк ад дзяўчыны, уважліва цікуючы за хлебам у ейных руках.

— Ты не так робіш! — падаў голас Янчын ратавальнік. — Хлеб трэба ў пакеце трымаць, не паказваць ім, тады і атакаваць не будуць.

Са скейтам у руках ля Янкі стаяў высокі чарнявы хлопец. Густыя хвалістыя валасы, цёмныя бровы ўразлёт, зялёныя пад доўгімі вейкамі вочы. І — усмешка. Шчырая, адкрытая, адначасова спагадная і крыху задзірлівая, нібы хлопец адразу ж падрыхтаваўся да магчымага адпору на свае рашучыя дзеянні.

Янка пыхнула, нібы яе заспелі за нечым, вартым сораму, і пачырванела да бурачковага колеру. Яна вырвала сваю руку, і спешна пачала пхаць у пакет батон.

Батон, напалову ўжо скрышаны, нібы пабольшаў, ніяк не хацеў лезці ў пакет, і Янка разгубілася зусім. Яна не знайшлася нават, што сказаць хлопцу ў адказ, адно толькі пульсавала думка, што яна ўсё робіць нязграбна і недарэчна.

Хлопец перапыніў яе ліхаманкавыя рухі, адняўшы і пакет, і батон:

— Дай сюды!

Уладкаваў усё як след, падышоў да парапета і сам стаў карміць птушак.

Качкі, што тапталіся пад нагамі, узняліся ў паветра і паляцелі на ваду.

— Бачыш, так яны толькі за кавалкамі цікуюць, — сказаў хлопец. — Не трэба перад імі ўсім батонам махаць, а то другі раз і вочы могуць выдзеўбсці. Дарма, што здаюцца непаваротлівымі.

Янка слухала моўчкі. Тады ён першым падаў руку і назваўся:

— Арцём.

— Яніна… Янка, — здушаным голасам азвалася дзяўчына, але, прамовіўшы імя, нібы скінула з сябе здранцвенне. Засмяялася, працягнула руку хлопцу.

— Хто б падумаў, што гэтыя качкі так атакаваць могуць! Колькі сябе помню, ходзім іх карміць, і вось — упершыню наляцелі. Напалохалі! — даверліва прызналася яна.

Дакармілі качак разам, у размове высветліўшы, што і Арцём любіць менавіта гэты гарадскі парк. З той самай нагоды, што і Янка — тут ён сустракаецца са сваім бацькам.

Відаць, менавіта гэта акалічнасць зблізіла маладых людзей, і Янка, звычайна скрытная, пачала расказваць хлопцу тое, што перадумала сённяшнім ранкам. І пра маму з Ігарам, і пра татку, і пра бабулю з дзедам.

Арцём слухаў яе ўважліва, не перабіваючы. І толькі калі Янка сказала, што адмалку не бачылася ні са сваякамі таты, ні з яго бацькамі, здзіўлена ўскінуў вочы.

— А ў мяне неяк інакш усё. З бацькам час ад часу бачымся, але ён больш заняты сваёй другой сям'ёй. Нават з аліментамі праблемы былі, маме гадаваць мяне не хацеў дапамагаць. Вось толькі калі я падрос, сталі часцей сустракацца. Мама смяецца, што ён так да старасці рыхтуецца — у той сям'і дзеці не яго, прыёмныя, а я — родны. Дык вось, каб было каму на старасці гадоў вады падаць… А са сваякамі з яго боку кантактаў у мяне таксама няма, — але не таму, што мама не хоча. Наадварот, бацькава радня з нейкай прычыны не ўзлюбіла маму — і з намі не знаюцца. Ого, каб

мяне да сябе клікалі тыя дзед ці баба! Не клічуць!.. — і хлопец, выказаўшыся, неяк сцяўся, замкнуўся ў сабе — і было адчуванне, што пра набалелае, асабіста-пякучае, ён асмеліўся ўголас сказаць упершыню. Ёй, Янцы.

Ян*а* адчула гэта і перавяла размову на іншае. Пачалі згадваць папулярныя фільмы, прачытаныя кнігі, любімую музыку, штораз адзначаючы і здзіўляючыся, як супадаюць іх густы. Звычайна не вельмі гаваркая Янка сакатала, як заведзеная, апісваючы сваю школу, аднакласнікаў, дзелячыся намерамі паступаць на праграміста.

Арцём слухаў уважліва і адначасова паблажліва, як умеюць слухаць людзі, якія бяруць на сябе адказнасць апекавацца над некім — слабейшым.

Батон скончыўся. Янка склала ў заплечнік пакет, Арцём узяў у рукі скейт — і разам яны пайшлі прысадамі, то заглыбляючыся ў парк, то выходзячы на набярэжную.

Гулялі, не зважаючы на час. Пакрысе запоўніліся людзьмі і машынамі праспект і гарадскія вуліцы. Ажыў, напоўнены дзіцячымі галасамі, парк. Дзяўчаткі і хлопчыкі, прывезеныя пасля летніх вакацый у горад, нагадвалі піратаў, якія знянацку трапілі ў цесныя гарадскія межы. Яны галёкалі, апантана насіліся, нібы імкнуліся хапануць недабранай летам вольніцы. Дарослыя амаль што безнадзейна ўшчувалі іх, нагадвалі аб правілах бяспечных паводзін тут, у горадзе, стрымлівалі назапашаную за лета энергію, якая біла праз край — ды безвынікова. Заўтра школа ці дзіцячы садок возьмуцца ім нагадваць пра абавязкі і правілы паводзін, а сёння, у апошні дзень лета, яны яшчэ напоўніцу карысталіся правам быць дзецьмі і — быць вольнымі.

Нібы спалохаўшыся іх звонкіх галасоў, затрымцела і ўзнялася на недасяжную вышыню смуга. Здалася, адступіла — або дала час на роздум пра тое, што восень — не толькі сумная, але найперш — незвычайна прыгожая, багатая яркімі фарбамі пара.

…Янка спахапілася першай. Ледзь не забылася на трэніроўку, а яшчэ за прадуктамі ў краму зайсці — трэба ж сваіх курортнікаў сустрэць як належыць.

І Арцёму, высветлілася, час спяшацца па справах. Яго клас, таксама выпускны, ладзіў прывітанне першакласнікам, і пасля абеду мелася быць рэпетыцыя.

Яны абмяняліся тэлефонамі і дамовіліся сустрэцца заўтра пасля ўрокаў. Месца нават не абмяркоўвалі — у парку, ля ракі.

Не чакаючы ліфта, Янка ўзляцела на свой паверх і вызірнула з акна на пляцоўцы.

Арцём стаяў у двары. Ён усміхнуўся дзяўчыне, памахаў рукой і, перакінуўшы з рукі ў руку скейт, пакрочыў у бок метро.

Янка палезла па ключы ад кватэры — і разам з імі выцягнула залаты лісток, злоўлены ў парку. Вось паклала ў кішэньку — і забылася на яго. Пачала разглядаць атожылкі, плямкі барвы на золаце, не сцёрты яшчэ восенню зялёны краёчак… Узгадала свой ранішні настрой, здзівіўшыся, як ён змяніўся ўсяго за некалькі гадзін.

Новы настрой патрабаваў рашучых дзеянняў. І перш, чым бегчы на трэніроўку, Янка адшукала тэлефон татавых бацькоў і набрала нумар.

Слухаўку падняла бабуля. Пачуўшы, хто тэлефануе, яна спачатку вохкнула, тады заплакала, а пасля засмяялася.

Янка ж сказала:

— Бабулька, прабач, што за лета я зноў не выбралася да вас прыехаць. На восеньскія вакацыі чакайце! Спадзяюся, цяпер усё будзе па-іншаму, вось пабачыш. Люблю вас! І дзеду прывітанне перадай!

Пасля Янка паклала лісток паміж старонак у кнізе — засушыць на памяць пра апошні дзень лета.

На душы было спакойна і радасна — як пасля вяртання на зямлю ў яе зорным сне.

# АДНОЙЧЫ БУДЗЕ ВЯСНА. САМАЯ НЕЗВЫЧАЙНАЯ

***35 гадоў я не пісаў вершаў. Хіба што сябрам на дні нараджэнняў, дзеля смеху. Але ніводнай рэдакцыі нічога не прапаноўваў. Вось як у сёмым класе напісаў і адправіў апошнія ў нейкую піянерскую газету, з тае пары ні радком не мучыў бедных літсупрацоўнікаў і загадчыкаў аддзелаў паэзіі.***

***35 гадоў мы з ёй не бачыліся. Што тады было, калі я перастаў пісаць вершы? Нешта першае, светлае, невытлумачальнае, для мяне — страшнае і незразумелае, ад якога я не тое што збег, але схаваўся.***

***Мы разлучыліся, і шляхі нашы разбегліся на 35 гадоў.***

***Выпадковая сустрэча.***

***Зрэшты, усё ў вершах.***

***Сёння я кажу тыя словы, якія павінен быў сказаць 35 год таму. Сёння я жыву тымі пачуццямі, але не баюся, разумею і прымаю іх з удзячнасцю.***

***Што ў гэтых вершах... не ведаю. Можа, фантазія. Можа, мара. Можа, жаданне. Прабачэнне, прызнанне, чаканне... І ўдзячнасць. Сваё прозвішча я змяніў. Бо так яна прасіла. Таму што важней за ўсе яе пачуцці да мяне яе жаданне не прыўнесці ў маё сямейнае жыццё хоць нейкі цень разладу.***

***Нехта згадае тут сівую бараду, рэбры і чорта.***

***Але, сябры, зразумейце, што я і сам дарэшты не ведаю: гэта было ці гэта толькі прымроілася...***

Віктар РЫХЦІКАЎ

*Надзеі Вярбіцкай*

## ВЯСНА-2014

Разумныя скажуць:
ад гэтага трэба лячыцца.
Ды нельга шчасце адчуць,
не зміры́ўшыся ў сэрцы з болем.
Гэтай вясной
у вачах самотнай ваўчыцы
Мне першацвету агеньчык
Свяціўся надзеяй кволай.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Аднойчы будзе вясна. Самая незвычайная.
Яна будзе такой таму,
што будзе з табой цяпер.
Будзе дарога дамоў,

дзе чакаюць магілы маці нас.
Але нешта здарыцца —
Мы прыедзем на многа гадоў раней.

І ты будзеш саромецца, палахліва азірацца на хаты.
Хоць за намі ніхто не цікуе —
вочы хат памерлі даўно.
І я, шчэ гадзіну таму
такі ўпэўнены, зухаваты,
Раптам адчую, як зараз мне мала гадоў.

І я буду чакаць, як чакаў і тады, у тым леце,
Першы крок — ад цябе.
Ты толькі не смейся.
Смех — здзек.
Але (абяцаю!) трошкі буду смялейшым.
Крыху разумнейшым.
Па вачах прачытаю: што мне рабіць і дзе.

Калі ж памылюся… Ты не крыўдуй,
адно ўсё папраў хутчэй.
Даруй. Я магу памыліцца,
бо не помню колер тваіх вачэй.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Твае калені пахнуць сёмым класам.
Пакладзі на ўлонне
маю галаву.
І хай звернецца свет у сувой!
Я буду чакаць тваіх пальцаў рук
(аб вуснах мне марыць страшна).
Абы не пачуць
адчайна-балючае:
— Прабач, але ты не мой.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вось і дачакаўся — ад гэтага дня,
Штораніцы ідучы на працу,
Бачу перад сабой сонца,
Што нібы вітае мяне з-за царквы
Зыркім чырвоным святлом.
І быццам святлей робіцца на душы.
Але я ведаю, што сонца
Ніяк не вітае мяне.
Яно проста гарыць у мільёнах кіламетраў адсюль —
Велізарны вогненны шар у халоднай пустэчы.
І ніякай справы яму няма
Да казуркі на далёкай планеце.

…Таму не называю гэту жанчыну сонейкам,
Хоць яна асвяціла мой сённяшні шэры час.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Яна дзесяць шэрых гадоў
чакала мяне,
Калі не лічыць тых гадоў,
калі яна проста помніла.
Сустрэліся. Я, баючыся,
што час назаўжды міне,
Прыйшоў да багіні сваёй
чарговым вогнепаклоннікам.
Укленчыў, схіліў галаву,
гатовы служыць ад парога.
І зразумеў: багіня мая не чакала раба.
Але бога.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я прынёс ёй сваю пяшчоту
Ў далонях, адкрытых небу,
Той вясной выбухной, імклівай,
Як чэрвеньская навальніца.
Яна напужалася: «Шчасця
на няшчасці чужым мне не трэба».
Але ж яно толькі тваё!
Без цябе як магло нарадзіцца?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Хай раніцу ўсім нясе
Сонца па жывой расе.
А маёй Надзеі —
Снапочак надзеі.
І снапочак веры,
Каб адкрыла дзверы
У сваёй машыне,
Мяне пасадзіла
І звезла далёка —
Дзе гадоў мне мала.
Дзе busліны клёкат
І жывая мама,
Дзе што дзень, то дзея,
Дзе усё знаёма.
Дзе сама Надзея
Шчэ у класе сёмым...

*Рубрыка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта*

# НІЗКА ВЕРШАЎ ПАЭТАЎ АФРЫКІ

***Афрыканская паэзія закранае тыя ж тэмы, што хвалююць паэтаў іншых краін свету: сталенне, каханне, непазбежнасць смерці, экалагічныя катастрофы. Аўтары спрабуюць адлюстраваць рэчаіснасць, зразумець сутнасць падзей, якія адбываюцца з імі і са светам, прапануюць чытачам свой варыянт разумення чалавечай прыроды.***

***Адной з асаблівасцей сучаснага літаратурнага працэсу ў афрыканскіх краінах з'яўляецца наяўнасць пэўнага сінтэзу элітарнай і масавай літаратуры. Развіццё новых тэм, пошук новых літаратурных форм сведчаць, на думку многіх айчынных і замежных даследчыкаў, пра жыццяздольнасць сучасных афрыканскіх літаратур і дынамічнасць іх развіцця.***

***Прапануем чытачам «Маладосці» пазнаёміцца з творчасцю сямі аўтараў, з іх незвычайнымі і ў той жа час кранальнымі сусветамі, у якіх кожны зможа адшукаць для сябе крыніцу натхнення.***

## Мазісі КУНЭНЭ
(Паўднёвая Афрыка)

### ДАБРЫНЯ

Я чакаў нястомнасці
Вашых рук
Што сабралі ўсе ўраджаі кахання.

На досвітку
Вы ішлі сярод мноства людзей
Якія вас абдымалі.

Вы вярнуліся да натоўпу ў чаканні
Каб прапанаваць адно аднаму свае напоўненыя сасуды.

## Чынуа АЧЭБЭ
(Нігерыя)

Хуткасць — гэта гвалт
Моц — гэта гвалт
Цяжар — гэта гвалт

Матылёк шукае бяспекі ў лёгкасці
Ў бязважкім, хвалістым палёце

Але на скрыжаванні дзе ад дрэваў
рабое святло падае на новую шашу
Сутыкаюцца нашы звужаныя тэрыторыі

Я прыходжу напоўнены сілай, якой хапіла б на двух
І пяшчотны матыль у залатым бляску ахвярue сабою
На маім цвёрдым крэмніевым шчыце.

## Дэніс БРУТУС
(Паўднёвая Афрыка)

У прыветлівай цемры, рухаюся
як птушка, што прыпыняецца на ляту
каб сплаціраваць па плынях
нахіленага паветра

і я паварочваюся, выматаны працай
і тупымі зубцамі клопату
каб адшукаць твой твар, тваё горла
і мяккую цемру тваіх валасоў;

плоць ляжыць утульна ў прасцінах
розум, загорнуты шчыльна ў складкі
ночы, што ціха разгортваецца коўдрай
чакае лёгкага водару сноў,

але сэрца маё ўзлятае і коціцца
грукочучы скрозь прыветлівую цемру
каб адшукаць твае вусны і сэрца
і там агнездавацца ціхмяна.

## Джарэд АНГІРЭ
(Кенія)

**АЎТАСПЫН**

Памяць
стаіць як парэпаная бронзавая статуя
у музеі
размаўляе, усміхаецца, калі мы стамляемся ад жыцця

мы змагаемся каб прыпыніць
стары цяжар на ўласных спінах,
дождж прыбівае зямлю, мы цялёпкаемся, знікаем

з’ехаўшы далёка, я натыкаўся
на горы гісторый,
мёртвыя азёры, дзе ўзведзены бібліятэкі
колы цягніка,
праносячыся праз нас,
пляткарылі нібы вар’яты
лавіны будучыні выгіналіся, пераследуючы
вясёлку

цукар і соль аднолькавыя на смак для таго хто памірае
я мушу паспрабаваць склеіць
разбітыя часткі сваёй скрыжалі?
хаця застанецца след
і толькі пранізлівым вокам можна будзе заўважыць
што калісьці скрыжаль мая разбівалася, а потым яе склейвалі —
скрыжаль з расколінай, не чорная і не белая
паеду аўтаспынам з пілігрымамі ў В’етнам, сказаў бос.

## Ленры ПЕТЭРС
(Гамбія)

Твар мой маўклівы
ў купэ цягніка
у чарзе
плоць мая млее ад грыму
жудасна непрытомны
я вандрую праз адчайныя
пустэльныя месцы, жыццё маё
бессэнсоўна заканчваецца ў табе
пустая бляшанка коціцца долу па брукаванцы

мне вядомая моц ветру
у лютасці і жарсць хваляў
— ніякіх русалак —
Стоячы як я
як усе мы
на самым ускрайку хаосу
мая маладосць паглыбляецца ў прагныя
нетры зямлі; абязводжаны.

Пустая выява ўзіраецца праз полымя
праз шчыльнае шчодрае заўтра
аздобленае віной.
Я ірву падпечаныя пасмы сонечнага святла
трыснёг, высушаны трыснёг рыпіць у маіх лёгкіх
і каб трымаць поўную ў цэнтры спатрэбіцца ўсё маё жыццё.

Раструшчваць мёртвае шкло ў сваёй моцнай руцэ бессэнсоўна.
Не крывяніць, не суцяшаецца боль
не растае як снег
гэта пустэча, гэтае пекла, створанае мной.

***Пераклад Вольгі ГАПЕЕВАЙ***

# Адзія АФЕЙМУН
(Нігерыя)

## БЕЗ ЦЯБЕ

Калі цябе няма
маё жыццё — бег па коле
у спробе ратавання
ад няіснага заўтра

Я вінаваты
ў не сваіх грахах
што носяць на крылах
бясконцыя трывогі

Без цябе
няма фарбаў на маёй зямлі
нібы ў доме
адкуль ноччу выходзіць госць
і згасае святло.

## ЗГОДНА СА ЗДЫМКАМ

Усяго будзе замала,
захавай у сабе прысутнасць дзікага звера

Ты падобная да анёла,
які спусціўся,
каб ажывіць мой знясілены зарад,
і гэты анёл
гучыць увасабленнем чысціні
Але —

Ты не павінна меркаваць,
што змагла
ператварыць маю страшэнную цягу да цяпла
у супакаенне;
хутчэй
ты навастрыла леапардавыя кіпцюры
адзіноты, якія высмейваюць
іронію нашых дзён.

Я змаўкаю, разумеючы, што валодаю тым,
чаго мне не ўтрымаць
—激ванароджаная яшчарка,
пачвары, раскаянне,
я расціскаю пальцы —
набіраюся адвагі і кажу

Ты павінна завастрыць каноэ
сваіх турбот

у прыбярэжных водах надыходзячага змяркання
там, дзе твая ўсмешка будзе побач са мной год за годам,
каб прыручыць дзікія поклічы
гэтых бясконцых сумневаў

О, усяго будзе замала,
захавай у сабе прысутнасць дзікага звера.

**ЛАГУНА**

Хай лагуна кажа замест маёй памяці
хоць яна і захоўвае крыўду на вадзяны гіяцынт,
смецце і начное золата...

Я ўсё яшчэ дазваляю лагуне вярнуць
спакушэнне зямлі, што рухаецца
у жаданні, як карабель,
які пераследуе вядомую зорку

Лагуна кажа
як зародак, што памятае будучыню,
прыслухоўваючыся да глыбінь невыразнай песні
ад імя Словаў, якія разбіваюцца
аб вандроўкі адкрыццяў
у адкрыццях вандровак

Мая Лагуна кажа!
шлюз і склад; заўсёды ў вадзе,
у гоначных заплывах, перагортваючы
чароўнае смецце нашых завулкаў
пасля дажджоў,
эпічныя паводкі
выказваюць свой жаль

Хай лагуна кажа замест маёй памяці
каб я навучыўся як смяяцца
над лініямі, намаляванымі на вадзе
што падзяляюць зямлю

Хай лагуна вучыць мяне
забываць назвы вуліц
каб праглынаць цэлыя гарады
быццам келіх віна з колай.

## Бахадур ТЭДЖАН
(Кенія)

### ПАКІДАЮЧЫ КРАІНУ

Тады розум
стаў целам
пагружаным
у водную коўдру мусонаў
глыбокі шок перамяшчэння
змена колеру
і веравызнання
і краіны.

Цьмяны боль
Успамінаў
што працінае
час і прастору
бы заблукалыя дзеці
ў лесе
іх не спужаць дзіўнымі дарогамі
таму што невядома — ўсё
не спужаць прыцемкамі
таму што ўсё —
бясконцы вечар
блукальны
бо няўпэўнены крок наперад
— гэта прадвызначаная роля канечнасцей.

Але жахліва, таму што
лес — бясконцы
і за яго межамі
праз бляклы лапік
зялёнай цемры
сонца свеціць
як хімера
то паглыбляе глабальны змрок.

Ёсць толькі адно суцяшэнне:
былі
таксама іншыя,
што затрымаліся ў прыцемках,
што згубілі
дом і краіну
а часам
і колер
што шмат падарожнічалі
але ніколі не адчувалі сябе шчаслівымі.

***Пераклад Вольгі БУБІЧ***

***З кнігі «POEMS OF BLACK AFRICA» (1975, Heinemann)***

Ірына ШАЎЛЯКОВА

# ФАНТАСТЫКА ЯК СУРОВАЯ РЭАЛЬНАСЦЬ

## *Праект канцэпцыі «сціплага вершніцтва» для беларускай фантастычнай прозы*

Няма ў нас рэзонаў сціплічаць: на магутнай хвалі неаміфалагізацыі, якая накрыла рэальнасць (свядомасць індывідуальную і калектыўную, культуру элітарную і масавую, гісторыі «прыватныя» і «вялікія») амаль на пераходзе паміж стагоддзямі, найноўшая беларуская літаратура магла б быць Вершнікам. Бо Міф ёсць адначасова каранямі і вершалінай нацыянальнага прыгожага пісьменства: нездарма неаміфалагічная свядомасць бачыцца М. Тычыну «адной з самых прыкметных праяў нашага менталітэту»[1].

Ёсць усе падставы меркаваць, што найноўшая беларуская літаратура магла б калі не «ачоліць», дык хаця б узняцца (на людзей паглядзець і сябе паказаць) на той хвалі. Бо трывушчасць ды жывучасць яе Міфу гарантуюцца адметна беларускім катастрафізмам — вытокам і вусцем, падмуркам і шпілем мастацкай светабудовы роднага прыгожага пісьменства: паводле П. Васючэнкі, «катастрофа, яе прадчуванне або перажыванне сталася істотнай часткай беларускага светаадчування»[2].

Магла б. Калі б, халера, не тая клятая сціпласць.

А можа, справа зусім не ў сціпласці, але ў звышадказнасці?... Хай сабе «лыцары»-чужаніцы (раманісты, навелісты і розныя там іншыя белетрысты) заваёўваюць для сваіх літаратур новых чытачоў: заманьваюць іх (цэлымі натоўпамі!) з дапамогай фэнтэзі ды неаготыкі, дэтэктываў (псеўдагістарычных) ды трылераў (нібыта мастацтвазнаўчых). Няхай шлакочуць даверлівай публіцы нервы хорарам крывавым і забаўляюць, як дзяцей, жахамі містычнымі… Беларускія літаратары думаюць (у асноўным) пра важнае, галоўнае: пра Беларусь. І тут ужо альбо грунтоўна да справы падыходзіць (каб і пісьменнікам не сорамна было звацца), альбо разменьвацца на ўсялякую драбязу, усе гэтыя трэнды-брэнды, фэнтэзі-фантастыку, містыку-готыку…

Гэтую «жанравую сцэнку» чалавек сур'ёзны (прынамсі, больш ці менш абазнаны ў буднях і клопатах НайБелЛіту) мог бы пакінуць без увагі — як «вучэбны тэкст», практыкаванне ў рыторыцы, якую з імпэтам узяла на ўзбраенне так званая літаратурная журналістыка. Мог бы. Калі б здолеў абмінуць увагай відавочны парадокс, які заключаецца не проста ў несупадзенні, але ў зваротнай залежнасці патэнцыялу найноўшай беларускай літаратуры — і выніковасці таго літаратурнага працэсу, які разгортваецца тут і цяпер. Інакш кажучы, навідавоку канфлікт паміж тым, што па ўсіх рэзонах павінна быць — і тым, што насуперак усім рэзонам ёсць у НайБелЛіце.

Ускосныя аргументы на карысць таго, што памянёнае «вершніцтва» мінімум на дзесяцігоддзе магло б стацца для НайБелЛіту паспяховым праектам (паняцце з арсенала НБЛ-менеджараў), адшукваліся ўжо напрыканцы 2000-х. У працэсе падрыхтоўкі агляду беларускай прозы першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя па прапанове С. Лаўшука давялося сістэматызаваць надзвычай разнастайныя і часам несупастаўляльныя празаічныя «артэфакты» (тэксты ды творы). Цягам гэтай працы ў якасці

[1] Тычына, М. Апавяданне — гэта апавядальнікі / М. Тычына // Сучасная беларуская проза. Традыцыі і наватарства : Анталогія. — Мінск : Сэр-Віт, 2003. — С. 8.

[2] Васючэнка, П. Ад тэксту да хранатопа : артыкулы, эсэ, пятрогліфы / П. Васючэнка. — Мінск : Галіяфы, 2009. — С. 3.

адной з найбольш выразных акрэслілася тэндэнцыя да пераасэнсавання сутнасці і функцый мастацкай умоўнасці. Згаданая тэндэнцыя на розных узроўнях мастацкай сістэмы выяўляецца, вядома, з рознай ступенню інтэнсіўнасці і можа набываць самыя нечаканыя вынікі: ад узрастання змястоўнай ды фармальнай «вагі» прытчавасці (проза В. Быкава, В. Казько, В. Карамазава), сімвалічнасці і алегарычнасці (творы Ф. Сіўко, А. Федарэнкі, Б. Пятровіча, А. Наварыча, А. Брава, Н. Бабінай, М. Андрасюка), гратэскавасці (аповеды А. Мінкіна, В. Мудрова, А. Клінава, С. Рублеўскага) да зрушэння стылявога (змястоўна-выяўленчага) «цэнтру цяжару» ў сферу фантастычнага і містычнага (аповесці і раманы Ю. Станкевіча, А. Казлова, Л. Рублеўскай, В. Чаропкі, А. Бароўскага).

Яшчэ адным указаннем на гатоўнасць беларускай прозы адрэагаваць належным чынам на чаканні шырокай чытацкай аўдыторыі можна лічыць і пэўную актывізацыю літаратурнай фантастыкі. Дзеля зручнасці ў межах нашай размовы можна дамовіцца, што ў засені гэтага паняцця няхай будзе месца ўсяму: «прыгодніцкай фантастыцы, касмічнай оперы, містычнаму дэтэктыву, фэнтэзі»[1], а таксама поўнаму «жанрававідавому спектру» антыўтопіі (М. Аммон, напрыклад, улучае ў гэты спектр экатопію, кіберпанк, антыўтопію класічнага тыпу, ухронію, практопію[2]). Дык вось цягам «нулявых» пераважная большасць твораў беларускай фантастычнай літаратуры[3] пабачыла свет дзякуючы «Фантасту» — «часопісу ў часопісе», што друкаваўся на старонках «Маладосці». Можна прыгадаць і адзінкавыя кніжныя выданні: «Дзікія кошкі Барсума» (2009) Г. Аўласенкі, «Дзеці зорак» (2009) А. Аляшкевіча, «Белаполіс» (2003) і «Электрычныя сны» (2006) А. Паўлухіна, а таксама калектыўны зборнік «Люстэрка Сусвету: беларуская фантастыка» (2007).

Досыць плённым, на наш погляд, у гэтае дзесяцігоддзе быў зварот беларускіх аўтараў да жанру фантастычнай аповесці: згадаем творы «Век Вадаліва» (2004), «Даліна дзвюх поўняў» (2006) А. Аляшкевіча, «Не ўсім сняцца сны» (2006) У. Цвяткова, «Хуткадзейнасць» (2004) А. Паўлухіна, «Матылькі над багнай» (2006), «Горад, які яны засялілі» (2007) М. Южыка, «Анамалія» (2007) А. Бычкоўскага і інш. Не пакінулі без увагі пісьменнікі-фантасты і жанр фантастычнага апавядання («Нашчадкі неўраў» (2003), «Прышэлец» (2004) А. Бычкоўскага, «Падарожжа праз…» (2006) С. Мінскевіча і інш.), прычым прыярытэт належаў кароткім аповедам навелістычнага кшталту (апавяданні У. Цвяткова «Цішыня на Лютэцыі», «Ліст з Марса», «Няўдалы бізнес», творы А. Паўлухіна «Не кларк» (2007), «Варыянтнае бюро» (2007), «Томас Мор» (2007), «Як вы» (2007) і інш.).

Агульнай асаблівасцю твораў, якія з большай ці меншай пэўнасцю можна разглядаць у абсягах беларускай фантастычнай літаратуры, з'яўляецца імкненне аўтараў сінтэзаваць у межах аднаго тэксту элементы навуковай фантастыкі і фэнтэзі. Паслядоўна ў гэтым кірунку рухаўся цягам 2000-х Серж Мінскевіч: згадаем яго «раман-фэнтэзі» «Сад замкнёных гор» (2004), «касмічнае фэнтэзі» «Зорныя гульні» (2005) і асабліва «Рок-нат. Фэнтэзі++» (2010). У апошнім творы дзеля разгадкі таямніцы касмічнага карабля Рок-ната («Скалы-арэха») дасягненняў «футуралагічнай навукі» (кланіраванне як паўсядзённая амаль справа, новыя магчымасці ўздзеяння на чалавечую псіхіку і г. д.) аказваецца недастаткова; у хранатопе твора складана пераплятаюцца розныя рэальнасці, адмыслова актуалізуецца паэтыка фэнэ-

[1] Аммон, М. А. Сучасная беларуская літаратурная фантастыка: паэтыка, тыпалогія, кантэкст : Аўтарэферат дыс… кандыдата філал. навук; спецыяльнасць 10.01.01 — беларуская літаратура / М. А. Аммон. — Мінск, 2013. — С. 3.

[2] Тамсама, с. 17.

[3] Не без палёгкі мусім прызнацца: для твораў літаратараў з Беларусі, якія паводле першакрыніц (блогаў ці інтэрнэт-допісаў саміх літаратараў) рэгулярна (і не без фурору) з'яўляюцца ў друкаваных расійскіх выданнях, а ў рускамоўным сегменце сеціва маюць поспех, блізкі да феерычнага, межы гэтага сціплага артыкула па вызначэнні цесныя. Таму няма сэнсу ўвязвацца ў спрэчку пра актуальнасць іх як феноменаў менавіта *беларускай літаратурнай фантастыкі* пачатку XXI стагоддзя.

зі — праз гісторыю супрацьстаяння гмунаў, народа пладароднай даліны, і гвіблаў, якая ў выніку аказваецца штучнай гісторыяй штучнай цывілізацыі.

Менавіта жанравая прастора сучаснай фантастыкі бачыцца некаторым беларускім пісьменнікам надзвычай прыдатнай для асэнсавання сацыяльных наступстваў тэхнагенных катастроф. Так, у аповесці Ю. Станкевіча «Эрыніі» (2006) перад чытачом разгортваецца змрочнае быццё насельнікаў безыменнага Мегаполісу і яго ваколіц пасля Катастрофы, самым жахлівым (бо незваротным) наступствам якой сталася побач з генетычнай духоўная дэградацыя чалавека, што «скасавала» тысячагоддзі культурнай эвалюцыі чалавецтва, абрынуўшы яго ў антычны Танатас. Паказальна, што ў гэтым і шэрагу іншых твораў, якія пабачылі свет у 2000-х (аповеды С. Дубаўца «Кайлюс і Зелба. Зімовая казка» (2008), «Чучундра. Падарожжа прафесара Солада й доктара Зайца (Блюма)» (2009)) фантастычны антураж сінтэзуецца з паэтыкай абсурдысцкай прозы. Прычым у гэтым адмысловым хранатопе аўтары імкнуцца асэнсаваць непазбыўна важныя для айчыннай традыцыі пытанні нацыянальнай памяці і самаідэнтыфікацыі асобы (раманы Ю. Станкевіча «Ліст у галактыку «Млечны Шлях» (2002), «Пятая цэнтурыя, трыццаць другі катрэн» (2003), «П'яўка» (2008—2009) і інш.).

На думку П. Васючэнкі, ключом да рэалізацыі літаратурных прагнозаў мусіць стаць разуменне, што пісьменнікі не прадказваюць будучыню — яны яе праграмуюць: «Літаратура магла б перастварыць цывілізацыю, алітаратурыць свет, калі б забылася на ранейшы свой лёс — стварэнне антыўтопіяў. <…> Галоўныя антыўтопіі ў беларускай літаратуры ўжо як бы створаныя. <…> Выснова: ХХІ стагоддзе — час стварэння ўтопій»[1].

Аднак НайБелЛіт упарта супраціўляецца не толькі ўласнаму выраку пабыць (хоць імгненне!) Вершнікам (няхай сабе і на хвалі архаізацыі сучаснага быцця!). Ён, здаецца, усімі часткамі свайго «цела» («літарганізма») супраціўляецца і прадказанням (больш падобным да ўшчуванняў) літаратуразнаўцаў, і нават самой неабходнасці ўскочыць у сусветную плынь. Цікава, напрыклад, што ў сістэме каардынат найноўшай літаратурнай фантастыкі тэхніка сюррэалістычнага ці абсурдысцкага пісьма выклікае такі ж мінімальны інтарэс, як і інструментарый прагматычна забаўляльны, «камерцыйна скіраваны», так бы мовіць. Тут што ні аўтар, то «свой шлях» і адначасова — гатовы заснавальнік тэндэнцыі ці, прынамсі, кандыдат у яе самыя што ні на ёсць яскравыя прадстаўнікі.

Апошняя характарыстыка цалкам магла б прыдацца для кароткай «атэстацыі» аўтараў, што адгукнуліся на фантастычную ідэю «Маладосці» і даслалі свае тэксты для спецыяльнага нумара часопіса, які рэдакцыя меркавала скласці «з твораў фантастыкі, містыкі, жахаў, фэнтэзі і да таго падобнага» (тое засведчана ў абвестцы «Запрашэнне для Эдгара По», што зімой 2014 года распаўсюджвалася ў сацыяльных сетках). Дарэчы, у абвестцы ўтрымліваецца адна цікавая «неадпаведнасць»: паводле назвы кампанія нібыта скіравана на лакальны рэнесанс твораў вусцішна-дэтэктыўнага, містычна-гатычнага кшталту. Але генетычна акцыя звязана з праектам іншага кшталту: чацвёрты нумар «Маладосці» за 2014 год утрымлівае спецыяльны выпуск «Беларусь у фантастычных апавяданнях», зроблены «як успамін пра згаданы вышэй «Фантаст»[2]. Апекавалася «Фантастам» Раіса Баравікова (яе развагамі пачынаецца «фантастычны» нумар «Маладосці» за 2014 год); першапачаткова ён арыентаваўся ўсё ж на прозу з перавагай фантастычнага ды фэнтэзійнага пачаткаў. Таму прапануем засяродзіцца менавіта на прозе згаданага — «спецфантастычнага» — нумара (у якім, дарэчы, знайшлося месца для паэзіі, перакладаў і артыкулаў адпаведнай тэматыкі).

[1] Васючэнка, П. Ад тэксту да хранатопа : артыкулы, эсэ, пятрогліфы / П. Васючэнка. — Мінск : Галіяфы, 2009. — С. 194.

[2] Фантаст. Часопіс у часопісе // Маладосць. — 2014. — № 4. — С. 3.

Большасць айчынных літаратараў так званыя класіфікатарскія захады ў лепшым выпадку ўспрымаюць насцярожана, у горшым — рэзка негатыўна: магчыма, гэта расцэньваецца, у першую чаргу, як замах на ўнікальнасць творчага плёну. І блізка не маем на ўвазе тых пагардліва-ўніфікацыйных намераў, якія маглі б абразіць аўтараў, што адгукнуліся на згаданае вышэй маладосцеўскае «запрашэнне». Затое маем жаданне разгарнуць кампанію па прызнанні стваральнікаў НайБелЛіту актуальнымі пісьменнікамі не толькі тутэйшага, але і тамтэйшага значэння. А тут без сістэмнага падыходу не абысціся. Паспрабуем паглядзець на дасланыя ў нумар памяці «Фантаста» творы не як на росып выпадковасцей, а як на своеасаблівыя «прадчуванні» феноменаў, што маглі б стацца брэндавымі для найноўшай беларускай літаратуры. Мы знаходзімся ў досыць дакткліваым становішчы: агучаная мэта мае на ўвазе разложыста-эпічны аналіз тэкстаў, са шчодрым цытаваннем, з лірычна-кампаратыўнымі адступленнямі, але ўсё гэта ўтрымлівае ў дачыненні да твораў фэнтэзійна/фантастычна/містычных адзнакі «спойлерства» (працытаваў тры важкія абзацы з пяці старонак — пазбавіў чытача асалоды, напрыклад, напалохацца самому як след). Таму паспрабуем прымірыць дзве адказнасці (аналітыка і гуманіста) і па магчымасці ўшанаваць правы: аўтарскія — на інтрыгу, чытацкія — на самастойнасць першага ўражання.

Дванаццаць твораў дзесяці аўтараў без асаблівых высілкаў размяркоўваюцца па трох (умоўных!) жанрава-стылявых групах. Варта заўважыць, што згаданую жанрава-стылявую спецыфіку ў спрошчаным выглядзе ўтварае складанае спалучэнне зместавых (тэматыка, праблематыка, каштоўнасная скіраванасць і да т.п.) і фарматворчых (асаблівасці сюжэтна-кампазіцыйнай будовы твора, адметнасць вобразна-выяўленчай «тэхнікі» і інш.) адзнак.

Калі імкнуцца занатаваць у найменнях груп адметнасць прадстаўленых твораў, можна прапанаваць наступныя «шыльды»:

Міфа (фальклорна) цэнтраваная навелістыка;

навукова-фантастычныя аповеды з элементамі фэнтэзі;

(мета) рэалістычныя аповеды з элементамі фантастыкі/эзатэрыкі.

Бясспрэчны прыярытэт малых эпічных форм у дадзеным выпадку абумоўліваецца, відаць, фарматам калектыўнага часопіснага праекта. Строга кажучы, гэты факт проста не дазваляе рабіць «жанравых адкрыццяў», кшталту: «Праўду кажу вам, людзі: найноўшая беларуская літаратурная фантастыка рэалізуецца выключна ў жанравых мадыфікацыях апавядання». У дадзеным выпадку можна гаварыць хіба пра тое, што ўдзельнікі «фантастычнага» маладосцеўскага фэсту аддаюць перавагу (адносна) кароткаму аповеду з навелістычным фіналам.

Твораў, якія з пэўнымі дапушчэннямі можна аб'яднаць найменнем «міфа (фальклорна) цэнтраваная навелістыка», у гэтым праекце амаль палова: «Спадарыня Трынога» Кацярыны Мядзведзевай (адзіная «маленькая аповесць» у нумары); «Паляндра», «Ціхія Людцы» Уладзіславы Гурыновіч; «Эглея» Данііла Жугжды; «Гульня» Сяргея Белаяра (апошні аўтар вызначае ў падзагалоўку жанр свайго тэксту як «фантастычнае апавяданне»).

Галоўнай крыніцай (фабул, персанажаў, выяўленчых сродкаў) і адначасова «вытворчай прасторай» у дадзеным выпадку з'яўляецца дэманалогія, прычым у варыянце, на першы погляд, «інтэрнацыянальным». Але пры больш пільнай увазе выяўляецца нацыянальная цэнтраванасць мастацкіх хранатопаў. У К. Мядзведзевай і асабліва ў У. Гурыновіч яна больш выразная; у іншых — ускосная. Але адмысловая — дэкараваная ў духу літаратурнага хорару, падбадзёраная прыёмамі трылера, — рамантызацыя беларускага хранатопа ўтрымлівае творы ўсіх гэтых аўтараў у адным сілавым полі. Напрыклад, пры ўсёй няпэўнасці «хронасу» твора К. Мядзведзевай «Спадарыня Трынога», «топас» — спецыфічна беларускі. І «нетутэйшыя» імёны галоўных герояў (Блерта, Грэн), і «інтэрнацыянальныя» дэманічныя вестуны, і нават эканомна-нешматслоўная апавядальнасць (гэткая «тэхніка дакладных намёкаў»), — усё гэта толькі паглыбляе ўражанне пагружэння ва ўнутранае мора «тутэйшасці», «спарахнелага

мястэчка» з яго гусямі, жалейкамі і водарам свежа прыгатаванай кавы.

Калі ў К. Мядзведзевай мы маем справу з дэманалогіяй больш ці менш «алітаратуранай» (прапушчанай праз нямецкі рамантызм, літаратурную готыку), то апаведы У. Гурыновіч падаюцца цэнтраванымі на беларускім традыцыйным фальклоры з яго адмысловай іерархіяй нячысцікаў. Зрэшты, тут фэнтэзійны кантэкст рашуча заяўляе пра свае намеры засяліць ваколіцы тутэйшых вёсак сваімі «людзьмі»: побач з Рахманымі (яны ж Ціхія Людцы), ведзьмамі, русалкамі ды «крылатымі карузлікамі» нябачна вiруюць эльфы, эльфійкі, феі ды іншыя «зайшлы». У апаведзе «Ціхія Людцы» ўсяго многа: досыць дынамічны сюжэт; хранатоп «кірмашнага» кшталту, дзе ў адным шэрагу гарманічна глядзяцца дырыжаблі, аўто, даматканыя спадніцы і вечарыны эльфаў. Пры гэтым структураўтваральную ролю выконвае маральна-этычная праблематыка (выбар паміж каханнем і неўміручасцю), а стылявой дамінантай па выніку бачыцца прыпавесцевасць. У «Паляндры» апавед ад першай асобы (небаракі Яські) падаецца стылізаваным пад «простую мову» — па ўзоры беларускіх гумарыстычных апавядаў сацыяльнай тэматыкі, скажам, пачатку ХХ стагоддзя. «Вачыма ворага» калі б хто хацеў глядзець, гіпатэтычна мог бы адшукаць уплыў Я. Баршчэўскага, рэмінісцэнцыі з У. Караткевіча, калізіі з А. Казлова. (Тыя ж варожыя вочы ў апаведзе Д. Жугжды «Эглея» выгледзелі б сілуэт А. Глобуса, дакладней, яго пераканання, што «Смерць — мужчына», засведчанага ў аднайменнай аповесці.) Мы ж глядзім без тэндэнцыйнасці, таму ў вочы кідаюцца цікавыя пераходы-пералівы гумару ў іронію і нават пастыш, «атмасферныя» вобразы… (назавём іх «персанажамі» — «конскі шкілет») і тропы («згрыбелая» баба).

У строгай адпаведнасці з назвай свайго твора «Гульня» С. Белаяр бярэ на сябе цяжар «універсальнага салдата» — гуляе з чытачом у постмадэрн, пры гэтым пільна сочыць, каб створаныя ім персанажы з мартальнай (без перабольшванняў) гульні мелі толькі адзін exit. Гэта адзін з рэдкіх «некароткіх» апавядаў у спецыяльна-фантастычным выпуску «Маладосці». Таму напачатку нетаропкасць уводзін — скрупулёзнае апісанне пакутлівага шляху дваццаці васьмі французаў у 1812 годзе ў кірунку Вільні — не ўспрымаецца як зацягнутасць. Такое сабе абяцанне (кавер-версія) такой чаканай у нас эпічнасці «Вайны і міра»: аўтар уводзіць чытача ў курс справы па-беларуску, а «нязвыклыя да холаду захопнікі» — па-французску. Выкажу прыватнае меркаванне: магчыма, празаік мае досвед эксперыментальных доследаў у галіне чытацкай актыўнасці, вопыт хранаметравання ўздымаў і спадаў чытацкай цікавасці. Бо якраз у той момант, калі нетаропкасць «Гульні» ва ўспрыманні чытача набывае абрысы пташнікаўскай «Алімпіяды», *здараецца* тое, што аўтар кваліфікуе як «фантастычнае», а мы — як «дэманалагічнае» з элементамі літаратурнага экшану і хорару. Пры гэтым прадстаўнікі тутэйшай дэманалагічнай супольнасці вольна размаўляюць па-французску, вусцішныя дэкарацыі падсвечваюцца іранічнымі ўмаўчаннямі, а ў сувязі з адкрытым фіналам гульня, як па мне, дык і не over…

«Галаадская пустыня» Лаўрэна Юрагі (як, дарэчы і «Дзіця зямлі» Алёны Беланожка), на першы погляд, утрымлівае ў роўных прапорцыях адзнакі і міфацэнтраванай навелістыкі, і навуковай фантастыкі з элементамі фэнтэзі. Але толькі на першы погляд, паколькі ў гэтых творах міф не размыкаецца як адмысловая, шматмерная цэльнасць у мастацкую рэчаіснасць — ён пазычае ёй свае сюжэтныя матывы (матрыцы). Інакш кажучы, згаданыя апаведы Л. Юрагі і А. Беланожка не столькі міфацэнтраваныя, колькі *міфалагемна арыентаваныя*, калі разумець пад міфалагемай (міфемай, *англ*. mytheme) свядомае запазычанне ў міфа «матыву, тэмы ці яе часткі і аднаўленне ў больш позніх фальклорных і літаратурных творах»[1].

Фабульнай асновай «Галаадскай пустыні» з'яўляецца старазапаветная гісторыя прарока Ільі, апісаная ў трэцяй і чацвёртай кнігах

[1] Современное зарубежное литературоведение (страны Западной Европы и США): концепции, школы, термины. Энциклопедический справочник. — М.: Интрада — ИНИОН, 1996. — С. 236.

Царстваў. Вытокі хранатопа (Галаад, Сарэпта, струмень Кірат, гара Кармель, росквіт культу Баала (Ваала) і г. д.), як і «паходжанне» герояў (афіцэр касмічнай эскадрыллі Ілья Рэзнік, цар Ахаў, яго жонка Езавель, Елісей і інш.), як і падзейнасць — прадкрэслена празрыстыя. Гэтая наўмысная (спланаваная) прадказальнасць з'яўляецца адным з найважнейшых кампанентаў мастацкай тэхналогіі «закалыхвання» чытацкай пільнасці. У параўнанні з ёй усялякія, перапрашаем, гаджэты ды дэвайсы (кшталту флаера-знішчальніка, «моўнага аналізатара, ужыўленага ў падкорку мозга», «шматфункцыянальнай кібер-істоткі» — «аэравыведніка» і інш.) падаюцца элементамі не функцыянальнымі, але дэкаратыўнымі. Дзейсным сродкам мастацкага ўрэчаўлення біблейскіх міфалагем (сюжэтных матываў, вобразаў) становіцца ў апаведзе Л. Юрагі перайманне (імітацыя) старазапаветнага пафасу, рыторыкі, як бы агалошванне стылю мыслення ў стылі маўлення. Жанравыя структуры фантастычнай (часавай) рабінзанады на працягу ўсяго твора ціха, але так паслядоўна канфліктуюць са зместам і пафасам, што міжволі ўзнікае прадчуванне нейкага жанравага штукарства. Цьмянае напачатку, гэта прадчуванне паступова ператвараецца ў чаканне, якое, зрэшты, аўтар не падманвае. Бо ўваранне ў мадэрнізаваную старазапаветную падзейнасць «Галаадскай пустыні» фінальных акордаў «касмічнай оперы» здольнае пераканаць самага непрэтэнцыёзнага чытача ва ўласнай праніклівасці. І толькі звышудзячны чытач згадае пра клопат аўтара, які з самага пачатку расстаўляў па тэксце нават не ўказальныя знакі — сімвалічныя слупы-ўказанні на гэткую «неспадзяванку». Уражвае, дарэчы, і шматфункцыянальнасць гэтых «іншаўказанняў». Вось хоць бы наяўнасць у XXI стагоддзі беларускай эскадрыллі, адпраўленай аўтарам у другім абзацы «на ўзмацненне злучанага знішчальнага корпуса, што дыслацыраваўся ў Паўночнай Афрыцы»[1]: гэтая дэталь, акрамя сюжэтнай, выконвае і функцыю аксіялагічную, бо калі ёсць беларуская касмічная эскадрылля, значыць, ёсць і Беларусь.

У апаведзе Маргарыты Латышкевіч «Радыёмаўчанне» Беларусі няма ні наўпростава, ні ўскосна, затое космасу — з верхам. Бо ў дадзеным выпадку маем справу з «касмічнай операй» практычна ў чыстым выглядзе, калі быць больш дакладным — з эпізодам патэнцыяльнай касмічнай — *логіі*. Тэматычная адметнасць твора (прынамсі, у абсягах маладосцеўскага «фантастычнага» праекта) звязана з канцэнтраванай авантурнасцю фабулы: гэта своеасаблівы абразок з жыцця працоўных будняў касмічных кантрабандыстаў, што спецыялізуюцца на акарскім шоўку, сіліронскіх спецыях ды яшчэ на сякіх-такіх забароненых штучках. Галоўныя героі — сірыянін Клёан Ікара А-Бейрыс («Клёнік» буркатлівы, але душэўны, нават сентыментальны, з усмешкай у пяцьдзясят два іклы, «плюс-мінус два», ад яго імя вядзецца аповед) і зямлянін Гіз (абаяльны маўчун з таямнічай біяграфіяй). Яны ўтвараюць дуэт, які арганічна глядзеўся б і ў некрывавым дэтэктыве пра двух сябрукоў, някепскіх хлопцаў, скажам, з горада Нью-Ёрка, напрыклад, прыватных дэтэктываў, якія хоць выпівохі, гульцы і па дзеўках хадакі (адзін з іх, як мінімум), але затое яны за праўду і, па-вялікім рахунку, за мір ва ўсім свеце. Трэба сказаць, што з самага пачатку ў апаведзе пануе лёгка-іранічная настраёвасць. Аднак аўтар то дэталлю, то штрыхом нагадвае чытачу, што лёгкасць — не ёсць легкаважнасць: «Станцыі ў гэтым квадранце мультыкультурныя, так што просьба прыгатаваць што-небудзь з сірыянскай кухні не выклікае забабоннага жаху ў персанала». На агульную лагоднасць, нават утульнасць атмасферы ў тым кутку Галактыкі, дзе лёсіць займацца касмічным «кантрабасам» героям М. Латышкевіч, істотна не ўплываюць і згадкі пра таямніча-гераічна-трагедыйнае Пакарэнне Іркалы (зоркі, што стала чорнай дзіркай; драпежнага «вока бездані»). Фантастычна-авантурны аповед з амаль дасканалай кальцавой кампазіцыяй (пачынаецца радыёмаўчаннем і ім жа заканчваецца) фінішуе як лірычна-медытацыйны абразок (у духу класічнай традыцыі, запачаткаванай З. Бядулем, разгорнута-раз-

[1] Юрага, Л. Галаадская пустыня / Л. Юрага // Маладосць. — 2014. — № 4. — С. 97.

вітай М. Стральцовым, Я. Брылём). Нібыта і парадокс, але парадокс узорны. Вядома, калі браць пад увагу тэндэнцыі развіцця айчыннай прозы першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя, у прыватнасці, відавочны ўздым так званай лірычнай міні-прозы пры параўнальна сціплым уздыху літаратурнай фантастыкі, фэнтэзі і да т. п.

У пэўным сэнсе, «фантастычны» маладосцеўскі праект стаўся амаль ідэальнай ілюстрацыяй да некаторых палажэнняў дысертацыйнага даследавання М. Аммон, прысвечанага паэтыцы і тыпалогіі сучаснай беларускай фантастыкі. Тут табе і «жанравы сінтэтызм», і «высокі аксіялагічны патэнцыял айчынных твораў» (у тым ліку тых, на жанравы ландшафт якіх «значны ўплыў… аказала масавая культура»[1]). Напрыклад, у яшчэ адным міфалагемна залежным (на гэты раз — ад антычнасці) апаведзе А. Беланожкі «Дзіця зямлі» адлегласць паміж практопіяй, фэнтэзі і меладрамай вымяраецца, здаецца, некалькімі ўзмахамі крылаў аднаго з галоўных герояў — Ікара. Па нашых падліках, такіх узмаха можа быць чатыры:

- ✓ адштурхоўваемся ад абяцання love story;
- ✓ крыху лунаем над кароткімі ўводзінамі ў тамтэйшае грамадазнаўства (соцыум, дзе роля кожнага вызначаецца шляхам «генетычнай селекцыі» і дэтэрмінуецца наяўнасцю ці адсутнасцю пэўных органаў, частак цела: Дзеці Неба, Дзеці Мора, Дзеці Зямлі);
- ✓ рашуча кіруемся ў паветраную плынь меладрамы;
- ✓ а ўжо ўсё добра (у сэнсе — happy end).

А паміж узмахамі крылаў — экзатычныя пейзажы-ландшафты, родава-класавыя бездані, сямейныя таямніцы і жыцці некалькіх пакаленняў… Інакш кажучы, створаны А. Беланожкай свет з матрыцы выпінаецца — катэгарычна і разнастайна, то бок усімі жабрамі, крыламі і герцагскімі палацамі.

Відаць, па кантрасце з «Дзіця зямлі» аповед «Зарні Ані» гэтага ж аўтара ўражвае найперш чысцінёй, у пэўным сэнсе — узорнасцю жанравай камбінаторыкі. Гісторыя стартуе як «касмічная опера» (з «цікавай планетай» у «Новым Свеце», капітанам і маладым лейтэнантам, «кнопкай сувязі на камандным пульце» і г. д.), нязмушана перацякае ў прастору кібер-прозы: робат-андроід Зарні Ані — «залатая жанчына» — створаны як дублікат дачкі капітана, які «арыгіналам», маладой астранаўткай Зарні, і выпрабоўваецца ў палявых (а дакладней, лясных) умовах. Навуковы праект незаўважна «дабудоўваецца» А. Беланожкай да асобаснага лёсавызначальнага адкрыцця. І фантастычны аповед з меладраматычным «падыспадам» заканчваецца як класічная любоўная гісторыя. Фінал бясспрэчна шчаслівы, хоць і не без суворасці, бо беларускі фантаст заўсёды рэалістычна глядзіць у будучыню: закаханыя застаюцца хоць і з «высокатэхналагічнай» аптэчкай, але ж на «нетэхнагеннай» планеце…

У творы Наталлі Канстанцінавай «Бардовы кароль» (перакладзены з рускай мовы В. Жыбулем) паводзіны свету і яго насельнікаў прынцыпова іншыя: тут цялеснасцю рашуча ахвяруюць на карысць віртуальнасці. Тэматычна аповед трымаецца на паверхні кіберпанку: пасля кароткага ўступу Сяргей (найноўшы Казанова, што «з твару… крыху нагадваў Шрэка, але дзяўчатам падабаўся»[2]) наўпрост сутыкаецца з «богам віртуальнага свету», больш за тое — з «вярхоўным богам», які «сам змадэляваў сябе». Даволі хутка становіцца зразумела, што гэты ў літаральным сэнсе «бог з машыны» ёсць ці то крэўным сваяком, ці то інкарнацыяй *таго*, каго Гётэ некалі прадставіў спадарству як Мефістофеля. Варта мець на ўвазе, што перамовы пра куплю-продаж душы ў аповедзе Н. Канстанцінавай вядуцца ў паскораным тэмпе ў прагматычна-панылых дэкарацыях з просталінейнасцю, якая зрабіла б гонар любому персанажу галівудскіх «касмічных опер», прызначанаму сцэнарыстамі

[1] Аммон, М. А. Сучасная беларуская літаратурная фантастыка: паэтыка, тыпалогія, кантэкст : Аўтарэферат дыс… кандыдата філал. навук; спецыяльнасць 10.01.01 — беларуская літаратура / М. А. Аммон. — Мінск, 2013. — С. 3.

[2] Канстанцінава, Н. Бардовы кароль / Н. Канстанцінава // Маладосць. — 2014. — № 4. — С. 25.

на пасаду сусветнага Зла. Зрэшты, у такім жа маршавым рытме выкладаецца ў аповедзе і меладраматычная частка фабулы, гісторыя трагічнага кахання Тані да Сяргея, асноўнага прэтэндэнта на «лёс імператара віртуальнага свету». Фінал аповеду — таксама… энергічны, з сур'ёзнай заяўкай на трэндавасць. Цяга да навелістычнасці тут мела б усе шанцы злучыцца з жанравай сінтэтычнасцю: у абсягах трох абзацаў без лішняй мітусні здараюцца меладрама, кіберпанк, крымінальны трылер і зноў кіберпанк. А над усім лунае суровы цень маральна-этычнай праблематыкі (вытокі бяздушнасці адшукваюцца ў «халодным» дзяцінстве недалюбленага героя і г. д.). А фінальны акорд — фантастычна суровы нават для нашай найноўшай прозы, відаць, найрэалістычнейшай сярод усіх найноўшых.

Суровасць як характаралагічная рыса ўсяго НайБелЛіту ў маладосцеўскім праекце выяўляецца адметным чынам: напрыклад, упарта прарастае ў «фантастычным» кантэксце творамі Аксаны Бязлепкінай «Інтэрв'ю на памяць» і Віктара Лупасіна «Лятучы калегіум», што выяўляюць найбольш блізкае сваяцтва, бадай, з *метарэалізмам*. Як і папярэднія, гэта найменне нам спатрэбілася для таго, каб пазначыць контуры адрозненняў ды сыходжанняў. Тыя адрозненні-сыходжанні адначасова абумоўліваюць і жанрава-стылявую арыгінальнасць твораў, і ўтрымліваюць іх у адным мастацкім полі.

Дзеля справядлівасці адзначым: тэксты гэтых двух аўтараў супраціўляюцца літаратуразнаўчаму атрыбутаванню з выключнай упартасцю. Разглядаць іх у рэчышчы агульнай тэндэнцыі да пераасэнсавання сутнасці і функцый мастацкай умоўнасці ў беларускай прозе пачатку XXI стагоддзя — гэта як наўпрост звязваць з'яўленне ружовага слана ў прыстойнай (традыцыйнай) слановай сям'і з павелічэннем папуляцыі ружовых фламінга на палескіх балотах. Да ўсяго, сам феномен метарэалізму ў сучасным літаратуразнаўчым дыскурсе набывае часам такія нечаканыя інтэрпрэтацыі, што ў залежнасці ад

**Хай сабе «лыцары»-чужаніцы заваёўваюць для сваіх літаратур новых чытачоў: заманьваюць іх з дапамогай фэнтэзі ды неаготыкі, дэтэктываў (псеўдагістарычных) ды трылераў (нібыта мастацтвазнаўчых)**

досведу чытача (ці аўтара) нейтральнае тэарэтыка-літаратурнае паняцце можа стацца прычынай крэўнай крыўды. Таму ўдакладнім адразу: паняцце метарэалізму ў дачыненні да згаданых твораў А. Бязлепкінай і В. Лупасіна нам спатрэбілася дзеля таго, каб пазначыць феномен узнікнення мастацкага тэксту, які вырастае на грунце неадпаведнасці паміж вонкавым, відавочна-рэальным — і ўнутраным, невідавочна-рэчаісным.

Вонкава тэксты будуюцца з «матэрыялу» (сюжэтна-кампазіцыйнага, вобразна-выяўленчага) і па «тэхналогіі» рэалізму, з ашчадным выкарыстаннем элементаў навуковай фантастыкі (у А. Бязлепкінай) ці эзатэрыкі (у В. Лупасіна). Прыгаломшвае вынік: рэалістычны вобразна-выяўленчы «ландшафт» выяўляе сваю сапраўдную функцыянальнасць толькі тады, калі становіцца трыумфальнай аркай для метарэальнасці як адзіна магчымай сапраўднасці, што існуе ў формах няяўных, няўлоўных, нярэчыўных.

Асабліва яскрава тое выяўляецца ў «Лятучым калегіуме» В. Лупасіна. Чатыры кароткія аповеды аб'ядноўваюцца не толькі фармальна (назвай-«шыльдай»), але і тэматычна. «Дзед на ровары», «Коды», «Палёты над Масквой», «Зброя» — гэта адначасова і самастойныя іранічныя фрэскі з жыцця нейкіх загадкава-нетутэйшых студэнтаў, і папулярныя ўводзіны ў «нейкую тэорыю левітацыі і тэлепартацыі»[1]. Ідэя не то каб новая ў нашых літаратурных ваколіцах[2]: напрыклад, не далей як у 2010 годзе расійскі пісьменнік Дзмітрый Быкаў выдаў гістарычна-авантурны раман «Астромаў, ці Вучань чарадзея.

[1] Лупасін, В. Лятучы калегіум / В. Лупасін // Маладосць. — 2014. — № 4. — С. 66.

[2] Дарэчы, у «Палётах над Масквой» мільгае цень ценю аднаго эпізоду з «Чапаева і Пустаты» В. Пялевіна.

**Якраз у той момант, калі нетаропкасць «Гульні» ва ўспрыманні чытача набывае абрысы пташнікаўскай «Алімпіяды», здараецца тое, што аўтар кваліфікуе як «фантастычнае», а мы — як «дэманалагічнае»**

Дапаможнік па левітацыі», фабульна ўгрунтаваны ў так званай «справе ленінградскіх масонаў» (1925—1926 гг.). В. Лупасін на раман і не замахваўся. Звыкласць незвычайнага (тут: эзатэрычнага) сталася структураўтваральным прынцыпам, з дапамогай якога асобныя міні-навелы склаліся ў зборнічак «практыкаванняў па левітацыі». На карысць цэльнасці «Лятучага калегіума» спрацавала і адмысловая расстаноўка персанажаў: студэнты то па адным (Вісюлін), то дуэтамі (Яўген Сяргееў, Каця Карабанава) блукаюць (сыходзяцца-разыходзяцца) па розных фрэсках, не пакідаючы, аднак, арбіты персанажа, выпісанага штрыхамі, але жывейшага за ўсіх жывых — выкладчыка Рамуальда Вальдэмаравіча.

Калі б ад «Інтэрв'ю на памяць» А. Бязлепкінай можна было б аддзяліць тое *мета*-, якое папярэднічае рэалізму ў вышэйзгаданым паняцці, атрымаўся б аповед пра звычайнае жыццё журналістаў-надзвычайнікаў, пра тое, як яны імкнуцца да медыя-славы (студэнтка-журналістка Лідзія Мітас), імкнуцца быць у гушчары прафесіі (прэс-сакратар МНС Віктар), імкнуцца быць справядлівымі да тых, хто прагне заняць іх месца (выкладчык Маргарыта Кова)… Мог бы атрымацца такі аповед, калі б не адзін нюанс: нязвыклае ў гэтым аповедзе ёсць звыклай часткай паўсядзённасці менавіта таму, што аплятае ўсю гэту паўсядзённасць знутры і звонку — становіцца сцёртым тропам жыццёвага маўлення: «Патап Краўчанка, загадчык мнемалабараторыі. Мы памяць чысцім. Тут у нас журналісты, усякае бывае. <…> А ў нас старое абсталяванне, мы не можам так тонка чысціць, як у медыцынскіх цэнтрах, затое бясплатна»; «Сучасная моладзь на мнемапрацэдуры ходзіць, як у салярый. Як толькі каханне скончылася, сціраюць памяць — і ўсё спачатку. Часам нават з тым жа чалавекам»[1].

Зварот да фантастычнага дае магчымасць не толькі разнастаіць любоўную калізію: можна ўбачыць не банальнае «Віктар + Лідзія», а велічна-сімвалічнае «Пераможца + Леда Міфалагічная»). З'яўляецца магчымасць нагадаць чытачу (між справаю-забаваю) пра адвечна-актуальную рэч: няма памяці (індывідуальнай, сацыяльнай, нацыянальнай) — няма праблем, але няма і цябе (чалавека, грамадства, народа).

Дазволім сабе ў размове пра фантастыку ўмоўныя вынікі падвесці амаль фантастычны чынам.

Дапусцім, пераараны намі ўздоўж і ўпоперак празаічны сегмент «фантастычнага» праекта «Маладосці» — ідэальная мадэль, назіранні за ўласцівасцямі якой з вялікай доляй верагоднасці дазваляюць меркаваць пра працэсы ў рэальным (літаратурным, даруйце за гіперфантастычнасць) жыцці.

Тады:

найбольшыя шанцы нарадзіцца фантастам — у Мінску (4 да 10) і Брэсце (3 да 10);

беларускія спадарыні ды паненкі больш актыўна асвойваюць літаратурную фантастыку, чым спадары (60 % супраць 40 %);

у трэндзе — міфа (фальклорна) цэнтраваная проза, з перавагай навелістыкі.

Што тычыцца найноўшай беларускай фантастычнай прозы, то яна:

самая дэманалагічная;
самая чуллівая;
самая гуллівая;
самая самаіранічная.

У гэтай самай фантастычнай прозы процьма ўсялякіх патэнцыялаў: эстэтычны, этычны, асветніцкі, выхаваўчы і г. д.

Калі ў нас, нарэшце, скончацца рэзоны сціплічаць, мусім прызнацца, што згаданыя патэнцыялы — самыя высокія (сярод самых самакрытычных найноўшых літаратур). 

[1] Бязлепкіна, А. Інтэрв'ю на памяць / А. Бязлепкіна // Маладосць. — 2014. — № 4. — С. 114.

# Віталь БРЭЛЬ: «МОЛАДЗЬ ЗАЎСЁДЫ "ТАЯ"!»

***— Мне падабаецца многае, што пішуць маладыя і што друкуе ваш часопіс, — гаворыць напачатку свайго інтэрв'ю Віталь БРЭЛЬ, начальнік упраўлення па справах моладзі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусью. — Ведаеце, гэта дастаткова цікавыя творы!..***



— …Філасофскія разважанні, дэтэктыўныя гісторыі, гістарычныя экскурсы, простыя жыццёвыя замалёўкі — мяне кранае многае. Памятаеце, як адзін ваш аўтар апісвае істоту незразумелага паходжання, з'яўленне якой абарочваецца гібеллю для тых, хто паводзіць сябе жорстка ў дачыненні да каханых і блізкіх? Або твор пра хлопца, што трапляе ў багну і тоне, але раптам аднекуль з'яўляецца выратавальніца — жанчына, вобраз якой падаецца яму святым? Гэта ж не проста пачуцці, гэта душэўныя перажыванні. Раўнадушны чалавек такіх твораў не напіша…

**— Вы неўпрыкмет адказалі на частку майго першага пытання: да якой ступені наша моладзь крэатыўная і наколькі актыўная. Што можна сказаць пра ролю моладзі ў той палітыцы, якая сёння праводзіцца?**

— Можна сказаць так: няма той сферы дзейнасці ў межах дзяржавы, дзе б наша моладзь сябе не праяўляла. У безлічы праектаў яна не толькі ўдзельнічае, але і выяўляе свае таленты, перамагае ў шматлікіх конкурсах. Гэта неаднаразова было прадэманстравана і на шматлікіх творчых конкурсах, у спорце і навуцы. Возьмем, для прыкладу, праект БРСМ «100 ідэй для Беларусі». Ён у літаральным сэнсе насычаны самымі рознымі супер-ідэямі. Прычым, моладзь іх не проста выказвае, але і рэалізуе. Мне пашчасціла быць уключаным у экспертны савет гэтага праекта. Калі мы адабралі дзесяць лепшых ідэй, то ўбачылі, што іх аўтары — школьнікі і студэнты! І ў маладым узросце яны распрацоўваюць электронныя рэсурсы для віртуальных падарожжаў па малых радзімах, ствараюць палімеры для ўдасканалення асфальта-бетонных сумесей, пішуць праграмы, якія дазваляюць звычайным мабільнікам рашаць хімічныя задачкі, выступаюць з эканамічнымі ініцыятывамі. У фізічнай працы моладзь таксама сябе праяўляе: у 2013-м рух студэнцкіх атрадаў краіны ахапіў амаль 65 000 маладых людзей! Моладзь актыўнічае ў рэалізацыі дзяржаўных праектаў, накіраваных у яе адрас. Нават падчас прыняцця ў 2009 годзе Закона Рэспублікі Беларусь «Аб

асновах дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі» моладзь сама прымала ўдзел у абмерkаваннях, уносіла прапановы, выказвала ідэі. Яшчэ доказ: работа Маладзёжнай палаты пры Мінскім гарадскім Савеце дэпутатаў. Са школьнікаў і студэнтаў фарміруецца каманда, якая адбмяркоўвае надзённыя для горада пытанні. Удзельнікі яе ўвесь час уносяць слушныя прапановы, і гэта прытым, што, калі вымяраць іх жыццёвы вопыт гадамі, ён зусім не вялікі. Ёсць праект, які рэалізуецца ў сталіцы, — гэта распачатая яшчэ ў 2008 годзе «Мінская змена», удзельнікі якой сваімі ідэямі прызваны дапамагаць гораду і спрыяць поспеху ў самых розных накірунках: ад будаўніцтва і экалогіі да аховы здароўя і сацыяльнага абслугоўвання. Ведаеце, ёсць праблемы і пытанні, якія патрабуюць, на нашу думку, погляду «з новай кропкі»: для таго, каб яны вырашыліся, трэба паглядзець на іх вачыма моладзі. Я лічу, нельга баяцца, што гэты пункт гледжання — «новая кропка» — акажацца нечым нефармальным, пазафарматным або экстраардынарным. Упэўнены, калі ідэю, выказаную моладдзю, прыняць, атрымліваецца нешта прынцыпова новае. Дагэтуль успамінаю хлопца з Акадэміі кіравання, удзельніка самай першай «Мінскай змены». «Павіслае» пытанне аб сальда, імпарце, экспарце і пошуках механізмаў іх развіцця ўпраўленне эканомікі даручыла студэнтам! І яны, прааналізаваўшы існуючую схему, выдалі вельмі цікавы метад, які быў прыняты. Сёння дзяржава стварыла спрыяльную глебу для самарэалізацыі моладзі. Існаванне двух фондаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы адоранай і таленавітай моладзі таксама спрыяе таму, што наша юнае пакаленне, калі захоча сябе праявіць, дакладна не згубіцца.

**— Глеба створана, насенне ёсць, ураджай павінен задавольваць...**

— Мне, калі ідзе размова пра моладзь, заўсёды прыходзіцца… не спрачацца, канешне, але неяк усё ж рэагаваць на словы, быццам яна цяпер нейкая «не тая». Моладзь заўсёды «тая», няма ніякай іншай. Проста кожны, відаць, прыгадвае сваю маладосць, бо самае цікавае ды яскравае прыпадае менавіта на гэты вірлівы перыяд жыцця. А калі мы пачынаем выказвацца быццам «моладзь, маўляў, не тая», мы проста канстатуем факт надыходу сваёй старасці. У кожным пакаленні знойдзецца частка грамадства, якой патрэбны асаблівы падыход. Так было заўсёды, ва ўсе часы. Гэтаксама як ёсць у кожным пакаленні свае геніі, якія існавалі заўсёды. Адрозненне сённяшніх маладых ад іх папярэднікаў хіба толькі ў тым, што яны больш мабільныя, добра валодаюць сучаснымі тэхнічнымі сродкамі.

**— А ці ёсць у вас магчымасць параўноўваць беларускую моладзь з замежнай? Наколькі нашы адпавядаюць бягучаму моманту ў планетарным маштабе?**

— Казаць «моладзь заходняя», супрацьпастаўляючы гэтаму выразу словазлучэнне «моладзь беларуская», — няма ніякага сэнсу. Моладзь — гэта моладзь. Яна паўсюль, па вялікім рахунку, падобная. Падобная сваімі марамі, жаданнем самарэалізавацца, быць шчаслівымі і г. д. Наша моладзь рэгулярна бярэ ўдзел у праектах, якія праводзяцца за мяжой. Добрае валоданне мовамі спрыяе паспяховай самарэалізацыі ў міжнародных рухах, у тым ліку валанцёрскіх. Калі ж сярод маладых прадстаўнікоў розных краін пануе дух спаборніцтва, то гэта толькі вітаецца. Паглядзіце на рух КВЗ: удзельнікі яго прадстаўляюць самыя розныя рэгіёны. Але жартуюць над аднымі і тымі ж праблемамі. А праблемы, якія хвалююць моладзь: пытанні адукацыі, выбару прафесіі, здаровага ладу жыцця, культура, экалогія... каханне…

**— Такая ўключанасць у сусветны кантэкст і нараджае касмапалітычнасць поглядаў, якая, у сваю чаргу, да некаторай ступені супрацьстаіць патрыятызму. Як вы гэтыя паняцці размяжоўваеце?**

— Касмапаліт — чалавек свету, так? Я лічу, калі чалавек прывязаны да свайго месца, любіць сваю зямлю, то ў яго ёсць будучыня. Гэта беларускі шлях. Калі ж ён належыць «усяму свету», то яму ўсё роўна, дзе жыць і якому народу служыць. Я ўпэўнены, што нашай сённяшняй моладзі не ўсё роўна, у якой краіне жыць і рэалізоўвацца. Мяркуючы па іх справах і ўчынках, наша моладзь любіць сваю Радзіму. Калі глядзіш спартыўныя спаборніцтвы і бачыш, як трапечацца сцяг Рэспублікі Беларусь, то

гонар за сваё — краіну, людзей — не можа не ўспыхваць. Сёння на нашай зямлі расце пакаленне, якое нарадзілася не ў СССР, а ў суверэннай Беларусі. Ім яе і будаваць.

**— Якія праекты, праграмы, ідэі, накіраваныя на падтрымку моладзі, распрацоўваюцца і рэалізуюцца вашым упраўленнем?**

— Мы працуем над самымі рознымі праграмамі, у тым ліку і праграмай занятасці моладзі. Супрацоўнічаем з маладзёжнымі грамадскімі аб'яднаннямі: БРСМ, ЮНЕСКА, «Ліга дабравольнай працы». Мы развіваем міжнароднае маладзёжнае супрацоўніцтва: сёлета Беларусь кіруе Саветам па справах моладзі краін СНД, яго ўзначальвае намеснік Міністра адукацыі Віктар Якжык. Гэта вялікі давер нашай краіне. У мінулым годзе была падпісана дамова паміж структурамі, што займаюцца КВЗ — творчым аб'яднаннем «АМіК», Палескай лігі КВЗ і Міністэрствам адукацыі. Задача — выпрацаваць адзіны дакумент, накіраваны на ўпарадкаванасць гэтага руху ў нашай краіне. І да чэмпіянату свету па хакеі наша ўпраўленне сур'ёзна рыхтуецца. Сумесна з дырэкцыяй мерапрыемства вялася праца над падрыхтоўкай валанцёраў: толькі нядаўна скончылася іх навучанне па розных накірунках — псіхалогія, культура, гісторыя... Цэлая праграма. Штогод у нас рэалізуюцца праекты па падтрымцы прадпрымальніцкай дзейнасці. Калі казаць пра патрыятычнае выхаванне, то ў нас рэалізуецца выдатны праект БДУ «Святло вялікай Перамогі». Шэраг праектаў у гэтым кірунку вядзе БРСМ. Хутка зноў будзем выбіраць лепшага студэнта: гэта таксама наш сумесны з БРСМ праект, дастаткова цікавы, моладзі вельмі падабаецца. Фактычна, у кожным кірунку нешта абавязкова адбываецца. Рэалізуецца «Комплекс мер па падтрымцы і развіцці сістэмы выяўлення таленавітай і адоранай моладзі і яе вылучэння на кіруючыя пасады ў органах дзяржаўнага ўпраўлення і арганізацыях галін эканомікі на 2014—2015 гады». Цяпер працуем над распрацоўкай Стратэгіі дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі на 2015—2020 гады. Радуе, што была падтрымана ініцыятыва аб'явіць 2015-ы Годам моладзі.

**— Ці ёсць нейкія недахопы ў ажыццяўленні маладзёжнай палітыкі, якія вамі заўважаны, і калі ёсць, то што, на вашу думку, перашкаджае раскруціцца на поўную моц?**

— Складанае пытанне. Сказаць, што ёсць нейкая глабальная праблема, якая перашкаджала б рэалізоўваць дзяржаўную маладзёжную палітыку ў нашай краіне… Напэўна, такой няма. Ёсць дробныя, шарговыя пытанні, цалкам вырашальныя нават на мясцовым узроўні, не кажучы пра рэспубліканскі. Яны ўзнікаюць — і адразу здымаюцца. Наяўнасць іх — рухавік і матыватар для дасягнення пэўных вынікаў.

**Чым прыкметны наш Саюз моладзі?**

— Я заўсёды кажу, што моладзь у нас паўсюдна: і ў космасе, і ў шахце. Чаму? Па-першае, моладзь у Беларусі — гэта грамадзяне ва ўзросце ад 14 да 31: і за школьнай партай, і за станком на заводзе, і на абароне мяжы, і ў навуцы. Па-другое, маладзёжнай палітыкай у нас займаюцца многія структуры: міністэртвы, грамадскія аб'яднанні, прадпрыемствы і інш.

**— Давайце пагаворым пра БРСМ. Якую ролю вы адводзіце гэтай арганізацыі ў агульнай палітыцы? Што дае яе існаванне?**

— Гэта самая масавая наша маладзёжная арганізацыя: аб'ядноўвае каля чвэрці ўсёй моладзі краіны. Ёсць розныя іншыя маладзёжныя грамадскія аб'яднанні, іх у нас больш за дзве сотні, але ўсе яны маюць канкрэтную накіраванасць. Чым адметны наш Саюз моладзі? Тым, што ён разнавектарны: малады чалавек у гэтай арганізацыі можа знайсці сябе практычна ў любым накірунку. Мы лічым БРСМ сваім добрым, я б сказаў, стратэгічным партнёрам! Рэалізуюцца такія выдатныя праекты, як Дзень моладзі на «Славянскім базары» ў Віцебску, конкурс «Каралева Вясна», акцыі да дня Перамогі і многае-многае іншае. Такая арганізацыя, як БРСМ, павінна існаваць і гэта цудоўна, што яна ў нас ёсць. З кім бы мы ні сустракаліся на постсавецкай прасторы — з калегамі з Расіі, Украіны, Азербайджана або Арменіі, — яны ўсе ў гэтым сэнсе нам па-добраму зайздросцяць. Але ў нас ёсць, паўтаруся, і іншыя

арганізацыі, якія падтрымліваюцца дзяржавай. Іх праекты існуюць не толькі на тэрыторыі Беларусі, але і за межамі, у еўрапейскіх краінах. Гэтыя грамадскія аб'яднанні таксама фарміруюць нашу дзяржаўную маладзёжную палітыку.

**— Было б цікава атрымаць ад вас адказы на некаторыя асабістыя пытанні. Ці лічыце сваю працу творчай? Як будуецца ваш дзень?**

— Праца з дакументамі і праектамі, сустрэчы з моладдзю ў калектывах, вырашэнне праблем, калі яны ўзнікаюць, удзел у пасяджэннях і мерапрыемствах, якія праводзяцца пасля працоўнага дня, па-за межамі працоўнага часу… Працоўны дзень ненарміраваны. Ці творчая ў мяне праца? Лічу, што любая праца павінна быць творчай. Асабліва, калі працуеш з моладдзю. Калі сваю працу не творча выконваць, то лепш не выконваць яе ўвогуле.

Падрыхтоўка нарматыўна-прававога акта ці нават звычайнага ліста на запыт у тую ці іншую арганізацыю патрабуе не проста высілкаў, а бачання пытання наскрозь. Лічу сваю работу творчай!

**— Вы так прыгожа сказалі… А нехта ж лічыць іначай: людзей на вашай пасадзе прынята называць чыноўнікамі, укладаючы ў слова не лепшы сэнс. Наколькі крыўдна для вас гэта гучыць?**

— Чыноўнік — годнае слова, якое мае дачыненне да дзяржаўнай службы. Гэта той, хто сумленна працуе на карысць сваёй дзяржаве. «Журналіст» — слова, якое таксама часам гучаць з адмоўным падтэкстам, але ж не ўсё так на самой справе. Ёсць людзі, якія сваёй няздольнасцю працаваць псуюць справу, але яны ёсць у кожнай прафесіі…

**— А ці памятаеце, як вы пачыналі кіраваць людзьмі? Што было для вас самым складаным напачатку? Мне здаецца, рабіць нешта самому і адказваць за нешта асабіста значна прасцей, чым несці адказнасць за працу некага і кіраваць працэсамі. Як вы гэтаму навучыліся?**

— Вы правільна сказалі: узяць лапату і пайсці капаць — заўсёды лягчэй, чым арганізаваць капальшчыкаў. Як у нашым любімым кіно сказана? Калі чалавек можа арганізаваць трох, то далей ужо колькасць не мае значэння. Калі я толькі прыйшоў на гэту пасаду, мне патрабаваўся час, каб зразумець, што гэта такое дзяржаўная маладзёжная палітыка. І не проста выконваць сваю справу, а бачыць, што і навошта патрэбна. Але з цягам часу, з напрацаваным вопытам надыходзіць такі перыяд, калі ты ўжо не толькі бачыш, але і адчуваеш, на інтуітыўным узроўні, што дакладна, калі і як табе трэба рабіць. Галоўнае, на маю думку, — сумленна ставіцца да працы і людзей, з якімі працуеш. Давяраць і імкнуцца працаваць камандай. Па вялікім рахунку, караля робіць світа. Якім бы добрым ні быў кіраўнік, адзін ён можа нешта, але не можа шмат. Мне пашанцавала працаваць з людзьмі, якім іх праца цікавая. Цудоўная каманда працуе ў нашым упраўленні, вось і ўвесь сакрэт. Шмат кніг напісана пра тое, як стаць кіраўніком, але стаўленне да людзей усё ж на першым месцы. Нельга казаць адно, а рабіць другое. Гэты ж прынцып — адкрытасці і сумленнасці — вельмі важны і ў працы з моладдзю. Калі ты яго не прытрымліваешся, то моладзь ніколі побач з табой не затрымаецца. Гэта самая адчувальная адзінка грамадства.

**— Вяртаючыся да пачатку размовы: ваша стаўленне да сучаснай беларускай літаратуры?**

— Сёння, паўтаруся, раўнадушны чалавек не напіша такіх твораў, якія можна прачытаць на старонках «Маладосці». Якімі б ні былі яны: ад фантастыкі да рэалістычных твораў. Маладыя аўтары пішуць шчыра, тонка і цікава. Вашым аўтарам хочацца пажадаць натхнення і новых цікавых ідэй, а тым, у каго ёсць яшчэ сумненні, што яны могуць пісаць добрыя і патрэбныя рэчы, — не сумнявацца. Я нядаўна прачытаў «Чамадан з кракадзілавай скуры» Алёны Беланожка і зразумеў, што такіх аўтараў трэба шырока папулярызаваць. Наша моладзь павінна ведаць, што ў нас ёсць таленавітыя пісьменнікі. Мы павінны наталяцца іх думкамі…

*Гутарыла Святлана ДЗЯНІСАВА*




# «БЕЗ САТОРЫ НЕМАГЧЫМА ТВОРЧАСЦЬ». АДАМ ГЛОБУС

***— Я застаўся Глобусам нават для блізкіх. Гэта такая мянушка, яна добра лепіцца да чалавека. Прозвішча маёй мамы — Глобус. Я ўзяў такі псеўданім, бо мой тата, Вячаслаў Адамчык — знакаміты беларускі пісьменнік, чые творы праходзяць у школе. І калі я прыйшоў у бухгалтэрыю і ўбачыў, што ўсе мае ганарары налічваюцца не Уладзіміру Вячаслававічу Адамчыку, а Вячаславу Уладзіміравічу, то вырашыў, што стану Глобусам, каб атрымліваць свае грошы.***

**— Складана ў дзяцінстве быць сынам вядомага пісьменніка?**

— Бацька не хацеў, каб я ішоў па ягоных шляхах. Лічыў, што гэта цяжка і непрактычна. Што лепш быць матэматыкам ці бухгалтарам. Школа, дзе я вучыўся, была вельмі кепская, нават сорамна было казаць, што ты сын пісьменніка. Там лічылася добрым, калі бацька працаваў на будоўлі ці заводзе і быў злодзеем. Так што я адчуваў прэсінг за пісьменніцкую прафесію з дзяцінства.

**— І таму спачатку абралі прафесію мастака?**

— Мяне ніколі да пісьменніцтва не цягнула. Нават былі складанасці з сачыненнямі ў школе. А вось мастацтва заўжды вабіла. Хацелася выбіцца з шэрасці, з мікрараёна, дзе я жыў. Падабалася хадзіць у студыю, у палац школьнікаў. Спартыўныя секцыі таксама вабілі. А пісаць пачаў у інстытуце. Там было захапленне японскай культурай і выяўленчым мастацтвам. З японцаў шмат хто быў і мастаком, і пісьменнікам. Яны, калі не маглі перадаць у малюнку, напрыклад, водары, шум вады, подых ветру, запісвалі гэта на карціне ў выглядзе верша. Мне гэта падабалася, і я пачаў рабіць тое самае. З гэтага выраслі мае першыя вершы.

Я пісаў у фармальным рэчышчы хоку. Напрыклад, абмяжоўваў сябе колькасцю слоў.



**— Беларускія літаратары могуць пісаць сапраўдныя хоку?**

— Усе любяць хайку, хоку. У Багдановіча быў сшытачак, пра які ўзгадваў ва ўспамінах Змітрок Бядуля. Там паэт напісаў матэматычныя формулы вершаскладання. Ён лічыў, што беларуская мова варта паэтычных форм, якія дорыць сусветная паэзія. І трэба, каб на нашай мове гучалі розныя вершы, былі розныя формы.

**— Сам працэс творчасці сакральны для вас? Што ў ім самае неабходнае?**

— Самае істотнае — здзіўленне, азарэнне ад навакольнага свету. Найбольш важнае — імпульс, які штурхае мяне да творчасці. Ён не прагназуецца. Я не той чалавек, які з раніцы да абеда піша. Мне патрэбны імпульс, яго фіксацыя. Як японскія творцы казалі, што без саторы, без гэтага здзіўлення, азарэння немагчыма творчасць.

Я працую паўсюль і заўсёды. У мяне з сабой ёсць танныя паштовачкі, дзе сам сабе пішу, калі нешта здзіўляе.

**— Навуковец, крытык, гісторык літаратуры Міхаіл Арнаўдаў казаў, што калі здарылася нешта эмацыйнае, патрэбен пэўны час, каб гэта ўвасобіць на паперы**

**ў мастацкай форме. Вам таксама неабходна паўза ад моманту перажывання да ўвасаблення эмоцый на паперы ці палатне?**

— Я маю цалкам супрацьлеглую думку. Басё і яго школа лічылі, што рацыянальнае замінае творчасці. Я павінен напісаць хайку да таго, як уключацца мае мазгі, зафіксаваць ураджанне вельмі хутка. А праз год што я змагу ўзгадаць?

**— А як вы пачалі ствараць для заробку?**

— Я па адукацыі мастак-манументаліст. Чалавек, здатны рабіць вялікія творы і арганізоўваць брыгады пад стварэнне гэтых работ. І мне ўсё адно, што рабіць: фрэскі альбо серыяльныя раманы. У нас, мастакоў, заўжды першы тост быў «за халтуру», якая прыносіць грошы. Гэта заробак, але не творчасць.

**— Цяжка ствараць штосьці па замове, калі патрабуюць пэўныя вобразы?**

— Я выхоўваўся як мастак-манументаліст і ведаю, што павінен падпарадкоўвацца архітэктурнай форме. Калі акно квадратнае, вітраж не можа быць круглым. Тое самае і ў літаратуры: неабходна дакладная фармулёўка патрабаванняў. Ніякіх цяжкасцей няма, калі ты ведаеш, як рабіць.

Ёсць тры сістэмы працы з заказчыкамі. Першую любіў Фрэнк Райт. Трэба падпарадкоўвацца: выслухаць усё і пагадзіцца. Другая — Людвіга Міс ван дэр Роэ: у мяне ёсць сістэма, як рабіць. Вы толькі давайце грошы. І трэццяя — Ле Корбюз'е. У ёй галоўнае — камбінаваць. З адным заказчыкам выкарыстоўваць адзін падыход, з іншым — шукаць нешта другое.

**— У суаўтарстве вам цяжка працаваць?**

— Галоўнае, каб чалавек быў прафесіяналам. Цяжка можа быць толькі з ворагамі. А прафесіянал ведае, як працаваць зладжана. Я быў галоўным мастаком камісійных крам. І маю вялікі вопыт працы ў суаўтарстве.

**— А чым займаецеся ў вольны ад замоў час?**

— Нас у ВНУ навучылі арганізоўваць працу, каб заставаўся час на ўласную творчасць. У мяне заўжды тысячы няскончаных планаў. Не люблю адкладзеныя кніжкі, недаробленыя карціны. За гэта бяруся з радасцю.

**— Якія сярод вашых работ найбольш блізкія вам?**

— Мы не заўсёды можам сябе правільна ацаніць. Трэба роўна ставіцца да сваіх твораў. І ні ў якім разе не варта іх знішчаць. Бо праз некаторы час кепскія работы могуць аказацца найбольш актуальнымі.

**— А вашы блізкія вас чытаюць?**

— Безумоўна. Я напісаў літаратурныя партрэты дачкі і жонкі. Праўда, дачка крытычна паставілася да тэксту, маўляў, там трэба штосьці падправіць, нешта прыбраць. Яна ведае, што я змяніў акцэнты дзесьці, фактalогію. Там нешта пісалася з натуры, але ў асноўным гэта рэканструкцыя.

Унук у дзяцінстве чытаў мае страшныя казкі пра труну і чорную руку. І мы дамаўляліся, што ён не будзе іх насіць у школу, бо настаўніцы не разумеюць гэтага фальклору.

**— У вас былі спрэчкі з настаўніцамі?**

— Досыць шмат. Першае, я спрачаўся з-за Лермантава. Казаў, што Пячорын станоўчы герой. А выкладчыца была іншага меркавання і занізіла адзнаку. Тады я зразумеў памылку — з настаўніцамі нельга канфліктаваць.

**— Літаратуразнаўца і крытык Пятро Васючэнка назваў вас «літаратурным кантралёрам». Чаму?**

— Я проста пісаў пра людзей не надта прыемныя рэчы. Была такая газета «Кантроль», дзе мы імкнуліся паўплываць на літаратурны працэс. Гэта ж усім цікава. Калі людзі збіраюцца разам, яны імкнуцца расказаць нейкую брыдкасць адзін пра аднаго. Я проста запісваў гэта.

Было нават, што гісторыя даходзіла да суда. Але завяршылася ўсё досыць мірна. Я вельмі кантралюю гэты працэс, каб не даходзіла да абразы. Крыўдзіць можна, абражаць — не.

**— У дзяцінстве вы дакладна ўяўлялі сваю будучыню?**

— Меркаваў працаваць у дзяржаўным цырку клоўнам. Думаў, буду выбягаць на арэну ў яркім касцюме. Пазней, у класе сёмым, я іграў у школьным тэатры. А пасля са сцэнай не склалася, бо не люблю гаварыць сто разоў чужыя словы. Гэта напружвае. У цырку таксама бясконцы паўтор. Я б так не змог.

Віктар ЛУПАСІН




# НАТАТКІ З ФЕСТЫВАЛЮ МОЎ

## 1. ЗВЫЧАЙНЫЯ І НЕЗВЫЧАЙНЫЯ

Ці ведаеш ты, якая мова самая звычайная ў свеце?

Дурное пытанне, адкажаш ты. Усе мовы па-свойму незвычайныя, кожная нечым адметная. А калі Лупасін мае на ўвазе самую папулярную мову, то яна хутка мяняецца: учора французская, сёння англійская, заўтра кітайская.

Я таксама так лічыў, пакуль не пабываў на II Мінскім фестывалі моў, што адбыўся 30 сакавіка на філфаку БДУ. Цяпер ведаю, што самая звычайная на свеце мова — хіндзі!

— Быў распрацаваны адмысловы матэматычны алгарытм, — распавядае пецярбургскі лінгвіст Марыя Канашэнка. — Ён улічвае 192 параметры: наяўнасць складання, спражэння, артыкляў, парадак слоў... Калі ў мове нейкі параметр мае такое значэнне, як у большасці іншых моў, то яна менш «дзіўная», а калі адрознае — больш. Самая звычайная мова сярод улічаных — хіндзі. Яе індэкс дзіўнаты складае ўсяго 0,087. Адна з самых незвычайных — нямецкая: 0,858!

*(Калі хочаш дазнацца падрабязней, заходзь на сайт праекта: idibon.com/the-weirdest-languages)*

Марыя прыехала на мінскі фестываль ужо другі раз. Летась я быў на яе прэзентацыі партугальскай мовы і на лінгваканцэрце, дзе яна спявала разнамоўныя ўласныя песні. Сёлета Марыя прывезла ў Мінск лекцыю пра моўную экзотыку, ісландскую мову, а таксама афрыканскую мову кпеле, на якой гавораць у Ліберыі і Гвінеі і назву якой еўрапеец нават не здолее вымавіць!

*(У мове кпеле існуюць двухфокусныя зычныя kp і gb. Каб вымавіць першы гук слова Kpele, трэба сказаць К і П адначасова!)*



— Як вы сталі лінгвістам-афрыканістам? — пытаю я Марыю. — З чаго пачалося?

— Пайшла на спецкурс па ірландскай мове, які вяла дацэнт Перахвальская — жонка галоўнага афрыканіста Пецярбурга. Яна мяне заўважыла і запрасіла ў экспедыцыю.

— Якія былі ўражанні ад першай экспедыцыі?

— Страх і жах. Дужа цяжка было. Зрэшты, гэта была не першая лінгвістычная экспедыцыя — да таго я ездзіла ў Калмыкію. Але ж Афрыка зусім іншая.

Афрыканскія мовы — вельмі разнастайныя і вельмі мала вывучаныя. Іх існуе каля 2000 — удвая болей, чым у Еўразіі. І ў адрозненне ад, напрыклад, індзейскіх моў афрыканскія амаль не знікаюць. Жыхары Ліберыі свабодна карыстаюцца і французскай, і кпеле.

А яшчэ на мове кпеле можна спяваць. Усе, хто быў на прэзентацыі, спявалі на кпеле!







## 2. МАЛЕНЬКАЯ І НЕРАЗУМНЕНЬКАЯ

Адна з самых юных на сёлетнім фестывалі — мінская ліцэістка Маша Бадзей. Яна была валанцёрам: падлічвала слухачоў на прэзентацыях, а для тых, хто стаміўся ад лекцый і прэзентацый, ладзіла гульню «Капялюш».

*(«Капялюш» — вядомая гульня на тлумачэнне слоў, якая на нашым фестывалі была ў двух варыянтах: беларускамоўным і англамоўным)*

— Маша, як ты даведалася пра фестываль моў і як зрабілася валанцёрам?

— Пра фестываль моў я даведалася ад сяброў, якія шмат мне пра яго расказвалі. А на валанцёрства мяне запрасіў Антон Сомін, адзін з арганізатараў фестывалю, за што яму вялікі дзякуй.

— Ці спрабавала сама прэзентаваць якуюнебудзь мову? Калі не, то ці збіраешся?

— Не, не спрабавала. Я ж яшчэ маленькая і неразумненькая, але ў будучыні ўсе магчыма. Мне было б цікава ў гэтым паўдзельнічаць, і я спадзяюся, што фестываль дажыве да таго моманту.

— Якія мовы табе найбольш падабаюцца?

— Вывучаю французскую. Вельмі падабаецца нідэрландская і чэшская. Мова любой краіны непасрэдна звязана з яе культурай, гісторыяй, характарам людзей, якія жывуць у гэтай краіне. І мова ўсё гэта адлюстроўвае. Лагічна, што табе падабаюцца мовы тых краін, якія для цябе цікавыя.

— Цяжка валанцёрыць?

— Валанцёрыць няцяжка, нават прыемна. Добрая атмасфера, дасціпныя людзі, адчуванне, што ты удзельнічаеш у такой цудоўнай справе. Гэта дае вельмі моцны пасыл і шмат энергіі.

— Ці прынёс табе фестываль новыя знаёмствы?

— Фестываль прынёс шмат новых знаёмстваў з цікавымі людзьмі, у пешую чаргу з прэзентатарамі. Ад іх літаральна зараджаешся энтузіязмам, з імі не засумуеш. І самі людзі, якія прыходзілі паслухаць лекцыі, былі станоўча настроеныя, з такімі лёгка камунікаваць.

### 3. ШТО ТАКОЕ ВЕДАЦЬ МОВУ?

Арцём Федарынчык прэзентаваў чувашскую мову і прачытаў дзве лекцыі: пра карысць моўнай разнастайнасці і пра стаўленне ў розных культурах да моўнай нормы. Дзве з трох прамоў былі на беларускай мове, хоць Арцём зусім не беларус!

(Дарэчы, гэта даволі звычайная фестывальная практыка: сёлета па-беларуску выступалі масквічы Антон Сомін і Міхаіл Хамінскі, а таксама японец Акіра Фурусава).

Пабываўшы на Арцёмавых лекцыях, я вырашыў узяць у яго інтэрв'ю.

— У якой колькасці фестываляў вы ўжо ўдзельнічалі? Якія мовы прэзентавалі?

— Мо ўжо другі дзясятак, прычым на двух кіеўскіх я быў арганізатарам. Мовы прээнтаваць не люблю, за чувашскую ўзяўся, бо пра яе ёсць што распавядаць 40 хвілін (пра ўкраінскую больш 10 не выцягну). Распавядаў пра лінгвазадачы, моўную разнастайнасць, граматыку, параўноўваў фанетыку і лексіку розных моў. На наступны год мо дабяруся да прэзентацыі грузінскай.

— Цудоўна! А як пачыналася захапленне мовамі?

— Некалі даўно я быў 16-гадовым выпускніком, якому ў школе падабаліся геаграфія, нямецкая, гісторыя і матэматыка. Адкуль 16-гадовы можа ведаць, што яму будзе цікава праз 5 гадоў? Паступіў на мехмат. На другім курсе пачаліся ўжо зусім абстрактныя рэчы, зразумеў, што не маё. Бліжэй да канца вучобы шукаў работу, далі нейкія тэксты набіраць, потым пераклад з англійскай, потым зацікавіўся французскай, і гадоў пяць назад зразумеў, што трэба ісці ў лінгвістычную аспірантуру.

— Ці складана вывучыць мову? Якія мовы самыя складаныя для вывучэння?

— Для пачатку трэба вызначыць, што такое «ведаць мову». Для чалавека, які ведае 1-3 мовы, гэта пытанне можа падацца дзіўным, але лінгвісты рэдка могуць адказаць канкрэтнай лічбай. Нават роднай можна займацца ўсё жыццё і ўвесь час знаходзіць нешта новае. Па-польску я размаўляю горш, чым па-беларуску, па-іспанску — яшчэ горш, па-французску добра чытаю, але на слых



разумею дрэнна, італьянскай не займаўся, але крыху разумею, румынскай займаўся 4 месяцы і ведаю толькі асновы. Як лічыць будзем?

Спробы ацаніць складанасць моў робяцца ўжо даўно, але калі колькасць няправільных дзеясловаў ці варыятыўных канчаткаў палічыць не вельмі складана, то складанасць гукаў, рэгулярнасці славатвору, на жаль, ужо цяжка паддаецца звычайнай арыфметыцы. Акрамя таго, час на вывучэнне залежыць ад таго, наколькі мова блізкая да таго, што чалавек ужо ведае; скажам, польская зусім не простая, але для мяне з ёй асаблівых праблем не было, зразумела чаму.

***На фестывалі было прэзентавана сорак пяць моў і прачытана сем лекцый. На жаль, можна было пабываць толькі на шасці прэзентацыях або лекцыях, бо ўсё доўжылася толькі адзін дзень.***

***Таму ёсць нагода ехаць на іншыя фестывалі!***

# «ДЫЯ@БЛОГ»: НЯЗМУШАНАЯ РАЗМОВА ПРА АДНУ ПЕРАДАЧУ




**— Ведаеце, якое пытанне ўзнікла ў маёй галаве, калі я яшчэ і не ведала, што буду браць у вас гэта інтэрв'ю? Хто прыдумаў назву «Дыя@блог»? Як нарадзілася ідэя такога праекта. Чыя яна?**

***Вядучы праекта «Дыя@блог: пра мову» пісьменнік Навум Гальпяровіч вяртае памяць да моманту стварэння канала «Беларусь 3», самага культуралагічнага з усіх беларускіх і… і проста самага беларускага.***

— Увогуле, гэта ідэя канала «Беларусь 3», калектыву на чале з Віктарам Маючым. Я вельмі ўдзячны за такую прапанову яму і намесніку галоўнага дырэктара Сяргею Макарэю. «Дыя@блог» мае чатыры накірункі — «Пра мову», «Пра літаратуру», «Пра прыгожае», «Пра вечнае», і гэта ўсё аднолькава выдатна і цікава, але мяне больш за ўсё турбуе мова. За апошнія 20 гадоў на нашым тэлебачанні перадачы, прысвечанай моўным пытанням, не з'яўлялася. Таму, канешне, гэта вельмі істотнае дасягненне. Галоўная ідэя праекта — інтэрактыў з гледачамі. Кожны вядучы мае асабісты блог у інтэрнэце і кожнай праграме папярэднічаюць стасункі вядучага з інтэрнэт-карыстальнікамі. Падчас запісу перадачы агучваюцца пытанні і даюцца адказы. Акрамя таго, пазней, у працэсе працы, узнікла ідэя размяшчаць у эфіры смс-паведамленні, якія мы таксама каменціруем, але ў наступных праграмах. Самае галоўнае для аўтара праграмы «Дыя@блог» — рэгулярна весці асабісты блог і мець перапіску з гледачамі, адказваць на іх не вельмі простыя пытанні. Мне падабаецца такая форма працы: я магу палемізаваць, не толькі з экрана, але і з тымі, хто мне піша. Тым больш, што з Таццянай Сівец, вядучай часткі «Дыя@блога» «Пра літаратуру» мы некалькі гадоў запар ладзілі радыёпраграму «Зямля, што нам дадзена лёсам», дзе гаворка ішла на беларускай мове і менавіта з тымі дзеячамі айчыннай навукі і культуры, якія гавораць па-беларуску. Дарэчы, гэта праграма дазволіла адкрыць і Святлану Дзянісаву. Я памятаю, як мы з вамі гутарылі, і як я з цікавасцю паставіўся да таго, што вы, працуючы ў глянцавым часопісе «Женский журнал», пішаце па-беларуску. Я ўдзячны вам і за тое, што менавіта вы пазнаёмілі мяне з многімі цікавымі людзьмі, якія спавядаюць беларускую мову. З вашай падачы яны былі маімі суразмоўцамі ў тым радыёпраекце. Таму да такой праграмы як «Дыя@блог» я быў падрыхтаваны. Яна так і легла мне на душу.

**— А ці не было ў вас адчування, што надыдзе час, калі вашы суразмоўцы пачнуць паўтараць сваіх папярэднікаў? Ці шмат можна прыдумаць пытанняў і знайсці адказаў у адной тэме, няхай сабе і такой важнай?**

— У мяне асабіста такога страху не было. Але ён быў у маіх калег. Хадзілі показкі: дзе, маўляў, Гальпяровіч знойдзе гэтулькі беларускамоўных, якія будуць адказваць на яго пытанні? Таму задача, якую я ставіў перад сабой першапачаткова, — паказаць, як людзі прыйшлі да мовы. У гутарках з замежнымі гасцямі — Куртам Вулхайзерам, Арнольдам Макміланам — важна было прадэманстраваць, што беларуская мова ў свеце вядомая, што ёй займаюцца навукоўцы, што ёсць людзі, якія валодаюць ёю, не будучы этнічнымі беларусамі. Па першым часе гэта было, можна сказаць, фішкай. Паступова паўставалі іншыя задачы. Напрыклад, цікава было пагаварыць з Арменам Сардаравым — армянінам, які не проста жыве ў Беларусі, а ведае беларускую мову і лічыць сябе грамадзянінам нашай краіны. А якую цікавасць выклікалі маладыя Віталь Макарэвіч, Дзяніс Філіпчык, Павел Махінаў! Такіх, як яны, рэдка сустрэнеш сярод сучаснай моладзі. Але я разумеў, што гэта сапраўды абернецца паўторамі, калі ў кожнага госця пытацца, як ён прыйшоў да разумення неабходнасці валодання мовай. Тады мы пашырылі абсягі. У тым сэнсе, што мова, як ні круці, а прысутнічае ў самых розных сферах жыцця: у навуцы, культуры, музыцы, выхаванні дзяцей дома і ў школе… Мова на вуліцах, у відэарадзе, у бізнесе, рэкламе... Я хачу сказаць пра яшчэ адну акалічнасць: людзі, што працуюць над праграмай, пачалі ўжо гаварыць са мной па-беларуску. Акцёр Аляксандр Ждановіч, Маляваныч з «Калыханкі», літаральна падчас праграмы сказаў, што калі рыхтаваўся да яе, тыдзень з усімі размаўляў выключна па-беларуску. І паабяцаў, што будзе цяпер у паўсядзённым жыцці карыстацца беларускай мовай. Такім вось адмысловым чынам мы давялі, што беларуская мова — не экзотыка. І пачаліся затым пытанні вартыя ўвагі: як навучаюць будучых выкладчыкаў беларускай мовы, гавораць яны ці не гавораць на беларускай мове ў жыцці, ці ідуць яны ў школу з любоўю, што значыць мова на нашых вуліцах, як гучаць на ёй шыльды-надпісы… У гэтым сэнсе вельмі цікавай была гаворка з Рыгорам Сітніцай, старшынёй Саюза мастакоў, пра транслітэрацыі і тое, як, рыхтуючыся да чэмпіянату свету, найбольш удала прадставіць замежным гасцям нашы назвы. Або пра тое, што такое білборды па-беларуску. Думаю, што тэма функцыянавання беларускай мовы вельмі шырокая і гаворкі нам хопіць надоўга.

* * *

— Ёсць група людзей, для якіх беларуская мова — гэта выключна дзяцінства і вёска. Для іх яна — вяртанне да каранёў і ўспаміны пра вучобу ў беларускамоўнай школе. Ёсць людзі, для якіх беларуская — мова працы, але не карыстання ў жыцці. Для некага — навука. Ёсць тыя, што ставяцца да мовы адмоўна толькі таму, што самі ёю не карыстаюцца. А не карыстаюцца таму, што мала пра яе ведаюць. Ці наадварот. Многім яшчэ трэба пераадолець стэрэатып: маўляў, беларуская мова — гэта мова «прасталюдзінаў», не інтэлектуальная, мужыцкая, калгасная…

**— Чакайце, мне здавалася, што такое стаўленне да мовы існавала гадоў 25 таму. Цяпер жа мова ў тых, хто яе не прымае, асацыіруецца з патлатымі**




*Госць — Курт Вулхайзер, прафесар Брандайскага ўніверсітэта (ЗША), беларусіст.*

**бунтарамі і дзівакамі ў лахманах, хай нават і вельмі інтэлектуальнымі.**

— Так, і гэта слушна. Сапраўды, вельмі важна для мяне і маіх суразмоўцаў паказаць, што беларуская мова — гэта не мова пратэсту, што гэта не мова нефармалаў ці апазіцыянераў, а звычайная мова, якой карыстаюцца паважаныя людзі. Аляксандр Лукашанец сказаў, што доказ функцыянальнасці мовы ў тым, што ёю карыстаюцца паспяховыя. Я таксама стараюся запрашаць у студыю менавіта паспяховых, каб гледачы заўважылі гэту акалічнасць. Яшчэ адзін важны бок размоў — існаванне ў нашай краіне білінгвізму. Мы гаворым пра тое, што гэта за багацце — двухмоўе на дзяржаўным узроўні, як гэта адрознівае нас ад іншых і наколькі яскрава сведчыць пра культуру і развітасць нашых грамадзян. Як сказаў малады чалавек з афрыканскімі і беларускімі каранямі Андрусь Такінданг, мовы павінны не раз'ядноўваць, а аб'ядноўваць людзей.

**— Якія адказы ці каментарыі вас асабліва ўразілі або абурылі? Якая праграма больш запомнілася, які суразмоўца падаўся найбольш выбітным? Карацей, успомніце самыя яркія моманты.**

— Адзін з самых яркіх момантаў, калі я ў Курта Вулхайзера, грамадзяніна ЗША, немца па паходжанні, спытаў, наколькі ён ведае мову народную — прымаўкі. Адно тое, што амерыканец размаўляе па-беларуску, гучыць незвычайна, але я, уявіце, пачуў ад яго: «Каб цябе качкі затапталі»! Безумоўна, уражвае Андрусь Такінданг, чалавек, які знешне зусім на беларуса не цягне. Уражваюць ягоныя песні, гаворка, перакананасць. У фільме пра гэтага хлопца яго бабуля, што жыве ў Лепельскім раёне і працуе настаўніцай рускай мовы, пытаецца: «Андрусь, чаму ты толькі па-беларуску пішаш?» «А таму, што я беларус, бабуля», — так ён ёй адказвае. З яго вуснаў пачуць гэта асабліва цікава. Што да каментарыяў, то мяне вельмі кранулі такога кшталту: са слязьмі, маўляў, на вачах убачыў вашу праграму, нарэшце мы сталі гаварыць пра родную мову. А калі аднойчы паставілі замест свежага выпуску паўтор, прагучала: «Што здарылася?» Уразілі таксама некаторыя грубыя, злыя звароты: «Этот язык мёртвый, не нужно его возрождать».

**— А што вы, дарэчы, адказваеце?**

— «А вы пацікаўцеся, — кажу я. — Вазьміце кніжку, пачытайце». Галоўнае — не ўступаць у лаянку, а крыху прысарамаціць чалавека тым, што ён не ведае, бо не чытаў і не слухаў. Шкадаваць трэба тых людзей, якія, не адчуўшы хараства роднай мовы, ад яе адмаўляюцца. Мы, дарэчы, нічога не ўтойваем, паказваем абсалютна ўсе каментарыі, акрамя лаянкі… Адна жанчына з нікам «Французская балонка» напісала: «В музыке белорусский язык нужно запретить».

**— Сапраўды, меркаванне французскай балонкі. А ўявіце сабе, што ў гэту праграму ў якасці госця запрасілі вас. Якое пытанне вы б задалі Навуму Гальпяровічу і што б ён вам адказаў?**

— Я прабачаюся, але такі пасыл быў. Паглядзеўшы праграму з некім з неэтнічных беларусаў, нам напісалі: чужаземцы, маўляў, будуць нас вучыць нашай мове! Якое вострае пытанне я б чакаў, калі б мяне паклікалі на гэту перадачу? Ды ўсё ў тым жа ключы. Памятаю, як мяне некалі адзін мой аднакласнік дапытваў: «Навошта ТАБЕ гэта беларуская мова?» Калі б так папыталіся, я б адказаў. Гэта было б найбольш вострае, найбольш незразумелае пытанне, але я б на яго адказаў. Расказаў бы, чаму для мяне мова не толькі рабочы інструмент, але і тое, што выказвае мае пачуцці і выяўляе душу…

**— Я зноў наконт назвы — «Дыя@блог». Калі першы раз прачытала гэта дзіўнае спалучэнне, у мяне прамільгнула асацыяцыя з д'яблам. Можаце пакінуць тут свой каментарый на гэту маю вольнасць?**

— Ведаеце, я ўжо такое чуў. Паколькі я працую ў гэтай праграме, я прыняў гэту назву і нясу за яе адказнасць. Дазволю сабе крыху вострага і салёнага. Некаторыя карэктары кажуць, што нельга пісаць «Ужо пайшоў». На гэта ёсць адказ класіка: «Такога слова няма». «Малітва» Янкі Купалы таксама пачынаецца з пэўных слоў, якія маглі б выклікаць пэўныя асацыяцыі…

***— А можа, гэта не самая горшая асацыяцыя з д'яблам? Бо д'ябальскі цікава.***



*Гутарыла Святлана ДЗЯНІСАВА*

Рубрыка гістарычных факультэтаў краіны

# З НАШАЙ ДАГІСТОРЫІ.

## *Каменны век Паўночна-Заходняй Беларусі*

**Не так даўно даведаўся пра творчы праект «ГістфакТ». Дасылаю свой артыкул, які, магчыма, будзе цікавым. Я археолаг, распачынаю даследаванні старажытнасцей каменна-бронзавага вякоў Паўночна-Заходняй Беларусі ўслед за сваім настаўнікам Міхасём Чарняўскім. Артыкул навукова-папулярны, у ім распавядаецца пра найбольш старажытны перыяд гісторыі згаданага рэгіёна — каменны век.**

**З павагай Станіслаў ЮРЭЦКІ,**
**аспірант Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі, магістр гістарычных навук**



Уся наша гісторыя мусіць быць падзелена на два вялікія перыяды: *дагісторыя* (альбо першабытнасць) і *ўласна гісторыя*. Мяжа паміж імі вызначаецца па шэрагу аспектаў, цэнтральны сярод якіх — з’яўленне пісьменства. Менавіта згаданая прыкмета характарызуе важнейшыя змены ў жыцці людзей. Без пісьменства немагчыма фарміраванне дзяржавы, што характарызуе цывілізацыйны этап развіцця чалавецтва. Падзеі *ўласна гісторыі* вывучаюцца даследчыкамі дзякуючы пісьмовым крыніцам (летапісы, хронікі, дакументы справаводства). Пры гэтым іншыя гістарычныя дысцыпліны адыгрываюць дапаможную ролю. *Дагісторыя* ж чалавецтва вывучаецца дзякуючы археалогіі, што тлумачыцца характарам наяўных крыніц *(**археалогія** — гэта навука, якая займаецца даследаваннем мінулага праз вывучэнне матэрыяльных рэштkaў і іншых слядоў існавання людзей).* Калі ўсю эпоху існавання чалавецтва ўзяць за 100 %, то на час *уласна гісторыі* будзе прыпадаць нават меньш за 1 %. Увесь астатні перыяд адносіцца да *дагісторыі*, якая падзелена навукоўцамі на тры асноўныя археалагічныя эпохі: каменны, бронзавы і жалезны вякі.

Каменны век з’яўляецца найбольш працяглым, але і аддаленым ад нас у часе, перыядам існавання чалавецтва. Дадзеная эпоха названа даследчыкамі так таму, бо асноўныя прылады працы старажытны чалавек тады вырабляў з каменя, пераважна крэменю. Трэба згадаць, што на роўні з крэменем старажытныя людзі выкарыстоўвалі дрэва, костку і рог. Аднак вырабы з дадзеных матэрыялаў ад той пары вельмі дрэнна захоўваюцца і таму выяўляюцца сучаснымі даследчыкамі досыць рэдка і фрагментарна. Дарэчы, каменныя прылады працягвалі выкарыстоўвацца людзьмі таксама ў бронзавым веку, і нават у жалезным.

На тэрыторыі Беларусі першыя каменныя знаходкі, якія магла апрацаваць рука старажытнага чалавека, датуюцца эпохай (100—40/35 тысяч год таму). Аднак несумненныя сведчанні існавання найбольш ранніх насельнікаў адносяцца да часоў верхняга палеаліту (40/35—14/13 тысяч год таму). Пра гэта сведчаць найбольш старажытныя паселішчы, якія былі выяўлены на поўдні



*Крамянёвыя наканечнікі стрэл мезалітычнага часу з помніка Сосенка 3 (згодна М. М. Чарняўскаму).*

Беларусі, — стаянкі Юравічы і Бердыж. На пачатку 2000-х было выяўлена яшчэ адно першабытнае паселішча той пары — Кавальцы на Гарадзеншчыне. Яго можна лічыць трэцім па ўзросце пасля згаданых двух з Паўднёвай Беларусі. Эпоха позняга палеаліту была даволі суровым этапам існавання чалавека. Гэта быў час ледавіковага перыяду. Старажытныя людзі палявалі на мамантаў, валасатых насарогаў, паўночных аленяў, мядзведзяў. Па мажлівасці людзі займаліся і збіральніцтвам.

На тэрыторыі Паўночна-Заходняй Беларусі, па наяўных на сёння звестках, першыя людзі з'явіліся толькі ў часы ранняга мезаліту. Да гэтай пары адносіцца стаянка Стругалапы-1 (Мядзельскі раён). Перыядам позняга мезаліту датуюцца першабытныя паселішчы Кусеўшчына (Мядзельскі раён), Сосенка-3 (Вілейскі раён), а таксама частка касцяных артэфактаў са Смаргонскага кар'ера ***(артэфакт** — рэч, выраблeная ці апрацаваная чалавекам у мінулым).* Своеасаблівасць згаданых помнікаў дазволіла археолагу В. С. Абухоўскаму казаць пра мажлівасць вылучэння асобнай нарачанскай археалагічнай культуры часоў позняга мезаліту ***(археалагічная культура** — сукупнасць помнікаў, якую вылучаюць даследчыкі па наяўнасці пэўных агульных рыс: тоеснасці артэфактаў, тэрыторыі распаўсюджвання, храналогіі і інш.).* Выключнай па сваёй значнасці з'яўляецца знаходка «жэзла (альбо нажа) шамана», што была выяўлена на Смаргоншчыне. Пры распрацоўцы кар'ера рабочыя знаходзілі розныя касцяныя і рогавыя рэчы. Сярод такіх артэфактаў найбольш унікальным з'яўляецца касцяны выраб з арнаментам. Яго апісанне, характарыстыка і назва «жэзл (альбо нож) шамана», былі дадзены археолагам М. М. Чарняўскім. Дадзены артэфакт выраблены з рога аленя, мае выцягнутую форму і амаль што скрозь арнаментаваны. На жаль, знаходка захавалася фрагментарна, што перашкаджае аднавіць яе поўны першапачатковы выгляд. Аднак характар аздаблення дазваляе казаць, што дадзеная рэч магла выкарыстоўвацца ў сакральных мэтах.

Эпоха мезаліту (IX—V тысячагоддзі да н.э.) прыпадае на пачатак галацэну — сучаснай геалагічнай эпохі. Ледавік ужо пакінуў тэрыторыю рэгіёна і клімат пачаў ператварацца ў больш спрыяльны, амаль падобны да сучаснага. Асноўнымі заняткамі для чалавека ў той час заставаліся паляванне і збіральніцтва. Але да іх дадаўся і яшчэ адзін — рыбалоўства. Працягвала панаваць прысвойваючая гаспадарка. Пры паляванні пашырылася выкарыстанне лука са стрэламі. Цікавасць для паляўнічых той пары ўяўлялі алені, дзікі, ласі, мядзведзі і інш. У мезаліце жыццё было даволі дынамічным, бо людзі былі вымушаны рухацца за статкамі мігрыруючых аленяў.

Дзесьці 7 тысяч год таму (альбо 5 тысяч год да н.э.) на тэрыторыі сучаснай Беларусі пачалася эпоха неаліту — заключны перыяд каменнага веку. У гэты час людзі навучыліся вырабляць посуд з гліны, сталі шліфаваць каменныя прылады. Менавіта ў неаліце (V — пачатак II тысячагоддзя да н.э.) на згаданай тэрыторыі пачаўся пераход ад прысвойваючай гаспадаркі да вытворчай. Людзі пакрысе прызвычайваліся да вядзення земляробства, пачалі гадаваць хатніх жывёл. Вышэйпералічанае выклікала пераход да аселага ладу жыцця, а таксама значны рост насельніцтва. Адбыўся сапраўдны дэмаграфічны выбух. Усяму гэтаму спрыяў добры клімат. Згаданыя падзеі выклікалі велізар-

ныя змяненні. Знакаміты англійскі археолаг Г. Чайлд нават увёў у навуковы зварот азначэнне «неалітычная рэвалюцыя» для характарыстыкі той пары.

На тэрыторыі Паўночна-Заходняй Беларусі насельніцтва неалітычнай эпохі пакінула за сабой шэраг помнікаў. Гэта дазволіла археолагу М. М. Чарняўскаму выявіць прысутнасць у гэтым рэгіёне носьбітаў пэўных археалагічных культур. Найбольш ранняй культурай эпохі неаліту на згаданай тэрыторыі з'яўляецца нарвенская. Яе носьбіты насялялі абшары Паўднёва-Ўсходняй Прыбалтыкі, паўднёвага Прыладажжа і Паўночнай Беларусі. У басейне Верхняй Віліі (Вяллі) вядомы паселішчы носьбітаў гэтай культуры Скема 1, 2 (Мядзельскі раён), Сосенка 1, 3 (Вілейскі раён). Нарвенская культура датуецца V—IV тысячагоддзямі да н.э. Пачынаючы дзесьці з другой паловы IV тысячагоддзя да н.э. на тэрыторыю азначанага рэгіёна з тэрыторыі Паўднёва-Ўсходняй Прыбалтыкі пачынае пранікаць іншае насельніцтва — носьбіты культуры тыповай грабянёва-ямкавай керамікі. Сучасны ўзровень даследаванняў сведчыць, што прыток гэтых мігрантаў быў нешматлікім. М. М. Чарняўскі лічыў, што прышлае насельніцтва асімілявалася мясцовымі носьбітамі нарвенскай культуры (***асіміляцыя** — страта пэўным народам сваіх характэрных рыс пад уплывам іншага народа, з адначасовым пераманнем адметнасцей апошняга*). Артэфакты, якія звязваюцца з культурай тыповай грабянёва-ямкавай керамікі, выяўлены на наступных помніках рэгіёна: Задзеўскае (Пастаўскі раён), Скема 1, 2, Скрыбава (Мядзельскі раён), Малмыгі (Вілейскі раён). Існаванне носьбітаў гэтай культуры на тэрыторыі сучаснай Беларусі было акрэслена М. М. Чарняўскім другой паловай IV — пачаткам III тысячагоддзяў да н.э. На думку гэтага археолага, узаемадзеянне носьбітаў культур нарвенскай і грабянёва-ямкавай керамікі прывяло да зараджэння новай супольнасці — усвяцкай культуры. На тэрыторыі Паўночна-Заходняй Беларусі матэрыялы ўсвяцкай культуры выяўлены на помніках Задзеўскае, Скема 1, 2, Сосенка 3. Яны датуюцца канцом IV — сярэдзінай III тысячагоддзяў да н.э.

Носьбіты нарвенскай і грабянёва-ямкавай керамікі культур жылі дзякуючы прысвойваючай гаспадарцы. Толькі прадстаўнікі ўсвяцкай культуры, згодна дадзеным, пачалі прызвычайвацца да вядзення вытворчай гаспадаркі. Аднак усе яны ўжо навучыліся выраблядь гліняны посуд, што і дазваляе навукоўцам лічыць названыя археалагічныя культуры неалітычнымі. Нарвенцы выраблялі прысадзістую, вастрадонную кераміку. Дабаўлялі ў глінянае цеста рэшткі арганікі і таўчоных ракавін. Паверхні пасудзін аздабляліся насечкамі, наколамі, ямкавымі паглыбленнямі. Носьбіты культуры грабянёва-ямкавай керамікі выраблялі посуд яйкападобнай формы, скрозь арнаментаваны ямкавым і грабянёвым арнаментам. У глінянае цеста дабаўляліся жарства і пясок. Посуд усвяцкай культуры ўтрымлівае ў сваім гліняным цесце дамешкі ракавін і шамоту. Ён аздабляўся старажытнымі ганчарамі з дапамогай розных насечак, наколаў, неглыбокіх ямак. Дарэчы, менавіта асаблівасці керамікі з'яўляюцца для археолагаў важнейшай падставай для вылучэння археалагічных культур той пары.

У часы позняга неаліту на тэрыторыю Паўночна-Заходняй Беларусі пранікаюць традыцыі культур шарападобных амфар і шнуравой керамікі. Уплывы культуры шарападобных амфар праглядаюцца, па вызначэнні М. М. Чарняўскага, сярод рэштак старажытнага пахавання, выяўленага ў ваколі-




*Кераміка неалітычных культур:*
*I — нарвенскай; II — грабянёва-ямкавай;*
*III — усвяцкай; IV — паўночнабеларускай*
*(згодна М. М. Чарняўскаму).*



*Каменныя свідраваныя сякеры, знойдзеныя на Смаргоншчыне (згодна В. Л. Лакізе).*

цах пасёлка Куранец (Вілейскі раён). Крыху пазней на тэрыторыі сучаснай Беларусі з'яўляюцца носьбіты кола культур шнуравой керамікі. Гэтае насельніцтва навукоўцы звязваюць са старажытнымі індаеўрапейцамі (***індаеўрапейцы** — народы, якія сфармаваліся ў канцы каменнага — бронзавым вяках на шырокай прасторы ад Еўропы да Індыі. На тэрыторыі Еўропы з'яўляюцца непасрэднымі продкамі старажытных славян, балтаў, кельтаў і германцаў).*

Менавіта пад уплывам традыцый шнуравой керамікі на тэрыторыі Паўночна-Заходняй, Заходняй Беларусі, а таксама ў памежных раёнах Расіі складваецца новая археалагічная культура. Яна атрымала назву паўночнабеларуская. Носьбіты паўночнабеларускай культуры выраблялі вастрадонны, а пазней і пласкадонны посуд. У гліняным цесце такой керамікі прасочваюцца дамешкі арганікі, таўчоных ракавін, а таксама птушынага пуху. Аздабляліся такія пасудзіны з дапамогай насечак, грабянёвых адбіткаў, а таксама ямкавых уціскanняў і наколаў. На тэрыторыі распаўсюджання гэтай культуры знойдзены помнік Кастыкі 1 (Вілейскі раён). У гэтым паселішчы знойдзены адметны артэфакт — бронзавая сякера, што сведчыць пра пераход мясцовага насельніцтва ўжо да новай эпохі — бронзавага веку. Існаванне носьбітаў паўночнабеларускай культуры вызначаецца даследчыкамі ў межах ад сярэдзіны III і да сярэдзіны II тысячагоддзяў да н.э.

Вось так у агульных рысах выглядае пачатак *дагісторыі* Паўночна-Заходняй Беларусі. Першабытныя людзі сяліліся пераважна ўздоўж рэк, што выконвалі ў тыя часы ролю галоўных шляхоў зносін. Спрыяльнымі для жыцця месцамі былі ўзвышшы непадалёк ад вадаёмаў, што дазваляла займацца рыбалоўствам. У мезалітычны час людзі будавалі лёгкія жытлы накшталт чумаў, што дыктавалася мабільным характарам жыцця. У неаліце з пераходам да аселасці, пачалі ўзводзіцца больш трывалыя збудаванні. Чалавек той пары быў вельмі залежны ад навакольнага асяроддзя, што знайшло сваё адлюстраванне ў рэлігійных уяўленнях (культ сонца, звяроў і птушак).

Даследчык старажытнасцей М. М. Чарняўскі казаў, што «каменны век — гэта дзяцінства чалавецтва, эпоха, калі закладваліся і фарміраваліся падмуркі яго далейшага развіцця». Вывучэнне старажытнасцей каменнага веку вельмі важна для захавання нашай гістарычнай памяці. Нават невялічкі і неахайны на першы погляд кавалачак крэменю ў стане распавесці археолагам гісторыю пэўнай мясцовасці. Артэфакты можна знайсці не толькі падчас раскопак. Многае ляжыць на паверхні. Так, напрыклад, падчас археалагічных разведак, якія летась праводзіў аўтар на тэрыторыі Маладзечанскага раёна, былі выяўлены рэшткі існавання людзей у каменным і бронзавым вяках на берагах ракі Вуша ля паўночнага ўскрайку Маладзечна і каля вёскі Бушавіца.

Вельмі часта археалагічныя знаходкі, у тым ліку і тыя, што адносяцца да каменнага веку, выяўляюцца падчас сельскагаспадарчых прац. На ўзараным полі добра заўважны розныя артэфакты. Увагу людзей павінны прыцягваць кавалкі крэменю і чарапкі керамікі. Асаблівую цікавасць прадстаўляюць каменныя свідраваныя сякеры, якія вельмі часта знаходзяць выпадкова. Пра ўсе выяўленыя артэфакты трэба паведамляць у мясцовыя музеі, таксама карысна апавяшчаць школьных настаўнікаў гісторыі і па магчымасці інфармаваць грамадскасць праз СМІ. Гэта дазволіць звярнуць увагу спецыялістаў і папоўніць нашу гістарычную скарбонку.



# СЯБРЫНА АББіА

***АББіА хаця і перагукаецца з назваю АВВА, насамрэч не мае ніякага дачынення да легендарнага шведскага гурта. За гэтай абрэвіятурай — наша, родная музычная суполка. Ведаеце, колькі ў ёй удзельнікаў? Куды больш як тры з паловай сотні! Яно і не дзіва, бо АББіА аб'ядноўвае (і працягвае прымаць у сваё кола прадстаўнікоў усіх рэгіёнаў Беларусі) сяброў найпапулярнага «гармонікавага» сямейства музычных інструментаў: баяна ды акардэона. Шэсць гадоў таму лідары айчыннай баянна-акардэоннай школы стварылі Асацыяцыю беларускіх баяністаў і акардэаністаў — творчае падраздзяленне саюза музычных дзеячаў. Адметная абрэвіятура хутка зрабілася і знакам заўважных спраў.***



*Андрэй Іотка,*
*Мінская ДМШМ № 11.*

## ХТО ДАСЦЬ ФОРУ АЛІМПІЙЦАМ?

Не было б грунтоўных асноў і традыцый — не было б і сённяшніх дасягненняў беларускай школы баяна ды акардэона, якая цягам апошніх дзесяцігоддзяў займае адно з вядучых месцаў у свеце. Пра яе вытокі, гісторыю можна расказваць бясконца. Шмат часу спатрэбіцца і на тое, каб распавесці пра набыткі новых музычных пакаленняў, пра дабратворны ўплыў дзейнасці АББіА (дарэчы, залетась прынятай у склад Міжнароднай канфедэрацыі акардэаністаў). Што і казаць, прысутнасць новай суполкі ў культурнай прасторы адчуваюць і прафесійныя выканаўцы, і аматары, і педагогі, і навучэнцы, і публіка. У полі спраў АББіА — пашырэнне прапаганды баяннай і акардэоннай музыкі, удзел у адраджэнні беларускай нацыянальнай культуры, наладжванне стасункаў паміж спецыялістамі, садзейнічанне развіццю фальклорнага мастацтва і самадзейнай творчасці. Праблемы набыцця і рамонту інструментаў, пошуку і распаўсюджвання нотнага матэрыялу, навучальна-метадычная дапамога, правядзенне майстар-класаў, інфармаванне пра конкурсы рознага ўзроўню і дапамога ў падрыхтоўцы да іх, арганізацыя канцэртаў, фэстаў, аглядаў, турніраў... Усім гэтым займаецца асацыяцыя.

А вось падтрымку юных талентаў і выхаванне мастацкага густу моладзевай аўдыторыі можна лічыць



*Ксенія Арлова,*
*Мінская ДМШМ № 5.*



*Дуэт навучэнцаў Магілёўскай гімназіі-каледжа мастацтваў.*



*Ансамбль «Акварэль» Мінскай гімназіі № 10.*



*Антон Маляёнак і Іван Кісліцкі з Мінскай гімназіі № 17.*

асаблівымі крытэрыямі працы АББіА. Яе старшыня Мікалай Сеўрукоў — заслужаны артыст Беларусі, лаўрэат міжнародных конкурсаў, прафесар Беларускай акадэміі музыкі — 20 гадоў свайго творчага жыцця аддаў канцэртнай дзейнасці як саліст філармоніі. Як і многія калегі, мае выдатны досвед педагога. Мікалай Іванавіч падрыхтаваў каля сотні лаўрэатаў нацыянальных і міжнародных конкурсаў! Самае гучнае імя ў сузор'і яго вучняў — Уладзіслаў Плігаўка, чый фенаменальны талент раскрыўся яшчэ ў маленстве. Сёння Уладзіслаў вядомы далёка за межамі Беларусі рэкардсмен: ён перамог на шматлікіх рэспубліканскіх і больш як 35 міжнародных конкурсах, упершыню за гісторыю беларускага баяннага выканальніцтва стаў трыумфатарам самага прэстыжнага міжнароднага спаборніцтва «Кубак Свету» ў Шатландыі. А нядаўна Уладзіслаў Плігаўка ўжо як малады выкладчык разам з лаўрэатамі рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў — сваімі навучэнцамі ды студэнтамі даў бліскучы клас-канцэрт у сталічнай філармоніі.

Мікалаю Сеўрукову даводзіцца часта назіраць за рэакцыяй публікі падчас выступленняў маладых музыкантаў. Выснову ён робіць аптымістычную: высокае мастацтва і ў самых дэмакратычных, «непадрыхтаваных» да ўспрымання класікі колах — зразумелае і запатрабаванае. Тым болей, калі гучыць інструмент, папулярны ў многіх народаў. А яшчэ Мікалай Іванавіч неаднойчы пераконваўся, што за мяжой (прыкладам, у Польшчы або ў Францыі, дзе жывы голас баяна ці акардэона абавязкова гучыць і на вуліцах, і ў будзённых кавярнях, і на вечарынах) нашых зорачак прымаюць і падтрымліваюць, як родных. Бо разумеюць і кошт унікальнага таленту, і цяжар штодзённай працы музыканта, і неабходнасць фінансавай дапамогі некаторым нашым юным канкурсантам.

«Вядома, — разважае прафесар, — спартсмен едзе на міжнародныя спаборніцтвы, забяспечаны належнай экіпіроўкай, не абцяжараны клопатам пра выдаткі на дарогу і жытло, а калі дасягае поспеху, дык сустракаюць яго на радзіме з асаблівай пашанай. Калі ж на спаборніцтвы такога ж, а то і вышэйшага ўзроўню збіра-

ецца музыкант, чамусьці ўсё інакш. Грошы на ўступны конкурсны ўнёсак, на дарогу, пражыццё і да т. п. ён мусіць здабываць саматугам. А яго бліскучыя перамогі застаюцца нібы лакальнай падзеяй для сям'і, навучальнай установы, хаця гэты музыкант прадстаўляў гонар Беларусі, здзейсніў подзвіг на ўзроўні алімпійскай перамогі, уславіў імя сваёй краіны... Ні адпаведнай публічнай пашаны, ні розгаласу — няма. Чаго ж тады здзіўляцца, калі нашы зорачкі, крыху пасталеўшы, не-не ды і з'язджаюць за мяжу? Мы настолькі апантаныя мастацтвам, што працуем дзеля яго. Імёны беларускіх баяністаў і акардэаністаў добра вядомыя і дома, і ў замежжы, лепшыя выканаўцы граюць на прэстыжных сцэнах розных краін, штогод выпускаюць запісы сваіх выступленняў, выдаюць нотныя зборнікі, навукова-метадычныя работы. І ёсць надзея на змену культурных прыярытэтаў, калі ў грамадстве і становішча сапраўднага мастацтва, і стаўленне да яго палепшацца. Бо патрэба слухачоў у высокапрафесійнай творчасці насамрэч вялікая. Вы ж бачыце: самым розным людзям цікава на канцэртах, дзе гучыць жывая сур'ёзная музыка. І гучыць выдатна, бо ёсць каму яе граць: колькі ў нас выдатных выканаўцаў і перспектыўных талентаў!»

### «НЕ СЯДЗІЦЕ Ў КЛАСЕ!»

Падчас колішняй нашай гутаркі прафесар Сеўрукоў заўважыў:

«Я скіроўваю сваіх студэнтаў на канцэртныя выступленні, на ўдзел у конкурсах, каб яны ні ў якім разе не праседзелі гады навучання сам-насам з інструментам у класе. Аналогія, зноў жа, са спортам: уявіце, што станецца, калі спартсмен цягам некалькіх гадоў будзе толькі трэніравацца ў зале, не выходзячы на спаборніцтвы? Музыканту для выяўлення свайго таленту, для пацвярджэння прафесійных дасягненняў трэба выходзіць на сцэну. Выступаць перад публікай. Выпрабоўваць сябе ў творчым асяроддзі, спаборнічаць. Адчуваць сваю запатрабаванасць і атрымліваць заахвочванне».




*Антон Грышчанка,*
*Мінскі дзяржаўны музычны каледж імя Глінкі.*



*Лізавета Кейзерава,*
*Магілёўская гімназія-каледж мастацтваў.*



*Багдан Высоцкі, Мінская ДМШМ № 2.*




*Кацярына Гайдукова,*
*Магілёўская ДГК мастацтваў.*



*Паліна Сініца і Марыя Дзмітрыева,*
*Магілёўская ДГК мастацтваў.*

Дзейнасць АББіА матывуе актыўнасць маладых музыкантаў ды іх педагогаў па ўсёй Беларусі, не дазваляе і самым юным сябрам баяна ды акардэона «адседжвацца ў класе». Менавіта па ініцыятыве асацыяцыі нарадзілася і становіцца традыцыйнай вясновая творчая акцыя «Беларускі дзень баяна, акардэона і гармоніка». Яна закранае жыццё розных рэгіёнаў краіны, нагадвае пра сябе канцэртамі з удзелам лепшых айчынных выканаўцаў, лаўрэатаў міжнародных конкурсаў, студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, навучэнцаў музычных каледжаў, гімназій, дзіцячых музычных школ мастацтваў, аматараў баяна і гармоніка. А яшчэ — метадычнымі семінарамі, сустрэчамі з вядомымі салістамі, педагогамі.

Прычыняецца АББіА і да Міжнароднага конкурсу «Мой сябра — баян». Сёлета ён ужо сёмы раз прайшоў у сакавіцкім Гомелі, сабраўшы больш як паўтары сотні баяністаў і акардэаністаў ва ўзросце ад 10 да 16 гадоў з Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны. Следам адбыўся ўжо III Адкрыты мінскі гарадскі агляд-конкурс баяннай і акардэоннай музыкі «Вясновы россып» — адметная падзея для сталіцы ды яе гасцей. Было больш як 160 удзельнікаў у сольных і ансамблевых намінацыях, у складзе аркестраў. Аказалася, што класы папулярных інструментаў ёсць не толькі ў музычных каледжах і дзіцячых школах мастацтваў, але і ў гімназіях краіны, і ў сярэдніх школах з музычным ухілам.

І ўжо амаль на парозе мая ў сталічнай канцэртнай зале «Прэм’ера» Беларускі саюз музычных дзеячаў і актывісты АББіА наладзілі свята для ўсіх сяброў баяна і акардэона. Толькі лепшыя з лепшых, толькі пераможцы нядаўніх міжнародных і нацыянальных конкурсаў! Арганізатары прысвяцілі канцэрт беларускаму Дню баяна і акардэона і, мабыць, доўга шукалі для свайго праекта трапнае лаканічнае імя. А ўрэшце гэтая феерычная імпрэза набыла даўгаватую, затое грунтоўную назву: «Граюць зоркі баяна і акардэона». На працягу амаль дзвюх гадзін без антракту, з невялічкімі паўзамі для абвестак вядучага, у ролі якога выступіў Мікалай Сеўрукоў, раскручвалася дынамічная драматургія праграмы — ад празрыстасці душэўных мініяцюрных п’ес да ўскладнёнай вобразнасці віртуозных кампазіцый, ад сонечна-фестывальнай жыццярадаснасці да шчодрых эмацыянальных кульмінацый.

Будзе ўспамінацца і «Чорна галка», што «кацілася» пад спрытнымі пальчыкамі самай маленькай пераможцы Ксені Арловай. І дуэт хлапчукоў-гімназістаў у франтавой салдацкай форме, чый нумар — варыяцыі на тэму ваеннай песні «Казакі ў Берліне» прысвячаўся 70-годдзю вызвалення Беларусі. І рамантычная «Боса-нова» ў дасціпным дыялогу дзёрзка-рашучага баяна і стрымана-

далікатнага акардэона. Будзе ўспамінацца Раман Петух, які хвацка «расцягваў мяхі» ды гарэзліва здабываў перкусійны рытм з чорных планак свайго інструмента. І тое, з якой пластычнасцю і артыстызмам пражывала Марыя Дзмітрыева праз музыку свой эфектны агністы чардаш. І як яе стыльны дуэт з Палінай Сініцай патанаў у авацыях публікі, настроенай не адпускаць упадабаных выканаўцаў са сцэны. Не забудуцца і воклічы «брава!», адрасаваныя Кацярыне Гайдуковай (Гран-пры сёлетняга конкурсу «Мой сябра — баян»). І ўдумлівае пераўвасабленне Андрэя Іоткі ў вобразны свет дзвюх рознахарактарных п'ес. І нязвыклае ў акадэмічным кантэксце эстраднае шоу сямейнага дуэта баяністаў: маленькага Уладзіслава Мелічэнкі ды яго бацькі, настаўніка гомельскай ДШМ № 5 Сяргея Мелічэнкі...

А фаварыты прафесійнага музычнага свету? Яны (як, дарэчы, і згаданыя куміры канцэртнай публікі Марыя Дзмітрыева, Паліна Сініца, Кацярына Гайдукова) вучацца ў Магілёўскай дзяржаўнай гімназіі-каледжы мастацтваў. Міхаіл Валчкоў — лаўрэат 1-й прэміі прэстыжнага конкурсу ў германскім Клінгенталі, уладальнік Гран-пры конкурсу ў Даўгаўпілсе (Латвія). Лізавета Кейзерава — лаўрэат некалькіх рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў, лаўрэат міжнароднага фестывалю «Москва встречает друзей», Міжнароднага дабрачыннага фонду Уладзіміра Співакова. Яна мела гонар іграць з яго аркестрам «Виртуозы Москвы» пад кіраўніцтвам маэстра, удзельнічаць у праектах «залатога акардэона Расіі» Валерыя Коўтуна.

Удзельнікі канцэрта прадстаўлялі Бабруйск, Баранавічы, Гомель, Магілёў, Мінск — і школы сваіх педагогаў, сярод якіх Святлана Салаўёва, Уладзімір Яршоў, Аляксандр Маляроў, Лілія Пажарыцкая, Раіса Сінялобава, Алена Дарашэнка, Мікалай Буянаў, Марына Гойдзь, Леанід Раўцкі, Настасся Рубіна...

«Зоркі», — вось галоўнае слова ў назве канцэрта, — кажа Мікалай Сеўрукоў. — Для нас важна было звярнуць увагу на сур'ёзныя дасягненні ў творчых занятках юных лаўрэатаў. Цягам года яны актыўна ўдзельнічалі ў конкурсах, атрымлівалі ўзнагароды. Усе гэтыя дзеці — адметныя таленты і вялікія працаўнікі, бо, каб падрыхтаваць конкурсную праграму (а гэта амаль паўтары гадзіны самай рознай складанай музыкі), займацца трэба літаральна з ранку да вечара. Каб усё было вывучана на памяць, гралася тэхнічна бездакорна, выконвалася натхнёна і з артыстызмам. Важна іх падтрымаць менавіта цяпер, каб не згасала іх цікавасць да інструмента, каб яны працягвалі навучанне, развіваліся, удасканальваліся. Дайце веры, іх выступленні можна з годнасцю паказваць ва ўсіх краінах, бо такіх зорак, як нашы, у свеце мала. Залатымі літарамі тэба ўпісаць у нашу культуру і прозвішчы педагогаў, якія рыхтавалі нашых бaспяховых юных музыкантаў да ўдзелу ў конкурсах».



*Сяргей Мелічэнка і Уладзіслаў Мелічэнка, Гомельская ДМШ № 5.*

* * *

Тым часам у Драгічыне запаліўся «Палескі агеньчык» — Першы міжнародны конкурс юных музыкантаў. Яго арганізавалі адміністрацыя раёна (аддзел ідэалагічнай работы, культуры па справах моладзі) і Драгічынская дзіцячая школа мастацтваў пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі ды Брэсцкай абласной адміністрацыі. Спаборніцтва, удзел у якім бяруць і выканаўцы на баяне ды акардэоне, працягнецца да 1 чэрвеня — так што днямі будуць вынікі!

***Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара***

## ... І ГАЛАСЫ ЗВАНОЎ

**Паўтара стагоддзя на дваіх** адзначаюць юбіляры Беларускага саюза музычных дзеячаў, якія нарадзіліся ў адзін дзень: 4 мая 1939 года. Ларыса Васільева — слынны педагог па класе спецыяльнага фартэпіяна, выхавала некалькі пакаленняў таленавітых навучэнцаў Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі. Аляксандр Мартыненка, які таксама мае плённы педагагічны досвед, вядомы сёння як дырыжор, мастацкі кіраўнік Камернага аркестра Брэсцкай абласной філармоніі.




**Кампаналогія** (навука пра званы) папоўнілася ўнікальнай працай беларускай даследчыцы Алены Шацько. Выданне яе манаграфіі «Званы і звоны праваслаўных храмаў заходніх рэгіёнаў Беларусі: гісторыя і сучаснасць» прысвечана 1025-годдзю хрышчэння Русі. Этнамузыказнаўца-кампанолаг, кандыдат мастацтвазнаўства Алена Шацько ў экспедыцыях 2003 — 2011 гадоў наведала больш як 200 храмаў заходніх рэгіёнаў нашай краіны. Гутарыла з прыхаджанамі, званарамі, духавенствам, рабіла апісанне званоў, фіксавала гучанне звонаў. У кнізе раскрыта гісторыя званоў праваслаўных храмаў Беларусі з XII да пачатку XXI стагоддзя, публікуюцца звесткі пра нашых званароў і практыку навучання іх адмысловай справе, некаторыя архіўныя дакументы, фота і г. д. Ёсць дадатак з больш як двухгадзінным запісам традыцыйных звонаў і каментарыяў прыхаджан, а таксама дакументальным фільмам «Звон і званары» Інфармацыйнага агенцтва Беларускай праваслаўнай царквы. Аўтар даследавання мела на мэце данесці да сучаснікаў і зберагчы для будучыні часцінку звонавага мастацтва Беларусі, з надзеяй, што традыцыі, захаваныя дынастыямі вясковых званароў, будуць адраджацца і прымнажацца.

***Святлана БЕРАСЦЕНЬ***

# Бярозка

№ 5/2014(1032)




◉ ***Верасок***
Жыццё — гэта радасць...

◉ ***Погляд***
Шчасце — гэта шлях,
а не пункт прызначэння

◉ ***Конкурс***
Казкі школьнага ранца

◉ ***Зубронак***
Важатая Эжэні і яе наказы,
заўвагі, парады

◉ ***Літаратурныя старонкі***
Мне даражэй няма на свеце...

◉ ***Люстэрка***
Пра грошы

◉ ***Дынамік***
Парадаксальныя «Святло і цені»
Беланогай





**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**








● **Верасок**

# Жыццё — гэта радасць...



## Мая Беларусь

Дзе прыгожыя кветкі,
Стану я, памалюся,
За лясы, за палеткі,
Бо я — сын Беларусі.

У вясновым уборы
Ты рамонкам цвіцеш,
І блакітным чаборам
Сярод бору расцеш.

Тут лунаюць над вёскай
Сабораў званы
І нясуць адгалоскі
Сівой даўніны.

Як ні быў бы далёка
Ад сваёй Беларусі,
Да яе, сінявокай,
Я заўсёды вярнуся.

*Кірыл ЛАПАЦІН,*
*Мінскі раён,*
*Каралёвастанская БШ*

## Бярозавы гай

Ёсць у нашых краях вельмі прыгожае месца — бярозавы гай, дзе расце шмат танкастволых, стройных прыгажунь-бяроз.

Ідзеш па шаўкавістай зялёнай траўцы, нібы па мяккім дыване, збіваючы бліскучыя кропелькі расы, і слухаеш рознагалосую песню птушак. Лёгкі ветрык гайдае галінкі дрэў, шапаціць лісце, звініць ручаёк. Сонейка сагравае ўсё наваколле. Травяністы дыван усыпаны суніцамі і рознакаляровымі кветачкамі: белымі рамонкамі, жоўтымі зёлкамі зверабоя, чырвонай канюшынай і блакітнымі званочкамі. Водар кветак запаўняе паветра.

Я люблю наведваць бярозавы гай. Ён гасцінна мяне сустракае, частуе сакавітымі суніцамі. З кветачак я спляту вяночак і падару матулі, пачастую яе ягадамі. Яна ўзрадуецца і ўсміхнецца мне.

*Аліна КУРУНТУ, Барысаў*



## Лясныя дзівосы



Гэтым ранкам на світанку
Мы пакрочылі ў лясок,
Каб пабачыць там заранку,
Яе паслухаць галасок.

Ну, а ў лесе, ну, а ў лесе
Колькі пахаў, колькі песень!
Шмат дзівосаў розных тут
Нам адкрыў чароўны кут.

Мы заранку не сустрэлі,
Салаўя пачулі трэлі...
Адпачынак наш удаўся,
Вельмі ўсім ён спадабаўся.

***Аляксей МАСЮК,***
***Мінскі раён,***
***Каралёвастанская БШ***

## Галінкі бэзу

Дзяўчынка ішла па вуліцы. Раптам ветрык данёс да яе прыемны тонкі водар. Яна ўбачыла куст бэзу.

Пышным воблакам ён раскінуўся каля дарогі. Маленькія кветачкі распусціліся ў пушыстыя духмяныя гронкі. А каля куста валяліся паніклыя зламаныя галінкі.

Міма праходзіў чалавек. Ён прыпыніўся і ў роспачы сказаў: «Хіба ж можна губіць такую прыгажосць!»

Дзяўчынка падабрала зламаныя галінкі, прынесла іх дадому і паставіла ў вазу з вадой. Кветкі ачунялі і кватэра напоўнілася цудоўным водарам бэзу.

Жывіце, кветачкі!

***Іна ЗЕЛЯНКЕВІЧ,***
***Барысаў***

## Маўчанне



Па травіцы роснай
Басанож іду,
З ліпамі ды соснамі
Гутарку вяду.

Пра світанак ясны
Кветкам я шапчу...
Толькі вось пра мары
Не скажу. Маўчу...

***Паліна ЕЎЛАШЭЎСКАЯ,***
***Мінскі раён, Ждановічы***



## Што такое жыццё?

— Ці ведаеш ты, што такое жыццё? —
Звяртаецца маці да сына.

— Жыццё — гэта радасць, любві пачуццё,
Калі каля рэчкі, ля млына,
Стаіш, назіраеш, як хвалі рачулкі
Цякуць, як з нябёсаў улетку вада...
Жыццё — гэта з мамай па парку прагулкі...

— Але і ў жыцці можа стрэцца бяда, —
Адказвае маці сыночку адразу.
Жыццё — гэта шчасце, мой мілы сынок…
Жыццё — гэта радасць з твайго, сын, адказу...
Але ж і няшчасці бываюць, сынок!
І ўсё ж, калі ты не гультай, калі працу
Ты любіш, мой мілы і добры сынок,
То з радасцю толькі ты будзеш страчацца
І шчасце ў твой дом завітае здалёк.

*Таццяна НАУМОВІЧ,*
*Мінск*

● **Погляд**

# Шчасце — гэта шлях, а не пункт прызначэння

## Стары сад



Неба як нежывое. Шэрае, нібы налітае свінцом. Цяжкія хмары прыгнятаюць…

У паветры пахне вільгаццю. Халодная завеса, якая хавае нябёсы, вось-вось разарвецца, і ледзяныя стрэлы дажджу лінуць на зямлю…

Стары сад. Чорныя скручаныя дрэвы, што падставілі свае аголеныя спіны пранізліваму ветру, бязгучна плачуць. Ціха, нячутна.

Не, ветру гэта не падабаецца. Моцны парыў — і няшчасныя стварэнні крычаць ва ўнісон рыпучымі ад старасці галасамі….

Раней усё было інакш. Зялёная, мяккая трава, лёгкім, але цёплым пледам захінала іх ногі, ласкавае сонца шчыра імкнулася дакрануцца да іх сваімі бязважкімі праменнямі, ледзь толькі залаты шар выпаўзаў на небасхіл.

Вецер, іх цяперашні кат, жорсткі і бязлітасны, быў у той час клапатлівым і прыносіў шчасце…

А яшчэ ў кожным кутку саду чуўся тады звонкі дзіцячы смех.

Маленькі хлопчык, праступаючы кволенькімі ножкамі, бегаў ад дрэва да дрэва, пра штосьці ім распавядаючы. Ён даваў дрэвам імёны і размаўляў з імі, як размаўляюць з людзьмі…

Позняй восенню ягоныя бацькі асцярожна адхіналі галіны, дзесьці ў сярэдзіне збіралі духмяныя плады з яблынь, а ў самым пачатку, калі яшчэ цёпла і нават часам горача, садзіліся побач, прыхіналіся спінамі да дрэў і глядзелі ў бясхмарнае, вольнае неба… і марылі пра штосьці. Таму восень была тады для дрэў любімай парой….

Цяпер усё змянілася. Яна стала для іх бязлітаснай вядзьмаркай, што нязменна прыносіла з сабой боль і горкія ўспаміны…

Увосень сям'я пакінула хату. Хлопчык доўга плакаў, лежачы на апалай лістоце сярод сумнага саду. Здаецца, у яго бацькоў былі праблемы з працай, хоць яны таксама не жадалі адсюль з'язджаць...

Хату спачатку хтосьці купіў, але за ўвесь час так ані разу і не паклапаціўся пра дрэвы... І ў сад таксама ніхто амаль не заходзіў.

Ды і нядоўга яны тут пражылі, новыя гаспадары, а пасля пераехалі ў горад....

З тых часоў тут пануе запусценне. Адзінота атачае сад сумным бязлітасным колам.

І толькі па начах старыя дрэвы, апошнія жыхары гэтага сумнага месца, бачаць сны... і сны гэтыя вяртаюць іх у былыя, шчаслівыя часы... І пасля гэтых сноў прачынацца асабліва балюча....

Рэзкі парыў ветру працяў дрэвы да драўляных костак, іх драўляныя сэрцы сціснулася ад жаху, з драўляных глотак міжволі вырваўся рыпучы крык пакуты....

Яны не ведаюць, што ўсяго праз год, наступнай восенню, малады мужчына ступіць на гэтую зямлю. Усміхнецца. І ў яго вачах, напоўненых пяшчотай, міжволі заблішчаць слёзы.

Ззаду нячутна падыдзе такая ж маладая жанчына, асцярожна пакладзе руку яму на плячо.

У сад, пераступаючы маленькімі ножкамі, забяжыць іх дачка. Падыдзе да самага старога дрэва, дакранецца далонькай да чорнага парэпанага ствала, весела ўсміхнецца:

— Як ты калісьці зваў яго, тата?..

І ўсё будзе як раней, калі яно і сапраўды будзе...

Мы не ведаем будучыні, але боль — няроўная сцяжынка да шчасця. Нельга апускаць рукі. Верце!

*Ірына **РАДЗІХОЎСКАЯ**,*
*вёска Дворнае Сяло, Міёрскі раён*



## Што такое шчасце?

Шчасце — гэта тое, што акрыляе, вядзе да мэты, з'яўляецца сэнсам жыцця. Калі ты шчаслівы, праблемы робяцца нязначнымі, і ты з лёгкасцю можаш іх вырашыць. Тады здаецца, што ўсе людзі ўсміхаюцца табе, што ўсё звычайнае выглядае неяк па-іншаму.

Кожны чалавек у сваім жыцці адчувае гэта. Я думаю, што радасць адносін, блізкія людзі, дасягнутыя мэты, здзейсненыя мары, стан задаволенасці, дабрабыту, задавальнення ствараюць атмасферу шчасця.

Шчасце не можа быць заўсёдным, таму што чорныя палосы жыцця часам перакрываюць сабою гэта адчуванне. Забраўшыся занадта высока ўверх, можна потым балюча ўпасці. Але калі чалавек не ўпадае ў роспач, а імкнецца зноўку ўскараскацца на вяршыню, ён варты таго, каб адчуваць гэтае прыемнае пачуццё шчасця…

Людзі, якія ведаюць, што такое шчасце, стараюцца як мага даўжэй яго ўтрымаць. Але ці будзе яно такім жа адчувальным праз некалькі дзён, тыдняў? Я думаю, што не, яно паступова згасне. Мне падаецца, каб захаваць гэтую атмасферу, гэтае пачуццё, трэба ставіць перад сабою новыя мэты. Дасягаючы іх, ты зможаш вярнуць пачуццё шчасця і нават падзяліцца ім з іншымі.

Бо шчасце — гэта шлях, а не пункт прызначэння.

*Вераніка КУКУШКІНА,*
*Мінск*

## Мая бабуля родам з вайны

Гэтым летам я жыла са сваёй бабуляй на дачы. Аднойчы вечарам, калі мы ўжо збіраліся класціся спаць, яна распавяла мне гісторыю свайго нараджэння.

Бабуля мая, Алена Іосіфаўна, нарадзілася на Каляды ў 1944 годзе. Вакол была вайна і чорны гнёт акупацыі: у вёсцы, дзе жыла мая прабабуля, Яўгенія Мікалаеўна, стаялі немцы.

Недзе праз гадзіну пасля таго, як нарадзілася бабуля, у хату нечакана зайшоў нямецкі афіцэр, а з ім два салдаты. Жанчыны ў хаце вельмі спалохаліся, таму што мой прадзядуля, Іосіф Вікенцьевіч, знаходзіўся ў партызанскім атрадзе.

І раптам дзіця, якое ляжала ў калысцы, гучна заплакала. Старэйшы немец падышоў да калыскі, уважліва паглядзеў на немаўлятка, а потым, нічога не кажучы, выхапіў пісталет і тры разы стрэліў у столь. Гэта быў нібы салют у гонар нараджэння маёй бабулі. Адмеціны ад куль засталіся на столі назаўсёды. Уяўляеце, які жах перажыла тады мая прабабуля.

Летам 1944 года Беларусь была вызвалена ад ворагаў, а мой прадзядуля пайшоў служыць у Чырвоную армію. А ўвосень 1944 года ён загінуў у Польшчы, у горадзе Аўгустоў. Яго там і пахавалі ў брацкай магіле на вайсковых могілках.

Кожны год мы з бацькамі і бабуляй ездзім на магілу майго прадзядулі. Мая бабуля памятае свайго бацьку толькі па ваенных чорна-белых здымках. На магілу прадзядулі мы прыносім жывыя кветкі і расказваем яму пра наша жыццё ў незалежнай і мірнай Беларусі.

На брацкіх могілках заўсёды прыбрана і ляжаць жывыя кветкі. Гэта гаворыць пра тое, што мы ўсе, беларусы і палякі, не забыліся пра жахі вайны і вельмі ўдзячны сваім продкам, знаёмым і незнаёмым, за нашу свабоду і сённяшняе мірнае неба.

*Арына КУПРЫЕНКА,*
*Мінск*

● **Конкурс**

# Казкі школьнага ранца

*Умовы абвешчаны ў вераснёўскім нумары «Бярозкі». Дасылаць свае казачныя гісторыі можна на паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыя часопіса «Маладосць» (з пазнакай «Бярозка»), на электронны —* ***bjarozka@mail.ru.*** *альбо* ***maladost@bk.ru***



## Хакей у акварыуме

У адной звычайнай кватэры на камодзе побач з тэлевізарам стаяў акварыум. Жылі ў ім вясёлыя сомікі, сарамлівыя неоны, гарэзлівыя даніа, дружалюбныя гупі, разважлівыя тэрнэцыі і грацыёзны анцыструс. Жылі яны дружна, гулялі ў даганялкі ў зарасніку водарасцей, а яшчэ слухалі гісторыі паважанага Анцыструса, апусціўшыся вакол яго на камяньчыкі.

Акрамя таго нашы рыбкі вельмі любілі глядзець тэлевізар, і больш за ўсё ім падабаліся хакейныя матчы. Усё часцей па тэлевізары можна было пачуць пра чэмпіянат свету па хакеі, які адбудзецца ў Беларусі ў 2014 годзе, і нашы рыбкі з нецярпеннем чакалі пачатку гэтага чэмпіянату.

— Сябры! — звярнуўся аднойчы да жыхароў акварыума Анцыструс. — А чаму б і нам не згуляць у хакей?

Ад нечаканасці рыбкі не ведалі, што і адказаць.

— А можа, мы лепш паглядзім хакей па тэлевізары? — прапанавалі тэрнэцыі. — Наш гаспадар дакладна будзе глядзець яго.

Але ўсе астатнія рыбкі, і ў першую чаргу сомікі, дружна ўхвалілі прапанову Анцыструса.

Дзе ж узяць клюшкі? Рыбкі добра ведалі свой акварыум, але на ўсялякі выпадак яшчэ раз агледзелі яго. А раніцай гаспадары акварыума здзівіліся знікненню зялёных сцяблін водарасцей. «Напэўна, рыбкі паласаваліся імі, — падумалі яны. Трэба будзе купіць ім вітаміны».

Сомікі стварылі хакейную каманду. Разам з даніа і неончыкамі яны старан-

на ганялі па вадзе шайбу — маленькую чорную ракавінку; з рознакаляровых каменьчыкаў гупі змайстравалі вароты. Паважаны Анцыструс пагадзіўся стаць суддзёй будучага матча. Астатнія рыбкі вырашылі быць заўзятарамі.



І вось аднойчы рыбкі ўбачылі ў акварыуме маленькі аранжавы камячок корму. Гэта быў новы ласунак для рыбак, які падрыхтавалі гаспадары. Адзін з сомікаў сказаў:

— Сябры, глядзіце! Гэта ж сапраўдная шайба для нашага хакейнага матча! Пачынаем гуляць!

Усе «хакеісты» занялі свае месцы, і Анцыструс, урачыста пляснуўшы па вадзе хвастом, абвясціў пачатак матча.

Сомікі, неоны і даніа, як сапраўдныя хакеісты, якіх яны бачылі па тэлевізары, імкнуліся закінуць шайбу ў вароты сапернікаў. Аднойчы заўзятары ледзь не з'елі шайбу — яна выглядала так апетытна!

Гульня скончылася баявой нічыёй: 3:3. Хвастатыя хакеісты пацiснулі адно аднаму плаўнічкі, весела праплылі некалькі разоў вакол заўзятараў. І суддзя ўручыў рыбкам прыз — смачную шайбу! Дружная акварыумная кампанія хакеістаў і заўзятараў са смакам з'ела яе. А мудры Анцыструс у патаемным месцы на дне схаваў маленькую чорную ракавінку, якая служыла шайбай падчас трэніровак, і зялёныя клюшкі. Хто ведае, можа, акварыумным хакеістам яны яшчэ спатрэбяцца?

*Дзяніс БУТОРЫН,*
*Мінск*

## Як Хмарка знайшла сабе сяброўку

Высока ў небе жыла-была Хмарка. Яна нарадзілася, калі на зямлі ва ўсю моц панавала вясна. У небе спявалі птушкі. Хмарцы ад жаўруковых песень было вельмі весела. Кожную раніцу яна купалася ў промнях цёплага вясновага сонейка, а пасля цэлы дзень гуляла па небе, радавалася жыццю.

Прайшла вясна, за ёй — лета. Наступіла зіма. Не чуваць было птушыных галасоў, не лашчыла зямлю сваімі промнямі сонейка. Толькі моцны халодны вецер ганяў Хмарку па небе, што было непрыемна. Але здараліся і хвіліны радасці. Бывала, маці Хмара дазваляла дачушцы крышачку ёй дапамагчы, і тады Хмарка асыпала меленькім сняжком усё наваколле. У такія моманты ёй было вельмі радасна, але яна хутка стамлялася, бо была яшчэ зусім маленькай.

Калі ж у неба падымаўся гаспадар зімы — Мароз, тады Хмарка хавалася пад надзейнае цёплае крыло маці і праводзіла там шмат часу. У такія хвіліны Хмарка асабліва моцна сумавала і шкадавала, што ў яе няма сяброў,

з якімі яна магла б сустракацца ў любую пару года. Хмарка ўвесь час чакала вясну.

Так прайшла зіма. Аднойчы Хмарка прачнулася ад незвычайна прыгожых гукаў. Гэта праз сонечныя промні даносілася да яе жаўруковая песня. Хмарка пазнала знаёмыя гукі. Значыць, прыйшла вясна! Хмарка рванула ў неба, закружылася ў карагодзе сонечных промняў. Птушачкі танцавалі вакол яе, быццам віталіся.

— Як жа добра! Як цудоўна! Мае сябры зноў са мной! Нарэшце я вас дачакалася!

Увечары Хмарка доўга не магла заснуць. Яна думала пра тое, як хораша жыць, калі ў цябе ёсць сябры.

Але ж скончыцца вясна, за ёй лета... і зноўку наступіць зіма! І зноў маленькая Хмарка застанецца адна да вясны.

З такімі думкамі Хмарка вылецела на неба на наступны дзень. І раптам убачыла, як на лясной праталінцы прабіваецца маленькі парастак. Ён намагаўся з усіх сіл, але нічога не атрымлівалася. Парастак вельмі моцна хацеў піць, бо вада яму патрэбна была для росту.

Хмарка падплыла бліжэй, сабрала ўсе свае сілы, і кропелькі дажджу пасыпаліся на парастак. Напіўшыся ўдосталь, парастак падняў свае лісточкі ўверх і ўбачыў, як яму ўсміхаецца маленькая Хмарка. Парастак хітнуў лісточкамі ў знак удзячнасці.

З таго часу Хмарка кожны дзень прылятала да парастка і палівала яго. Сонейка лашчыла раслінку промнямі, птушачкі спявалі яму песні. Парастак хутка пачаў расці.

Прайшло лета, а за ім і восень. Птушкі паляцелі ў цёплыя краіны, сонейка не так часта выходзіла пагуляць па небе. Але Хмарка не сумавала, яна кожную раніцу сустракалася з парасткам, які за лета ператварыўся ў маленькую прыгожую Бярозку.

Калі ў зімовы дзень Хмарка наведвала Бярозку, тая ветліва махала галінкамі, сустракаючы яе.

А Хмарка ў адказ упрыгожвала галінкі Бярозкі бліскучымі сняжынкамі і вярталася дамоў, каб заўтра зноўку павітацца са сваёй сяброўкай.

***Сяргей БЕНЮШ,***
***вёска Сялец, Івацэвіцкі раён***

## Пенал Музыка і яго сябры

Жыў-быў пенал, якога звалі Музыка. Яму было вельмі сумна аднаму.

І вось аднойчы да яго нехта пастукаўся. Гэта была ручка, якую звалі До. І сталі яны жыць удваіх. Потым да іх прыйшлі аловак Рэ і гумка Мі. І вось іх ўжо чацвёра. Жартавалі, смяяліся, прыдумвалі розныя гульні. На шум прыбегла тачылка Фа. Потым прыпаўзла да іх лінейка Соль, а неўзабаве і цыркуль Ля прыскакаў. І вось стала іх ужо сямёра. Блакноту Сі таксама было сумна, і ён вырашаў знайсці сяброў. Убачыў пенал ды і зайшоў у яго.

Жывуць яны ўсе разам, але адчуваюць, што чагосьці ім ўсё ж не хапае. Сумна ім чамусьці, нявесела... вось і сталі сябры спрачацца, хто з іх самы галоўны, без каго астатнім ніяк не абысціся.

Ручка До кажа:

— Без мяне ніхто абысціся не можа! Я самая галоўная з усіх вас! Я магу напісаць усё, што пажадаю: і віншаванне, і верш, і нават вялізны раман!

А аловак Рэ адказвае:

— А вось і не! Я самы галоўны! Як іду — заўсёды сляды пакідаю! А гэтыя мае сляды малюнкамі называюцца! Альбо чарцяжамі...

— Ды што б ты без мяне начарціў, — крычыць тачылка Фа. — Каб я цябе ўвесь час не заточвала?!

— І каб я не сцірала лішняе! — засмяялася гумка Мі.

Лінейка Соль паразважала і кажа:

— Ды без мяне аловак аніводнай прамой лініі не правядзе! Адны крывулькі!

— А хто з вас хоць адзін круг намалюе?! — улез у спрэчку цыркуль Ля. — Ніхто, акрамя мяне!

— Ды без мяне не зможа абысціся ні аловак, ні ручка, — абурыўся блакнот Сі. — Значыцца, я — самы галоўны і неабходны!

Спрачаліся б яны і далей, але ўсіх спыніў пенал Музыка:

— Сябры мае, не спрачайцеся, — сказаў ён. — Бо нездарма ж маё імя — Музыка, а кожны з вас мае назву той ці іншай ноты! І калі мы будзем працаваць разам і дружна — наша праца будзе гучаць, як музыка!

І сапраўды, як толькі яны пачалі жыць дружна, у час працы заўсёды гучала прыгожая пяшчотная мелодыя.

***Ліза БАБРЫКОВІЧ,***
***Мальнавічы, Ганцавіцкі раён***

## Кацяня Пуська і мышаня Пік-Пік

Раніцай, сонечнай і роснай, калі ва ўсёй красе распускалася вясна, ля доміка, дзе жыла Дзяўчынка, прачнуліся кветкі: ярка-чырвоныя цюльпаны, бялюткі язмін і фіялетавы бэз.

З дому з ранцам за плячыма выбегла Дзяўчынка. Яна радасна ўсміхнулася і, сарваўшы тры вялікія пурпуровыя цюльпаны, заспяшалася ў школу. У класе Дзяўчынка паставіла кветкі ў прыгожую вазу, а калі пачала адкрываць ранец, здарылася нечаканае — з ранца выскачала кацяня! Так, яе любімае кацяня Пуська, гарэзлівае пухнатае стварэнне, нечакана апынулася ў класе. А тут празвінеў званок.

І тады Дзяўчынка пасадзіла Пуську за вазон, які стаяў у кутку класа, і загадала сядзець ціха. Пачаўся ўрок, але Пусьцы гэта было зусім не цікава.

І раптам Пуська заўважыла, што з-за суседняга вазона на яе спалохана пазірае маленькае мышаня.



— Не бойся! — заспакоіла мышаня Пуська. — Я, хоць і кот, але яшчэ маленькі і таму не лаўлю мышэй. А як цябе завуць, і як ты сюды трапіла?

У адказ Мышаня прапішчала:

— Мяне зваць Пік-Пік! А ў школу мяне прынёс вунь той Хлопчык. Хацеў мною дзяўчынак напалохаць. Але я ад яго адразу ж уцякла. Я ж не пудзіла, каб мною дзяўчынак палохаць?! З таго часу я і жыву тут. Ежы хапае: у пакеціках з-пад чыпсаў, у абгортках для пячэння абавязкова што-небудзь застаецца, а ў суседнім класе біялогіі ёсць каласкі, зернейка з іх такое смачнае. Жыць даводзіцца вельмі ціха, бо інакш мяне заўважаць. А ты як сюды патрапіла?

— Выпадкова, — прызналася Пуська. — Гуляла ў хованкі сама з сабой, схавалася ад сябе ў ранец ды задрамала там. А прачнулася ўжо ў школе. Але тут не цікава...

— А мне цікава! — запішчала Пік-Пік. — Пакуль ідуць урокі, кожны з іх я старанна засвойваю: я ўжо ўмею размаўляць па-англійску, вывучыла зорнае неба на ўроках астраноміі, дакладна ведаю ўсе гістарычныя даты. Ого, як шмат я ведаю!

Мышаня расказвала б і далей, але ў гэты час пачуўся званок на перапынак і Дзяўчынка адразу ж пачала шукаць сваё кацяня.

— Пуська, хуценька ў ранец і пабеглі дадому!

Дом Дзяўчынкі знаходзіўся даволі блізка ад школы. Яна аднесла кацяня дамоў, а сама паспела вярнуцца на наступны ўрок. А Пуська, ціха муркочучы, заснула. І снілася ёй вельмі адукаванае мышаня Пік-Пік!

Вось якое цікавае здарэнне адбылося з Пуськай, якая, схаваўшыся ў ранец, выпадкова трапіла ў школу!

*Ліза РАБЯНОК,*
*вёска Камарова, Мядзельскі раён*



## ● Зубронак

# Важатая Эжэні і яе наказы, заўвагі, парады



*Важатая «Зубронка» Жэня Захарчанка (яна ж Эжэні).*

Эжэні, так клікаў яе адзін хлопчык у атрадзе. У атрадзе таго лагера, у які дзеці ездзяць не толькі ўлетку, але і на працягу года, пра які ў кожным нумары «Бярозкі» з'яўляецца некалькі старонак тэксту. Эжэні — гэта дзяўчына, з якой я сустрэлася напярэдадні Велікоднага тыдня — у сонечную Вялікую Суботу, каб паслухаць яе словы пра вопыт працы ў «Зубронку».

Эжэні — Жэня Захарчанка, колісь мы сядзелі на парах у адной аўдыторыі філфака БДУ, а цяпер пад вясновымі дрэвамі, размаўляючы пра яе і нарачанскі «Зубронак», мы зноў побач. І Жэня, як заўсёды, шмат гаварыла, а перада мною мільгацелі карцінкі. Уражанні, заўвагі, назіранні. У сваю чаргу амаль на кожнае слова Жэні я старалася прыгадаць моманты са свайго вопыту колішняга адпачынку ў лагеры, суаднесці вобраз важатых, якія былі ў маім атрадзе, з тым, што казала Эжэні. З нашай размовы я б хацела падзяліцца некаторымі момантамі, якія, магчыма, спатрэбяцца тым, хто таксама марыць пабыць важатым.

Вось яны, запаветы і наказы важатай Эжэні.

**1. Каб дзеці ішлі за табой!**

«Дзеці павінны цябе слухацца, таму важаты-хлопец — тата, а важатая-дзяўчына — маці». І параўноўваць дзіўна, але дзейнічае такі закон, як і ў жывой прыродзе: прыгадайце маму-качку, за якой па чарзе маршуюць-шыбуюць яе качаняты!

І толькі тады, калі яны бачаць у табе аўтарытэт, атрымліваецца «быць мамай-качкаю-правадніком».

**2. Не стаў аўтарытэтам — можаш вяртацца дадому!**

Жорсткія словы, але праўдзівыя. Жэня прывяла прычыны, чаму не ўсе могуць стаць важатымі. Не павёў дзяцей — лепш вяртайся дадому. На жаль, але праўда.

**3. Што трэба, каб заваяваць сэрца дзяцей адразу?**


*Жэнька і дзеці.*

Трэба быць мосцікам ці пагранічнікам.

З самых першых хвілін трэба цікавіцца дзецьмі, без гульні — «без сюсю-мусю», пачаць слухаць пра іх праблемы, пра тое, чым яны жывуць. І ўсё павінна спрацаваць!

Трэба быць мосцікам паміж адміністрацыяй лагера і дзіцячымі сэрцамі. Гнуткім мосцікам. Быць абаронцам гэтых дзяцей. Умець з імі дамаўляцца, заключаць своеасаблівыя дамовы.

Жэня называе гэта «быць пагранічнікам» у гэтым амаль таёжным (бо сасновыя бары вакол) месцы на беразе легендарнага возера. Быць і з дзецьмі, але ў пэўны момант схапіць і спыніць, каб папярэдзіць непажаданую небяспеку.

Можа, памятаеце, галоўнага героя з кнігі «Над прорваю ў жыце», які зразумеў адну ісціну для сябе, што ён павінен рабіць? Тут гэта, можа, і гучна, але кожны важаты, як той, хто ўвесь час павінен быць, нібыта «над прорваю». І няхай нават той прорвы няма, але ачуваць яе трэба заўсёды.

**4. Дзеці павінны зразумець, што быць на хвалі з важатым — гэта вельмі карысна.**

Калі, напрыклад, увесь атрад спазняецца, то менавіта важаты будзе стаяць гарой і прыме ўвесь націск за парушэнне на свае плечы.

**5. Наладжваць баланс у адносінах і займацца інтэнсіўным будаўніцтвам мосцікаў паміж людзьмі! І рабіць гэта пастаянна!**

Важна ўвесь час паказваць, што ты разам з імі! А каб атрад з кожным днём усё мацней адчуваў, што і самі дзеці паміж сабою становяцца адзіным цэлым. Гэта адзінае цэлае дапамагае выбудоўваць важаты. І памятаць, што на грандыёзнае будаўніцтва не адведзена шмат часу. Кожны важаты ў «Зубронку» займаецца будаўніцтвам вельмі інтэнсіўна, бо будоўля павінна скончыцца ў скарочаны тэрмін.

**6. Бывае, калі ў атрадзе ўзнікае «нелюбоў» да аднаго з дзяцей! Што тады?**

Трэба быць гатовым да канфліктаў, якія могуць узнікаць, хоць бы з прычыны таго, што кагосьці не ўзлюбілі. Хтосьці перыядычна церпіць ад скошаных позіркаў, не абмінае грозных каментарыяў, з'яўляецца абабітым пасля соннікаў — дзённага часу, які прызначаны на сон. І як тут быць? Трэба заўсёды размаўляць! Ніколі не апускаць размоў!



Размоў з асобным дзіцём, размоў з цэлым атрадам. Трэба заўсёды знаходзіць патрэбныя словы. Важаты — гэта скарбонка патрэбны слоў, якія трэба паспець сказаць у самы патрэбны момант!

**7. Памятаць, што дзеці безупынна глядзяць на цябе!**

На твае паводзіны з напарнікам, на твае адносіны з іншымі важатымі іншых атрадаў, на твае адносіны з адміністрацыяй. Дзеці ўспрымаюць усё-усё!

Гэта бясконцае ўзаемадзеянне, у якім трэба трымаць планку і ўвесь час сачыць за сабой, бо толькі адзін пралік — і ты больш не аўтарытэт! А калі ты не прыклад для іх, то, тыя словы, якія кажаш, можна ставіць пад сумнеў.

**8. Як важна звяртацца па імені!**

Хто называе вас па імені, у таго і ўлада! Трэба памятаць, што нічога не спыніць дзіця, калі не будзе гучаць яго імя. Імя — гэта і рухавік, і спыняльнік. Імёны дзяцей трэба вывучыць у першы дзень. Вывучыць імёны — заваяваць іхняе дзіцячае сэрца і стаць сапраўдным аўтарытэтам. Імя — гэта ўлада.

**9. Асаблівае правіла для важатага ў «Зубронку» — працягваць традыцыі, фішкі менавіта «зубранёўскія», свае законы, свае спевы.**

**10. Гульні.**

Калі вы не будзеце генератарам і завадатарам гульняў — лепш не прыязджайце ў «Зубронак». Нішто так не яднае, не збірае, не робіць сябрамі дзяцей, як гульні. Нішто так не дапамагае трымаць дысцыпліну, як цікавыя і ўмела заведзеныя гульні.

Жэня распавяла мне цэлы спіс гульняў, якімі мусіць авалодаць кожны «зубранёўскі»важаты, авалодаць як праверанымі баявымі тэхнікамі, каб быць непрыкметным пераможцам у барацьбе на ўсталяванне сяброўства і еднасці атрада.

Гэта толькі ***10 момантаў***, якія кожны важаты можа бясконца працягваць, дапаўняючы і пашыраючы спіс.

Дапішу ***яшчэ адзін***, які Жэня сказала мне напрыканцы размовы.

Самае важнае, каб дзеці былі на першым месцы, а не «між іншым». Дзеці — гэта першае, дзеля чаго ты прыязджаеш, каб працаваць важатым. Калі раптам гэты момант нейкім чынам губляецца сярод іншых прыярытэтаў, ты губляеш статус важатага. І дзяцей нельга падмануць, яны не проста бачаць, яны адчуваюць ёсць любоў альбо яе не хапае.

Жэня падчас размовы шмат усміхаецца, гаворачы пра сур'ёзныя рэчы, але нічым не адымаючы ад іх сур'ёзнасці, толькі дадаючы адценне радасці і зацікаўленасці.

Пацiху завяршаем размову, каб у наступным нумары ўбачыць працяг важацкай тэмы, дзе ўжо сваімі ўражаннямі падзеляцца іншыя «ахоўнікі-пагранічнікі-будаўнікі мастоў» на тэрыторыі легендарных нарачанскіх узбярэжжаў і сосен.

*Аксана ЮЧКАВІЧ*

● **Літаратурныя старонкі**

*Святлана БЫКАВА*

# Мне даражэй няма на свеце...





## Мой любы Мінск

Мой любы Мінск! Ты ярка ззяеш
Агнямі вуліц і дамоў,
Усіх гасцінна сустракаеш,
Хто да цябе з дабром прыйшоў.

Люблю твае палацы, паркі,
Іх хараство і веліч іх,
І ранак твой імклівы, шпаркі,
І вечаровы, сонны ўздых.

Мне даражэй няма на свеце
Таго, што звязана з табой,
І будуць жыць тут нашы дзеці,
Прыгожы, светлы горад мой!

## Месяц

Маці спаць мяне паклала,
Павярнула на бачок,
У шчаку пацалавала,
Прытушыла начнічок.

Зазірае ясны месяц
У акенца да мяне,
Як ліхтарык, ярка свеціць
Праз фіранкі на акне.

Чараўнік ён незвычайны —
Пакідае дзіўны след:
Сны з'яўляюцца звычайна
Пад яго магічны свет...

## Іней

Белыя дахі і глеба,
Іней на дрэвах ляжыць:
Нібы развесіла неба
Ноччу бялізну сушыць.



Ветрык ля края дарогі
Кратаў: сухое, ці не? —
Падала срэбра пад ногі,
Нібыта ў казачным сне...

## «Артыстка»

Што за знатная артыстка
Заляцела праз акно?
Балярына? Фігурыстка?
Зорка оперы? Кіно?
Б'юць заўзята ў далоні
Маці, тата, нават дзед,
Пот буйны змачыў іх скроні...
Толькі знік артысткі след...

Ад «паклоннікаў» на століь
Адпачыць прысела... моль.

## Я малюю

Я малюю тату з мамай —
Хай заўсёды разам будуць.
Пра бабулю я таксама
На малюнку не забуду.

Сонца з неба паглядае
Праз блакітныя аблокі
Журавоў ланцуг злятае
У заморскі край далёкі.

І яшчэ я намалюю,
Дом і плот,
На плоце — котку...

Гэты дом я пабудую —
Падрасту вось толькі трошкі!

## Як сабаку мы кармілі

Бім грызе маслак у куце —
Згаладаўся... Што рабіць?
Тата з мамай — на рабоце:
Чым сабаку накарміць?

Для карыснасці абеду
Мы паклалі агурок,
З морквы смачную катлету,
(Каб палепшыць Біму зрок).

На дэсерт, ускрай талеркі,
Размясцілі шакалад,
Тры арэхі, дзве цукеркі,
Апельсін і мармелад.

Толькі Бім не стаў іх есці —
Не аматар ён прысмак:
Пад сталом, у цёмным месцы,
Зноў грызе стары маслак...






## Паратунак ад Бабая

Маляваў Віталік птушку,
Падпісаў, што папугай:
Вочы — кропкі, дзюба — дужкай,
Хвост ажно за небакрай,

І на ўсю дарогу — ногі...
Як у тыгра — кіпцюры,
На ілбе — вітыя рогі
І чупрына дагары...

Падыйшла да сына маці:
«Цацкі хуценька збірай,
Спаць кладзіся: бо па хаце
Ходзіць з мехам дзед Бабай...»

«Ты не бойся!» — свой малюнак
Сын матулі падае.
«Птушка —
наш з табой ратунак:
Бачыш — кіпцюры ў яе?!

Гэтым дзіва-папугаем
Я Бабая напужаю:
Ён ад страху задрыжыць,
І ў далёкі лес збяжыць!»

## Не бяры чужога!
### *(Жартоўнае)*

Сонца свеціць угары,
Птушачкі спяваюць,
Верка з Юлькаю ў двары
З цацкамі гуляюць.

Тут пачуўся ў цішыні
Крык і гвалт знянацку:
Не падзеляць у гульні
Дзве сяброўкі цацку.

Заспяшалася матуля —
Сварка з-за нічога:
— Ты аддай машынку Юлі, —
Нельга браць чужога!

...Падрасла дзяўчынка Вера —
Лепш няма красуні!
І адбіла кавалера
У сяброўкі Юлі.

І адразу — пад вянец...
Жыць бы, весяліцца,
Ды аб Юлі той хлапец
Зноў пачаў журыцца...

Да матулі Вера — ў роў:
Трэба ёй падмога.
Паўтарыла маці зноў:
— Нельга браць чужога!



● **Люстэрка**



# Пра грошы

Рускі гаворыць: «Не ў грошах шчасце».

Амерыканец адказвае: «Калі ты такі разумны, пакажы мне свае грошыкі».

Хто мае рацыю? Не ведаю. Пайду паем свінінкі.

Свінінку будзем есці ў піцэрыі. Гэта прасцей, бо, каб прыгатаваць яе дома, трэба набыць спецыі, гародніну, саму свінінку прыгатаваць, а гэта ўсё даволі доўгія ды нудныя працэсы.

Таму піцэрыя. Свінінка ў піцэрыі каштуе дзевяноста тысяч рублёў. Вельмі добра, што яны ў мяне ёсць.

У піцэрыю паедзем на ровары — гэта найбольш прыемны і карысны спосаб рухацца па горадзе, усім рэкамендую. Добры ровар каштуе сем мільёнаў рублёў, вельмі добры — дваццаць сем.

Паеўшы свінінкі, пойдзем сходзім у парк, пакатаемся на ўсіх атракцыёнах і паглядзім з кола агляду, як заходзіць сонца. Атракцыёны абыдуцца нам куды танней за ровар, але даражэй за свінінку.

Які з гэтага можна зрабіць вывад? Што некаторыя добрыя рэчы каштуюць грошай.

Грошай каштуюць не ўсе рэчы. Можна залезці на дах і бясплатна глядзець на той самы заход сонца, які мы назіралі з кола агляду. А замест свінінкі возьмем яблык. Насалоду ў выніку можам атрымаць такую самую, не патраціўшы ні рубліка.

Калі хочаш набыць нейкую дарагую рэч, спытай сябе, што яна табе дасць. Магчыма, тое самае можа табе даць зусім іншая рэч, не такая дарагая. А можа, нават не рэч, а занятак!

Складана? Паспрабую патлумачыць на прыкладзе. Марыш выглядаць крутым і важным? Можаш выпрасіць у бацькоў нейкі гаджэт (мабільнік, планшэт, робата — мне 31 год, я не ведаю, што там цяпер у вас, маладых, у модзе), можаш набыць новую апранаху. Можаш пайсці ў матэматычны гурток, выйграць раённую алімпіяду, і на цябе ўся школа будзе паглядаць, як на крутога! (Прынамсі, калі я яе выйграў, на мяне паглядала ўся школа).

Варыянтаў — мора. Дзяўчына можа папрыгажэць ад касметыкі, можа ад дыет, а можа — ад таго, што ўсміхацца пачала і нармальна спаць стала. Хлопец можа прыдбаць сяброў дзякуючы багаццю, сіле, а можа — дзякуючы надзейнасці і шчырасці. І гэтак далей!

Дарэчы, калі табе патрэбны менавіта грошы, то таксама існуе процьма спосабаў іх зарабіць. Наступным разам раскажу, калі не забудуся. Да сувязі!

***Віктар ЛУПАСІН***

● **Дынамік**

# Парадаксальныя «Святло і цені» Беланогай

***Таццяна Беланогая «Святло і цені», Мн., 2013, «БМАgroup»/«Vigma»***

Запомніўся мне адзін анекдот савецкага часу: «Справаздача на калгасным сходзе: у мінулым годзе мы пасеялі 100 га кропу — увесь тля з'ела; у гэтым годзе мы пасеялі 200 га кропу — увесь тля з'ела; у наступным годзе мы пасеем 300 га кропу — няхай яна падавіцца».

Такім шляхам, здаецца, ідзе і сучасны беларускі шоу-бізнес, які ў часіны фанаграфічнага крызісу рызыкуе выпускаць усё карацейшыя альбомы з мінімумам жыццёвага сэнсу ў іх, не задумваючыся, каму прадаваць тое будуць. І вось трэці альбом бард-рок спявачкі Таццяны Беланогай (пра «Двукроп'е», «DigiPres»/«БМАgroup», 2007 і «Ніткі», «Vigma», 2010 мы пісалі ў свой час — «Бярозка» № 5, 16.08.2011). Дыск «Святло і цені» выдадзены аскетычна (чорна-белая гама вокладкі, 34-хвілінная праграма песень), але шыкоўна (16-старонкавы буклет, усе тэксты на беларускай і англійскай мовах, мультымедыйныя файлы бонусаў з тымі ж тэкстамі і акордамі). Няма, праўда, фота выканаўцы, затое ёсць каляровае фота дачасна памерлай 33-гадовай перакладчыцы на беларускую мову французскіх успамінаў Міхала Клеафаса Агінскага — Вольгі Рамановіч, якой прысвечаны альбом.

Па шчырасці, вакальны талент спявачкі не стаіць на месцы, развіваецца, але ад расчараванняў не ратуе. Асабіста я пачуў гэтае імя ў студыі Андрэя Плясанава падчас падрыхтоўкі тэматычнага праекта «Чарнобыльскі вецер» (Мн., 2006, «VolaMusic»). Адзін са спонсараў выбіраў кандыдатаў, але настойваў на нейкай сваёй дзяўчыне з Маладзечна. Ніхто яе тады не ведаў, але калі яна заспявала песню «Чорны май» на верш Людмілы Паўлікавай, усю студыю прашыбла і мелодыя, і паэзія, і голас, і талент. Дагэтуль слуханне таго дэбюту правакуе эмацыйны камяк у горле. Магутняк! Потым былі альбомы з вершамі Наталлі Кучмель, Сяргея Новіка-Пеюна, Наталлі Арсеневай, прыслухоўваліся меламаны і да ўласных Таніных рыфмаў. Але яе пацягнула ў паэтычны авангард, падтрыманы прэсай і рознымі спонсарамі кшталту «Будзьма», дзе рыфмаў і сэнсу ўсё менш, а усё больш шматзначных намёкаў.

Ох, лепш бы выдаўцы пасквапіліся на буклет у гэтым выданні, бо калі чуеш чароўны голас і меладычны набор нейкіх зразумелых слоў, дык усё нармальна, здаровы мозг сам міжволі складзе нейкі сэнс, але бярэш у рукі буклет — і бяссэнсавасць спараджае шквал пытанняў: калі «музыцы трэба цішыня», дык мо слушна «шмат разоў забівалі цябе» — чаго не зробіш дзеля цішыні, каб аўтар супакоіўся? Не гэтак адназначны і тэзіс: «Ты не жалезны кулак», калі прыгадаць музыку black-metal. А вось «непрыручаны пясок» патрабуе паказаць пясок прыручаны. І дзе тыя «жылы музыкі», у якіх ідзе дождж? Працягваць можна бясконца, бо гэта толькі першая песня. Пазней слухач натыкнецца і на такія дзівосы, як у песні «Там, за акіянам»: «Кожны памірае раз, нарадзіцца трэба — два» (не заменіць такая бугалтэрыя простую народную мудрасць «два разы не паміраць, аднаго не мінаваць»).

Яшчэ? «Анёлы»: «Белыя анёлы спявалі песні, ірвалі сэрцы, шукалі прыстань» (да д'ябла такіх анёлаў!); «Распавядзі»: «Распавядзі, на якой мапе сэрцы мае, распавядзі, у якіх далонях жывая памяць мая» (як у дзіцячай загадцы: «навошта лысаму

лядоўня, калі ён плаваць не ўмее?»), «Просты музыка мусіць спяваць пра тое, што ён бачыць наўкол» (ці не з расійскага анекдота пра чукчу?); «Крыніца срэбра»: «Крыніца срэбра — незагойная рана, якая заўсёды хоча піць. Крыніца срэбра. Спалі падручнік, у якім цябе няма» (мо і мне сплесці такія verbалозы «Сэнс хады — вялікі мурог, які заўжды варушыцца, сэнс вады наталяе тварог, калі бялізна сушыцца»); «Кола»: «Я хаджу ды спяваю песні жабракам ды сляпым дзецям, маладым наркаманам ды галодным сіротам» (а гэта многае тлумачыць, толькі на каго пакінуты старыя наркаманы і відушчыя дзеці?); «Будынак з чорнымі вокнамі»: «Я баюся шэрых вокнаў, я баюся шэрых шчылін, яны замінаюць мне дыхаць ды спяваць» (а чорныя вокны пры чым?); «Нябачныя танкі»: «Чырвоныя сланы, зялёныя сляды, грубыя жанчыны, нябачныя мужчыны, залатое неба, закратаваны Бог» (гэта не пералік блох з канчатковай рыфмай Бог, а такія паэтычныя радкі, дзе акурат паэзія ці не за бортам); «Чацвёртая сусветная вайна»: «Руды снег падае на чырвоны асфальт, Я зачыняю акно, за якім рознакаляровыя сны, Я зачыняю акно, за якім маё паветра» (бедны Мігель дэ Сервантэс Сааведра, ён думаў, што «немагчыма зачыніць поле брамкаю» — тут ужо акно зачыняюць ад вайны); «Бесхрыбетнасць»: «Ты не адзін, і гэты танны магазін зачыніцца тады, калі зляціць іх сонца. Я не адна. Са мною побач любоў, яна точыць камень» (вышэйшая паэзія: табе магазін, а я ўсіх спасу, хто калупаецца ў насу); «Вакол сваёй краіны»: «Цягнікі. Не прабіцца, не дабіцца. Зялёнае сэрца, каменныя багі, Ненароджаныя душы, грэх і каты. Гадзіннік жыцця, на жаль, тут маўчыць» (абы не патануць у такой плыні свядомасці); «Пакідаеш мяне, але заўжды са мною»: «У гэтым горадзе так шмат новых ідэй. Адныя будуць жыць, а другія — не» (іранізаваць не буду, бо тэма страты балючая і зразумелая, мо нават песня прысвечаная той самай Вользе Рамановіч, але наўрад ці шматлікасць ідэй стала прычынай смерці сяброўкі).

Крыху больш зразумелых алюзій у песні «Мёртвая трава»: «Што такое сэрца? Што такое вера? Што такое сорам, калі я мёртвая трава? Што такое танец? Што такое сонца? Што такое песня, калі я мёртвая сама?» Нібыта празрыста, але... «Прарастае ў горадзе на суседнім доме, прарастае ўнутры ў маім пакоі мая душа». Здаецца, набор слоў можа быць любы, дык хоць бы аўтарка больш дакладныя рыфмы падабрала, а не «трава/сама», «вага/трава», «вечар/вечнасць». Ёсць жа ў роднай мове словы «турма», «нага», «бяспечнасць».

Каб не здалося, што я ўвогуле супярэчнік усяго новага, нестандартнага, мушу прызнацца, што адну песню гэтай праграмы ўсё ж адклаў на фінальны разбор — «Мама». Увесь гэты дыск мне трапіў у рукі акурат на сарачыны па смерці маёй мамы. І, нягледзячы на тую ж нястрыманую плынь свядомасці, твор літаральна крануў да слёз, бо алюзіі ягоныя дакладна адпавядалі тагачасным перажываннням:

Я вады не піла, таму і кволая я.
Я іду ад відна, таму стамілася я.
Мама, дзе ты? Дай напіцца вады.
Мама, мама, дзе ты?

Так што мая іронія хай не бянтэжыць ні аўтара, ні тых, каму лягуць на душу творчыя асацыяцыі Таццяны Беланогай. Тым больш, што спявае яна так, што сумненняў у боскасці таленту ніякіх.

Паэтычны авангард — добрая рэч, але залішняе паглыбленне ў даўно перажаваную Еўропай плынь дадаізму (калі раманы стваралі адвольнай нарэзкай газет, наклееных на аркуш) можа любога прывесці ў татальны айчынны занудзізм, калі паэт не можа здзівіць ні рыфмамі, ні зыркасцю метафар, ні глыбінёй сэнсу, ні стройнасцю формы, чым поўняцца літаратурныя часопісы, песенны радыёэфір, бо ў іх аднялі права панавання духам.

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА,***
***музычны крытык***